

Ударніца камуністычнай працы, ткачыха Мінскага камвольнага камбіната Валянціна Шылай.

Мастак I. Ціханаў.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



7 (77)

Ліпень.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы—малюнак мастака Ю. Тышкевіча.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 9.200 экз. Цана 4 руб.
АТ 02853. Здадзена ў набор 1.VI.59 г. Падпісана да друку 6.VII.59 г. Зак. 386.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



# ПРАЦАВАЦЬ, НЕ ШКАДУЮЧЫ РУК І СЭРЦА!

### Думкі пасля III з'езда пісьменнікаў СССР

У дні, калі над Масквой то ярка свяціла майскае сонца, то бушавалі вясенніяліўні, у старажытным Крамлі праходзіў III з'езд пісьменнікаў СССР. Стан прыроды надзвычай гарманіраваў з нашымі думкамі і пачуццямі. Па зямлі ішла першая вясна сямігодкі.

Першая вясна сямігодкі! Як многа яна сказала сэрцу савецкага чалавека! І як часта гучаць словы «першая» і «першы» ў сувязі з подзвігамі нашага народа.

Першая ў свеце Сацыялістычная рэвалюцыя.

Першая ў свеце краіна канчаткова перамогшага сацыялізма.

Першая ў свеце атамная электрастанцыя.

Першы ў свеце штучны спадарожнік Зямлі.

Першая ў свеце касмічная ракета — дзесяты вечны спадарожнік Сонца.

А на XX з'ездзе КПСС Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў ад імя партыі сказаў незабыўныя словы, якія натхнілі ўсіх савецкіх пісьменнікаў:

«Мастацтва і літаратура нашай краіны могуць і павінны дабівацца таго, каб стаць першымі ў свеце не толькі па багаццю зместу, але і па мастацкай сіле і майстэрству».

Камуністычная партыя ясна паказала нам чыстую невычэрпную крыніцу натхнення — гэта глыбокая і пастаянная сувязь з народам, гэта наша цудоўнае, паўнакроўнае жыццё.

XXI з'езд КПСС узняў мару народа аб шчасці на небывалую вышыню, накіраваў каласальную энергію савецкіх людзей на будаўніцтва камунізма.

XXI з'езд быў дзелавым з'ездам. Кантрольныя лічбы сямігадовага плана ўзвышаліся, як магутныя горныя хрыбты. На гэтым гістарычным з'ездзе віднейшыя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы гаварылі, як паэты, а паэты і рабочыя выступалі, як сталыя дзяржаўныя мужы.

Каго не ўсхвалявалі словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, напоўненыя мужнай паэзіяй:

«Накшталт таго, як перадавы атрад альпіністаў смела і мужна штурмуе новыя, здавалася б, непрыступныя вяршыні і пракладвае шлях людзям, якія ідуць за перадавым атрадам, так і наша партыя — баявы

авангард рабочага класа, працоўных Савецкага Саюза — вядзе савецкі народ да зззяючых вяршынь Камунізма».

І яшчэ — натхнёныя словы аб рашаючым гістарычным рубяжы:

«Камуністычная партыя, увесь савецкі народ поўны цвёрдай упэўненасці, што яны возьмуць і гэты рубеж і выйдуць на шырокае плато, і тады адкрыюцца новыя прасторы, тады будзе лягчэй ісці ўперад».

Партыя ўбачыла ззяючыя вяршыні Камунізма, вызначыла рашаючы рубеж. Савецкі народ, беззаветна адданы сваёй Ленінскай партыі, перапоўніўся верай у свае магутныя сілы, у свой розум і пачаў ужо штурмаваць гістарычны рубеж, з дня на дзень нарошчваючы тэмпы.

Пройдзе сем гадоў напружанай, але радаснай працы — і мы адчуем сонечны подых Камунізма. Падвоеная магутнасць прамысловасці, багацце сельскай гаспадаркі, мноства жылля, адзення, абутку, нябачаны росквіт навукі і культуры, ліквідацыя назаўсёды пагрозы вайны — якія ясныя гарызонты раскрыліся перад намі...

Чытач можа мне заўважыць, што я пішу нататкі не пра з'езд пісьменнікаў, а пра XXI з'езд партыі.

Але няхай ён мне паверыць, што мы, дэлегаты III з'езда пісьменнікаў СССР, працуючы ў Вялікім Крамлёўскім палацы, у той ці іншай форме думалі, перажывалі, адчувалі і выказвалі тое, аб чым я сказаў вышэй.

Народ, Партыя, сямігодка, Камунізм — гэтыя словы гучалі амаль ва ўсіх прамовах і знаходзілі шчыры водгук у нашых сэрцах.

Я ўпэўнены, што і замежныя пісьменнікі, уваходзячы ў агромністую залу, дзе праходзяць сесіі Вярхоўнага Савета СССР і з'езды Камуністычнай партыі, таксама думалі аб савецкім народзе і нашай сямігодцы.

Тое, што пісьменніцкі з'езд усе дні праходзіў у гэтай зале, сведчыць аб вялікай павазе партыі і ўрада да савецкіх пісьменнікаў. Нездарма Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў назваў савецкіх пісьменнікаў вернымі памочнікамі партыі. Аб гэтай павазе сведчыць і прывітальнае пісьмо ЦК КПСС, і асабліва яркае, шчырае і мудрае выступленне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на з'ездзе.

Кранутыя ўвагай і давер'ем ЦК партыі і ўсяго савецкага народа (а пра гэта сведчаць выступленні прадстаўнікоў прафсаюзаў, камсамола, арміі і шматлікія тэлеграмы з усіх куткоў нашай Радзімы), мы ўсе адчулі вялікую адказнасць за сваю пісьменніцкую працу. Мы зразумелі, што народу патрэбны не клятвы ў любві, а новыя таленавітыя кнігі пра яго жыццё.



**Госці з Цэйлона гутараць з дэлегатам III з'езда пісьменнікаў СССР М. Ціханавым (злева)**
Фота ТАСС.

У адрозненне ад мінулага з'езда, на гэтым амаль не было агульных прамоў, сумных пералічэнняў, дробных стычак. Цяпер менш гаварылі **пра што пісаць** (гэта вядома кожнаму пісьменніку), а пра тое, **як пісаць.**

Пытанне пісьменніцкага майстэрства было асноўным на з'ездзе і прагучала ледзь не ва ўсіх пра-





**У Вялікім Крамлёўскім палацы ў час пасяджэння III з'езда пісьменнікаў СССР.**
Фота ТАСС.

мовах. Дэлегаты выступалі страсна, канкрэтна, кожны па-свойму і аб тым, што каму набалела. А. Пракоф'еў і А. Малышка пра песню, якая ўслаўляць народ і дойдзе да сэрца народа. А. Ганчар і А. Салынскі пра рэвалюцыйную рамантыку. С. Міхалкоў і Л. Касіль — пра літаратуру для дзяцей. А. Чакоўскі — пра літаратуру Захаду, Б. Палявой закляйміў пагардай здраду Говарда Фаста. Пытанні нацыянальнай формы, мовы, перакладаў, сувязі і дружбы братніх літаратур гучалі ў прамовах дэлегатаў многіх нацыянальных рэспублік. Надзвычайна цікавымі былі выступленні А. Твардоўскага, К. Чукоўскага, К. Зялінскага, Расула Гамзатава, кітайца Мао Дуня, француза Армана Лану і некаторых іншых. Я не пераказваю змест прамоў, бо яны былі надрукаваны ў «Литературной газете».

Вялікае ўражанне зрабіла на нас выступленне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Ён не выступаў з гатовым тэкстам, а сардэчна гутарыў з дэлегатамі. Кіраўнік партыі і ўрада выказаў многа новых цікавых і прынцыпова важных думак аб поспехах нашай краіны, аб развіцці літаратуры, аб сувязі яе з народам, аб майстэрстве і г. д. Яго прамова была вельмі шчырай, прасякнута сапраўднай любоўю да савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Мікіта Сяргеевіч валодае, як ніхто, дасціпным народным гумарам.

Думаю, што кожны пісьменнік, стары ці малады, яшчэ не раз перачытае гэтую гістарычную для развіцця нашай літаратуры прамову.

Паколькі ў нашым часопісе ў асноўным друкуюцца маладыя, пачынаючыя аўтары, не магу не прывесці вельмі правільных слоў Мікіты Сяргеевіча Хрушчова:

«У пэўнай ступені і некаторыя нашы пачынаючыя пісьменнікі нагадваюць мне кукурузу, якую, перш чым высадзіць у грунт, прарошчваюць

у цяпліцы. Бывае так: напіша чалавек першае апавяданне або верш і адразу ж пачынаюць шумець, што паявілася новая зорка, новы талент. Гэты таварыш, які напісаў першы твор, пісьменнікам або паэтам сябе не называў, ён толькі паспрабаваў свае сілы, а пра яго ўжо ва ўсю трубяць, што гэта ўзор, алмаз, якога чакала чалавецтва, яго цягнуць у Саюз пісьменнікаў. Калі такі пачынаючы жыве ў правінцыі, то кажуць, што трэба яму даць кватэру ў Маскве або ў сталіцы рэспублікі. Маўляў, гэта новая зорка, хіба можа яна знаходзіцца ў правінцыі».

А ў нас хіба так не бывае?

Далей Мікіта Сяргеевіч прывёў факты аб тым, якую шкоду (а то і творчую гібель) прыносіць ранняя прафесіяналізацыя, адрыў ад свайго асяроддзя, ад народа.

Спаслаўшыся на прыклад жыцця і працы М. А. Шолахава, Мікіта Сяргеевіч зрабіў вывад, які павінен кожнаму пісьменніку запасці ў сэрца: «Пытанне заключаецца не ў тым, хто дзе жыве, а ў тым, хто што можа, на што здолен той ці іншы чалавек».

Гэтым мудрым правілам павінны кіравацца ўсе маладыя пісьменнікі і тыя, хто з імі працуе.

Дзе ж маладым пісьменнікам жыць, як не сярод сваіх сяброў, якія сёння працуюць у брыгадах камуністычнай працы, а заўтра будуць жыць у Камунізме.

Я ўспамінаю адзін вечар сустрэчы з членамі камуністычных брыгад. Як натхнёна гаварылі маладыя рабочыя і работніцы аб сваёй працы, аб Радзіме, аб партыі. У іх словах і справах адчуваліся будучыя гаспадары Зямлі. Разумныя, працавітыя, клапатлівыя гаспадары.

Моладзь папрасіла мяне расказаць аб амерыканскіх уражаннях. Я з хваляваннем глядзеў на гэтых слаўных, добра апранутых юнакоў і дзяўчат, на іх даверліва-патрабавальныя твары, і перад маімі вачыма праплывалі малюнкі нью-йоркскага жыцця. Я бачыў даўжэзныя чэргі беспрацоўных і пікеты забастоўшчыкаў; і яшчэ беспрацоўных з жорсткімі тварамі, якія панура грэліся на асеннім сонцы ў Цэнтральным парку; і яшчэ беспрацоўнага хлопца, які дзяжурыў з анучкай у руках на бойкім месцы Манхетэна. Калі спынялася аўтамашына, ён падбягаў да яе і моўчкі сціраў пыл без асаблівай надзеі атрымаць некалькі цэнтаў.

Я імкнуўся сумленна расказаць маім юным сябрам аб самай багатай капіталістычнай краіне. Я хваліў цудоўныя амерыканскія дарогі і машыны, умельства і майстэрства рабочых, вырабы з пласцікаў і зручную мэблю.

Але калі я пачаў расказваць аб амерыканскім ладзе жыцця, я ўбачыў, што мае слухачы не разумеюць ці не могуць што-кольвек зразумець і ўявіць.

Я расказваў аб «вялікай бітве» двух мільярдэраў за губернатарскую пасаду; аб тым, як бедныя жанчыны Нью-Йорка бягуць нараджаць дзіця ў паліцэйскі ўчастак; аб «коміксах» і «шоках»; аб хлопчыку, які зарэзаў сваіх бацькоў, і пра бабульку, якая абрабавала банк, аб амерыканскай рэкламе і ўсясільнай уладзе долара.

Часамі мае слухачы смяяліся, але часцей у іх вачах я бачыў неўразуменне і здзіўленне. Яны ўжо амаль не маглі ў гэта паверыць. Для іх гэта ўжо быў учарашні дзень, старая малапраўдзівая і малацікавая гісторыя. Іх вочы былі накіраваны наперад, у будучыню. Іх сэрцы ўжо горача біліся ў рытме сямігодкі. Гэта былі героі нашых будучых кніг — людзі цалкам станоўчыя, акрылёныя вялікай мэтай, людзі высокіх маральных і душэўных вартасцей.

Часамі думаеш, чаму некаторыя пісьменнікі і крытыкі так баяцца стопрацэнтнага станоўчага героя (вядома, я маю на ўвазе паўнакроўны мастацкі вобраз, а не падлакіраваную схему)?.. Разгортваеш іншую кнігу, пачынаеш сачыць за харошым жыццём харошага чалавека, і раптам нечакана аўтар надзяляе свайго героя адным-двума буйнымі недахопамі, разбаўляе іх грашкамі больш дробнымі, прымушае свайго героя рабіць дзікія ўчынкі.



І ўсё гэта пісьменнікам робіцца ў імя нейкай надуманай «праўды жыцця», «мастацкай паўнацэннасці» вобраза.

А ці так гэта патрэбна? Калі ўспомніць вобразы любімых герояў фальклору і многія творы пісьмовай літаратуры, можна без цяжкасці ўстанавіць, што ўсім станоўчым героям розных эпох былі ўласцівы працавітасць і сумленнасць, высакароднасць і храбрасць, дабрата і праўдалюбнасць, вернасць і любоў да людзей. Іх могуць узрушваць, мучыць страсці і гора, яны могуць сумнявацца і памыляцца, рабіць няверныя крокі і пакутаваць. Але станоўчым героям, якіх палюбіў народ, ніколі не былі ўласцівы прагнасць і жорсткасць, подласць і страх, хлусня і жыццёвая брудпасць.

Гэтыя адмоўныя якасці чалавека яшчэ апяваюць мадэрністы капіталістычнага свету. Іх усхваляюць рэвізіяністы розных масцей. Мы заўсёды будзем весці супраць іх барацьбу.

У нас іншая дарога. Савецкія пісьменнікі заўсёды былі і будуць вернымі памочнікамі Камуністычнай партыі, вучнямі і выхавацелямі свайго народа. На стварэнне вобразаў герояў нашага часу — будаўнікоў камунізма, на ўслаўленне іх працы трэба аддаць усе свае здольнасці, увесь запал сэрца, усю сваю ласку і розум.

Гераічная праца савецкага народа па выкананню сямігодкі патрабуе гераічнай працы ўсіх сапраўдных пісьменнікаў. Не хуткацечнымі налётамі на новабудоўлі ці калгасныя палі можна дасягнуць творчага поспеху, а глыбокім пранікненнем у душу народа. Трэба ўсім сэрцам адчуць гарачы пульс яго жыцця, яго вялікай працы, яго надзей. Толькі таленавітая, высокаідэйная і высокамастацкая кніга знойдзе дарогу да чытача.

Працаваць упарта, не шкадуючы рук і сэрца, з поўнай аддачай сілы, з вялікай адказнасцю перад народам і партыяй — гэта наша галоўная задача, пастаўленая III з'ездам савецкіх пісьменнікаў.

**Пімен ПАНЧАНКА.**

Іван Мяцько нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Навасёлкі Старадарожскага раёна.
У час Айчыннай вайны быў сувязным партызанскага атрада імя Кірава, сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі. У 1948—1951 гадах служыў у Савецкай Арміі.
Пасля дэмабілізацыі працаваў спачатку інструктарам, а потым — першым сакратаром Асіповіцкага РК ЛКСМБ.
Цяпер вучыцца ў Мінску ў Вышэйшай партыйнай школе.



**Іван МЯЦЬКО**

## ПЕРШЫ КРОК



Неспакойны, цікаўны малыш
Мітусіцца ўвесь час на падлозе.
Што, матуля, трывожна глядзіш?
Яшчэ міг — і сынок у дарозе!

Вось ён ціхенька стаў на дыбкі,
Працягнуў прад сабой ручаняты...
Узнімаюцца гэтак дубкі,
Пачынаюць узлёт арляняты.

Крок ступіў і, здаецца, падрос,
Пасталеў першынец сінявокі.
Падарожжа у тысячы вёрст
Пачынаецца з першага кроку.

## ЭКЗАМЕН



Пачуццяў гэтых не растрачу,
Яны мне дарагі да слёз.
Я вас у сне ўсе ночы бачу,
Мясціны, дзе радзіўся, рос...
Дзе цёмна-сіняй стужкай лесу
Аздобілася даль палёў,
Дзе паўдрымотная Арэса
З лазовым шэпчацца галлём.



Дзе ранкам чэрвеньскія росы
Бадзёраць свежасцю лугі,
Дзе мнагаструнна звоняць косы,
Калі зразаюць мурагі.
Дзе ціхі гоман стромкіх сосен
Чаруе музыкаю слых,
Дзе сустракае ветла восень
З прыполам яблык залатых.
Дзе некалі ліпнёвым раннем,
Пад мілагучны посвіст кос,
Трымаў я першы свой экзамен,
Шырокі ведучы пракос.

## КАВАЛЬ



З-за лесу месяц малады
Нясмела глянуў. Ціхі вечар...
Ды толькі ў кузні малаты
Яшчэ спрачаюцца аб нечым.

Дзяўчаты, з поля ідучы,
Знарок мне жартам падміргнулі:
— Глядзі, яму няма й начы,
Цягні дамоў свайго мурзулю.

На іх я крыўды не таю.
Да нас з табой ім справы мала.
За працу чыстую тваю
Цябе я, любы, пакахала.

Няхай іскрыцца сталь, звініць
І прыдае каханню сілы...
Вось толькі ў сэрцы цеплыні
І для мяне пакінь, мой мілы.



Мал. У. Лося.

Алесь АСІПЕНКА

# ПАПЛАВЫ

Аповесць

## Адзін крок да шчасця

У пачатку ліпеня, калі на падзвінскія лугі выпаўзаюць стракатухі-касілкі, мядовы водар кветак трымаецца ў паветры ледзь не да самага світання. І толькі тады, як на сенажаці выпадзе буйнай расой туман, прыемная духмянасць траў прыпадабляецца да моцнай настойкі чаборовага чаю. А раніцай, калі гарачае сонца высушыць абшары, густыя травы зноў набудуць сваю тонкую пахучасць. Так і трымаецца яна аж да тае пары, пакуль пабялелая збажына не пераб'е яе своеасаблівым водарам спелага жыта.

Хораша ліпеньскімі днямі ў падзвінскіх вёсках! Прывольныя лугі вабяць сваім раздоллем, прыгажосцю, цудоўнай стракатасцю колераў і размаітасцю пахаў; празрыстыя воды Дзвіны і яе прытокаў — сваёй ласкавай свежасцю; сасновыя бары — мяккай, як шоўк, травой і смалістым здаровым паветрам.

Хораша на Падзвінні!

I

Вера ўцякала ад сябе, ад той вымушанай хлусні, якая да пары да часу захоўвала яе тайну. Тайны магло і не быць. Тады не было б гэтых віншаванняў, спагадлівых слоў і недаўменных пацісканняў плячыма. На яе раптоўны ад'езд, магчыма, ніхто не звярнуў бы ўвагі. Але тайна была. Таму даводзілася прытварацца; нясцерпны сорам апякаў Верыны шчокі.

Добра яшчэ, што людзі не вельмі здагадлівыя і сарамлівую чырвань прымаюць за міжвольнае хваляванне перад невядомым заўтрашнім днём.

— Ну што ж, не маю права далей затрымліваць,— дырэктар працягнуў Веры руку. Яна паціснула яе, зноў пачырванела.— Можа, машына спатрэбіцца, калі ласка, званіце.

Вера падзякавала.

— Упраўлюся сама. Пакуль што нічога з сабой не бяру.

— Як жа вы дабярэцеся? Вася на «Пабедзе» давязе вас за гадзіну.

— Лепей аўтобусам. Ды я добра і не ведаю, калі паеду.

— Адным словам, у любы час званіце.

Вера падумала: «Каб ты ўсё ведаў, не быў бы такім добрым».

— Не забывайце нас,— прадаўжаў дырэктар.— Лідзія Паўлаўна і я будзем заўсёды рады вас бачыць.

— Дзякую за вашу гасціннасць,— у тон яму адказала Вера.

Яны зноў паціснулі рукі. Вера выбегла ў калідор. Гладкі паркет блішчэў і, здавалася, дыбіўся хвалямі — такі быў узор. Вера прыпынілася.

Вось на гэтым месцы яна аднаго разу паслізнулася і ўпала. Адзін нязначны выпадак, і так крута змянілася жыццё. А калі б яна тады не ўпала ?Напэўна, не выйшла б замуж. Не сустрэлася б з Рамірам. І цяпер не трэба было б ехаць з горада, да якога прывыкла.

На вуліцы стаяў цёплы вечар. Сонца вісела над помнікам, што вялізнай птахай узносіўся ў неба. Над батанічным садам плылі купкі белых аблокаў. У мелкай рэчцы з крутымі берагамі плюхаліся голыя хлапчукі, далей, за плацінай, на люстраной гладзі азярца сноўдалі лодкі. Над рэчкай плыла мелодыя нейкай вельмі знаёмай песні. З горада даносіўся прыглушаны далечынёй гул.

Ля першага тэлефоннага аўтамата Вера спынілася. Азірнуўшыся, спрытна апусціла манетку, набрала нумар. Здалёку даляцеў густы мужчынскі голас:

— Гэта — Вера?

— Ты заняты?

— Прыдзі праз гадзінку.

— Мне на пару слоў.

— У пачатку было слова, чуеш, Вера, слова, а не справа.

— Ты ўсё жартуеш...

— Слёзы — прадвеснікі весялосці, жарты — прадвеснікі любві. Я вельмі заняты, Вера. Чакаю цябе праз гадзіну.

Вера павесіла трубку. Дамоў ісці не хацелася. Як і дзе змарнаваць шэсцьдзесят доўгіх мінут? Лёгкім, павольным крокам яна дайшла да садзіка над ракой. Унізе, асветленая вячэрнім сонцам, плыла маторка. З-пад кармы вінтом вырывалася пеністая вада. Злева ля берага стаяў белы параход. Маленькі чалавечак у паласатай майцы соваўся па палубе, відаць, націраў яе. Крыху ніжэй па рацэ будаваўся мост. Там, як мураўі, варушыліся людзі. Вера прысела на лаўку, абаперлася далонню аб спінку і адразу адчула пад пальцамі дзве выразаныя нажом літары «К» і «В». Двое шчаслівых пакінулі аб сабе памяць. Нешчаслівыя памяці не пакідаюць — ім не да таго. Аднаго разу роздум над гэтымі літарамі і прывёў Веру да той сустрэчы з Рамірам, якая крута павярнула жыццё.

«Што Рамір скажа сёння?»



Вера спрабавала ўявіць гэта, прыцішыла дыханне, быццам хацела пачуць яго словы. Іх не было. Вера яскрава бачыла толькі яго вочы, цёмныя і халодныя.

«Што ён скажа сёння? А што, калі скажа так, як хочацца мне?..»

На гарадской вежы гадзіннік бомкнуў восем разоў. Гадзіна адзіноты прабегла зусім незаўважна, як у сне. Вера пайшла да Раміра. Па добра знаёмай крутой лесвіцы з абабітымі прыступкамі яна ўзабралася на гарышча. Дзверы былі прыадчынены. У вузкую шчыліну з пакоя выбівалася жаўтаватая стужка святла. Было ціха. Толькі недзе ўнізе крычала жанчына:

— Валерка, вось я табе, нягоднік, падражнюся!

Вера адчыніла дзверы, рашуча ўвайшла ў доўгі з пакатай столлю пакой.

— Вера?! Сядай. Зараз, толькі адну дэтальку закончу.

— Я вельмі многа думала, Рамір...

— Май жа цярпенне,— ён паказаў вачыма на натуршчыцу. Вера змоўкла: яна толькі цяпер убачыла, што ў пакоі ёсць трэцяя жывая істота. Яна стаіць тварам да сцяны, на якой павешаны кавалак брудна-аранжавай тканіны. Стаіць нерухома, як статуя. Яе стройная постаць напамінае Веры тую беламармуровую багіню, што выстаўлена ў гарадскім музеі: далікатная шыя, пакатыя, асляпляльныя белыя плечы, тонкая талія, шырокія крутыя бёдры, стройныя ногі з неглыбокімі ямачкамі пад каленямі. На патыліцы ў багіні — цяжкі жмут перавітых кос. З-пад яго, ля вуха, гуллівa выбіваецца непакорны чорны завіток. З-пад левай рукі, ледзь прыўзнятай, відны пругкія дзявочыя грудзі.

Вялізная лямпа зверху залівае дзяўчыну яркім святлом. Таму цела дзяўчыны выдае фіялетавым. Вера пераводзіць позірк на карціну, якую малюе Рамір. На кавалку палатна распласталіся ніцма чорныя, агідныя постаці. Хто яны? Людзі? Бадай што не, хоць і ёсць у іх нешта людское. Яны ўтварылі чорны круг. У ім — фіялетавая постаць дзяўчыны, кволая і далікатная, як лісток Фідуса.

Чырвоны фон кідаецца ў вочы; здаецца, крывавае полымя вось-вось ахопіць дзяўчыну. «Чаму яна фіялетавая? — думае Вера, зусім забыўшыся на свае назіранні.— «Фиолетовые тени на эмалевой стене»...— чамусьці прыпамінаецца ёй радок з верша.—А як жа далей?—думае яна.— Зусім не так. «Фиолетовые руки на эмалевой стене; тонкозвучно чертят звуки в сладкозвучной тишине». Не, таксама не тое. Чые ж гэта вершы?..»

Вера зноў пераводзіць позірк на натуршчыцу. Белая з фіялетавым водсветам постаць пачынае расці, запаўняць пакой. «Багіня з музея... Які ў яе твар?..» Натуршчыца ледзь прыкметна пераступае нагамі. Вера бачыць на пятцы вялікі сінявата-ліловы мазоль. «Маленькая зграбная ступня і мазоль... Якая ж яна багіня!..»

— Я кажу — ніякага падабенства.— Вера ўздрыгнула ад нечаканых слоў Раміра.— Існуе фатаграфія — яна зафіксуе кожны прышчык. Жывапіс прышчыкамі не цікавіцца. Яму патрэбна душа, стройнасць думак, гармонія фарбаў. Фарбы і лініі — мае мроі. Каскад колераў — мае думкі. Злаві свае думкі і паспрабуй запісаць іх: атрымаецца сумбур. Але ў галаве чалавека думкі заўсёды лагічныя. Вядома, калі чалавек не страціў яшчэ розуму. Паталогія — галіна медыцыны, а не мастацтва.

Вера слухала і глядзела, як малюе Рамір. У яго руках вельмі доўгі пэндзаль, якім ён набірае фарбу і смелымі мазкамі кладзе на палатно.

Раптам пэндзаль апісвае вакол постаці дзяўчыны вогненна-чырвоную стужку: здаецца, языкі полымя ліжуць прыгожае цела. Вера ледзь не ўскрыкнула.

— На сёння хопіць, — Рамір кінуў пэндзаль.

Натуршчыца апранула халат, пайшла за шырмачку. Рамір то адыходзіў у самы кут, то набліжаўся да карціны ўсутык, хмыкаў.

— Я прышла развітацца.

— Паедзеш усё ж?

— Так.

— Смешна...

— Чаму?

— Вось гэты тып павінен прыўзняць сваю агідную морду на багіню кахання. Так-так,— Рамір размаўляў з сабою, і Вера, пакрыўджаная, змоўкла. З-за шырмачкі вышла натуршчыца. На ёй было крэмавае ў дробныя лісточкі плацце, на высокім абцасе туфлі, у руках сумачка.

— Добры вечар,— прывіталася яна з Верай.

Вера злавіла ў яе позірку нейкую цікаўнасць.

— Гэта я?..— запыталася натуршчыца ў Раміра, паказаўшы рукой на фіялетавую постаць.

— Мара мая. Матэрыяльнае — ёсць неад'емная частка маіх жаданняў; ідэальнае — маіх парываў.

— Летась Генадзі Аляксандравіч — ведаеце яго?— пісаў карціну «На допыце». Я там партызанкай намалявана. Вельмі падобна... А тут ніхто нават не здагадаецца, што гэта я.

— Няхай лепш адчуюць... Заўтра прыходзьце на гадзіну раней.

— Усяго добрага. — Дзяўчына развіталася. Рамір патушыў вялікія сафіты. Гарэла толькі адно бра на сцяне. У пакоі адразу пазмрачнела.

— Дорага, разумееш, каштуе,— растлумачыў ён, парадкуючы рэчы. Вера прадаўжала сядзець у мяккім крэсле з высокімі падлакотнікамі. У яе грудзях закіпала злосць на Раміраву абыякавасць. Хацела стрымаць сябе, але не магла.

— Ты не здагадваешся, што робіш мне балюча?— запыталася Вера.

— Мы вельмі многа думаем над сваімі ўчынкамі.

— А ты хацеў бы над імі не думаць?.. Вось як!

— Пачакай, не рухайся. Вось так. Здорава!.. — Рамір сарваўся з месца, падбег да Веры.— Пасядзі вось так. Не, гэта выдатна!..

Ён павярнуў яе галаву на бок, спяшаючыся, пачаў расшпільваць кофтачку.

— Ты ашалеў?— ухапіла Вера яго за рукі.

— Кінь гэтае мяшчанства. Не з'ем жа я цябе... Вось так, і хопіць. Толькі адно плячо. Не варушыся.

Ён адбегся да планшэта, ухваціў растушку, шырока ўзмахнуў рукой; Вера ведала, што ён зрабіў першы штрых. Яна моўчкі наглядала за ім. Рамір працаваў натхнёна; яго доўгія валасы раз'ехаліся, звіслі наперад, на вочы. Тонкія вусны моцна сціснуты. Калі ён пазіраў на яе, Вера бачыла чорныя бліскучыя вочы, вострую бараду і нейкі худы, скуласты твар. Такім яна любіла Раміра... Ён, відаць, забыўся, каго малюе. У Веры прападала злосць.

— Але ж ты мне ў мінулы раз нічога не параіў.

— Я цябе прасіў пасядзець.— Рамір кінуў растушку ў скрынку.— У мяне ёсць правіла: нікому і нічога не раіць.

— Але ж мы...— Вера заікнулася, не ведаючы, што сказаць далей.



— Я даўно хацеў сказаць табе, што чалавек вельмі часта ўскладняе сваё жыццё.

— Ты хочаш, каб я пакінула цябе ў спакоі?

— Ну, вось зноў... Я кахаю цябе. Хіба гэтага мала? Я кахаю цябе таму, што ты не падобная на другіх. А ты ўсяляк хочаш быць такой, як і ўсе. Зразумей, Вера, гэта смерць для мяне.

— Але я паеду.

— Значыць, так лепш, калі ты вырашыла ехаць.

— Калі б я спадзявалася...

— Я разумею. Ты можаш спадзявацца на маё каханне — не больш.

— Гэта так неакрэслена. Я хачу быць упэўненай.

— Ты больш верыш загсаўскай пячатцы, як мне.

— Гэта ўсё словы. Я люблю цябе моцна, але гэтак жа моцна магу і ненавідзець.

— Ты палохаеш? Дарэмна. Чаму ты едзеш?

— Ды ў нас было ўсяго адно месца, мой аднакурснік меў большае права. Потым, уяві маё становішча. Я — Алексіч. Ніхто ж не ведае, што жонка кандыдата навук Алексіча, не яго жонка. Толькі кожны сказаў бы, што мяне рэкамендуюць па яго просьбе. А раптам усё высветлілася б. Гэта надта жахліва.

— Я і кажу, значыць, так лепш.

Калі яны вышлі з майстэрні, вячэрнія прыцемкі ўжо апусціліся на горад. Ля кінатэатра стаяла вялікая чарга — ішла новая карціна. Агні рэклам асвятлялі людзей чырвоным святлом. Чулася бесклапотная гамонка, смех.

— Я буду сумаваць без цябе, Вера.

— Не трэба разлучацца...

— А ты будзеш сумаваць? Чалавеку хораша, калі ён пакутуе. Далібог. Да цябе можна зайсці, Вера?

— Не.

— А можа ты да мяне, нарэшце, зойдзеш? Папярэджваю толькі...

— Не турбуйся. Я не зайду.

Яны прышлі на бераг ракі. У вадзе адбіваліся, драбіліся агні ліхтароў. Там, дзе будаваўся мост, здаваласся, гарыць на вадзе цэлае вогнішча. Вера глядзела на раку і думала: «Чаму я люблю гэтага чалавека? Чаму ён мае нада мною такую ўладу?» Хацелася плакаць, прытуліўшыся да яго. А ён стаяў побач зусім чужы.

— Вось глядзі, нават тут каскад колераў... Сама прырода сцвярджае маю праваты.

— Зноў гэты каскад!.. Мне холадна.

Ён абняў яе, моцна пацалаваў у вусны.

Вера адчула, што зноў можа дараваць гэтаму чалавеку ўсё.

## II

Сакратар райкома камсамола, пышнавалосая, ружовашчокая дзяўчына з цёмна-карымі жывымі вачыма і кароткім носам, паклала тэлефонную трубку, доўга спадылба глядзела на Веру. Затым узяла дакументы, стала чытаць.

Вера глядзела ў акно. За ім цвіла акацыя. Водар ад яе пранікаў у пакой, перабіваў волкі пах пабелкі. На вуліцы за невысокім плотам чац-

вёра хлапчукоў білі нагамі «мяч» — пустую бляшанку. Пяты — варатар — стаяў воддаль ад іх, махаў рукамі і ўвесь час крычаў:

— Дзімка, Дзім, пас, пас давай! Эх ты! Мазіла, — і хлопаў па каленях рукамі.

Далей за дарогай зелянелі агароды. Жанчыны ў белых хустках палолі грады. За агародамі неяк адразу пачынаўся супрацьлеглы, абрывісты бераг Дзвіны.

— А я вас за артыстку палічыла,— яшчэ раз зірнуўшы на манікюр, сказала сакратар.— Аж вы заатэхнік... Вас як сюды, паслалі?

— Не разумею...

— Па агульнаму размеркаванню, ці як? Мы, я ведаю, толькі нядаўна заяўку далі, а размеркаванне было яшчэ зімой.

— Я павінна была на кафедры застацца. Потым заяву падала.

— Гэта добра. Раён у нас перспектыўны. Не думайце, што глухамань. Прамысловасць ёсць: завод па вырабу колаў — адзіны ў вобласці. Нядаўна ў Завольшы мінеральную ваду знайшлі. Кажуць, лепшую за «Есентукі».

Вера ўсміхнулася.

— Я — вясковая. Не ўцяку.

Нехта пазваніў па тэлефоне. Пакуль сакратар размаўляла, Вера спрабавала адгадаць, што яна за чалавек.

— Шкада,— пасля размовы пачала сакратар,— што Сяльчонак, наш сакратар райкома, у калгас паехаў. Разумны чалавек, я вам скажу. Ну, ды яшчэ пазнаёміцеся. Пра абстаноўку вам Маленчанка, мабыць, расказваў. Не? Калгас сярэдні, нават ніжэй сярэдняга. Партыйнай арганізацыі няма. Камсамольская — чалавек дваццаць. Старшыня — Даміра, партызан. Некалі грымеў тут, а цяпер крылы апусціў. Нядаўна даярку набіў. Удзельным князьком адчувае сябе. Здымаць хацелі, але Сяльчонак заступіўся. Паможаце камсамольскую работу там наладзіць. Лекцыю прачытайце, добра было б, каб дыспут арганізавалі, наладзьце спаборніцтва даярак. Добра? Ну, сказана — зроблена.

— Многа вы мне даручэнняў надавалі.

— І яшчэ прыбавім,— усміхнулася Ліпанава.— Дарэчы, пра галоўнае ледзь не забылася. Ёсць рашэнне ЦК, вось прачытайце — вас датычыць. Аб пасылцы камсамольцаў на фермы.

Вера прабегла вачыма пастанову, запыталася:

— Гэта таксама я павінна пасылаць?

— Там Ева Пляскач сакратаром працуе. Трымайце з ёй сувязь. Пагаварыце з моладдзю, склічце сход. Хутка і я ў вас буду. Ясна? Ну, сказана — зроблена.

«Прыслалі ж мамчыну дачушку на маю галаву,— думала Ліпанава.— Сядзіць, пальчыкі растапырыўшы, і вейкамі лыпае. У якой яна вёсцы нарадзілася такая?»

— Дзе ў вас сталовая?— запыталася Вера.

— Я яшчэ таксама не абедала. Хадзем разам,— прапанавала Ліпанава.

Ішлі спорным крокам. Ліпанава зноў расказвала пра свой гарадок.

— Сумнавата крыху. Мне іншы раз хочацца, каб у нас знайшлі нафту, жалеза ці вугаль. Інакшым стала б жыццё. А то ўсё адно і тое ж: сяўба, уборка, хлебанарыхтоўкі, вывазка ўгнаенняў,— і, заўважыўшы Верын позірк, спяшаючыся, папярэдзіла.— Усур'ёз, канешне, не прымай. Дзе скажуць, там і працаваць будзеш, там і добра.





Ліпанава правяла Веру ў маленькі на тры сталы пакойчык. У кутку сядзела трое мужчын. Адзін з іх шыракалобы, вастраскулы, развёў рукамі, залемантаваў:

— Ах ты, вой-вой, як нядобра атрымалася... Ад камсамола нідзе не схаваешся. Вось жа, таварыш Ліпанава, дальбог, па сто грамаў толькі.

— На стале па сто грамаў, а вунь пад сталом па паўлітра на брата.

— Э-э-э, тое нам не прыпісвай!.. Але, калі злавіла, адмаўляцца не будзем.

Ліпанава прачытала меню і, адклаўшы карту ўбок, сказала:

— Гэта вось заатэхнік, да вас у калгас накіравана.

— Цудоўна, цудоўна... Што ж вы раней не гаварылі?.. — падхапіўся шыракалобы.— Я ўжо гараваў: зіма не за гарамі, а заатэхніка няма. Дык жа давайце пазнаёмімся...

Чалавек падышоў уразвалку. Быў ён мажны, нават нейкі квадратны. Працягнуў шырокую мазолістую руку, сказаў:

— Даміра, Тарас Тарасавіч, — і адразу ж спытаў: — Калі да нас?

— Хачу сёння...

— А вы не спяшайцеся. Чаго вам... Пагуляйце ў гарадку, у гасцініцы пажывіце. А то ў нас не вельмі вялікая раскоша.

Вера была здзіўлена: чакаў чалавек заатэхніка і раптам—пагуляйце. Адказала настойліва, нават са злосцю:

— Сёння паеду, абавязкова сёння.

— То тады можаце са мной. Толькі, прабачце, легкавых машын не трымаем. «ГАЗ» — усяго «ГАЗ».

— Добра і на «ГАЗе».

Даміра адышоўся, сеў, засмучоны, задумаўся Чакаў мужчыну, здаровага, гарластага, а тут дзяўчыну прыслалі...

Праз якую гадзіну Вера схала ў Закружжа, стоячы ў кузаве грузавіка побач з Дамірам. У твар біла гарачае, сухое паветра, за машынай клубіўся дробны, перацёрты пыл. Доўга маўчалі.

— Што? Думаеце, піў чаму?..— загаварыў раптам Даміра.

— Нічога не думаю.

— А Ліпанава падумала. От жа дзеўка, заўтра Сяльчонак ужо будзе ведаць.

— Баіцёся?

— Не маленькі, проста непрыемна. Слова даваў. У мінулую пятніцу на бюро выклікалі. Думаў вызваляць ад работы. Дзякую, што Сяльчонак і Канькоў абаранілі. Ды каб што дрэннае зрабіў, дык жа не. Ёсць у нас даярка Матрона Башукевіч, жонка начальніка пошты. Вось неяк злавіў я яе, калі яна ў малако ваду падлівала. Толькі, значыць, хацеў людзей гукнуць, а яна піхнула бітон, малако і разлілося. Не сцерпеў я, ды яе штурхануў ціхенька ў грудзі. Ну, яна і павалілася, плячо абадрала. Плячо ў яе на другі дзень зажыло, а мяне з тыдзень муштравалі следчыя, ды на бюро яшчэ ў дадатак вымову вынеслі... Вось кажуць, што я п'ю. А калі разабрацца, дык жа абставіны прымушаюць. Да касавіцы, самі ведаеце, які тыдзень застаўся, а касілкі стаяць, частак няма. Дзе ты іх возьмеш?.. А гэты кулак — пятроўскі старшыня — летась усе запчасткі сабе загроб. «Што ты іх з мясам есці будзеш?»— пытаюся. А ён смяецца: «Пад мяса і гарэлка пойдзе». Намякае, гад гэтакі. Памуляўся я, аднак жа не дзе дзенешся!.. Вось і частаваў яго.

Вера маўчала, прыглядаючыся да навакольных мясцін. Дарога бегла па грэбеню ўзвышша, якое далей на поўнач абрывалася, пераходзіла ў парэзаную пагоркамі і рэчкамі нізіну. Можа кіламетраў на дзесяць з машыны былі відаць вёскі, прысады, пералескі і нават невялікае азярцо.

— Вось якраз паперкі вязу, вазьміце,—Даміра падаў Веры скрутак сіняватых бланкаў.— Кармавы баланс, справаздача. Трэба адаслаць. Зойдзеце да Лёнькі Зайчыка, рахункавода, ён вам паможа запоўніць.

— Я і сама магу.

— Ну-ну... Балансы, рамансы, фінансы... Глупства. Я табе што хочаш напішу, а карысць дзе? Паперкі гэтыя вось тут сядзяць,— Даміра пастукаў у грудзі кулаком.— Уяўляю я, напрыклад, дык ці трэба каму былі тыя паперкі?.. Улажыў гада — адным менш на зямлі стала. А то ўсё па палічках раскладзі, падлічы і далажы.

— А вы кім на вайне былі?

— Я, дарагая, партызан, народны мсцівец. У гэтым і заключаецца ўвесь адказ. Ну, а калі канкрэтней, дык спачатку радавы, падрыўнік, потым камандзір узвода разведкі.

— А цяпер, мусіць, больш за полк народу? — пажартавала Вера.
— Дывізія...

Даміра раптам крутнуўся, ледзь неываліўшыся з машыны.
— Асцярожна...
— Нічога, я жывучы,— і ён зарагатаў.

## III

Над лесам, у празрыстай сіняве неба, вісеў каршун. Потым неяк адразу сігануў уніз, знік у гушчары, на імгненне ўзляцеў над вострaверхімі ялінамі, трымаючы ў кіпцюрах нешта невялікае, і зноў прапаў з вачэй.

Вера доўга, пакуль не заныла шыя, углядалася ў тое месца, дзе, на яе думку, мог паявіцца каршун, потым кінула свой дарэмны занятак. Да вечара заставалася не так ужо і многа, а яшчэ трэба было абследаваць прырэчны луг і вялізную пустошу Балонне. Прыпамінаючы лекцыі, што слухала ў інстытуце, Вера спрабавала падлічыць, колькі сёлета калгас накосіць сена. Увесь невялікі сшытак яна спісала лічбамі.



Луг быў няроўны. На ніжэйшых месцах, бліжэй да рэчкі, трава даставала крыху не да пояса. Кусцілася чаротніца, над ёй узнімаліся абсыпаныя пылком свечы лісахвосту, ніжэй цягнулася да сонца далікатная мятліца, дзе-ні-дзе прабівалася шчучка ці вастрыца, і ўсё гэта перапляталася знізу жаўтакветкавай рутвіцай, чырвонай канюшынай. Далей ад ракі, на пагорках, трава была рэдкай і нізкай. Нават метлюжок, аўсяніца, вастрыца не дасягалі тут сваіх звычайных памераў. Месцамі пракідалася канюшына з ружаватымі паўсухімі пампонамі кветак, нізка па зямлі слаўся мышыны гарошак, зрэдку вытыркаўся белымі кошычкамі кветак крываўнік, то тут, то там жаўцеў казялец, і сярод гэтай мешаніны траў ганарліва пагойдваліся на тонкіх ножках густаблакітныя бутоны званочкаў, на сухіх, жорсткіх сцяблах цвілі малінавым цветам кветкі букавіцы, бялелі рамонкі. На вышэйшых месцах расліннасць была яшчэ бяднейшая. Цэлыя лапіны на лузе адваявалі сабе братаўка ці званец, падобны на рамонкі цюцюпан, чарнагалоў. Сярод іх дзе-ні-дзе расла духмяная дзятліна.

Паспрабуй улічы гэтую разнастайнасць траў, перавядзі іх у кармавыя адзінкі, як таго патрабавалі бланкі справаздач. Вера прайшлася ля рэчкі, павярнула на сухадол, некалі падсеяны цімафееўкай. У траве звінелі конікі, невысока над полем спяваў позні жаўрук, пад нагамі з трэскам лопаліся стручкі духмянага гарошку. У жыце за дарогай нібы драў аднучу драч — дзір-дзір. Яму адгукнулася перапёлка — шыць-палоць, шыць-палоць. Недзе зусім побач. Пачуўшы Верыны крокі, змоўкла. Дзяўчына спынілася. Неўзабаве «шыць-палоць» пачулася крыху далей і справа. Вера асцярожна, на дыбачках пайшла на птушыны голас. Ёй хацелася абавязкова ўбачыць перапёлку. Але птушка, крыкнуўшы разы са два, зноў змоўкла, а потым яе голас пачуўся ўжо злева. Тады Вера, не стрымліваючы сябе, пабегла туды, дзе зноў прытаілася перапёлка. Але яе і там ужо не было. Дзяўчына, не верачы сваім вачам, нават памацала навокал траву. Перапёлка азвалася далёка наперадзе. Вера зноў пабегла на яе голас, і калі ўжо зусім страціла ўсялякую надзею ўбачыць таямнічую птушку, перапёлка выпырхнула раптам з-пад ног. Куляючыся і няўмела хлопаючы крыламі, яна крыху праляцела і звалілася ў траву. Затым прапала і доўга не падавала голасу. Нарэшце, яе пераможнае «шыць-палоць» пачулася на тым самым месцы, адкуль яна пачала ўцякаць ад Веры.

«Гэта ж яна мяне ад гнязда адводзіла,— усміхнулася дзяўчына.— Абхітрыла, лядашчая...»

Вера прысела на ўзмежку, каб адпачыць і сёе-тое падрахаваць. Ад занятку яе адарваў раптоўны глухі стрэл.

Па поплаве дыбаў доўгі чалавек з ружжом. Ён нагнуўся, нешта падняў з зямлі. «Перапёлку! Вось злодзей!»— абурылася дзяўчына.

Чалавек ішоў наўпрост да Веры. Птушку ён трымаў за лапкі; крылы ў той бездапаможна звісалі ўніз. Вера чакала яго, злосна зыркаючы сінімі вачыма. Думала: вылаю, абавязкова вылаю.

— Добры дзень, — прывітаўся ён. — Вось не вытрымаў, закон парушыў.

Вера пазірала на незнаёмага з гневам.

— І вам не сорамна...
— Не кажыце. Сам не разумею, як атрымалася.
— У яе, можа, птушаняты засталіся.

— Напэўна! Але выладнеюць.

— Усе паляўнічыя такія...

Чалавек разгладзіў пышныя рыжыя вусы.

— Зноў жа кажу: не спадзяваўся, таварыш заатэхнік.

— Скуль вы ведаеце?

— Гаварылі надоечы пра вас. Ды і па знешнасці ўсё сходзіцца.

Голас у незнаёмага чалавека быў пявучы, мілагучны.

— Што-небудзь дрэннае гаварылі?

— Не, казалі, прыехала заатэхнік. Лёнька Зайчык распісваў вас,— чалавек раптам змяніў тэму размовы.— Падабаецца ў нас?

— Добра.





— Харaство, скажу вам, у нас. Толькі глухамань. Бягуць у горад таму. А з горада сюды шлюць. Перакруцілася ўсё. Не збіраецеся ўцякаць з нашых палестынаў?

— Не. Я ў вёсцы вырасла, люблю яе.

— То не вы, а маладосць ваша гаворыць. Сам такі быў. Заядлы актывіст. Кідалі, бывала, як трэску хвалі. А толк які? Скажам, па маіх здольнасцях — мог бы не горш за Сяльчонка ў крэсле сядзець. А вось ён сакратар райкома, а мне ўсяго пошту даверылі.

— Чаму ж гэтак несправядліва аднесліся да вас?

— Аднесліся... — зарагатаў ён.— Цяпер паперка патрэбна, цэтлік. Ёсць ён у кішэні — калі ласка, садзіся ў крэсла, няма — на задворкі. На галаву зараз ніякай увагі. А ў мяне галава ёсць, а цэтліка няма. А ўсё чаму? Бо кідаўся, актыўнічаў, а другія па гарадах сядзелі, кніжкі чыталі. А як начыталіся — нас мятлой, прабачце, па таму месцу, адкуль ногі растуць.

— Можна было і вам вучыцца.

— Э-эх, дарагая дзяўчынка... Жыццё, бачу я, вы па кніжках ведаеце. А нашае пакаленне часу не мела за кніжку ўзяцца. Мы сацыялізм на руінах пачыналі будаваць. Скажам: за дваццаць гадоў я і трох месяцаў на адным месцы не папрацаваў. Прарыў дзе-небудзь — і не хто іншы, а я еду, ліквідую яго. А вы кажаце!.. Са старшынёй калгаса гаварылі? Ну, і як? Спадабаўся! Жулік. Малако на ферме бярэ, парасятак таксама.

— Чаму ж калгаснікі маўчаць?— абурылася Вера.

— От жа наіўная дзяўчына! Ды старшыня наш, таварыш Даміра, каго хочаш са свету зжыве. А чаму? Бо ў раёне яму падтрымка. А чаму падтрымка? Бо рука руку мые.

Нейкая насцярожанасць паявілася ў Веры, але хутка прапала.

— Вось вам поплаў. Запушчаны. Ураджайнасць нізкая. А сена не хапае. Парадак гэта ці не? Вось жа і самі бачыце. Хадзіў у раён, даказваў, нават сварыўся. А які толк? Толькі ворагаў нажыў. Яны нічога не робяць, а Дземідзенка вінаваты.

Вера, пачуўшы прозвішча, здрыганулася: такім было яно і ў Верынага бацькі, якога дзяўчына ніколі не бачыла. Але чаму ён можа быць тут?.. Даходзілі чуткі, быццам ён жыве недзе на Палессі, працуе крамнікам у сельпо. Ці мала на свеце людзей з такім прозвішчам!.. На ўсякі выпадак запыталася:

— Прабачце, а як вас завуць?

— Анатоль Сцяпанавіч.

У Веры адлегла на сэрцы. Яе бацька меў другое імя: Антон Сафронавіч. Дземідзенка між тым прадаўжаў:

— Мая жонка Моця Башукевіч даяркай працуе. Не знаёмы яшчэ з ёю? Старанная жанчына. Перадавічка.... Ну, я развітваюся. Не хачу вас падводзіць. Я тут, як чума тая,— з кім прайду — таго і заражу. Убачаць, што размаўляў з вамі, і на вас пляма ляжа. Калі ж патрэба якая будзе, заходзьце афіцыйна, на месца маёй работы. Памагу і парадай і ўсім, чым здолею.

Дземідзенка падаў руку, вузкую, чыстую і нейкую вельмі мяккую, потым, не азіраючыся, паклыпаў у вёску, не па дарозе, а ўзмежкам, што аддзяляў калгасныя сенажаці ад прысядзібных участкаў.

## IV

З таго часу, як пачаліся дзяржаўныя экзамены, у Веры не было часу адказваць на пісьмы. За два месяцы іх назбіралася мнагавата. Вера як села ўвечары, дык пісала лісты ледзь не да самага світання. У каморцы за перагародкай даўно спалі: гаспадыня Аксіння Адамаўна і яе дачка Ева. Вера прайшлася па невялікім пакоі, хлопаючы збітымі тапкамі. У лямпе патрэскваў кнот. У шыбу ашалела білася аса. Прывязаны на двары сабака забразгаў ланцужком, і зноў стала ціха.

Вера адчыніла акно. З панадворку хлынула ў пакой прапахлае расой і зелянінай паветра. Аса на імгненне замерла, потым расправіла крылцы і паляцела ў перадсвітальную шэрань. У небе дагаралі апошнія зоркі, на ўсходзе бялеў акрайчык небасхілу. На ім выразна было відаць негустое воблачка. На захадзе далягляд атулялі наміткі туману, быццам там нехта зусім нядаўна кінуў паліць вогнішча. Перадранішнім сном спала вёска: высокія ў паўзмроку хаты, невыразна-шэрыя прысады, пыльная дарога — усё спала. І раптам недзе зусім побач нешта зашастала, захлопала і звонкае ку-ка-рэ-ку абудзіла цішыню. У пеўня быў на дзіва моцны і прыгожы голас — густы барытон. Вера ўспомніла, што з выгляду той певень несамавіты, з вышчыпаным хвастом і рассечаным напалам грэбенем. А вось глядзі—у курыным хоры служыць за запявалу!.. Певень змоўк, няйначай прыслухоўваўся, ці пачулі яго. І калі неўзабаве ва ўсіх канцах вёскі адгукнуліся другія пеўні, ён закрычаў яшчэ.

Пеўні разварушылі ўспаміны пра даўняе маленства. Яскрава ўявілася Веры іх старэнькая пахілая хатка, з маленькімі на пяць шыбак вокнамі, невялічкі хлявчук з саламянай страхой, на якой улетку буяла лебяда. Паміж хлеўчуком і хатай рос дуб з вялізным чорным дуплом. У тым дупле Вера любіла хавацца. Залезе, бывала, у яго і сядзіць моўчкі, прыхінуўшыся вухам да дрэва. Звычайна нячутнае шапаценне лістоты аддавалася ў дупле невыразнай, таямнічай музыкай. Чуліся ў ёй то глухія енкі і стогны, то ўрачысты пераліў вясельных званочкаў. І тады ў лад гэтым гукам мроіліся думкі або сумныя і хмурыя, або вясёлыя і радасныя. У той час здавалася Веры, што яна адна на свеце, як тая казачная царэўна за сямю замкамі. Стаіўшы дыханне, чакала яна добрага царэвіча, які зламае замкі і ўкрадзе яе. Але часцей за ўсё замест царэвіча з'яўлялася маці і, прасунуўшы руку ў дупло, спрабавала злавіць Веру за вуха.

— Зноў ты, нягодніца, не назбірала свінням травы... — разззлавана крычала яна.

Вера вылазіла з дупла, жмурылася ад яркага сонца, а маці скардзілася самой сабе: «У каго яна ўдалася, такая летуценніца?»

Успаміны маюць вельмі лёгкія крылы. Далёка яны занеслі Веру. Таму і не пачула яна, як прачнулася гаспадыня. Угледзеўшы моцна нагарэлы кнот, яна паківала галавой, але запыталася без злосці:

— Ці вы і спаць яшчэ не клаліся?

Вера здрыганулася. Пытанне вярнула яе з вандроўкі па сцежках далёкага маленства.

— Зараз лягу, Аксіння Адамаўна.

Гаспадыня ўсміхнулася.

— Пазнавата ўжо. Мне вось трэба на працу збірацца.

Вера адчула сябе ніякавата: тут зусім недарэчы была прывычка



позна класціся спаць, позна ўставаць. Нібы апраўдваючыся, яна сказала:

— Не спалася...

— На новым месцы заўсёды так.

Аксіння патушыла лямпу. Чорны дымок доўга віўся над шклом. Затым жанчына падняла засаўку. З-пад печы спачатку выбегла нахохленая квактуха, а потым з піскам і ціліўканнем выкаціліся кураняты.

— Евы — дачкі маёй — вывадак. Неяк па вясне Ліпанава начавала ў нас, дык так ужо сарамяжыла Еўку, аж мне нялоўка было. А падумайце самі: хіба Еўка вінаватая, што ў калгасе дрэнная птушкаферма? У нас яшчэ многа да чаго рукі не дайшлі. Але ўжо раз такая ганьба нам выйшла, дык я і кажу Еве: пасадзім мы, дачухна, квактуху. Не бог ведае, што там за выдаткі будуць, калі потым куранят якіх дзесяць у калгас аддамо. Адно, каб і яшчэ хто ў спулку з намі пайшоў. І што вы думаеце — хатах у трыццаці куранята гадуюцца. А Даміра цяпер упёрся, не бярэ куранят. Мне, кажа, твае куранята — лішні хамут на шыю. А гэта, ведаеце, у чым справа?.. Гады з чатыры назад загадалі нам выкупіць усіх куранят з інкубатара. Прывезлі іх, каб не схлусіць, тысяч дзесяць. Каб вы толькі глянулі, што тут было! Народу панайшло, кожны хоча падзівіцца на цуд: яшчэ ніхто за сваё жыццё столькі куранят не бачыў.

— Дзе ж яны цяпер?

— Слухай сюды, што далей было. Пачалі яны здыхаць, як мухі ад паганага грыба. Ведама, кволыя, ды і догляд не той. А памяркуйце самі, хіба ж іх дагледзіш? Тут вось васемнаццаць штук вывелася, дык ужо чацвёра загінулі. А то гэткая процьма!.. За восень ды за зіму безліч іх прапала. Можа засталося тысяч тры. Таксама многа. А тут увваліла ў куратнік чума. Цяпер можа сотні дзве ці тры гадуецца. Кормяць іх, а яек няма. Неўзабаве пасля таго, як сцёрліся куранята, панаехала ў калгас следчых розных. Пайшла пагалоска, што прымусяць Даміру плаціць грошы за тыя куранята. Адны, вядома, рады дасмерці, другія шкадуюць: свой жа чалавек. А тут другая чутка пайшла: пасадзяць Даміру ў турму. Самі памяркуйце, за што? Хіба ж адзін тут Даміра вінаваты? Два дні сход ішоў, а Даміру так пад суд і не аддалі — адстаялі. Толькі з тае пары наш старшыня на курэй глядзець не можа. Нават курыную ферму ў Пунькі адправіў — вярсты за тры ад вёскі. Толькі вы ўжо, калі ласка, падкажыце старшыні, каб забраў куранятак. Жаруць па многу, не набярэшся на іх.

— Добра, скажу. Абавязкова забяром. Каб Ева мне раней сказала...

— Авой-авой, знайшлі ад каго чакаць!.. Яна ж у мяне нічым не цікавіцца. З раніцы да позняй ночы ў клубе.

— Яна ж загадчык.

— А і што? Магла б і матцы памагчы. Прабачце, а ў вас ёсць радня? Бацька ці маці?

— Няма.

— Сірата. Відаць, у дзіцячым доме гадаваліся?

— У цёткі, на вёсцы.

Аксіння Адамаўна неяк падазрона паглядзела на Веру.

— Ну, пайду ўжо, загаварылася я з вамі. Кашара ў нас далекавата.

Вера падумала, што на кашары пабываць ёй трэба было ў першы дзень, ды вось не выпадала неяк.

— Закончу складаць справаздачу, абавязкова да вас зайду, — Вера не стрымалася, пазяхнула: няўмольна цягнула да сябе мяккая пасцель.

— Адну складзеце, другую запатрабуюць...

Падаткнуўшы падол доўгай спадніцы, Аксіння Адамаўна выйшла з хаты. Вера пастаяла крыху, не адважваючыся легчы спаць. Потым сказала сама сабе: «на гадзінку, не болей» — і лягла.

Пасцель была халодная, але ўтульная, і Вера, як толькі лягла, дык нібы правалілася ў бездань. Шэры морак ахутаў яе, закалыхаў і панёс на сваіх мяккіх крылах. З яго вынік любімы твар Раміра, белы з тонкім носам і капрызна сціснутымі вуснамі. З-за Раміравай постаці нехта падміргваў адным вокам — другога зусім не было відаць. Вера спачатку падумала, што другое схавана ў ценю Раміравай галавы. Але ж Рамір знік, і там, дзе павінна было быць другое вока, чарнела пустата. Здань з адным вокам прадаўжала агідна падміргваць, быццам старалася ўтрымаць ля сябе Веру. І раптам дзяўчыну кальнула прыкрая здагадка: гэта яе вока, з таго малюнка, які ў развітальны вечар намаляваў Рамір...

— Спіць яшчэ, — разбудзіў Веру чыйсьці вельмі знаёмы голас. — Шкада будзіць.

Яна расплюшчыла вочы і ледзь не аслепла ад сонца. Порсткія промні жвавымі зайчыкамі скакалі па стале, па сценах і падлозе. За акном шапацела разлапістая ліпа, нібы дакарала Веру за сон у такі позні час. На дыбачках зайшла Ева.

— Старшыня прышоў, — шэптам паведаміла яна, — да вас.

Вера хацела падняцца, але Даміра ўжо стаяў у пакоі. Быў ён на дзіва чыста паголены, аж сінявой адлівалі шчокі. Гладка прычэсаныя валасы яшчэ больш падкрэслівалі няўклюдную квадратнасць яго галавы.

— Ды вы ляжыце, ляжыце, — супакоіў ён Веру, хоць той нічога іншага не заставалася рабіць. — Я моладзь люблю, а чаму — магу растлумачыць. Мне з дзесяці гадоў не шанцуе. Хто на маёй нявопытнасці не спрабаваў спекульнуць... Многія на загрывак садзіліся. І вось цяпер, калі ўбачу маладога чалавека, дык гатовы ўсё зрабіць, каб не спазнаў ён той горычы, якую ўведаў я.

Ева заціскала далонню рот, сутаргава падаўляючы ўсмешку. Вера здзіўлена паглядала на Даміру, ніяк не могучы зразумець, што прывяло старшыню да яе на кватэру. Заціснуўшы рот рукою, Ева выбегла з пакоя. Было чутно, як яна бразнула дзвярамі сянец.

— Ішоў міма, дай, думаю, зайду. У мяне клопаты аб чалавеку на першым месцы. Мяркую, што паладзім з вамі. Галоўнае, не думайце, што Даміра — чалавек благі. Я — партызан. Найпершая наша запаведзь была: выручай. Помню, трапіла Кацюша Громава да немцаў у лапы — сем чалавек на смерць ляглі, сам быў моцна паранены, а Кацюшу выручылі.

— Гэты шрам ад таго часу? — запыталася Вера, пазіраючы на лілаваты рубец, што пачынаўся над левым брывом і хаваўся за вухам у пасівелых дачасна валасах.

— Не, то раней было. Гэта мяне ў сорак першым расстрэльвалі. Данёс нейкі злодзей, што я пакінуты тут за партызана. Ноччу абкружылі хату, без суда, без асаблівага допыту — у Духаўскі роў.

Вера прыўзнялася на локці, прытрымліваючы рукой каўнерык сарочкі, запыталася:



— Як жа вы ўцалелі?

— Планета, мабыць, такая. Цюкнула куля аб чэрап, ды не насмерць. А мяне за мёртвага палічылі, ну, і скінулі ў траншэю. Ноччу ачухаўся я, выпаўз з ямы, неяк яшчэ да роднага ганка дабраўся.

— Страшна было?

Даміра памаўчаў.

— Смерці я ніколі не баяўся, а тады струхнуў. Стаю над траншэяй, а слёзы па шчоках цурком цякуць. І не сорамна мне ні на вось столькі. Толькі чую, нехта мяне за руку ўзяў. Павярнуў я галаву, а побач дзядок старэнькі стаіць. Шыпіць, як гусак: «Ты, — кажа, — кінь перад звяругамі слёзы ліць. Усё роўна літасці не дачакаешся».

— Дык вас не аднаго расстрэльвалі?

— Не, чалавек сто пяцьдзесят. На трох машынах прывезлі. Больш яўрэйскага насельніцтва. Дзеці, жанчыны. Нас чалавек дзесяць, мужчын, было, ды і тыя збітыя дашчэнту. Жанчыны і дзеці вельмі крычалі. Страшна, калі на тваіх вачах людзей забіваюць. Адлучаць чалавек дзесяць і страляюць ва ўпор. Самі п'яныя, рагочуць. А тут дзяўчынка адна ўчапілася за мяне, крычыць, перапалоханая: «Дзядзечка, схавай мяне, я баюся». А куды я яе схаваю? Тут, помню, падышоў салдат іхні. Бярэ дзяўчынку за каўнер і цягне. А на ёй сукеначка ў крапінку, як цяпер помню, новенькая. Дзяўчынка трымаецца за мяне і ўся калоціцца. Салдат раззлаваўся, як ірване... Так уся сукенка да нізу разарвалася. Ухваціў яе немец у ахапку і панёс. Вось тады я ірвануўся раптам, думаў, задушу гада... Але.. Помню толькі, як бліснуў агонь у вачу. Пазней ужо, калі ачуняў, гэты малюнак з паўгода спакою мне не даваў. Яшчэ і цяпер часта яго ў сне бачу.

Даміра выцягнуў папяросу, разы са тры прагна зацягнуўся. Вера маўчала. На сцяне па-соннаму чэкалі ходзікі.

— Вось хто такі партызан Даміра, — абарваў старшыня напружаную цішыню. — Восем нямецкіх куль спрабавалі яго, дзве міны не здолелі забіць. А цяпер, мусіць, даканаюць мяне Пацей з Пацехіным.

Вера здзіўлена пазірала на Даміру — пераход у размове быў вельмі нечаканы.

— Першы — наш паштавік Дземідзенка. Другі — пракурор. Ну, і яшчэ некаторыя ім памагаюць. Дзякуй, хоць Сяльчонак яшчэ трохі падтрымлівае.

Вера ўспомніла пазаўчарашнюю размову з Дземідзенкам. «Рука руку мые», — сказаў ён тады. Падумала: «Старшыня не такі. Колькі ён, бедны, перажыў...» Хацелася зрабіць або хоць бы сказаць яму нешта харошае. Ды слоў не ставала, і Вера прадаўжала замілавана глядзець на яго. Потым, зусім недарэчы, сказала:

— Справаздачу я закончыла складаць

Даміра махнуў рукой. Нейкія свае думкі не давалі яму спакою. Вера пачынала адчуваць сябе нязручна: хоць бы ўстаць, але да плацця не магла дацягнуцца рукой. Прайшло шмат часу, пакуль Даміра зноў прыўзняў галаву. Устаў з крэсла, недарэчна пахістваючыся. Але пайшоў ён не да дзвярэй, а да Веры. Яе раптам апанаваў страх: пад коўдрай падабралася цела, тысячы мурашак забегалі па спіне.

— Вера Антонаўна, — у Даміры раптам ахрып голас, а жоўтыя вочы сарамліва глядзелі міма яе галавы, некуды ў кут. — Не падумайце, што я махляр які, п'яніца-прапойца. Чэснае слова партызана — аддам, але цяпер дазарэзу трэба пяцьсот рублёў.

У Веры адлегла на сэрцы, але, пачуўшы пра грошы, яна разгубілася і, увесь час паўтараючы: «Я зараз, зараз», заставалася ў пасцелі.

— Ды вы не турбуйцеся. Скажыце, дзе?

— На шафе сумачка.

Даміра дастаў сумачку, не раскрываючы, падаў Веры.

— Другі ў касу залез бы. А я не магу. Думаеце, сабе бяру? Сёння абяцала камісія прыехаць. Добрыя хлопцы — пачаставаць трэба будзе. А тут, як на тое ліха, — ні граша ў кішэні.

Дрыжачымі пальцамі Вера дастала пачак грошай. Ледзь адлічыла пяцьсот рублёў.

— Вось вам.

— Дзякую, — Даміра схапіў Верыну руку з грашыма, доўга-доўга трос яе. Кінуўшы трэсці, паклаў грошы ў кішэню. Раптам на Веру дыхнула вострым пахам гарэлкі. Тады яна ўспомніла, як смяялася Ева, і ёй зрабілася прыкра. Сказала рэзка і строга:

— Дайце апранууца, расселіся тут...

Даміра збянтэжана заміргаў бялявымі вейкамі, вышаў. Вера ўскочыла, накінула на сябе плацце, на скорую руку прычасала валасы, касу заплятаць не стала. Калі яна вышла ў другі пакой, дык убачыла, што Даміра чакае яе. Веру ахапіла злосць. Грукнуўшы кранікам бляшанага мыцельніка, яна запыталася:

— Чаго вы стаіцё?

— Вера Антонаўна, яшчэ адна просьба.

— Што яшчэ?

— Нікому не кажыце, што я ў вас грошы пазычаў.

— Не скажу.

— Я ў вас ледзь не ўсе забраў. Калі спатрэбяцца, прыходзьце, аванс дамо.

— Думаю, што вы грошы хутка аддасцё.

Даміра зноў ухапіў яе ўжо мокрую руку, моцна паціснуў.

У Веры было агідна на душы. Грошай яна не шкадавала, ліха з імі,— шкада, што так лоўка правялі яе. Нагаварыў кучу страхаў, выклікаў жаласць і абабраў. Вера дастала з сумачкі рэшту: засталося семдзесят шэсць рублёў. Трэба абавязкова з'ездзіць у горад, прадаць што-небудзь: інакш не пражыць.

Дзверы сенцаў моцна грукнулі — на парозе стаяла высокая дзяўчына з сумкай — паштальён Ніна Шумейка.

— Вам пісьмо, — буркнула яна. Веры здалося, што Ніна на яе злуецца, адводзіць карыя вочы ўбок. — Распішыцеся.

То быў вялізны пакет, месцах у пяці заштэмпеляваны, з мноствам рознакаляровых марак. Вера распісалася. Ніна сунула кніжку ў кішэню, няласкава зірнула на Веру і, не развітаўшыся, вышла.

«Чаго яна?» — падумала Вера і адарвала край канверта. У ім ляжаў той малюнак, што накідаў тым развітальным вечарам Рамір. Відаць, перад тым, як пасылаць яго, Рамір зрабіў некалькі рэзкіх штрыхоў — спрабаваў закончыць яе партрэт. Але партрэта не атрымалася. На кавалку ватмана некалькі чорных густых штрыхоў даволі характэрна перадавалі яе акруглы авал твару з маленькім вухам, гладка зачэсаныя валасы з завіточкамі ля віскоў.



Вера зазірнула ў канверт, але там больш нічога не было. Чаму Рамір нічога не напісаў? Засоўваючы малюнак у канверт, Вера ўгледзела на ім некалькі слоў, напісаных не па-наску: «Ars longa, vita brevis est» *.

Чужыя незразумелыя словы кальнулі вельмі балюча. Потым ёй прышло ў галаву, што Рамір знарок напісаў па-латыні, спецыяльна для яе. Ён жа ведаў, што яна вучыла латынь. А яна, апрача слова «vita», нічога не магла разабраць.

Увайшла Ева, радасная, усхваляваная. Угледзеўшы ў руках Веры малюнак, падбегла, успляснула рукамі.

— Вы! Як добра! Хто гэта маляваў?

— Адзін мой добры прыяцель.

— Ой, як добра!.. Толькі чаму вы з адным вокам тут?

Вера паспешліва схавала партрэт.

— Не паспеў дамаляваць, а па памяці, відаць, не схацеў канчаць.

— Ён прыгожы?

— Не ведаю. Мабыць так.

— Прыгожы. Вы таксама прыгожыя вельмі.

Вера чамусьці засаромелася, пачырванела.

— І я пісьмо атрымала. Вось глядзіце, як піша,—Ева падала невялікі лісток, спісаны буйным, размашыстым почыркам.

Чужы ліст чытаць было не вельмі прыемна, і Вера толькі прабегла яго вачыма. Уразіла яе адна фраза. «Дайшлі чуткі, што ты там падкручваеш, дык глядзі, Еўка, што разыдземся ў розныя бакі».

— Ён што, муж твой? — здзівілася Вера.

— Хто, Макар? Не, гэта Матроны Башукевіч сын, — і таксама пачырванела. — А вам што напісалі? Мусіць, гарадскія вельмі складна пішуць.

— А мне нічога не напісалі, — усміхнулася Вера, і каб Ева не падумала, што яна не хоча паказаць ёй ліст, падала канверт. — Ён выдумшчык вялікі. Вось толькі і ўсяго, што напісаў.

Ева, расчараваная, чмыхнула носам. А Вера падумала, што Рамір яе вельмі любіць і што яна яго таксама.

У пакой зайшла Ліпанава, сказала:

— Вось яны дзе, абедзве адразу.

## V

Камсамольскім работнікам Тамара Ліпанава стала выпадкова: забалаціравалі на канферэнцыі адразу двух сакратароў. Бралася дзяўчына за руль з боязню, неахвотна, нават не ўтрымала слязу, калі адразу ж пасля пленума паклікаў яе да сябе сакратар райкома Сяльчонак.

— Э-э-э, зусім раскісла дзяўчына. Ты чаго? — запытаўся ён, сядаючы побач.

— Боязна і школы шкада.

— А ты не бойся. Не багі гаршкі лепяць. Ды і я тут побач — дапамагу. Хіба не спадзяешся?

Тамара ўсміхнулася.

* Мастацтва вялізнае, а жыццё кароткае.

— Чаму...
— Тады добра. А школы, кажаш, шкада?
Ліпанава кіўнула галавой.
— Прычына важкая, а толькі цяпер я яшчэ больш упэўнены, што выбар мы зрабілі правільны. Колькі ў цябе вучняў было?
— У тым класе, што я кіравала, трыццаць чатыры, а наогул многа.
— Трыста?
— Не, меней.
— А тут у цябе каля тысячы душ адных камсамольцаў. І ўсе яны ад цябе чакаюць і парады, і слова разумнага. Сілы ў цябе свежыя, маладыя — не шкадуй іх. Яны, як той чырвонец неразменны — плаціш, а ён усё цэлы. Вас у інстытуце вучылі ў людскіх душах разбірацца?
— Псіхалогію вывучалі.
— Па кніжцы, вядома?
— Так...
— А тут яе без кніг давядзецца вывучаць...
Тамара памаўчала, потым дадала:
— А вы мяне ў наступным годзе ў школу адпусціце?
Сяльчонак, закінуўшы галаву, так што каўнер моцна ўрэзаўся яму ў шыю, зарагатаў:
— Зразумелі мы з табой адзін другога... — і раптам абарваўшы смех, нахмурыў кароткія рыжаватыя бровы. — Толькі вось што, таварыш Ліпанава, запомні адно: ты член партыі, сёння цябе паставілі працаваць туды, дзе сталь гартуецца, і мы не можам дазволіць табе сваім нежаданнем псаваць гэтую сталь.
— Я буду старацца.
— Добра, веру. Ну, а захочаш у школу, потым пашлем. Прыдзі толькі — скажы.

Так Тамара Ліпанава стала ў вялізную шарэнгу неспакойных людзей. Вірлівая маладосць і чыстае сумленне не давалі ёй заседжвацца на адным месцы. Адчуванне сваёй слабінкі, — Тамара разумела, што камсамольскую работу яна ведае яшчэ куды горш за тэхнічнага сакратара Валю Старыковіч,—выратавала яе ад зазнайства. А прывітая інстытутам патрэбнасць аддаваць веды прымушала выступаць, падказваць, вучыць. У сцюжу і спёку, у імжысты восеньскі дождж і студзеньскую завіруху прабіралася Тамара ў далёкія лясныя вёскі, рабіла даклады. Чытала лекцыі, спрачалася, даказвала, слухала прыпраўленыя салёнымі слязамі крыўды дзяўчат на няверных хлопцаў, гуляла на вяселлях і вельмі часта раней за родную маці паспявала прысці на радзіны. Не ўсё абыходзілася гладка. Часам здаралася так, што самі апускаліся рукі. Добра, што распачлівыя думкі найчасцей за ўсё прыходзілі ноччу і сон адганяў іх. Раніцай набягалі клопаты, дзесяткі недаробленых і сотні новых спраў. Ім не было канца, гэтым вялікім і маленькім справам. Не хапала дня і ночы, нават года, каб справіцца з імі. І якраз у самы разгар камсамольскага прыпару, калі прываліла асабліва многа цікавых спраў, непрыкметна падкраліся справаздачы і выбары ў камсамоле. Аднаго разу на вузкім калідоры райкома яе затрымаў Сяльчонак.

— Ледзь не забыў, — стукнуў ён далонямі па кішэнях форменнага фрэнча. — Гэта ж ты летась, памятаю, прасілася ў школу. У Клюкаўцы месца ёсць. Толькі хутчэй, спяшайся.

Ліпанава разгублена пазірала на сакратара. Яна ўжо зусім забылася пра колішнюю просьбу. Было сорамна і крыўдна, чырвань залівала шчокі. Днямі меўся адбыцца раённы агляд самадзейнасці. За год яна стварыла чатыры хоры і шэсць гурткоў. Як жа яны выступяць без яе? У Бачэйкаве яшчэ няма касцюмаў, і яна ўзялася дастаць іх. Войтаўцы прасілі акампаніятара. Ды і з прэміямі яшчэ невядома як будзе. Іх трэба вырваць у старшыні выканкома. Хоць было вельмі сорамна, папрасіла:



— Пасля агляду, Сяргей Паўлавіч.
Сяльчонак усміхаўся, але Ліпанава гэтага не бачыла. Яна глядзела ў падлогу.
— А злёт маладых ільнаводаў мы ўжо без цябе правядзём...— Ліпанава адчула ў словах сакратара жартаўлівыя ноткі, узняла галаву, спадзеючыся сустрэцца з прывычнай усмешкай Сяльчонка, але ўбачыла строгую навісь брывей, прыплёснутыя вейкі, за якімі і хаваўся смяшлівы агеньчык. Яна сумелася не на жарт. Злёт жа быў яе ідэяй. На мінулым пленуме яе нават зацвердзілі дакладчыкам. Яна пабывала ва ўсіх звеннях, ведала работу кожнага з іх. У яе накапілася многа цікавых думак, як лепш арганізаваць работу ў наступным годзе. Нарэшце, яна хацела ўручыць прэміі сама. З'ездзіла нават у абласны горад, набыла радыёпрыёмнік, ручную швейную машыну і стрэльбу. Быў у раёне славуты звеннявы-ільнавод Коля Краўчук — яму і купляла Тамара стрэльбу. А калі выберуць новага сакратара? Каму ён уручыць гэтую стрэльбу? Яшчэ раз апусціўшы вочы долу, яна сказала зусім ціха:
— Пасля злёту, Сяргей Паўлавіч, раней ніяк нельга.
Сяльчонак больш не мог стрымаць усмешку. Ён абхваціў Тамару за плечы, весела выгукнуў:
— Прапашчыя мы з табой людзі, Тамара!..— ён скупа ўсміхнуўся.— Значыць, ніяк нельга вырвацца? То адно, то другое. Гэта вельмі добра. Відаць, за душу ўзяла цябе камсамольская работа. Камсамольцы цябе і не думаюць адпускаць, а мы — тым болей. Так і быць табе, таварыш Ліпанава, да сівых валасоў партыйным работнікам.
Тамара і сама ўжо лічыла, што на ўсім свеце цікавейшай работы за камсамольскую — няма.
Час бег незаўважна. Не паспееш азірнуцца — праляцеў год, другі, трэці... У абкоме пагаварвалі ўжо аб замене, Ліпанава і сама ведала, што хутка прыдзецца здаць справы другому, але не магла: наперадзе намячаліся цікавыя справы.
Наступалі новыя часы. Подых свежага і велічнага далятаў і сюды, на далёкае Падзвінне. Пакуль яшчэ спакваля пачыналася перабудова сельскай гаспадаркі. Але ўжо ў першых кроках адчуваўся рашучы паварот да калгасных спраў. Чытаючы пастанову ЦК аб пасылцы моладзі на жывёлагадоўчыя фермы, Тамара зразумела, што цяпер будзе асаблівая ўвага звернута на грамадскую жывёлагадоўлю.
Ліпанава ведала: прамая дарога не заўсёды бывае карацейшай. Можна, вядома, пасылаць камсамольцаў на фермы. Хто з тых, каго за апошнія чатыры гады прымалі ў камсамол, не адгукнецца на камсамольскі заклік! У гэтым Тамара была ўпэўнена цвёрда. Але гэтага мала. Трэба, каб моладзь як мага хутчэй дамагалася поспехаў. І тут усё залежыць не толькі ад камсамольцаў. Ускалыхнуць, узварушыць масы, накіраваць іх сілы — вось што патрэбна цяпер.
У такіх выпадках яна любіла параіцца з людзьмі. Наведаўшы некалькі калгасаў, дзе яна гутарыла з моладдзю, Ліпанава паявілася ў «Маяку».

— Ну, як жывеце-можаце?— запыталася яна пасля таго, як прывіталася з Евай і Верай.

— Дзякуем,— адказала Вера.

Ева ніяк не магла патушыць усмешку. Яна шчыра радавалася, што атрымала пісьмо ад Макара Башукевіча.

— Пакрысе жывем.

— Добра пакрысе, калі твар так і ззяе. Ці не ад Башукевіча пісьмо атрымала?

— Канешне. Ой, Тамара Аляксандраўна, ён жа прыязджае хутка.

— Можа камсамольскую зробім?—Тамара прызвычаеным рухам адкінула надакучлівую пасмачку за левае вуха.

— Другіх замуж аддаеце, а калі ўжо самі пойдзеце?

— Ды ўсё з-за вас. Вельмі хутка расцеце.

Вера ўпершыню дазналася, што Ліпанава яшчэ не замужняя, і з нейкай непрыязнасцю падумала: «Не маладая ўжо».

Ліпанава тым часам задумліва глядзела на двор. Там, нахохленая, дыбала квактуха з цэлым выводкам пушыстых куранят. Знайшоўшы сякі-такі спажытак у смецці, яна клікала іх да сябе, і тыя беглі, смешна перабіраючы ножкамі. Нешта невыразна журботнае навяваў гэты малюнак. У грудзях расла туга па нечым недасягальна далёкім і вельмі дарагім. І раптам зусім практычная думка вылузнулася з закуткаў памяці:

— Колькі куранят ваша арганізацыя здала на калгасную ферму?

— Даміра не хоча прымаць.

— А выгадавана колькі?

— Каля паўтысячы.

— Прыме. Я з ім пагутару. Склікай, калі ласка, камітэт. Справа ёсць.

«Якая я, аднак,— падумала чамусьці цяпер Ліпанава.— Няўжо і праўда буду ўсё жыццё на чужых вяселлях гуляць?»

Зноў зрабілася тужліва.

Вера хацела ісці, але Ліпанава затрымала яе.

— Ці добра ўладзіліся? — запыталася яна.

— Нішто.

Думаючы пра тыя вялікія і малыя справы, што яна павінна вырашыць у калгасе, Ліпанава механічна задавала пытанне за пытаннем.

— Колькі ў вас даярак?

— Не ведаю. На тутэшняй ферме, здаецца, адзінаццаць.

— А якія сярэднесутачныя надоі?

— Не цікавілася.

— Даярак на работу падвозяць?

— Мусіць, не.

— Малако на месцы пераганяюць?

Гэты допыт пачынаў злаваць Веру. Чаго яна прывязалася да яе? Хіба можа чалавек за няпоўны тыдзень ведаць столькі дробязей? Сыпле, як пракурор на судзе. Хоча даказаць, што яна ўсё ведае. Тая непрыязнасць, што паявілася яшчэ пры першай сустрэчы, раптам пачала набываць акрэсленыя формы. «Чыноўны прыдзіра»,— ледзь не ўслых сказала яна... На апошняе пытанне Ліпанавай Вера так і не адказала.

Ліпанава прайшла па пакоі, спынілася перад люстэркам, прыгладзіла рукой непаслухмяныя валасы. Потым асцярожна падмалявала вусны. Вера падумала: «Для камсамольскага работніка гэта, мабыць, занадта».



Ліпанава раптам здзівіла Веру новым пытаннем.

— Вы — любілі?

Спачатку Вера хацела адказаць груба: гэта, маўляў, да справы не адносіцца, але Ліпанава глядзела на яе зусім шчыра. Адказала, нібы гэта пытанне датычылася работы:

— Даводзілася.

— Чалавек, калі кахае, робіцца прыгажэйшым і дабрэйшым. Праўда?

Яна паспрабавала ўсміхнуцца нейкай няўлоўнай усмешкай. Вера ўбачыла яе зубы — белыя, вялікаватыя, з адной залатой каронкай справа. Каронка выклікала ў Веры новую хвалю непрыязні. Захацелася чым-небудзь папікнуць сакратара.

— У вашы гады гэта трэба і самой ведаць. Думаю, вам ужо каля трыццаці.

— Угадалі, — Вера думала, яна раззлуецца, але Ліпанава адказала проста і шчыра.

«Беспачуццёвая»,— падумала Вера.

Увайшла Ева.

— Пойдзем у клуб, Тамара Аляксандраўна. Ці, можа, чаго перакусіце?

— Пасля. Нядаўна снедала. Вы, таварыш Алексіч, таксама з намі пойдзеце.

Па дарозе Ева забегла за Лёнькам Зайчыкам. Ён падышоў, няўклюдна махаючы рукамі, прывітаўся. Лёнька быў руды, вяснушчаты, з тонкім доўгім носам. Паўнаватыя губы яго па-дзіцячаму адтапырваліся, і, мабыць, ад таго было ў Лёнькавым твары нешта прастадушнае. З першых слоў Вера зразумела, што Ліпанава добра ведае Лёньку, на якога яна, Вера, і не звярнула ўвагі, калі заходзіла ў канцылярыю. Сядзеў Лёнька ля акна за вялізным сталом. На стале, як заўсёды, ляжалі стусы папер, лічыльнікі, стаяла вялізная бляшанка з клеем і гаршчочак з пальмай. Каб не гэтая пальма, дык бадай што Вера і не прыкмеціла б Лёньку сярод канторскіх работнікаў. А так, угледзеўшы пальму, яна заўважыла і яго. Праўда, спачатку ёй кінуліся ў вочы толькі вогненна-рыжыя валасы і тонкі доўгі нос, а потым ужо і сам гаспадар, вельмі худы і невысокі, каб яго можна было заўважыць адразу.

— Добры дзень, Лёня, — прывіталася з ім Ліпанава. — Можа новую музыку склаў?

Лёнька ўспыхнуў, вяснушкі ярчэй выступілі на твары.

— Нічога асаблівага.

— Не слухайце, Тамара Аляксандраўна,— умяшалася ў размову Ева.— Нават вельмі прыгожую музыку, папуры называецца.

— Праўда, Лёня?— запыталася Ліпанава.

— Так, глупства адно.

— Сыграеш?

— Нічога асаблівага, чужое ўсё.

Вера не зусім прыхільна падумала: «Таксама кампазітар... Дзівак...» Ёй раптам успомніліся словы Раміра: «Мастацтва — здабытак людзей прыгожых: няхай прыгожых не целам, дык душой».

Тым часам да іх далучыўся яшчэ адзін член камітэта — Наташа Каротка — настаўніца Закружскай школы, нізенькая з кірпатым носікам і ямачкамі на шчоках. Яна не падышла, а падбегла, дробна тупаючы кароткімі ножкамі, абнялася з Ліпанавай, і яны пры ўсіх тройчы пацалава-

ліся. Нейкі час так і ішлі, абняўшыся, пазіраючы адна на другую шчаслівымі вачыма.

«Ах, якая ідылія! Няўжо і я стану такой...»— іранічна падумала Вера. Свавольны ганарок нашэптваў ёй, што яна намнога лепшая за іншых, і таму не трэба звяртаць увагі на многае...

У клубе было халаднавата. Зайшлі на сцэну. Там стаяў вузкі доўгі стол, накрыты чырвоным палатном. На стале — графін і шклянка. Ліпанава пасароміла Еву за леташнія выцвілыя плакаты, а калі ўсе селі вакол стала, дастала з кішэні невялікую запісную кніжку.

— Нам, таварышы, належыць вырашыць вельмі важную задачу, — яна абвяла ўсіх вачыма. Твары членаў камітэта былі засяроджаныя, уважлівыя, толькі Алексіч, відаць, думала пра нешта сваё.— Але пачну я здалёк. Ваша арганізацыя лічыцца ў нас сярэдняй, нават ніжэй, чым сярэдняй. Безумоўна, большасць камсамольцаў людзі актыўныя, добрыя. Аднак жа ёсць і такія, што нават узносаў не плацяць.

— Люба Капіч ужо колькі месяцаў як не плаціла,— пацвердзіў Лёнька.

— Як выйшла замуж, дык пра ўсё забылася. Адна назва толькі, што камсамолка.

— Вось бачыце? Як жа з такімі працаваць?

— Такіх гнаць трэба з камсамола,— не стрымалася Вера.

На яе паглядзелі са здзіўленнем, нібы яна сказала штосьці недарэчнае. Ліпанава сказала:

— Гнаць прасцей простага. У вашым жа калгасе і так арганізацыя невялікая. Чаму вы так дрэнна расцеце?

— Шэсць чалавек падрыхтавана.— Ева сказала гэта з адценнем усвядомленай невінаватасці.

— Некалі,— разважліва пачаў Лёнька Зайчык,— камсамольцы любыя даручэнні выконвалі, бо агульны парыў быў.

— Чаму ж ён цяпер прапаў?

Замест Лёнькі Ліпанавай адказала Ева:

— Бо дысцыпліны няма.

— Выходзіць,— Ліпанава паглядзела на Веру,— Алексіч мае рацыю: трэба ў камсамоле пакінуць толькі актыўных, астатніх — за борт.

«Вось ужо і перакруціла мае словы»,— пакрыўдзілася Вера, але прамаўчала.

— Я думаю,— зноў пачаў Лёнька,— патрэбна такая справа, каб усе загарэліся ёю.

— Сказаў,— Ева безнадзейна махнула рукой.— Гэта толькі так гаворыцца: кожнаму даручэнне па яго здольнасцях. А ці лёгка гэта зрабіць? Па-мойму, так: кожная работа на карысць народа, таму яна пачэсная і павінна выконвацца бездакорна.

— Чаму ж у вас тады на ферме няма ніводнага камсамольца? — запыталася Ліпанава.

— Не надта хочуць ісці туды.

— Калі б паслалі — дык пайшлі б,—перапыніла Ева Наташу. — Не займаліся мы гэтым, Тамара Аляксандраўна.

— А калі вось цяпер, неадкладна трэба было б падымаць жывёлагадоўлю, хто з камсамольцаў пайшоў бы на фермы?

— Ніна Шумейка, Ліда Раковіч,— па пальцах пачала пералічваць Ева.



— Так, так,— барабаніла пальцамі па графіне Ліпанава.

— Я пайшоў бы, калі гэта патрэбна,— адгукнуўся Лёнька Зайчык.

У Ліпанавай прасвятлеў твар.

— Гэта нават вельмі добра,— Ліпанава страсянула галавой, адкідаючы з ілба надакучлівыя валасы.— Толькі скажы мне, Леанід, шчыра: з ахвотай пайшоў бы ты, ці таму, што трэба?

Лёнька, разгублены нечаканым пытаннем, заікнуўся:

— Я, як г-э-э-та-а?..

— А ты не імкніся дагадзіць мне.

Лёнька, пачырванеўшы да вушэй, прызнаўся:

— Вядома, калі трэба.

— Вось бачыш...

«Што яна, следчы які,— абуралася Вера,— лезе ў душу, як шашаль у дрэва».

Лёнька, памаўчаўшы, загаварыў, паволі, думаючы над кожным словам:

— Тамара Аляксандраўна, не крыўдуйце, але я скажу шчыра. Акрамя неабходнасці, патрэбна яшчэ, каб справа цягнула да сябе, каб яна захапляла сваёй узвышанасцю.

Ева пырснула смехам, як і тады, раніцай, калі паявіўся ў іх Даміра.

Лёнька не звярнуў на гэта ніякай увагі, прадаўжаў:

— Чалавеку можна сотню разоў паўтараць, што ачыстка памыйніц не толькі неабходная, але і важная, нават удзячная работа. Яна пазбаўляе смуроду, хвароб...

— Дык што ты хочаш сказаць?..— не стрымалася Ева. Яна не любіла гэтых Лёнькавых занадта разумных размоў.

— А тое, што ты, нягледзячы на ўсё гэта, не пойдзеш у асенабоз...

— Фу, параўнаў!.. Калі скажуць, пайду.

— Вось-вось, а ты добраахвотна ідзі. Не хочаш? А чаму? Бо работа павінна задаволенасць прыносіць. Яна мусіць быць такой, каб кожны ёй захапляўся.

Вера, якая спачатку не вельмі прыслухоўвалася да спрэчкі, раптам улавіла знаёмыя ноткі. Гэта было тое самае, што не раз чула яна ад Раміра, і ў той жа час нешта новае.

— Ты хочаш сказаць, Лёня, каб работа стварала чалавеку славу, ці не так?— запыталася Наташа, стараючыся падказаць Зайчыку сваю думку. Яна думала, што хлопец заблытаўся ў сваіх філасофскіх practыкаваннях. Але ён і не думаў адступаць.

— Прычым тут слава?.. Гэтая бліскучая цацка можа цешыць аднаго. Мне здаецца, важна, каб справа выглядала вялікай, грандыёзнай.

— Заблытаўся ты, Лёня! — усміхнулася Наташа.

— Чаму заблытаўся? Рымскі вадаправод і цяпер прыводзіць народы ў захапленне. А якая каму справа, хто яго рабіў — Іваноў ці Пятроў?— Тут Ліпанава ўсміхнулася: рускія прозвішчы з незвычайнай лёгкасцю былі перанесены ў Рым.— Народ зрабіў, і гэтым усё сказана...

Ева маўчала, яна заўсёды пазбягала вучоных спрэчак. Вера Алексіч раптам забылася, дзе яна знаходзіцца, здавалася, быццам перанеслася гады на тры назад у студэнцкі інтэрнат. Наташа прагнула паспрачацца з Лёнькам—яна некалі захаплялася гэтымі праблемамі, і ў яе былі свае меркаванні. Ліпанава нешта абдумвала. Яна ж першай, як толькі Лёнька змоўк, сказала:

— Леанід выказаў цікавыя думкі. Хоць ён, мне здаецца, і памыляецца. Хіба работа ў жывёлагадоўлі не пачэсная? Пачэсная і цікавая. Трэба толькі з усёй сур'ёзнасцю ўзяцца за яе. Іменна нам, камсамольцам. Першая задача, якую перад намі ставіць партыя — арганізаваць масавы паход на фермы, узяць іх у свае рукі. Задача нібы простая, калі выканаць яе фармальна. Кінем кліч, паднаціснем — людзі пойдуць. І вось тут я згодна з Леанідам: трэба нешта такое, каб захапіла моладзь, натхніла яе. Калі весела будзе працаваць, дык і работа спарней пойдзе. Трэба паход на фермы звязаць з нейкай другой задачай. Тады поспех будзе забяспечаны.

— Зробім, Тамара Аляксандраўна,— горача запэўніла Ева Пляскач.

— Што зробім?

— Усё, што ні загадаеце.

Вера скрывіла вусны: якая паслужлівасць!.. Успомніліся словы Раміра: «Дагаджаць, жыць! Як гэта проста!» Чаму ж ёй тады спадабаліся размовы Зайчыка? Ён жа таксама ўпэўнены, што выканае ўсё, што яму загадаюць.

Зноў загаварыў Зайчык.

— Каб работу на фермах ды звязаць з нейкімі пошукамі, новымі праблемамі. Вось у нас паплавы недагледжаныя, кармоў не хапае, жывёла не пародзістая. Толькі як гэта ўсё спалучыць — не ведаю...

— Сказаў, хоць бы на фермы моладзь паслаць!... — запярэчыла Ева.

— Ваш калгас сярэдні,— пачала гаварыць Ліпанава,— і калі тут зрушым жывёлагадоўлю з месца, дык, напэўна, і другія нас падтрымаюць. Мы вельмі цікава сёння пагаварылі. Думкі ў вас добрыя, карысныя. Пра іх я раскажу ў раёне, абмяркуем справу ў райкоме, і тады пачнем. А вы за гэты час не сядзіце, склаўшы рукі, рыхтуйцеся. Вам, таварыш Алексіч, раю лепей пазнаёміцца з фермамі, з людзьмі, што там працуюць. Усіх даярак, свінарак замяняць мы не будзем. Табе, Леанід, даручаю распрацаваць умовы спаборніцтва. Ты, Наташа, падумаеш над тым, як лепш арганізаваць адпачынак жывёлаводаў. Ну, а Ева будзе да сходу рыхтавацца, потым правядзем яго, накіруем людзей на фермы, разгорнем барацьбу за ўздым жывёлагадоўлі. Ну, сказана — зроблена.

## VI

Назаўтра Вера рашыла пабываць на кашары. Хацела ісці туды разам з Аксінняй Адамаўнай. Усю ноч яна прахоплівалася, баялася, каб гаспадыня не прачнулася раней за яе. Але перад самым світаннем заснула так моцна, што не пачула, калі Аксіння Адамаўна паднялася і пайшла на кашару.

Хуценька памыўшыся, Вера выйшла на яшчэ сонную вуліцу. Дзень абяцаў быць пагодным, як і ўсе гэтыя дні. Заходні небасхіл атулялі ґустыя наміткі ліпеньскай смугі. Празрыстае, сіняе неба над галавой здавалася высокім. На ўсходзе яно было ружовае, а там, дзе мелася ўзысці сонца, — залаціста-чырвонае.

Дзе размяшчаецца летні лагер, ці кашара, Вера дакладна не ведала. Чула, што недзе там, за рэчкай. Пайшла спорным крокам па пыльнай вясковай вуліцы.



За вёскай Вера ўбачыла надта фацэтную чалавечую постаць, затуленую ў шырокі жоўтага колеру балахон. З-пад балахона відаць былі вялізныя боты, падвязаныя вузлаватымі вяроўчынамі. Постаць упрыгожвала высокая шапка. На шыі чырванеў шалік. Цераз плячо вісела торба з мноствам рознакаляровых зашывак, якія зблізку аказаліся кішэнькамі для паклажы. Вера, можа, і не дагнала б таго чалавека, каб выпадкова ў яго не развязалася вяроўчына на боце. Ён сеў на край старой канавы, пачаў старанна закручваць вяроўку. Падымаючыся, угледзеў Веру і пачакаў яе.

Як толькі Вера параўнялася з ім, ён сцягнуў з галавы стаўбунаватую шапку, прывітаўся. Словы ён расцягваў, робячы націск на кожным складзе. Мабыць ад таго Веры здалося, што чалавек вельмі нават добра абыходзіцца ўсяго трыма галоснымі, сярод якіх асабліва вылучаецца «ы».

— Дзынь дыбры, тывырыш зытыхнык!

Вера здзівілася, адкуль яе ведае гэты малады дзівакаваты чалавек.

— Добры дзень.

Яна прыглядалася да незнаёмага. Быў ён русы, з тонкімі абрысамі твару і нейкімі бясколернымі палахлівымі вачыма. Чалавек прыладзіўся ісці поруч, грукаў цяжкімі ботамі па ўтаптанай дарозе. Маўчалі. Такое суседства чамусьці палохала Веру. Яна стрымлівала сябе: чаго баюся? Але страх не пакідаў...

— На кышыру ды ныс?— запытаўся раптам чалавек.

Вера паглядзела на яго, моўчкі кіўнула галавой. Падумала, што гэта нехта з пастухоў, і на сэрцы адлегла.

— А вы дамоў прыходзілі?

— Прыязджаў за падмацаваннем эканамічнай магутнасці. Чалавеку мала свежага паветра і крынічнай вады — найвялікшых дароў царыцы прыроды.

— За прадуктамі?.. — здагадалася Алексіч.

— За дарамі прыроды, — паправіў яе пастух. — Шчодрасцю нябывалай надзяляе яна чалавека, увасабленне найвышэйшай гармоніі ўсяго існага ў свеце. Думаеце, самай зразумелай і блізкай сімфоніяй для чалавека з'яўляецца не музыкальная, якая цешыць душу, а кулінарная, што цешыць жывот?

— Не, я так не думаю,— паспешліва адказала Вера. Ёй здалося, быццам чалавек сказаў апошнія словы са злосцю. Яна здагадалася, што чалавек гэты — прыдуркаваты пастух Бэдзя, пра якога аднойчы гаварыла ёй Ева.

— Многія так думаюць,— заўважыў Бэдзя.— І горка памыляюцца. Жывёла болей з'есць, а прыгажосць навакольнага свету не разумее.

Вера паглядала на пастуха ўпотай: было крыху жудасна, баялася, што выбрыкне ён якую-небудзь шаляніну, і паспрабуй тады паскардзіся... Стараючыся дагадзіць яму, сказала з паблажлівай лагоднасцю:

— А вы філосаф...

Бэдзя не здзівіўся.

— Усякі чалавек — філосаф,— важна праказаў ён.— Толькі вось галава, нібы той спрацаваны матор на аўтамабілі. Пасланцу вялікай Германіі цесна было са мной пад часовым дахам — спрабаваў пад вечны адправіць. Кляймо вось прыклаў,— ён прыўзняў стаўбунаватую шапку, і Вера ўбачыла, што там, дзе пачынаюць расці валасы, прытулілася сінявата-белая западзіна. Скурка на ёй то ўздымалася, то западала.

У другі раз за гэтыя дні сустракалася Алексіч з жудаснымі напамінкамі аб мінуўшай вайне. Цяпер бэдзевы сентэнцыі не здаліся ёй ужо такімі смешнымі і бязглуздымі.

— Завошта яны вас?

— Чалавеку, ператворанаму ў звера, недаступна прыгажосць стваральная. Кветка расце на полі, каб цешыць чалавека, а карова гам яе — і з'ела... Галаве харч патрэбны — мысля. Няма яе — жывот думае. У жываце ад голаду — буркатня, у галаве — звон. Ад таго звону ў ваччу цямнее, ноч апускаецца. А ўначы звярам раскоша.

Нейкі час яны ішлі моўчкі. Бэдзя грукаў вялізнымі ботамі за двух. Час-ад-часу ён варушыў патрэсканымі вуснамі — думаў.

У Верынай галаве раіліся думкі, разварушаныя размовай з Бэдзям. Вайна неяк абмінула іх вёску. За чатыры гады ў ёй не згарэла ніводнай хаты, на яе вуліцы не ўпала ніводнага снарада, з яе жыхароў ніхто не быў забіты ля сваёй хаты, ніводзін чалавек не служыў у паліцыі, але мала іх было і ў партызанах. Хто выпадкова ці не выпадкова застаўся дома — адпусцілі бароды, і на малы Верын розум здаваліся надта старымі дзядамі. Жылі ціха. Не пелі песень, не гаварылі аб палітыцы, нават не смяяліся. Плакалі ўпотай, бо тады і гэта было палітыкай. Стараста, высокі белабароды дзед Баўціль, кожны дзень абходзіў хаты, суцяшаў, раіў: «Пацярпім, брацця і сёстры ў Хрысце. Нараканне людское падобна шуму марскому. Яно даходзіць не толькі да бога, але і да ворагаў яго. Памаўчым і памолімся, не весялосцю супакоім душу сваю, а доўгім цярпеннем і надзеяй на лепшае».

Аднаго разу Вера чула, як дзед Баўціль, прасціраючы худую, жылістую руку з двума выцягнутымі пальцамі, крычаў на Ганначку Багданаву:

— Для каго надзела плацце гэтае? Сатану заманьваеш, паказваючы сцежку яму праз кола вогненнае. Прыдзе сюды спакусіцель роду людскога, і пеплам стане зямля гэтая і жывое на ёй.

Сагнутымі пальцамі дзед ірвануў плацце, і яно, затрашчаўшы па швах, парвалася. Ганначка войкнула і пабегла. Вера абуралася па-дзіцячаму шчыра, але моўчкі; толькі злосна зыркала сінімі вачанятамі.

Не ўсе і вяскоўцы былі на баку дзеда. Употай гаварылі, што ён нямецкі паслугач, але пабойваліся. Затое старыя дзяды і бабулі, ды тыя, хто ўцёк з фронту, былі на баку дзеда Баўціля.

— Справядлівы чалавек — справядліва і робіць.

— Пусціў бы сюды гарадскіх мяняць — закурэла б вёска дымам.

— Не ў трантах шчасце, абы жывот быў набіты.

— Галава цэлая хай застанецца.

— Людзі гінуць, а вы пра жывот...

— Такія і гінуць... Шыбкія надта. Кожны пра сябе дбае.

У гадзіну ліхіх выпрабаванняў нават самая недарэчная бязглуздзіца, якая давала хоць бы кволую надзею на выратаванне, глыбока ўразаецца ў чалавечую душу.

Па шчаслівай выпадковасці вёска, дзе жыла Вера, уцалела, і многія ўгледзелі ў гэтым мудрасць дзеда Баўціля, велічнасць і непахіснасць яго «вучэння». Дзедавы павучэнні непрыкметна ліплі да людзей, раз'ядалі іх душу, як іржа жалеза. «Абы была цэлай галава. Гінуць такія... шыбкія надта».

Пройдзе шмат часу, і Вера Алексіч задумаецца над тым, што цяпер лёгкім успамінам праплыло ў галаве. Тады яна запытае ў сябе: а ці не ад дзедавых павучэнняў пачаліся ўсе яе бядоты. І калі яна задумаецца, дык убачыць Раміра, самага любімага ёю чалавека, гэткім жа агідным, як і дзед Баўціль, і тады размовы мастака Раміра і евангеліста дзеда Баўціля аб шчасці і жыцці здадуцца вельмі блізкімі.



А пакуль думкі яе плылі ў другім кірунку. Раптам яна яскрава ўбачыла сябе ў сваёй хаце. Яна сядзіць на акне. У небе цяжка, нібы надрываючыся, гудзе самалёт. Над гарадком плывуць клубы чорна-бурага дыму. Душна і цяжка, як перад навальніцай. Чамусьці хочацца плакаць, але рыданні толькі сціскаюць грудзі, не вырываючыся з іх. Маці няма. Вера глядзіць на дарогу, якая паяўляецца з-за сасновага бору, выкручваецца між хмызнякоў і прысад, то хаваецца ў раўчуках і далінах, то ўзбіраецца на ўзгоркі, каб зноў спаўзці да якой-небудзь рачулкі, акунуцца ў яе мелкія воды.

Вера чакае нечага жудаснага, і яно вось-вось павінна паявіцца на гэтай жаўтаватай дарозе. І сапраўды, неяк незаўважна з-за лесу выкатваецца чорны хвастаты ком. Ён коціцца марудна, мяняючы сваю форму — з круглага робіцца сплюснутым, доўгім, як падцёк чорнай фарбы. Вера здагадваецца, што гэта калона нямецкіх машын. Як скамянелая, дзяўчынка нейкі час сядзіць на падаконніку, потым саскоквае з яго, хаваецца за печкай. Час цягнецца надакучліва доўга. І калі Вера ўжо было падумала, што ліхая навала мінула іх, нешта завурчэла, заляззгала, потым сціхла і тады да дзяўчынкі данеслася музыка, быццам хто іграў на жалейцы. Дзіцячая дапытлівасць перамагла страх. Вера выскачыла на вуліцу і спынілася ад здзіўлення: уся дарога была забіта матацыкламі, танкамі і невялікімі, падобнымі на дамавіну, машынамі. Загарэлыя салдаты, голыя па пояс, хадзілі між машын, смяяліся і гучна размаўлялі на чужой, незразумелай мове. Белы высокі салдат сядзеў на гусеніцы танка і, прыклаўшы да вуснаў бліскучую пласцінку, дзьмуў у яе. Афіцэры разглядалі карту. За канавай стаялі жанчыны, баязліва пазіралі на чужынцаў.

У гэты час па агародах у вёску прабіралася жанчына, амаль распранутая, у какетліва павязанай касынцы. Яна ішла, размахваючы рукамі, крычала нейкую песню. Салдаты ўбачылі яе і зарагаталі. Афіцэры выцягнулі фотаапараты, пачалі здымаць яе. А яна спявала і махала рукамі. Моцны рогат спыніў яе. Яна перастала пець. Нехта з салдат свіснуў. Тады жанчына павярнулася да іх спіной, зрабіла непрыстойны жэст.

Афіцэр марудна выцягваў з-за халявы пісталет.

— Пан, пан, то вар'ятка, хворая, з вар'яцкага дому, — стары Яўтух, каб пераканаць немцаў, пакруціў ля скроні пальцам.

Дзед Баўціль, пагладжваючы бараду, мармытаў: «І прыдзе вайна, голад і смерць, але не праціўцеся ім, бо гэта кара за грахі вашыя».

Афіцэр марудна паднімаў руку з пісталетам. Дзябёлы, даўгавалосы салдат нагнуўся, дастаў з багажніка аўтамат. Людзі загаманілі, наперабой упрошваючы прышлых не забіваць хворую жанчыну. Яўтух, які пабываў некалі ў палоне, блытаючы словы, прасіў:

— Пан, яна кранк, ду біст ніх страляць...

Вар'ятка прадаўжала рагатаць.

— Цурук, — гаркнуў на вяскоўцаў нейкі афіцэр. Усе адразу зразумелі, што гэта значыць і адышліся. Грымнуў адзін, потым другі стрэл. Прадаўжаючы рагатаць, жанчына ўпала.

І раптам той жа афіцэр на чыстай рускай мове загадаў:

— Зарыть! Имеют право на жизнь те, кто здоров и верен нам. Все остальные должны умереть...

Забітую пахавалі ля могілак. На могілках не дазволіў хаваць усё той жа дзед Баўціль. Гады праз два маленькі курганок зраўняўся з зямлёй. Не ўспамінала пра той выпадак і Вера; быццам яго ніколі не было.

Чаму ж цяпер той забыты выпадак ускалыхнуў усё нутро? Таму, што поруч з ёй ідзе Бэдзя — няшчасная ахвяра вайны. Але ж і раней яна чула такія расказы, а вось жа не задумвалася над імі. А ці задумвалася яна наогул над жыццём? І раптам апякла думка: можа і не бачыла яна таго жыцця?

Верыны думкі перапыніў Бэдзя.

— Тывырыш зытыхнык, можа вы прывезлі з сабой мудрасць вучоную?

— Якую мудрасць? — здзівілася Вера.

— Кнігі якія-небудзь. Веды — цудадзейны бальзам, які працягвае жыццё чалавека.

Вера ўспомніла, што, збіраючыся ў Закружжа, яна захапіла з сабой блузкі, спадніцы, бялізну, духі і не ўзяла ні адной кнігі. У апошні час яна і не помніць, калі бралася за кнігу, вядома, апрача падручнікаў. Усё не хапала часу.

— Хіба ў бібліятэцы няма кніг?

— Прачытаў ужо ўсе. Ды вы, таварыш заатэхнік, не думайце, што я зглумлю кнігу. Рэч гэтая даражэй за золата. Ад золата — вар'яцеюць, ад кніг — разумнеюць.

— Пакул у мяне няма, не прывезла, — растлумачыла яна. — Як толькі паеду ў горад, абавязкова прывязу, тады прыходзьце. Вы найбольш якую літаратуру любіце?

— Бальзак — сэрцу майму блізкі. А то яшчэ Ралан...

У далечыні паказаўся лагер. Размова зноў спынілася. Да кашары дайшлі моўчкі.

Бэдзя адразу ўзяўся за працу: паднёс бітоны, збегаў у выгарку за вадой, насек дроў, распаліў вогнішча пад вялізным катлом. З будана вылез другі пастух Дзмітрый Пракуда, даўгалыгі, з сівой барадой мужчына. З Верай ён прывітаўся спаважна, распаліў кароценькую піпку і, пасмоктваючы яе, запытаўся:

— Панаглядаць прышлі?

— Наглядчыкаў у вас, мабыць, хапае і без мяне, — не вельмі прыхільна адказала Вера.

Старшы пастух чамусьці ёй не спадабаўся.

— Справядліва сказана.

— Колькі малака цяпер надойваеце?

— Менш трох бітонаў не бывае.

— Не многа.

— Па сёлетняй траве не блага. Павыгаралі выпасы.

— Трэба старацца...

— Стараемся, таварыш заатэхнік.

Да іх падыходзілі даяркі. Гэта былі ў большасці старыя жанчыны; вылучалася сярод іх адна, высокая, чорнавалосая з белым прыгожым тварам. У яе былі выгнутыя вузкія бровы, і ад таго здавалася, што паглядае жанчына на Веру здзіўленым позіркам.



Спачатку даяркі маўчалі, але як толькі Вера загаварыла пра надоі — бязладна загаманілі, перапыняючы адна другую.

— Доім во які год, а замест прэміі хвігу...

— Глядзі, атрымаеш!

— Дзеўкі хай бы кароў даілі...

— Надаяць!

— Каторая дык і даёнку ніколі не трымала...

— Даміраха хай падоіць.

— Плявузгаеш нямаведама што. Тая ў труну глядзіць.

— Усе там будзем.

— Цябе чорт туды не зацягне.

— Працадзень ад надояў ідзе. А малако я адкуль браць буду?

— У выгарцы.

— Па чарзе хай бы даілі...

Жанчыны, мабыць, яшчэ доўга крычалі б, але тут падышоў брыгадзір Раман Дзяжэвіч, нізенькі, кругленькі чалавечак.

— Чаго, бабачкі, раскрычаліся? Галубачкі, ясачкі, усё вам будзе, дайце толькі срок, будзе вам і белка, будзе і свісток. Табе, Дар'я, чобаты пашыем, жоўтыя, на высокім абцасе і пеўнямі вышытыя. Помніш, як у артыстк і, што залетась прыязджала.

Дар'я замахала рукамі.

— Не хачу я чобатаў. Хай бы бахілы купілі.

— Бахілы само сабой. На свае вушы чуў, як Даміра Лёньку лаяў: купі, кажа, маім дарагім даяркам бахілы. Ды не простыя, а лакіраваныя. Заслужылі, кажа, яны ў мяне іх. І зноў жа, карэспандэнт які прыедзе, адразу відаць — культурная ферма.

— Чулі ўжо...

— Далібог, вось каб я з гэтага месца не сышоў, — Дзяжэвіч пастукаў кулаком у грудзі. — Купяць, і шабаш дзела. А табе, Агапа, пуцёўку дамо ў Маскву. На самалёце паляціш.

— Каб разбілася яшчэ...

— Дзівачка ты, Агапа Абрамаўна, паляціш, і шабаш дзела. Залетась, як я ў сына быў, дык на самалёце сам лятаў. Мякка, чай падносяць. Пі сабе на здароўе, і шабаш дзела.

Жартачкамі, кепікамі Дзяжэвіч супакоіў жанчын. Даяркі павесялелі, перакідваліся словамі.

— Гэты ўлагодзіць...

— Ат, трэці год абяцае.

— Хоць пагаворыць добра.

— Ну, бабачкі, — Дзяжэвіч паляпаў па плячы даярку, што стаяла бліжэй да яго. — Памыйце, ясачкі, посуд, ды на шабаш.

Жанчыны неахвотна пайшлі. Дзяжэвіч пазіраў ім услед.

— Навошта вам спатрэбілася хлусіць? — не вытрымала Вера.

— Вы тут каторы дзень, а я трэці год шурую. Не схлусіш — не паедзеш.

—Далёка на гэтым не праедзеце...

— На мой век хопіць. Здымуць — другі будзе хлусіць, і шабаш дзела.

— Лепей скажыце, чаму надоі нізкія? Лета, самы сезон, а вы па пяць літраў ад каровы надойваеце.

— Дык жа, дарагі таварыш, не ўсе даяркі па пяць літраў надойваюць. Матрона Башукевіч, нашая паважаная перадавічка, узоры працы паказвае. Таксама гаспадыня вашая, Ксютка Пляскач...
— Значыць, можна і больш надойваць?
— А я хіба кажу не можна? Ай-яй-яй, таварыш заатэхнік, да чаго вы яшчэ маладыя. Даяркі ў нас працаваць не хочуць.
— Навошта трымаць такіх даярак?
— А мы трымаем... Яны з радасцю адсюль уцякуць.
— І няхай.
— Тады вы кароў даіць будзеце ці можа апараты якія паставіце?
— Што ж рабіць?
— Не хвалюйцеся, Дзяжэвіч вывезе.
— Дзяржаву ашукаць не ўдасца. Летась абавязацельства бралі? На вашае слова людзі разлічвалі. Ім малако патрэбна, а не вашыя абяцанкі.
— Я так думаю, — Дзяжэвіч перайшоў на паўшэпт, — мы можам болей здаваць малака. Цяляты могуць ужо і так выладнець. Ды і малако ў нас вельмі тлустае... Другія так і робяць. Трэба болей, хай будзе болей. І шабаш дзела.
Вера загарэлася ад злосці.
— На злачынства мяне штурхаеце? Скажу я вам шчыра: калі даведаюся пра махінацыі — аддам пад суд.
Дзяжэвіч развёў рукамі.
— Я штурхаю?.. Вас?.. Проста, дарагі таварыш, вы не дачулі, — перастаўшы крыўляцца, са злосцю ў голасе ён сказаў: — Здымайце. Страшна, думаеце? Мне гэтая пасада патрэбна, як шчупаку парасон. Надавалі старых жанчын, ды яшчэ хочаце, каб я з імі план выконваў, малачко вам даваў. Што ад той жа Ганкі патрабаваць будзеш? Доіць карову, а сама сапе, як паравік няспраўны. У яе ад старасці ногі не гнуцца, а мы прымушаем яе кароў даіць. Здымайце, і шабаш дзела.
Дзяжэвіч зняў шапку, шпурнуў яе вобземлю. Вера стаяла перад ім разгубленая, ашаломленая. Няўжо ў яе нічога не выйдзе? Няўжо дарэмна забрала заяву, не засталася на кафедры? Можа Рамірава праўда? Сказала не вельмі ўпэўнена:
— Хутка камсамольцы прыдуць на ферму.
— Пойдуць яны!..
— Пойдуць.
— А няхай і так. Вельмі яны тут многа наробяць. Уцякуць у першы ж дзень.
— Не збягуць, — стаяла на сваім Вера. — Вось тады самі пераканаецеся, што ўсё ад людзей залежыць, калі, замест трох бітонаў, дзесяць будзем на малаказавод вазіць.
Дзяжэвіч падняў шапку, ударыў ёю разы са два па калене, каб вытрасці пыл.
— Дзе ж яны малако тое возьмуць? А вы на выпасах былі? Вось у тым і справа. Можа па-вучонаму гэта і не зусім так, прабачце, не ведаю. Але кармоў не будзе — малака не чакайце.
Вера ўспомніла, што, складаючы справаздачу, зусім і не падумала аб тым, ці хопіць кармоў на зіму, ці хапае іх цяпер, улетку.
Вярталася Вера ў вёску з сапсаваным настроем. Уся задума з пасылкай камсамольцаў на фермы здавалася ёй цяпер нікуды не вартай задумай. Што зробяць дзяўчаты, калі ў пажылых жанок апускаюцца рукі?



Прагледзеўшы справаздачу, Вера выявіла тое самае, пра што гаварыў Дзяжэвіч: кармоў не хопіць. Успомніла загадчыка паштовага аддзялення Дземідзенку. Прыгадаліся лекцыі прафесара Пальчыкава. У вушах загучалі яго словы:
«Правільныя рацыёны — аснова заатэхнікі. Запомніце гэта, маладыя людзі, назаўсёды. Старая руская прымаўка кажа: малако ў каровы на языку. Векавы вопыт жывёлавода і ніхто іншы ствараў гэтую цудоўнейшую прымаўку. Мы таксама кажам: малако ў каровы на языку, але тут жа з уласцівай вучоным схільнасцю да фармулёвак дадаём: колькасць малака прама прапарцыянальна якасці кармоў і адваротна прапарцыянальна іх аднастайнасці. Таму галоўнае — рацыёны, рацыёны і яшчэ раз рацыёны, высокаякасныя, высокакаларыйныя і разнастайныя кармы. Усё гэта, маладыя людзі, павінны рабіць вы... і дамагайцеся свайго».
Пальчыкаў распрацаваў дзесяткі разнастайных табліц, па якіх будучыя заатэхнікі павінны былі складаць рацыёны. І хоць прафесара не любілі, дражнілі яго казіным дыетолагам, але табліцы вызубрывалі напамяць, бо гэты чалавек быў абыякавы да студэнцкіх слёз.
Але навошта гэтыя пальчыкаўскія табліцы ёй тут? Разнастайнасць, каларыйнасць!.. Самай каларыйнай будзе салома, не інакш.
З клуба на абед прыйшла Ева. Як заўсёды вясёлая, задаволеная сабой і ўсім белым светам. За тыдзень у яе з'явілася да Веры гарачая прыхільнасць і нават любасць. Часам яна абдымала Веру або тулілася да яе.
Зайшоўшы ў пакой, Ева кінулася да Веры, абхапіла яе і моцна прытулілася да грудзей.
— Ой, чаму ты такая невясёлая?
— Вось жа лізуха,— усміхнулася маці і выйшла на кухню.
— А ты чаму вясёлая такая?
— Мне Максім Шняк у каханні прызнаваўся.
— А Макар?— напомніла Вера.
— Макара ні на каго не прамяняю.
— Навошта ж тады?..
— А так. Люблю хлопцам галовы задурваць.
— Навошта?— Вера прыкусіла язык, успомніўшы пра свае нявырашаныя сардэчныя справы.
— А няхай,— бесклапотна зарагатала Ева.— Сядзіць вось так і вачэй не зводзіць. А я думаю: «Вось дурань, дык дурань». Вера, а гэта нічога, калі я з ім сёння на вечарынку схаджу?
— Сама глядзі.
— Пайду. Ці ж я з Макарам абвянчаная? Мацней кахаць будзе.
У Евы думкі скакалі, як вераб'і. Не паспела закончыць размову пра каханне, як пачала зусім пра другое.
— Слухай, зрабі даклад на сходзе.
— Які даклад, дзе?
— Пакуль Ліпанава прыедзе, дык я хачу сход правесці і камсамольцаў на фермы пасла́ць. Яна вельмі любіць, калі ініцыятыву праяўляеш. Га?.. Зробіш? Ну, Верачка, міленькая, даражэнькая...
— Я не зусім веру ва ўсё гэта...
— Ты што?— здзівілася Ева, ад неспадзяванасці яе карыя вочы зра-

біліся вялікія і былі цяпер вельмі прыгожыя. — Гэта ж пастанова ЦК.

«Яе за вочы любяць»,—падумала Вера, а ўголас казала:

— Кармоў не хапае. Што тут камсамольцы зробяць?

— Усё зробяць, а што кармоў не хапае, гэта ўжо няхай Даміра думае. Дарэчы, ты і яго пакрытыкуй. Скажы, што кармоў не хапае. Ну, ты сама ведаеш, як лепш яго закрануць. Дык я сёння ж напішу аб'яву.

— Добра,— неахвотна згадзілася Вера.

VII

Апошняя вайна павырывала людзей з наседжаных месц, параскідала іх па свеце, як вецер апалае лісце. Многія, асабліва мужчыны, так і не вярнуліся да родных сем'яў.

І ў калгасе «Маяк» кожная другая хата стала называцца ўдовінай. А ўдовы таксама не сядзелі на месцы. Муштравалі іх спачатку за партызанства мужоў і братоў, а пасля, перад самым прыходам Савецкай Арміі, пагналі ў Нямеччыну. Жанчыны думалі: не сустрэнуцца болей ніколі. Але жывучы чалавек: калі ён яшчэ дыхае, дык хоць паўзком прыпаўзе на тую зямлю, якая ўскарміла яго.

Не адразу пасля вызвалення, але папрыязджалі і ў «Маяк» яго жыхары. Жылі спачатку ў зямлянках, падлічвалі страты, галасілі па тых, хто не вярнуўся. Па вечарах, сабраўшыся дзе-небудзь на свежым бярвенні, успаміналі пра сваіх родных, любімых і проста знаёмых. І здавалася тады, што ў вёсцы былі толькі добрыя людзі: для кожнага знаходзілася цёплае слова.

У жыцця ёсць свае законы. Абсохлі гарачыя жаночыя слёзы, надціхла гора. Усё часцей і часцей пачала абуджацца вёска не плачам, а смехам і буйнай весялосцю, гарачым шэптам жанок, засумаваўшых па мужчынскіх абдымках, не па-дзявочаму смелымі пацалункамі, маленькімі, ціхімі вяселлямі.

А там неўзабаве павыпаўзалі на прастор вясковых вуліц новыя жыхары — замена тым, хто не дайшоў да роднай хаты. Мацярынскай любоўю зноў загарэліся жаночыя вочы, ад паўнаты шчасця распірала пад кофтачкамі грудзі. І нават тыя, хто не мог знайсці вялікага шчасця, задавальняючыся малым, былі рады мірнаму, неяк адразу пасталеўшаму жыццю.

Адна Аксіння і праз дзесяць гадоў пасля вайны не магла забыць горыч страты. Маладой, нікім нецалаванай дзеўкай выйшла яна замуж за Андрэя Плескача, першага на ўсю акругу гарманіста і гуляку. Чубаты, невысокі, зграбны, моцны, ён падабаўся ёй даўно. Але як скажаш пра гэта хлопцу? Хіба сэрцам? Ды не кожны здагадаецца зазірнуць у яго. Вачыма? Але яны самі апускаюцца долу, ад сораму закрываюцца густымі чорнымі вейкамі. Выдала Аксінню дзявочая чырвань, што ўспыхнула аднойчы на шчоках, калі Андрэй на вечарынцы запрасіў яе танцаваць кадрыль. Праз які месяц Андрэй сустрэў яе яшчэ раз, за рэчкай у лесе, запытаў:

— Пойдзеш, Аксінька, за мяне замуж?

У яе перасохла ў горле, і яна паспела толькі кіўнуць галавой, аддаючыся яго нястрымным ласкам. Прама з лесу Андрэй павёў яе да сельсавета, дзе здзіўлены, ашаломлены сакратар зарэгістраваў іх шлюб.

Любіла Аксіння горача. Але не доўга цешылася сваім шчасцем — няпоўных тры гады. У трыццаць дзевятым годзе надзеў Андрэй шэры шынель, пацалаваў жонку і двухгадовую дачку Еву і пайшоў у доўгі, шматгадовы ваенны паход, з якога ўжо не вярнуўся. Забіла яго ў сорак чацвёртым на пераправе праз Дунай цяжкая фугасная бомба. Выплакала Аксіння ў падушку свае прыгожыя вочы, згорбілася дачасна, без пары пабіў валасы сярэбраны іней. Яшчэ тады, калі ў сельсавеце ўручылі ёй паведамленне аб смерці Андрэя, яна дала сама сабе клятву ніколі і нікому не дарыць сваёй любві. Напусціла на сябе строгасць, і толькі цёмныя ночы былі сведкамі таго, як цяжка перажывала яна адзіноту. Перанесла сваю любоў Аксіння на Еву, адзінае, што засталося ёй ад Андрэя.



Ева расла не па гадах бойкай, гарэзлівай дзяўчынкай. Як і яе бацька, яна любіла верхаводзіць аднагодкамі, спявала, удзельнічала ў самых рызыкоўных налётах вясковых гарэзнікаў на сады і агароды. Хадзіла яна ўся абдзёртая, з сінякамі і крывепадцёкамі, у падраным плацці і разбітых чаравіках.

Калі Еве споўнілася восем год, Аксіння аддала яе ў Закружскую школу і тады адчула, што не перажыве самотнай пустаты. Назаўтра пайшла ў канцылярыю калгаса, папрасіла даць пастаянную работу. Аксінню паслалі на ферму даяркай.

Працавала яна моўчкі, рупліва. Гады праз два пра яе загаварылі на раённых нарадах і сходах, змясцілі партрэт у абласной газеце, вазілі выступаць у горад. Хутка яе выбралі спачатку ў раённы, а потым і ў абласны Савет дэпутатаў працоўных. Аксіння зрабілася вядомай.

Не меншай вядомасцю (мясцовага парадку) славілася і яе дачка. Чатыры класы Ева закончыла, хоць і з горам напалам: пабойвалася сярдзітай старой настаўніцы. А далей справа не пайшла: гарэзлівасць перарасла ўсялякія рамкі, так што Ева больш часу праводзіла ў настаўніцкай і ў калідоры, чым за партай. Разбітыя вокны, сарваныя ўрокі, паламаныя крэслы, падвешаныя да столі папяровыя чорцікі не былі найгоршымі з яе свавольстваў.

Настаўнікі не ведалі, што рабіць. Каб каго другога, дык даўно выключылі б са школы. Але гэта была дачка Аксінні Пляскач, якую ўсе паважалі. Гарачы на паспешлівыя рашэнні класны кіраўнік нават прабавала атрымаць канкрэтнае ўказанне наконт Евы ў кіруючых установах, але там параілі ўзмацніць выхаваўчую работу, а Аксінню Пляскач дробязямі не турбаваць. Пасля такой парады настаўнікі змагаліся з Евіным свавольствам хто як мог, а большасць рабіла выгляд, быццам не заўважае яе пракудаў... Так з іх паблажлівай дапамогай і закончыла Ева сямігодку.

Увечары таго дня, калі атрымала Ева пасведчанне аб заканчэнні сямігодкі і мо' ўпершыню за многа гадоў з нецярпеннем чакала яна матчынага прыходу з фермы.

— Вось, закончыла, — падала яна маці складзены надвое лісток.

— Малайчына, дачушка, цяпер якіх тры гадкі засталося...

— У восьмы — не пайду.

— Дык жа я і не прымушаю. Надоечы Сяльчонак пра цябе пытаўся.

— Ну дык што?..

— Папрашу яго добранька, можа ў тэхнікум які прыладзіць.

Ева фыркнула, надзьмула пульхныя вусны.

— Мне і дома добра.

Аксіння пляснула рукамі. З тае самае пары, як пайшла Ева ў школу, думала яна над тым, як бы вывучыць сваю дачку. Яшчэ на пачатку вясны схадзіла Аксіння да сакратара райкома партыі, заручылася яго цвёрдым словам памагчы ўладзіць Еву ў бібліятэчны тэхнікум. Не выпадкова

быў зроблены такі выбар; з даваенных часоў яшчэ вынесла жанчына мілы сэрцу вобраз танклявай бібліятэкаркі, што працавала ў абласной бібліятэцы. Запомнілася тая дзяўчына Аксінні на ўсё жыццё сваёй увішнай распарадлівасцю і незвычайнай ахайнасцю. Як самы дбайны гаспадар, хадзіла яна сярод ярусаў з кніг і доўга расказвала Аксінні пра кожную з іх, да якой датыкалася яе зграбная, белая рука. Яшчэ тады Аксіння ў думках паставіла на месца бібліятэкаркі сваю Еву і адчула, што гэта будзе самае найлепшае для яе месца. Столькі гадоў таіла жанчына запаветную мару — і на табе: дачка не хоча зразумець маці... Аксіння працягнула да Евы рукі: былі яны парэпаныя, мазолістыя ад цяжкай работы.

— Бачыш?

— Не сляпая.

— А чаму ночы не дасыпала, ведаеш?

— Можа з-за мяне?

— А то ж не? Не хачу, каб ты вось так у брудзе корпалася. Паганю вучыцца.

— Сама вучыся. А я з вёскі ні нагой. Чуеш?..

Паплакала Аксіння, пасварылася на сваю дачушку, а потым змірылася, што зробіш, калі гэтак не шанцуе.

У Евы ж былі свае меркаванні. Калі ёй было няпоўных шаснаццаць гадоў, па-дзіцячаму недарэчна і смешна закахалася яна ў Макара Башукевіча. Як некалі і маці, кахала Ева Макара, затаіўшы глыбока ў сэрцы любоў. Падабалася ёй Макарава разважлівасць і не па гадах спакойная сур'ёзнасць. Было гэта тое, чаго ёй не хапала самой. Макар жа доўга не здагадваўся, што гэтак моцна прываражыў дзяўчыну. Глядзеў на яе невідушчымі вачыма. Аднойчы, падвыпіўшы, Макар на ўсю вечарынку асароміў яе. Крыкнуў так, каб пачулі нават тыя, што стаялі на вуліцы:

— Ну, вы, тыя, што да ўрокаў не падрыхтаваліся, — кыш дадому!

З тае пары і засела ў Евінай галаве думка — кінуць вучобу, стаць нароўні з Макарам. На сенакосе, на малацьбе ці на другой якой рабоце Ева старалася з усіх сіл. Яе хваліў брыгадзір, старшыня, старыя жанкі ставілі Еву ў прыклад, мужчыны спагадліва ўсміхаліся яе жартам, адзін Макар па-ранейшаму не звяртаў на дзяўчыну ўвагі. Толькі ідучы ў армію, ні то жартам, ні то сур'ёзна сказаў:

— А ты, курносая, падрастай, а то яшчэ так і застанешся недаросткам. Тады ніхто і замуж не возьме.

Праз паўтара гады Макар прыехаў на пабыўку дамоў. К гэтаму часу не без Аксініных старанняў Ева была прызначана загадчыкам хаты-чытальні, хоць гэта было і не зусім тое, пра што марыла жанчына.

Макар, сустрэўшы Еву, здзівіўся. Пакідаў яе рыжай вяснушчатай дзяўчынай, а знайшоў мілую таўстушку, пышнавалосую, з дзвюма прыгожымі ямачкамі на шчоках.

— Змянілася ты, Ева, проста сказаць, здорава!.. Не пазнаць, — гаварыў Макар, праводзячы дзяўчыну з вечарынкі.

— Вы таксама... пахарашэлі.

— І ты...

Яны абое збянтэжыліся. Ева—наўмысна сарамліва, Макар—усур'ёз. Ішлі моўчкі.

— Каханка вашая здрадзіла вам, замуж выйшла, — сказала Ева, намякаючы Макару на нядаўняе вяселле Ксенькі Цітавай, да якой перад адпраўкай у армію заляцаўся Башукевіч.



Да Ксенькі ў Макара не было асабліва вялікага пачуцця, замуства яе прыняў ён даволі спакойна, пачырванеў толькі, калі чытаў пра гэтую падзею ў лісце ад маці.

— Дзеўкі знойдуцца. Іх цяпер вунь колькі...

— А ўсё ж, мусіць, шкада, — не здавалася Ева.

— Зусім не. Дзеўка кручаная, хоць і прыгожая.

— Зубы толькі рэдкаватыя. І вусны тонкія. Страх, як непрыгожа.

Макар паглядзеў на Еву: у дзяўчыны сакавітыя, пунсовыя вусны, маленькі рот, белыя, густыя, роўныя зубы. На світанні Ева выглядала значна прыгажэй за Ксеньку Цітаву. «Вось табе і Еўка!» — падумаў Макар, а ўголас сказаў:

— Усе вы такія, няверныя.

— Не ўсе, — разважліва адказала Ева. — Па-мойму, калі ўжо кахаеш чалавека, дык навечна. Інакш скажы яму без падману.

Прыехаўшы ў часць, засумаваў Макар па роднай вёсцы. Снілася яму ў кароткія салдацкія ночы вуліца, клуб, вечарынка і часцей за ўсё Ева і Ксенька. Хацелася як можна больш ведаць пра жыццё ў вёсцы, а пісьмы маці былі даволі бедныя такімі звесткамі. Аднойчы, калі было крыху больш, як звычайна, вольнага часу, напісаў Макар Еве пісьмо. Напісаў і адразу неяк палягчэла на душы. А дзён праз колькі старшына ўручыў Макару ружовы канверт, на якім замест маркі быў намаляваны сіні галубок з чырвонай стужкай на шыі. Крыху ніжэй акруглымі ў развалку літарамі было напісана:

«гор Тыбылысы.
васковая часць
Башукевічу Макару Цімафеічу.»

Нічога не схаваеш ад салдацкіх вачэй. Прачытаў нехта адрас, і пайшла гуляць па казарме «васковая часць». Каб папярэдзіць салдацкія кпіны, Макар напісаў Еве ў лісце просьбу пісаць яму на «Галоўны паштамт, да запатрабавання».

Як ні цяжка было атрымаць адпускную запіску, Макар здолеў вырвацца на гадзінку ў горад. Падмаляваная, каротка падстрыжаная дзяўчына доўга корпалася сярод рознакаляровых канвертаў і нарэшце выцягнула трохкутнічак у клетку, падала яго Макару з усмешкай, якую ледзьве стрымлівала ў куточках вачэй. Макару добра знаёмы былі такія ўсмешкі. Ён адчуў, як раптам стала вельмі горача. «Што яна ўмудрылася напісаць цяпер», — мільганула думка. Макар схапіў канверт, выбег з пошты.

Ева зноў нарабіла самых бязглуздых памылак, перарабляючы словы ў блізкія і знаёмыя ёй. І неяк адразу страціў сваю прывабнасць выпеставаны ў думках вобраз таўстушкі. Пад настрой напісаў ёй халаднаватае пісьмо. Потым доўга раскайваўся, што пакрыўдзіў дзяўчыну. Нават сумаваў. Тады перачытаў яе апошняе пісьмо, напісанае яшчэ больш непісьменна, як адрас на канверце, і знайшоў Макар у ім нешта дарагое і блізкае сэрцу, ад чаго развеяўся сум шэрай салдацкай будзёншчыны. Зноў напісаў Еве цёплае пісьмо, у якім даў волю пяшчотным словам. Перш чым заклеіць, перачытваў ліст, старанна расстаўляючы коскі, выпраўляючы памылкі, якія дапусціў у спешцы. Пісьмо рабіла на яго самога найвялікшае ўражанне. Тысячавёрстная адлегласць сцірала ўсё,

што не падабалася яму ў Еве, пакідаючы толькі тое, што саграваЛа сэрца.

А перад самай дэмабілізацыяй атрымаў Макар пісьмо ад маці. Тая пісала, што Ева гуляе з Максімам Шнякам і таго глядзі прынясе Аксінні піскляне ў прыполе. Так што, калі наважыўся Макар з ёю жаніцца, дык няхай наперад добра падумае.

І таму, што гэта была маці, Макар паверыў кожнаму яе слову. Маладая кроў стукнула ў галаву, заліла твар чырванню, напоўніла сэрца пякучай крыўдай. Чаму так не шанцуе? Адна не дачакалася, выйшла замуж, другая... Забыўся Макар, што зусім нядаўна напісаў Еве вялікі ліст, поўны намёкаў. Не задумваўся ён і над тым, што Ева таму-сяму расказала пра іх адносіны і ў Закружжы ўжо лічылі яго жаніхом, зайздросцячы Еве.

Чакаў Макар загаду аб дэмабілізацыі з нецярпеннем, але яго ўсё не было. Хацелася яму хутчэй трапіць дамоў і ўсяго адзін раз сустрэцца з Еўкай, каб выліць на яе галаву чорны гнеў, накоплены за многа дзён і начэй вымушанай разлукі.

Ева нічога пра гэта не ведала. Расказваючы заатэхніку пра Максіма Шняка, яна прызналася не ва ўсім. Было ў іх адносінах нешта такое, што прымушала Еву маўчаць, з-за чаго яна не раз злавала на сябе і ў той жа час не магла ўтрымаць сябе.

На пачатку сёлетняй вясны падвозіў Максім Еву з раённага цэнтра. Сустрэліся яны выпадкова: Ева прыходзіла ў райком камсамола, Максім з падводай знаходзіўся ў гарадку другі дзень. Вышаўшы з райкома, Ева ўбачыла Максіма, папрасіла:

— Пачакай мяне, разам дамоў пойдзем. Удвух весялей будзе.

Прыгожыя, на выкаце Максімавы вочы наглавата глядзелі на яе, вусны ледзь-ледзь уздрыгвалі. Ева толькі цяпер убачыла, што Максім крыху выпіў, і ўжо раскайвалася ў сваёй паспешлівасці.

— Я нават і падвезці магу.

— Я і не ведала, што ты на кані, — у Евы адразу палепшыўся настрой: не вельмі зайздросна адмерваць пятнаццаць кіламетраў, ды яшчэ на прыцемках.

— Падвезці можна, але не за так...

Максім падміргнуў.

— Ды ну цябе, ужо выпіў.

— І цябе магу пачаставаць, — ён выцягнуў з кішэні ладны пачак грошай. — Пайшлі ў чайную.

І абняў Еву доўгімі рукамі.

— Адчапіся! — яна моцна штурханула хлопца. Максім ледзь утрымаўся. Раззлавана буркнуў:

— Ну, і шлёпай пехатой.

— Ды ты не шалей. Прасіць яшчэ трэба...

— А з табою і пажартаваць ужо нельга. Я пра якую плату казаў — для абодвух прыемную: пацалуначак жа толькі, так сказаць. А ты спалохалася. Дзівак твой Макар — не навучыў цалавацца.

— За Макара не бойся. Табе да яго далёка.

Спрачаючыся, яны дайшлі да Максімавай цёткі, дзе стаяла падвода. Селі поплеч. Адчыняючы вароты, цётка выгукнула, успляснуўшы рукамі:

— Дальбог, хоць пад вянец...



Ева скасіла вочы. На Максімаў лоб звісалі пасачкі белых кучаравых валасоў. Вочы ўсміхаліся, вусны, здавалася, былі наліты вішнёвым сокам. А ўся яго ладная, зграбная постаць так і дыхала здаровай, нерастрачанай сілай і свежасцю. Ева неяк незаўважна для сябе залюбавалася ім.

Ехалі паціху, прыміроныя вясновымі пахамі лесу і бескпапотнымі песнямі салаўёў. Максім раз-по-раз кратаў лейцы, і тады маленькі канёк весела фыркаў, дробна перабіраючы нагамі, бег. Падскокваючы на выбоінах, грукацелі колы. Тады адразу знікалі песні салаўёў. Цемрадзь усё шчыльней ахутвала наваколле, малады месяц амаль не даваў святла. Калі даводзілася ехаць па вузкай лясной дарозе, дык нават дрэнна відаць была галава каня. Было крыху страшнавата, і Ева неяк незаўважна пасоўвалася бліжэй да Максіма. Потым канёк пераставаў бегчы, і зноў наваколле запаўнялася шумам лесу, лёгкім парыпваннем калёс і разамлелым свістам салаўёў.

Максім спачатку дасціпна, хоць і грубавата, жартаваў. Ева таксама за словам у кішэню не лезла. Потым ён змоўк, пакурваў беламорыну і больш не паганяў каня, які ледзьве плёўся і толькі з горкі неахвотна бег. Ева думала, што на Максіма падзейнічала ціхая ноч, разлітая ў паветры стома і душная цішыня. Яна і сама неяк паддалася насланню. Здавалася, у свеце толькі іх двое, а навокал на тысячы вёрст — пустыня. Калёсы моцна нахіліліся, Максім падтрымаў за талію Еву, ды так і не прыняў рукі. Ева адчувала моцную і нейкую пяшчотна-бездапаможную руку. Максім проста пабойваўся праявіць характар: не раз пападала яму ад вясковых дзяўчат, якіх прырода са шчодрасцю надзвычайнай надзяліла мужчынскай сілай. Ён кінуў недакурак — залаты агенёк папяросы апісаў дугу, упаўшы на зямлю, разляцеўся вогненнымі пырскамі.



Каб ён неяк інакш загаварыў або раптам моцна прытры-

маў яе рукой, што ляжала на таліі, можа, не было б таго нечаканага, па-зладзейску кароткага пацалунку.

— Эх, Ева, Ева, сэрца ты майго не бачыш... Сядзіш у сваім клубе. Вось жа тужу па табе. Ну, ды няхай — мая бяда. Не прашу многага — адно слова скажы. Ну, хоць насварыся... Або на вось пугаўё, бі мяне, колькі хочаш, а толькі, — і тут ён неспадзёўкі прытуліў Еву, пацалаваў і спрытна адхіліўся, чакаючы аплявухі. Ева сядзела нерухомая. Тады Максім падумаў: «Лапух я, ланцуг з дзёгцем!..» Але як толькі паспрабаваў зноў пацалаваць Еву, атрымаў адпор. Здзіўлены, адступіў, падумаўшы: «Дзевак сам чорт не разбярэ».

Хіба падслепаваты маладзік угледзеў іх пацалунак — больш ніхто не бачыў таго граха, але папаўзлі па вёсцы чуткі, адна за другую больш пачварныя.

Максім усміхаўся, а маці яго, даярка Ганна, не раз злосна шыпела ўслед сыну — у вочы сказаць баялася:

— У-у-у, нехрысць паганая, у бацьку-валацугу пайшоў, да Плескачышынай дабраўся.

Адна Еўка ды маці яе нічога не ведалі. Ева нічога дрэннага не бачыла ў Максімавым заляцанні. Паводзіў ён сябе прыстойна, праўда, рукам любіў даваць волю.

Ды і не вельмі аб чым знойдзеш гаварыць, калі сустракаешся кожны дзень. А так, ударыш па хлапечых руках, жартам раззлуешся — на ўвесь вечар размовы хопіць!

Бывалі яны разам не вельмі часта: можа пасля таго вечара разы са тры. Атрымаўшы ліст ад Макара, Ева клялася болей з Максімам не сустракацца. Вытрымлівала тыдні два, потым выпадкова трапляла яму на вочы. Нешта цягнула яе да Максіма, далёкі вобраз Макара засланяўся больш блізкім і куды прыгажэйшым Максімавым вобразам. Падабалася ёй і тое, што Максім, ад якога плакала ўжо не адна дзеўка, трымаўся з ёю прыстойна.

— Скруціла ты мяне, Еўка, зусім,— скардзіўся ён.— Паглядзіш на цябе — ціхмяная, а вось, хоць плач, баюся цябе.

— Такая страшная?..

— Не страшная, а недаступная, як бог.

Ева задаволена ўсміхалася: прыемна было верхаводзіць над такім зайздросным хлопцам. Але ў клуб з Максімам яна ўсё ж не пайшла.

Вера, убачыўшы яе дома, запыталася:

— Ты чаму не пайшла?

— Так, не захацелася.

За акном галасіў гармонік. Потым нехта пастукаў у шыбу.

— Выйдзі на хвілінку,— папрасіў ціхі голас.

Еўка схавалася за перагародкай, шапнула Веры:

— Скажы, што мяне няма.

— Сама гавары.

— Тады будзем маўчаць.

Максім доўга стукаў, потым пайшоў.

— А можа трэба было сёння схадзіць?— занепакоілася Ева, але тут жа перамяніла думку:— Не. Ну яго. Макар лепшы.

Не запальваючы лямпы, яны сядзелі на ложку: адна з аднаго, другая з другога краю, абедзве абапіраліся на гнутыя нікеляваныя дужкі.

— Сумна ў вас,— сказала Вера, ёй здавалася пошлым і гэтае недарэчнае заляцанне, і Ева, і наогул усё.



— Вядома, не ў горадзе. Там танцы, кажуць, кожны дзень. Перад камсамольскім сходам і мы зробім.

Памаўчалі.

— Не буду я даклад рабіць,— азвалася Вера.

— Чаму?

— Так. Пачакаем Ліпанаву. Ды і наогул...

— Ну, не! Гэта табе камсамольскае даручэнне.

Вера ўсміхнулася:

— Добра.

Ева абняла Веру. Тая адхіліла яе рукі.

— Запалі лямпу.

Скупое святло лямпы разагнала па закутках цемру. Загулі сонныя мухі, патрывожаныя нязвычнай віднатой.

## VIII

У той дзень камісія, якую прызначылі на апошнім пасяджэнні бюро для праверкі спраў у калгасе, не прыехала. Даміра дарэмна чакаў яе да самага вечара. Назаўтра раніцой яе таксама не было. «Мусіць і не прыедуць,— думаў Даміра.—Канькоў жа мяне ведае. Разумны чалавек — не паверыў ім».

У добрым настроі Даміра прышоў у кантору. На стале ляжала справаздача, складзеная заатэхнікам. Даміра прабег вачыма па слупках лічбаў, ухмыльнуўся: надта ўвішная гэты заатэхнік. Асцярожна даставіў нулі — кармоў адразу павялічылася. У гэтым Даміра не бачыў нічога дрэннага. «Хоць не будуць цягаць па розных пасяджэннях ды пытацца: чаму лугі неўраджайныя? Чаму сіласу мала? Чаму саломы не хапае? Тысячу пытанняў. А пасля вывады: не справіўся, недаацаніў, вымова. І так гэтых вымоў, як розных медаляў у чэмпіёна. Суровых, з папярэджаннем, найстражэйшых з апошнім, з занясеннем і без занясення ў асабістую справу, проста вымоў, растлумачэнняў і зусім ужо незразумелых — паставіць на від.

Прывык Даміра да вымоў, як лянівы конь да аваднёў, нават не адмахваўся. Знаёмыя, пачуўшы пра чарговае спагнанне, спачувальна казалі:

— Не шанцуе табе, Даміра.

Ён згаджаўся:

— Пад нешчаслівай зоркай нарадзіўся.

— Крылы ты апусціў, вось што.

— Спрабаваў падняць, абрэзалі. Яшчэ дзякуй, Сяльчонак падтрымлівае, а то зусім нявыкрутка. Усё таму, што матку-праўду ў вочы рэжу.

Што Даміра не саромеўся крытыкаваць начальства, дык гэта ведалі ўсе. На нарадах, канферэнцыях ахвотнікі да незвычайнага з нецярплівасцю чакалі выступлення Даміры. Ён ішоў да трыбуны і, яшчэ нічога не сказаўшы, усміхаўся сваім словам. Граміў ён кожнага, хто трапляў на вочы. Шанаваў аднаго Сяльчонка, хоць часам пападала і яму. Астатніх не шкадаваў, нават свайго даўняга сябрука Канькова, рэдактара газеты. Той пасля кожнага такога выступлення звычайна браў Даміру пад руку, нязлосна папікаў:

— Зноў ты, Тарасе, не вытрымаў. Думаеш, крытыкаваў? Не, брат, клаунаду разыгрываў. Пасля твайго выступлення трэць пакінула залу. Цябе слухаць прыходзілі. Цыцэронам не станеш: мелкаваты. Ад галоўнага ўвагу адводзіш. Напаў на пракурора Пацехіна. Прызнайся, што выдумаў жа гэтую гісторыю з цялём, якое зжавала партфель, пакуль Пацехін з селішчанскай настаўніцай мілаваўся. Выдумаў?..

— А ты толькі праўду пішаш?— расцягваючы ўсмешкай квадратны твар, пытаўся Даміра.

— Біць цябе некаму,— злаваў Канькоў.

Шыла ў мяху не схаваеш, гэта Даміра добра ведаў, але маленькія грашкі спрабаваў утаіць: маўляў, хопіць і вялікіх. У зводках і справаздачах часценька падпраўляў ён лічбы, будучы цвёрда перакананы, што нікому нічога благога не робіць. Часам яго лавілі, але дароўвалі гэтыя памылкі: ведалі, што за многа гадоў старшынства не паквапіўся Даміра на дзяржаўную капейку. Жыў у змудраванай самім хацінцы, не вельмі дбаючы аб новай. Было ў яго сваё ўяўленне аб сумленнасці, і калі хтонебудзь сказаў бы, што ён чалавек несумленны, дык Даміра раззлаваўся б не на жарт.

Аглядаючы крытычным вокам новую справаздачу, Даміра з незахаванай радасцю думаў над тым, як на наступнай нарадзе ён разнясе старшыню райвыканкома, які даўно надакучаў Даміру з ачысткай лугоў. З-за яго дамаганняў яшчэ сёлета вясной запісалі закружскаму старшыні на від. Тады, выходзячы з выканкома, Даміра раззлавана сказаў Старыковічу:

— Куранят увосень лічаць. Паглядзім, у каго болей сена будзе, альбо ў мяне, альбо ў хвалёнага вамі ракіцянскага старшыні, — Даміра моцна спадзяваўся на свае паплавы.

— Палічым,— паабяцаў Старыковіч,— і тады ўжо не на від будзем табе ставіць, а падрыхтуйся да страгача. Зразумеў?

Паплавы сёлета падвялі, і Даміра не сумняваўся, што Старыковіч абяцаны страгач «выдасць на-гара»,— як любіў ён гаварыць. Калі ж у зводцы павысіць ураджайнасць траў, дык дулю ён тады дасць вымову... Заатэхнік новы — яму паверыць. Вось ужо будзе злаваць Старыковіч. І няхай.

Даміра радаваўся, як дзіця. Яму мала абыходзіла цяпер, што кармоў не хопіць. Будзе час — тады і падумае. Кожны дзень пра ўсё думаць — галава распухне.

У канцылярыі загаманіў нехта чужы. Даміра адклаў справаздачу.

— Тарас Тарасавіч, — прасунуў галаву ў баковачку Лёнька Зайчык.— Тут карэспандэнт да вас.

Даміра правёў рукой па шчацэ. Шурпатая далонь накалолася на бараду. «Не пагаліўся, чорт,— падумаў ён.— Можа фатаграфавацца давядзецца».

— Прасі,— шырока раскінуў ён рукой, пераймаючы гэты жэст у Старыковіча.

Карэспандэнт быў малады яшчэ хлопец, таўстагубы, чырванашчокі, з вялікімі акулярамі на носе. Выгляд у яго быў дабрадушны, у Даміры мільганула была думка: «А раптам крытыкаваць будзе!»—і развеялася. Такія не крытыкуюць!

— Вы — таварыш Даміра?— запытаўся карэспандэнт.— Вось маё пасведчанне.



Даміра ўзяў зусім яшчэ новенькае пасведчанне.

— Нядаўна працуеце?

Карэспандэнт пачырванеў.

— У абласной нядаўна. Да таго год у раённай працаваў.

— Біць нашага брата ездзіце?— Даміра знарок гудзеў басам — атрымлівалася салідна.— Ну-ну, жартую. Крытыка — рэч карысная. Шкада, што ў нас яе недалюбліваюць. Па якой жа справе да нас? Здаецца, поспехаў вялікіх няма: рэкардсменаў там ці герояў працы. Але і мы пахваліцца тым-сім можам.

— Я, уласна, па пісьму. Як заўважылі,— я працую ў аддзеле пісьмаў. Для праверкі скаргі прыехаў.

У Даміры — пахаладзела ў грудзях. Нехта надакучаў яму гэтымі скаргамі ў газеты. Не было таго месяца, каб у абласной або якой-небудзь рэспубліканскай газеце не паяўлялася заметка, а то нават артыкул, у якім нейкі Падзвінскі не крытыкаваў бы Даміру і калгас «Маяк». Даміра падазраваў, што за псеўданімам хаваецца закружскі паштавік Дземідзенка. «Вось цяпер я ўжо даведаюся, хто гэты Падзвінскі»,— падумаў ён. У такіх выпадках любіў Даміра праявіць сваю партызанскую хітрасць, якой ён хваліўся перад аднавяскоўцамі. Яго бас адразу памякчэў.

— Непрыемная рэч, скажу я вам,— пачаў ён здалёк.— Для нас што: калі ласка, праўрайце. Мы да крытыкі адкрыты. Але промахі і ў карэспандэнтаў бываюць. У вашай газеце не здаралася, а ў іншых часценька. Вы вось прыехалі, праверыце, знойдзеце што, крытыкуйце, пішыце фельетон ці п'есу, — і раптам крута віхлянуў: — Таварыш Падзвінскі пісаў?

Засцігнуты знянацку, карэспандэнт пацвердзіў:

— Так, ён.

— Прыгожае псеўдоніма сабе прыдумаў,— летуценна сказаў Даміра.— Прозвішча ў яго не вельмі: Дземідзенка.

Даміра чакаў: карэспандэнт зараз жа згодзіцца, што прозвішча «Дземідзенка» сапраўды не вельмі мілагучнае, але той вельмі спакойна запытаўся:

— А чаму вы думаеце, што гэта псеўданім?

Даміра разгубіўся і ўжо строга афіцыйна запатрабаваў:

— Дайце скаргу.

Карэспандэнт выняў аддрукаваную на машынцы скаргу. На ёй подпісу не было. Чытаў і ўвесь час грымеў:

— Гад. Такіх расстрэльваць мала. Ну і тып. Брахня, суцэльная брахня. Нават не хачу на такі паклёп адказваць,— Даміра вярнуў пісьмо, не дачытаўшы да канца, закурыў.— Праверайце самі, каб потым не было размоў. Днямі мяне бюро слухала. Там амаль такая ж заява была.

— Я быў у райкоме. Мне сказалі, што камісія ў вас працуе...

Халодныя дрыжыкі папаўзлі па Дамiравай спіне. Дзе ж камісія? Я яе тут чакаю, а яна недзе ходзіць...

— У мяне яшчэ не былі...

— Не ведаю, так таварыш Сяльчонак паведаміў. Я пра тыя факты не пытаюся: згаджуся з вывадамі камісіі. Тут вось напісана, што вы, разбазарыўшы птушкаферму, рашуча паўсталі супраць яе аднаўлення. Камсамольцы куранят вырасцілі, а вы не бярэце іх на ферму. І наогул жы-

вёлагадоўлю занядбалі, і яшчэ быццам бы парасё з фермы сабе забралі...

Твар Даміры наліўся крывёю.

— Я забраў? Я! Ды хто так бессаромна брэша? Партызан — не бандыт. Чулі? Я саломіны грамадскай не ўзяў.

Карэспандэнт напалохаўся.

— Разбярэмся, таварыш Даміра. Вось тут на другой старонцы напісана.

Даміра пачаў чытаць. Папера дрыжала ў яго руках, пад вокам раз-по-раз краталася жылка.

— Брахня. Гэтае парасё мне жончына сястра са свайго статку прынесла. За два месяцы на калгасных фермах ніводнае парасё не прапала. Можаце праверыць.

Даміра зрабіў выгляд, што далей размаўляць няма чаго.

У пакой імкліва забегла Ева. За ёй паважна зайшла Вера Алексіч.

— Тарас Тарасавіч, — Ева яшчэ добра не адсаплася, таму гаварыла хутка:— Мы да вас з просьбай. Камсамольская арганізацыя збіраецца пасылаць на ферму моладзь. У нядзелю сход. Дык трэба ўзгадніць кандыдатуры.

Даміра ўсё яшчэ не мог супакоіцца. «Лезуць», — злосна падумаў ён. Але тут жа, заўважыўшы, як паспешліва ўхапіўся карэспандэнт за блакнот, стрымаў сябе.

— Даўно час брацъ шэфства. Вось таварыш прыехаў крытыкаваць нас за жывёлагадоўлю. Ну, дык што ў цябе?

Вера, прысеўшы на крэсла ля стала, абыякава глядзела на справаздачу, якую сама ж складала. Гэта была першая яе работа ў калгасе, аднак яна не радавала яе. Складаць справаздачу для таго, каб ведаць, што не хопіць кармоў! Даміра даверыў ёй, што зрабіць усё роўна нічога нельга, і паабяцаў паставіць пытанне перад райкомам.

Верыны вочы тужліва бегалі па радках лічбаў і раптам спыніліся. Яна добра ведала кожную лічбу. Але што гэта? Нечыя рука акуратна папраўіла, па-новаму збалансіравала ўраджайнасць траў. Атрымлівалася, што цяпер сена хопіць, нават няма чаго турбавацца. Адразу ж успомнілася размова з вусатым паштавіком Дземідзенкам. Няўжо гэта зрабіў Даміра? Дземідзенка тады яе папярэджваў... Калі потым не хопіць кармоў, абвінавацяць яе. Даміра выкруціцца...

— Навошта вы папраўілі лічбы ў справаздачы? Гэта хлусня,— ашаламіла яна Даміру.

— Якія лічбы? Ты што...— Даміра падміргваў.

— Я вам дакладвала, — нічога не заўважала Вера, — што кармоў сёлета не хопіць. Ураджай траў нізкі. А вы хлусіце, падпраўляеце лічбы і думаеце, што некага абманваеце. Сябе толькі. Вы ж абяцалі паменшыць пагалоўе. Вочкаўціраценль вы, вось хто.

Хваравітая раздражнёнасць, якая не раз ужо спрабавала прарвацца, раптам хлынула ў Даміры цераз край.

— Маўчаць,— гаркнуў ён. Недзе далёка-далёка ўспыхнула разумная думка: пры гэтым тыпе з газеты не можна... але яна адразу ж пагасла. Без аніякай стрыманасці Даміра стукнуў кулаком па стале.— Без году тыдзень тут, а ўжо вучыш. На ферму марш — там чорт ведае што робіцца, дык яна вось што...



Ён яшчэ выкрыкваў нешта грубае і крыўднае. Анямелая, Вера не магла скрануцца з месца: так на яе крычалі ўпершыню. Яна хацела ўцячы адсюль, але ногі не слухаліся.

Нарэшце Даміра змоўк. Ашалела абвёў вачыма пакой, заўважыў карэспандэнта, вінаватым голасам папрасіў прабачэння.

— Да вар'яцкага дома давядуць...

Вера ўсхліпнула, потым закрыла вочы рукамі і выбегла. Даміра, Ева і карэспандэнт разгублена сядзелі моўчкі, ніхто не адважыўся дагнаць дзяўчыну, хоць кожны прагнуў гэтага. Дагнаў Веру Лёнька Зайчык. Нялоўка зазіраючы ў вочы, сказаў:

— А вы не плачце. Ён добры, толькі дурны ад хваробы. Сам перапрошваць прыдзе, паглядзіце.

— За што ён мяне?..— усхліпвала Вера.

— Ён і сам таго не ведае. Тармазная сістэма ў яго не ў парадку.

Лёнькаў жарт развесяліў Веру. Слёзы яшчэ ліліся, а губы ўжо ўсміхаліся.

— Які вы добры,— сказала яна.

— Ён жаласлівы. А вось на слова гарачы. Няшчасны чалавек. У яго і дома гора: жонка на рак хворая, ляжыць даўно. Дзеці малыя. Ён адзін...

«Чаму ён гэтак яго абараняе?» — падазрона падумала Вера, і яе спагаду як рукой зняло.

Даміра між тым спрабаваў разабрацца, што гаварыла Ева, ківаў галавой, нібы згаджаючыся з усім. Нават калі яна назвала дакладчыка — Веру Алексіч, згадзіўся. Было сорамна, брыдка і да слёз балюча, што ў такі адказны момант не здолеў стрымаць сябе. Шукаў шляхі да прымірэння. Хацелася знайсці Веру зараз жа, стаць на калені і прасіць, каб маўчала. Нарэшце, не вытрымаў, папрасіў:

— Ну, я заняты, так што, калі хочаце, кончым увечары гаварыць,— і, пакінуўшы іх, не вышаў, а выбег з пакоя.

На вуліцы ён і напаткаў камісію. Рэдактар Канькоў, сакратар па зоне МТС Маленчанка і парторг МТС Ляшчэня толькі што сышліся разам і цяпер абмяркоўвалі першыя вынікі праверкі. Пагаджаліся на тым, што настаў час сур'ёзна папраўіць Даміру, але многія абвінавачванні адпадалі.

— Вось ён і сам, герой драмы,— першым прывітаў Даміру Канькоў.— Ну што, герой, нарабіў клопату і сабе і людзям?.. Звязаўся з Башукевічыхай і з гэтым дзявочым ухажорам Шнякам. На чорта табе было рукі ў ход пускаць? Ёсць міліцыя, суд. Дык не.

«Значыць, нічога сур'ёзнага не знайшлі»,— Даміра абрадаваўся і адразу забыў на ўсе непрыемнасці сённяшняга дня.

— Дзе з табой пагаварыць можна?— запытаўся Ляшчэня.

— Пачакай, можа спачатку праедзем з ім па калгасу, няхай разам з намі недахопы свае паглядзіць,— спыніў яго Маленчанка.

Сакратара падтрымаў Канькоў. Ён узяў Даміру пад руку.

— Біць, брат, цябе трэба. Запусціў гаспадарку. Ці даўно перадавіком быў? Ну, не зусім перадавіком, але працаваў, стараўся. Чаму крылы апусціў? Дома як? Жонка хварэе?

Пякучая хваля разлілася па Даміравых грудзях, дакацілася да горла, сціснула яго, заняўшы дыханне. Даміра прывык цярпець самую страшэнную лаянку, а ад двух спагадлівых слоў яму рабілася млосна. Праглынуўшы слязлівую кіпень, сказаў:

— Закруціўся, як баран ад чамярыцы...

— Давай, чэсна паказвай усе хібы. Разам выпраўляць будзем. Не магу я на цябе вось такога глядзець. Некалі ты інакшы быў... За цябе, брат, я буду з усімі біцца.

У часе вайны Канькоў быў камісарам партызанскага атрада, дзе Тарас Даміра, тады яшчэ малады хлопец, камандаваў узводам разведкі. Аднаго разу Тарас добраахвотна выклікаўся суправаджаць камісара ў штаб брыгады. Ісці туды было не далёка, але небяспечна. Трэба было перасекчы чыгунку і шасэйную магістраль, абысці з дзесятак моцных фашысцкіх гарнізонаў. Паміж чыгункай і шашой атрад нарваўся на засаду. Немцы падпусцілі іх зусім блізка, потым адкрылі шалёны агонь. Як падкошаныя, падалі людзі і коні. Першая ж куля навылет прашыла Канькову грудзі. Даміра быў ранены ў руку. Як толькі сціх шквал агню, ён падбег да камісара, падхапіў яго адной рукой, кінуўся ў хмызнякі. На шчасце, была цёмная ноч — Даміру не заўважылі.

Камісар ляжаў непрытомны. Даміра не ведаў, як выбрацца з гэтай пасткі, але Канькова не кінуў. На трэція суткі паявіўся ён у атрадзе, брудны, апухлы і бледны, як смерць. У яго пыталіся, што здарылася з людзьмі; ён чуў, але маўчаў, толькі па шчоках каціліся буйныя слёзы, прабіваючы ў брудзе два белых раўчукі. Сем дзён не гаварыў Даміра, ад перажытага адняло язык. З тых далёкіх часоў суровая дружба зрадніла двух непадобных адзін на другога людзей.

Увечары, закончыўшы праверку, члены камісіі пачалі развітвацца з Дамірам. Ён тупаў на месцы, цёр рука аб руку, цягнуў. Весялун Ляшчэня пажартаваў:

— Што ты, як красная дзеўка — не чапай мяне — плячамі пацёпваеш?

— Можа, таварышы, паабедаць зойдзеце? Га? Я, дальбог, з чыстай душой...

— Куды там, жонка хворая... Хапае табе турботаў без нас.

— Лепш загадай шафёру адвезці,— сказаў Маленчанка.

Даміра, непрыкметна адлучыўшыся, папрасіў суседку зрабіць добры абед, выдаўшы ёй большую палову пазычаных Верай грошай. Абед мог прапасці, і Даміра, па меры таго як члены камісіі адмаўляліся, насядаў мацней. Ляшчэня здаўся першым. Канькоў вагаўся. Але Маленчанка настаяў на сваім, і камісія, паціснуўшы Даміру руку, паехала.

Дарэшты засмучаны, ішоў Даміра дамоў. Калі не шанцуе, дык ва ўсім. Трэба было растраціць дарма столькі грошай, а яны адмовіліся... Даміра ішоў і лаяў сябе. У завулку яму раптам сустрэўся карэспандэнт. Ён ішоў, заняты сваімі думкамі. Заўважыў Даміру толькі тады, калі той узяў яго за руку.

— Ну як, таварыш карэспандэнт, праверылі?

— Ага, закончыў.

— Камісія з раёна таксама закончыла праверку,— радасна паведаміў Даміра.— Нічога не знайшлі. А вы, мусіць, назбіралі фактаў?

Хлопец быў навічок у газетнай справе, не прывык яшчэ гаварыць непрыемнае прама ў вочы.

— Не, не зусім так.

— Не пацвердзіліся факты?

— Не пацвердзіліся,— схлусіў карэспандэнт і пачырванеў.

— Я ж і казаў,— выгукнуў Даміра.— А што ў канторы было, прабачце, не стрымаўся. Раненне ўсё. Нервы, каб іх...



— Ды я не звярнуў увагі, — падтакнуў хлопец, хоць за дзень ён багата назбіраў фактаў. Ён хацеў хутчэй пазбавіцца Даміры, але той, узрадаваны, што так шчасліва кончыўся дзень, пацягнуў яго дамоў. Карэспандэнт адмаўляўся, прасіўся — нічога не памагло. Сядаючы за стол, ён распачліва думаў, што яму рабіць? Вырашыў: «Я яго не прасіў. Напішу ўсё, як мне расказвалі».

## IX

Дземідзенка сядзеў за высокай рашоткай з гладкай стальнічкай наверсе. У загародцы — заляпаны чарнілам стол. На стале — банка з дэкстрынам, бутэлька штэмпельнай масціі, штампы і стус газет, толькі што прывезеных з раёна.

Вера зайшла ў кантору па дарозе з калгаснай канцылярыі. Яна хацела купіць канвертаў. Дземідзенка, відаць, не чакаў яе, бо вельмі разгубіўся: то хаваў у шуфлядку, то вымаў з яе зноўку нейкую паперу і, вельмі ўжо ненатуральна ўсміхаючыся, запрашаў сесці, хоць у пакойчыку не было ніводнага крэсла. Нарэшце, ён супакоіўся і глянуў на Веру сінімі вачыма.

— Што з вамі? Хто меў права вас пакрыўдзіць?— узрушана запытаўся ён.— Даміра?

— Так.

— Я ж вам казаў, — Дземідзенка ўзрадавана падскочыў, выбег з-за перагародкі.— Завошта?

Вера расказвала, зноў глытаючы слёзы.

— Нягоднік, вось нягоднік!— абурана шаптаў Дземідзенка.— Ён заўсёды так. На гэтым і выязджае. А вы як думалі? Ён такі: альбо з работы здыме, альбо нават у турму пасадзіць.

— Аблаяў, — скардзілася Вера, — а перад тым пяцьсот рублёў пазычыў.

— Навошта? — у Дземідзенкі выцягнулася шыя, а рыжыя вусы рашуча ўзняліся ўверх.

— Сёння ж камісія прыязджае расследаваць скаргі.

Дземідзенка прысвіснуў, засунуўшы рукі ў кішэні, зрабіў тры крокі да сцяны і назад.

— Сведкі былі?

— Не.

— Як жа вы так, без сведак? Распіску, вядома, не ўзялі?

— Не.

— Ах, ах!

— Вы думаеце, не аддасць?

— Вядома, не аддасць.

— Што ж мне тады рабіць, Анатоль Сцяпанавіч?

Дземідзенка закаціў вочы, нібы абдумваючы складаную сітуацыю.

— Можа ў райком схадзіць?

— Куды? Да Сяльчонка? Ну, сходзіце, паскардзіцеся, а які толк? Даміру паверацьь, а не вам...

— Але я дакажу...

— Добра, дакажаце, — згадзіўся Дземідзенка. — Дадуць Даміры яшчэ адну вымову. Яму да іх не прывыкаць. А ён вас потым у турму

ўпячэ. А вы як думалі? Не, калі біць, дык так, каб не ўстаў. Пад дыхавіцу... Стукнуў раз і канец... Пачакайце, Вера Антонаўна, выберам час і ўдарым. Вы мне толькі пра ўсё расказвайце.

— Прабачце, але ж гэта...

— Сумленнасці захацелі? Ды з такімі людзьмі хіба па сумленнаму можна? Цёмныя людзі, скажу я вам. Хоць бы ваша гаспадыня Плескачыха. Падумаеш, — дэпутатка. А таксама туды... Цяжка нам, інтэлігентным людзям, жыць, скажу я вам.

Ён гаварыў яшчэ нейкую лухту. Вера слухала няўважліва, прыхільнасць, якая паявілася да яго ў самым пачатку, уступала месца непрыязнасці. Хуценька развітаўшыся, яна выйшла. Насустрач, да пошты, ішоў карэспандэнт.

— З вамі можна пагаварыць?— параўняўшыся, запытаўся ён у Веры.

— Няма чаго са мной гаварыць, — злосна адказала яна, і карэспандэнт пайшоў у кантору.

Дзень быў сапсуты. Вера напісала пісьмо Раміру, поўнае безвыходнай тугі і ўпэўненасці ў хуткай сустрэчы. Хопіць, пакаштавала жыцця...

Але ўвечары Вера змяніла сваё рашэнне. Калі яна была ў хаце зусім адна, як з-пад зямлі, паявіўся Даміра. Ён быў падвыпіўшы, але не п'яны.

— Вы чаго прышлі?— Вера чула, як калоціцца ў грудзях сэрца, ці то ад страху, ці то ад абурэння.

— Прабачце,— Даміра камячыў у руцэ шапку. Вусны яго перасмыкаліся. Здавалася, што ён вось-вось заплача. Вера перапалохалася не на жарт.— Ад вас усё залежыць. Не мяне пашкадуйце, а жонку і дзяцей. Не скардзіцеся нікому. Здымуць жа з работы тады. І так нада мной сякера на нітачцы вісіць. Не пасады шкадую — сорамна. Лепш кулю ў лоб.

— Што вы, што вы!.. Нікому не скажу,— супакоіла яго Вера.

— Думаеце, хацеў абразіць вас? Распачалі вы размову недарэчы. Тут у мяне са старшынёй выканкома спрэчка даўняя была. Ён абяцаў вымову вынесці, калі на паплавах сена не ўродзіць. Вось і хацеў я яму гэтай справаздачай усе карты зблытаць. Калі б вы ў другі раз сказалі, я згадзіўся б. А то пры карэспандэнце. Таму і не вытрымаў. Усё раненне маё... Некалі ў мяне нервы стальныя былі. І наконт грошай не сумнявайцеся — аддам. Я — чэсны. Дык нікому не скажаце?

— Не, не скажу,— прамовіла Вера і тут жа ўспомніла, што ўжо сказала.

## X

На дзвярах клуба вісела аб'ява:

*СПЫНІСЯ І ПРАЧЫТАЙ!*
*У нядзелю*
*з раніцы*
*адбудзецца камсамольскі сход.*
*На парадку дня:*
*1. Перад пачаткам танцы пад баян, па агульнаму патрабаванню.*
*2. Пасылка моладзі на фермы (Дакладчык — заўтэхнік т. Алексіч).*
*3. Розныя.*
*Яўка камсамольцаў строга абавязковая.*
*Камітэт».*



Вера, праходзячы паўз клуб, не стрымала ўсмешкі. Прыпомнілася гісторыя з гэтай аб'явай. Учора Ева паказала ёй размаляваны аркуш паперы.

— Падабаецца? Праўда, здорава?— ззяючы ад задавальнення, запыталася яна.— Сама напісала.

— Добра,— збянтэжылася Вера, не ведаючы, як найбольш далікатна намякнуць Еве на памылкі, што былі ледзь не ў кожным слове.

— Усе кажуць, што добра,— абрадавалася Ева.— Проста скульптар.

— Каб вучылася, дык, напэўна, мастаком была б.

— І мастаком таксама. Панясу, наклею.

— Памылкі ёсць...

— Ну?— здзівілася Ева.— Усе чыталі і не заўважылі. Папраў, калі ласка.

Вера чырвоным алоўкам выправіла памылкі. Хацела нават перарабіць тэкст, але Ева не дазволіла.

— Ты толькі памылкі папраў... — ніякія довады на яе не дзейнічалі.

І вось цяпер, чытаючы аб'яву, Вера ўбачыла, што Ева, перапісваючы, усё ж зрабіла памылку.

Пасля ўсмешкі набеглі зусім невясёлыя думкі: ці не надта паспешліва збіраецца Ева праводзіць сход. Трэба было пачакаць Ліпанаву. Тым больш, што сакратар хацела пабыць на ім. Пра свае сумненні яна сказала Еве. Але тая і слухаць Веру не захацела.

— Ты, галоўнае, даклад добры падрыхтуй.

Вера села за даклад. За пяць гадоў вучобы яна ніколі не рабіла дакладаў, нават уважліва іх не слухала, хоць заўсёды хадзіла на сходы. Парваўшы, можа,дзесяты ліст паперы, Вера выйшла на вуліцу. Сонца толькі што схавалася за лесам. Небакрай на захадзе ярка чырванеў. На яго пурпурным фоне выразна малявалася вышчарбленая сцяна лесу. Стаяла нейкая млявая цішыня. Дзесьці грукацеў парожні воз. Непрыкметна для сябе Вера дайшла да канцылярыі. Праз адчыненае акно выплёсквaліся на прастор вуліцы разудалыя матывы «Лявоніхі». Вера ціхенька зайшла ў пакой, прыпынілася ля парога. На крэсле сядзеў Лёнька Зайчык, летуценна ўтаропіўшы вочы ў кут, дзе вісеў прыклееены плакат: пышнавалосая дзяўчына запрашала класці грошы ў ашчадную касу. Але Лёнька нічога не бачыў, нічога не чуў. На хвіліну яго пальцы перасталі бегаць па ладах балалайкі, ён задумаўся. Затым сярэдні палец правай рукі неяк непрыкметна крануў струну і яна дзынкнула раз, другі, трэці. Вера ледзь стрымала сябе, здавалася, уляцеў у акно, зазвінеў над вухам надакучлівы камар. І вось ужо не камар, а весялун-мужык у стаптаных лапцях закружыўся ў шалёнай віхуры адмысловых скокаў.

Вера глядзела на Лёньку. Яго напружаны твар разгладжваўся, вочы пабліскваді хітрай усмешкай, губы краталіся, нібы падганялі нябачнага танцора, худыя плечы перасмыкаліся, а ногі, не вытрымліваючы, мякка прытупвалі аб падлогу. Лёнька іграў лёгка і прыгожа, захапляўся гукамі, любаваўся імі, а яны, нібы пацяшаючы яго, кружыліся, пырхалі, зноў садзіліся на абшарпаную балалайку, потым чародкай узляталі пад самую столь. Лёнькава рука мільгала над струнамі, вырываючы з іх вадаспад чароўных гукаў. Раптам балалайка выслізнула з рук, паляцела пад столь, крутанулася там некалькі разоў, потым дзынкнула раз, другі, трэці, усё слабей і слабей,— замёрла.

Лёнька ўбачыў Веру, падхапіўся і адразу ж пачырванеў. Абое збянтэжыліся.

— Вы Даміру шукаеце?— першы запытаўся Лёнька.— Ён дома.

— Не, проста так.

— А-а-а...

Лёнька адчыніў шафу, паклаў балалайку на верхнюю паліцу.

— Вы добра іграеце...

— Балалайка — які інструмент?!.

— Вам трэба на скрыпцы навучыцца іграць.

— Я ўмею.

— Чаму ж не іграеце?

— Раней часта іграў. Адразу пасля вайны.

— Вам трэба было б вучыцца. У вас талент,— Вера чакала, што Лёнька ад такой пахвалы збянтэжыцца, пачырванее, але ён нібы не пачуў яе слоў.

— Сабе не схлусіш,— нечакана для Веры сказаў Лёнька.

«Пра што ён?— падумала Вера.— Гаворыць загадкамі, як Бэдзя».

Уголас сказала:

— Даклад не атрымліваецца. Слоў не знаходжу.

— Словы не грэюць.

«У пачатку было слова, а не справа,— успомніла Вера Раміра.— Быццам згаварыліся».

— Але без іх не можна... Трэба, каб моладзь пайшла на фермы.

— Пойдзе без слоў, угаворваць потым давядзецца.

— Думаеце, даклада не трэба?

— Разумнае — цікава паслухаць.

— Чаму ж вы, разумнікі, жывёлагадоўлю запусцілі? Пахаваліся ў канцылярыі... Самі ж кажаце, словы не грэюць, але, відаць, вельмі добра ад людзей хаваюць.

— З трынаццаці гадоў я кароў пасвіў.

— Я таксама пасвіла.

Яны выйшлі на вуліцу. Шэрыя змрокі выпаўзалі з ніжэйшых мясцін; неба яшчэ свяцілася далёкімі водсветамі, але ўжо страціла сваю празрыстасць. З кашары вярталіся даяркі. Наперадзе шырока крочыла Матрона Башукевіч. Падышла, паздароўкалася звонкім дзявочым голасам. У змроках яна здавалася маладой. Плацце зграбна аблягала яе ладную постаць. Белыя ногі моцна стаялі на зямлі.

— Макар пісьмо прыслаў. Табе, Лёня, прывітанне перадае,— у Матроны быў грудны, мяккі голас. Вера ўспомніла, што тады, на кашары, гэты голас быў іншы, рыпучы, уедлівы.

— Няхай прыязджае хутчэй.

Лёнька пайшоў, і яны засталіся ўдзвюх.

— Можа час ёсць, зайдзіце да нас,— папрасіла Матрона.— Муж будзе рады. Ён любіць пра кнігі гаварыць, а тут няма з кім. Я — жанчына пісьменнасці малой.

Вера хацела адмовіцца. Але Матрона ўзяла яе пад руку, павяла. Яна мякка ступала па пыльнай вуліцы, крыху паўнаваты стан яе спакваля пакачваўся.

— Не работа, а гора адно. Зімой корму не хапае. Паплавы запушчаны. Улетку таксама для жывёлы наедак слабы. Ходзіш толькі на кашару ды назад. А толк які? Цяжка вам будзе ў нас.

— Цяжка,— згаджалася Вера.



...Дземідзенка сядзеў у палісадніку на лавачцы, курыў: блішчэў у прыцемках агеньчык.

— Ты, Моця?

— Я.

— З кім?

— Заатэхнік наш.

— А-а-а, Вера Антонаўна. Я вось любуюся вечарам. «На белом небе всё тусклей златится чёрная лампада».

— Адкуль гэта?

— Не помню. Даўно было... Быў і я малады...

— Ты і цяпер не стары,— сказала Матрона і пайшла.

— Вось так. Яна не разумее, што старэеш душой.— Дземідзенка ўздыхнуў.— Помніце, я тады падстрэліў перапёлку. Ёй куды лягчэй. А вось я жыву. Адзін.

— У вас ёсць жонка.

Ён безнадзейна махнуў рукой.

— Для чалавека гэтага мала. Яго сэрца заўсёды нешта шукае.

Словы паштавіка вельмі напаміналі ёй размовы Раміра. Той таксама гаварыў пра адзіноцтва, пра нявернасць людзей, скардзіўся на нешта такое, чаго Вера не магла зразумець.

— Ведаеце, Даміра прыходзіў прасіць прабачэння, — сказала яна, каб хоць гэтым абвергнуць Дземідзенкавы словы.

— Каяцца ён умее. На каленях стаяць таксама.

— Але ж у вайну...

Дземідзенка перабіў:

— Апісваў вам свае подзвігі. У людзей болей заслуг, а маўчаць.

У хаце запалілі лямпу. Жоўты пук святла слізгануў па кветках, вырваў з чарнаты зялёнае лісце і яркую чырвань незнаёмых Веры кветак.

— Ідзіце ў хату,— паклікала Матрона.

— Тут лепш,— сказала Вера.

— Але, пад небам лепш. Вы, мусіць, не так сабе зайшлі?

— Угадалі. Не ведаю, пра што ў дакладзе гаварыць. Заўтра камсамольскі сход. На ферму камсамольцаў пасылаюць.

— Дарэмная справа ўсё. Што зробіць моладзь?

— Чаму?

— Паспрабуйце. Вам жа цяжэй будзе. А наконт даклада, крытыкуйце начальства. Гэта ў нас любяць. Ну, вось Даміра — п'е, ды і, прабачце, да баб ходзіць... Пра жывёлу не дбае. Літр малака пяць рублёў каштуе... Гэта ж адны страты.

— Таму і вырашана паслаць на фермы маладых дзяўчат.

— Калі Даміра застанецца старшынёй, дык нічога дзяўчаты не зробяць. Старшынёй павінен быць культурны чалавек.

Вера чакала, што Дземідзенка скажа далей «такі, як я», але ён прамаўчаў. Потым доўга расказваў пра розныя непаладкі ў калгасе і раптам звярнуў на іншае — пачаў хваліць амерыканскіх фермераў. Неяк выходзіла ў яго, што вось там, за морам, умеюць гаспадарыць, а ў нас толькі гавораць прамовы.

Вера не вытрымала, заспрачалася.

— Не так ужо там добра, як вы кажаце. Пачакайце, мы яшчэ абгонім тых фермераў.

Дземідзенка насцярожыўся, але здавацца не хацеў.

Вы не падумайце чаго дрэннага. Нядаўна кніга вышла пра жывёлагадоўлю ў Амерыцы. Вось адтуль я і ўзяў факты. Канешне, мы іх абгонім— бадзёра выгукнуў ён, але ў яго словах Вера не адчула шчырасці.

Дамоў Вера прышла позна. Доўга не магла заснуць, думала пра размову з Дземідзенкам. Неяк непрыкметна пачала пагаджацца з рыжавусым паштавіком — не хацела, але згаджалася. Умеў Дземідзенка пасеяць у чалавеку сумненні, асабліва, калі чалавек той не моцна адчуваў сябе ў жыцці.

На сход у клуб Вера прышла, калі там у самым разгары былі танцы. Баяніст, доўгі дзяцюк, прыклаўшы вуха да мяхоў, ляніва расцягваў баян. Вымучаныя гукі вальса зміралі пад гулкі шоргат двух дзесяткаў ног. У парозе народу было найбольш. Хлопцы спаважна размаўлялі ды пазіралі ў бок дзяўчат, якія стаялі крыху воддаль і шапталіся. Ля самай грубкі прытуліліся дзве закаханыя пары, уваход у клуб загарадзілі хлапчукі-школьнікі. Вера спынілася ля дзвярэй: не хацелася прабірацца да сцэны праз таўкатню. Хлопцы штурханулі адзін аднаго, павярнуліся да яе. Яна пачырванела, раззлавалася на сябе: чырванее, як дзяўчынка. Каб асвоіцца, пачала ўважліва сачыць за тымі, хто танцаваў. Але да яе далятала нягучная гаворка хлопцаў:

— Прыгажуня.

— Прыгожая Маша, ды не наша...

— Хочаш, запрашу на танец.

— Слабо.

— Гэта мне? Хочаш, нават буду дамоў праводзіць?

У адказ спакойны, разважлівы голас:

— У цябе, Максім, язык, як балалайка. Розніца толькі ў тым, што яго зламаць нельга.

Хлопцы зарагаталі. Вера азірнулася. Гаварыў невысокі чорны хлопец з кручкаватым носам. Іх вочы на імгненне сустрэліся. Вера пачала прабівацца да сцэны. Тут яе заўважыла Ева. Яна падбегла, абняла Веру за плечы.

— На цэлы тыдзень натанцавалася. Танцаваць пойдзем?

— Трэба сход пачынаць.

— Няхай яшчэ патанцуюць. Заморацца — лепш будуць слухаць. Які танец заказаць?

— Які хочаш.

— Танга, добра?

Вера згадзілася. Ева шапнула нешта хлопцу, які выпадкова праходзіў ля іх, і той, расштурхваючы танцораў, пасунуўся ў кут да баяніста.

Яны пачалі танцаваць першыя. Але ім не далі прайсці і паўкруга. Нібы з-пад зямлі, выраслі два хлопцы і сярод іх той, што збіраўся праводзіць Веру дамоў.

— Прабачце, у нас так нельга,— усміхаючыся, сказаў ён.

Ева адразу ж пакінула Веру, і той нічога не заставалася, як ісці танцаваць з гэтым прыгожым, але нахабным хлопцам. Быў ён мажны, бялявы, зачэсаныя на бок валасы спадалі на лоб буйнымі завіткамі. Ён абняў Веру за талію, спрытна пачаў вырабляць нагамі мудрагелістыя выкрунтасы, так што Вера, хоць і была не благой танцоркай, ледзьве патрапляла яму.

— Цяпер вы будзеце маёй партнёршай,— сказаў ён крыху пазней.— Нашы дзеўкі непаваротлівыя. Аж рукі занываюць, пакуль танец станцуеш.



Вера прамаўчала, хоць ёй вельмі хацелася сказаць яму што-небудзь крыўднае, каб збіць агідную фанабэрыстасць. Максім жа зразумеў Верына маўчанне па-свойму. Прыгнуўшыся да яе вуха, запытаўся:

— Можа дазволіце заняць куточак у вашым сэрцы?

Гэта было занадта. Спачатку Вера хацела кінуць танцаваць, але адчула, як моцна трымае яе Максім. Давядзецца вырывацца, і тады ўсе звернуць увагу. Сказала, нядобра прыжмурыўшы вочы:

— Сама знайду, кім запоўніць куточкі сэрца. Дарэмна разлічваеце.

— Чаму?

— Не люблю нахабнікаў.

Ухажор збянтэжыўся. Некалькі хвілін ён маўчаў, злосна сапучы. Вера ледзь стрымлівала ўсмешку.

— Вось што, дарагая... Гэта вам не горад. У нас фанабэрыю хутка саб'юць.

Вера з усіх сіл ірванулася ад яго. Але цяпер гэтага ніхто не заўважыў, бо якраз баяніст перастаў іграць.

Настрой быў сапсуты. Маўклівая, засяроджаная, сядзела яна ў прэзідыуме, пакуль Ева Пляскач аб'яўляла парадак дня. Падумала: «Можа варта было ўдарыць па твары, каб усе ведалі?» Потым, калі пачала рабіць даклад, забылася на ўсё.

Вера гаварыла і сама здзіўлялася, як гладка і добра атрымліваецца ў яе прамова. Спачатку яна спынілася на задачах, якія стаяць перад жывёлагадоўлямі, і толькі тады, як скончыла гаварыць, мільганула абыякавая думка: гэта з лекцыі Пальчыкава. Затым яна расказала пра тое, што паведаміў ёй Дземідзенка аб рабоце амерыканскіх фермераў. У канцы Вера ўшчэнт раскрытыкавала парадкі на закружскай ферме.

У клубе было даволі ціха. Але Веры здавалася, што слухаюць яе не вельмі ўважліва. Ля акна хлопец спрабаваў абняць дзяўчыну, а яна ўвесь час бязлітасна біла яго па руцэ. Дзве дзяўчыны лузгалі семачкі, выплёўваючы шалупінне ў жмені.

Калі Вера скончыла даклад і села, Ева ўсміхнулася ёй:

— Добры даклад, толькі пра фермераў дарэмна гаварыла.

У зале адразу ж зрабілася шумна. Старшыня сходу Лёнька Зайчык, доўга стукаў алоўкам па стале.

— Прыступім да спрэчак,— аб'явіў ён, калі шум надціх.

З залы, як гарох, пасыпаліся прапановы, жарты, кепікі:

— Чаго спрачацца — згодны...

— Правільна гаварыла.

— Працаваць трэба.

— Глядзі, напрацаваўся!..

— І баран бы касіў, каб хто касу насіў...

Зайчык зноў пачаў стукаць па графіне з вадой.

— Таварышы, запісвайцеся выступаць у спрэчках,— прасіў ён.

У клубе стала ціха, так што чуваць было, як дыхаюць у першых радах. Але ніхто не хацеў выступаць. Тады Лёнька выглядзеў некага ў зале.

— Зіна, выступі, скажы,— звярнуўся ён да вастраносай дзяўчыны ў акулярах. Тая пачырванела, але Лёнька не звяртаў на гэта ніякай увагі.— Што ты думаеш рабіць? Устань і скажы.

— Замуж высці,— падказаў піскілвы ад дзвярэй голас.

— Ну, вы там, шчанюкі, марш дадому,— абурана крыкнуў Даміра і зрабіў выгляд, што хоча адпеdo пераваць рамень. Хлапчукі з піскам і смехам выбеглі на вуліцу.

— Дай мне слова,— папрасіў Даміра старшыню сходу.

Нядобра скасіўшы жаўтаватыя вочы, Даміра доўга глядзеў на Веру, потым, з цяжкасцю адвёўшы іх, пазіраў у залу. Адразу настала цішыня.

— Тут заатэхнік вельмі распісала нашыя недахопы. — На дзіва, старшыня пачаў гаварыць мяккім голасам з ноткамі ледзь улоўнай іроніі. У зале зашавяліліся, лёгкі шум ажыў, як патухшы было аганёк. — Шчыра дзякуем, таварыш Алексіч, мы дагэтуль нават і не здагадваліся пра такія нашы поспехі. Верна, яйка каштуе сем рублёў, а малако — пяць. Ну, можа, не пяць, а тры з палцінай... Усё роўна дорага. А вось як вярнуліся мы з фронта, а бабы нашыя з праклятай Германіі, дык гэтае яйка і за тысячу рублёў не купіў бы. Ці ведама вам такое?

Голас у Даміры надтрэснуў, наліўся металічным звонам.

— Многа доўгіх гадоў ужо мінула з вайны.

— Гэта яны ад суму доўгія, а для нас як адзін дзень праляцелі. Думаеш, рукі склаўшы, сядзелі? А хаты новыя — усявышні ставіў? А што ты вучылася і на тваю вучобу грошы ішлі, калі яны больш патрэбны былі на хлеб, — таксама факт. Ты не крывіся. Бачыш, дзеўкі ў шаўках сядзяць. А пасля вайны прыкрыцца не было чым. Вядома, таму недахопы ёсць. Усё адразу не зробіш.

— Вы лепей пра кароў скажыце.

— І пра кароў скажу. Табе справы на фермах у Амерыцы падабаюцца. А няхай бы тая амерыканская карова пасля вайны да нас трапіла — тады я на яе паглядзеў бы. Мы толькі залетась хлеў пабудавалі. Чаму корму мала? На марозе карова ўдвая павінна сена з'есці. Гэта ты, таварыш заатэхнік, мусіць, не ўлічваеш. А паплавы нашы не той вайной спустошаны? На іх пасля вайны ступіць не можна было — усюды былі міны панатыркаваны. Лёгка таму фермеру працаваць, калі ён вайны ў вочы не бачыў. Так што ты нам пра Амерыку байкі не расказвай...

Даміра гаварыў яшчэ доўга, здаецца, яго прамове не будзе канца. Яна абрастае думкамі, якія не маюць ніякага дачынення да пасылкі камсамольцаў на фермы. Канчае ён нечакана. Выцірае хусцінкай лоб, садзіцца на крэсла і пераможна глядзіць у залу. Лёнька Зайчык зноў просіць выступіць дзяўчынку ў акулярах. У зале ўспыхвае смех:

— Яна для цябе пасля сходу выступіць.

— Чаго ён прычапіўся да дзеўчыны? — абураюцца дзяўчаты.

На дапамогу Лёньку прыходзіць Ева:

— Правільна Лёнька гаворыць. Зіне трэба выступіць. Закончыла дзесяць класаў, газеты чытае...

— Я не ведаю, пра што гаварыць, — збянтэжана шэпча Зіна. Яе вочы з-пад шкельцаў акуляраў вінавата глядзяць на прэзідыум. Вера адчувае, як зацеплілася ў яе грудзях замілаванасць да гэтай нясмелай дзяўчыны.

— Пойдзеш на ферму? — басам пытаецца старшыня.

— Пайду.

— Ды ты гучней. Пойдзеш? Вось самая найлепшая прамова: кароткая і зразумелая. А што Максім Шняк скажа? — пытаецца старшыня.

«Шняк — гэта той, што танцаваў са мной», — думае Вера.

— Я — несаюзны, — усміхаецца Максім і трасе падвітымі бялявымі валасамі.



— Мусіць, вы не вельмі хочаце працаваць, — гаворыць Вера. Ёй карціць адпомсціць за знявагу ў часе танцаў. Максім нахабна выскаляе зубы, рашуча праводзіць далонню па валасах.

— Хіба возьмеце да сябе ў памочнікі.

У зале ўспыхвае і патухае смех. З апошняга раду падымаецца Матрона Башукевіч. Яна з хвіліну чакае, пакуль усталюецца цішыня.

— Я так скажу. На ферме працаваць — не на вячорцы танцаваць... Так нельга: выклікаў па спісу і ідзі. А ў чалавека можа жадання няма каровам прыслужваць, або, напрыклад, камплекцыя не дазваляе. Прысталі да Асташкавай Зінкі. Дзеўка ціхая, адмовіцца не адважылася. А падумайце самі: якая з яе даярка. Сцебане карова хвастом па носе, разаб'е акуляры — і смех і грэх. Пасылаць трэба здаровых. Вунь хоць бы Шумейку. Дзеўка, як збіцень, а яна пошту носіць. Тут і стары справіўся б.

Ад акна падхапілася стройная чырванашчокая дзяўчына.

— Не да спадобы Пецю твайму прышлася?

Нехта выгукнуў:

— Сып ёй, Ніна!..

Матрона села. Вера адчувала, што сход ганебна зрываецца.

Лёнька супакоіў залу.

— Дайце мне сказаць, — папрасіў ён. — Зіна вось пайшла на ферму, добраахвотна пайшла. Не таму, што ёй хочацца вельмі, а сорамна нам, камсамольцам, перад усім раёнам. Хіба мы горшыя? Вунь у «Зары» ўсе даяркі камсамолкі, а ў нас жанчыны кароў дояць. Гэта ўжо непавага да старэйшых. Адразу і Масква не будавалася; калі будзем сядзець склаўшы рукі, — дык багацце само не прыдзе. Вось Ліда Раковіч, камсамолка нашая — на ўсялякай рабоце яе хваляць. Думаеце, яна фермы спалохаецца? Не спалохаешся, Ліда?

— Чаго баяцца?

— Правільна!

— Мы нічога не баімося.

— Ева няхай ідзе.

— Хопіць, што Аксіння за двух робіць.

— А ў клубе хто будзе працаваць?

— Хай Лёнька заменіць.

— Кіньце, куды хлопцу ісці?

— І пайду, — Лёнька моцна ляпнуў далоняй па стале. — А чаму не пайсці, пайду.

— Не дурэй, — перапыніў яго Даміра.

— Я сур'ёзна.

З лёгкай рукі Лёнькі працаваць на фермах выказалі жаданне яшчэ некалькі камсамольцаў. Лёнька ўжо збіраўся закрываць сход, але ў зале разгарэлася спрэчка. Успыхнула яна, як сухая трава на балоце, запалала, шуганула полымем. Вера доўга не магла зразумець, у чым справа. Праз бязладдзе галасоў вырываліся асобныя словы, далятаталі да прэзідыума, страціўшы наданы ім сэнс. Лёнька доўга стукаў па стале і па графіне алоўкам: людзі не суніталіся. Тады ўсіх перакрычаў Даміраў бас.

— Вы, каторыя там дужа гарачыя, цішэй!.. — закрычаў ён. — Па парадку гаварыце.

Усе сціхлі.

— У чым справа? — запыталася Ева.

— А ў тым, — падхапілася Ніна Шумейка, — што мы хочам сваю ферму маладзёжную зрабіць. Адказваць за ўсё, дык самім. Правільна я кажу, дзеўкі?

— Правільна... — гукнуў хор галасоў.

— Давайце нам кавыленскую ферму, — пачуўся адзінокі голас пасля таго, як шум заціх.

Цяпер наперабой загаварылі жанчыны:

— Ведама, хітруны...

— У Закружжы больш, як семсот, ад каровы не надоіш.

— Маладыя, ды спахоплівыя.

— Закружскую ферму вазьміце.

— А-цю, возьмуць...

Нечакана для Веры паднялася Зіна Асташка. Ёй доўга не давалі гаварыць.

— Цёткі кажуць, што закружская ферма дрэнная, а каровы тут не малочныя. Дык тады мы пойдзем на закружскую ферму, а яны няхай ідуць на кавыленскую.

Дзяўчаты заапладыравалі. Жанчыны падняліся, рушылі да выхаду. Зноў зайграў баян.

## XI

Сонечны дзень.

Нясцерпнай гарачынёй патыхае ад паплавоў, жытнёвых палеткаў і асабліва ад лесу. На ўскрайках, дзе растуць каржакаватыя хваінкі, дашчэнту павыгарала трава, па бураму травяністаму пнёўю лянiва скачуць гэтакія ж бурыя, як і трава, конікі. Але яны маўчаць, не стракочуць. Горача. Сонна гудуць авадні, чакаюць, пакуль Дзямід Пракуда разам з Бэдзям прыгоняць на поўдзень кароў. Пахне гноем, поўсцю і растопленай сонцам смалой.

Ева загадала дзяўчатам-даяркам збірацца на ўскрайку вёскі, дзе між трох бяроз узвышаецца курганок з драўлянай пірамідкай. Па адной збіраліся дзяўчаты. Акрамя Евы, ніхто не любіў лішняга шуму. Затое яна, прывычная да вечнага гармідару ў клубе, не ўяўляла, як гэта можна такую вялікую справу праводзіць ціха.

Яшчэ да снядання пабывала Ева ў Даміры, упрасіла таго сустрэць дзяўчат на кашары цёплай прамовай. Старшыня доўга адмахваўся, але не вытрымаў націску, здаўся.

Прышоўшы да дзяўчат, Ева абрадавалася: усе прышлі і былі вясёлыя, нават узрушаныя.

— Вы ўжо не падвядзіце, — на ўсякі выпадак папрасіла Ева. — Ты, Зіна, абавязкова выступіш? Як толькі Даміра закончыць прамову, адразу пачынай.

— Хай бы Ніна...

— Чаму я? Табе ж даручаюць. Ды ты і скажаш лепш.

— Хай бы Лёнька...

— І Лёнька выступіць, — супакоіла Зіну Ева. — А цяпер, дзяўчаты, запяем песню і пойдзем. Няхай усе чуюць — камсамольцы ідуць.



— А якую?

— Лёнька хай пачынае...

— Лёнька, «Нёман»!

— Цяжкая, лепш партызанскую.

— Камсамольскую трэба.

Лёнька ішоў моўчкі. На душы было цяжка. Даміра ўчора сказаў яму: «З канторы не адпушчу. Схадзіць жа на ферму можаш». Потым сустрэлі хлопцы, высмеялі да слёз. Сёння з раніцы піліла маці, крычала на ўвесь дзядзінец:

— Дачытаўся, нячысцік, што зусім здурнеў!.. Дзе гэта бачана, каб малады хлопец кароў даіў?!. Куры вунь і тыя смяюцца з цябе. Там жа дзень і ноч працаваць трэба, а дроў мне хто насячэ? За Зінкай пнешся. Яна месяц які папрацуе, ды ў горад. У яе, не табе раўня, дзядзька прахвесар найпершы, да сябе возьме на вучобу. Надоечы сама Марына хвалілася, што пашле да Лявона. Дык жа не, папёрся, каб цябе нячыстая сіла!..

На матчыны словы Лёнька нічога не адказаў, ведаў, што атрымалася не зусім ладна. Адзіны ён у хаце мужчына, на ім гаспадарка. Горш дасталося ад хлопцаў, асабліва ад Максіма Шняка.

— Чаго ты спахмурнеў? — запыталася ў Лёнькі Ліда Раковіч.

— Так.

— Мабыць, раскайваецца.

— А і што, дзяўчаткі, хіба гэта мужчынская работа?

— Лёнька — патрыёт, — выгукнула Ева.

— Хавацца ў кусты не маю намеру. А наконт таго, што гэта работа не мужчынская, дык наперад скажу — сумняваюся. Хутчэй за ўсё гэта вы не сваю, а нашу работу робіце.

— Як гэта?

— А вось так. То гістарычная несправядлівасць, што жанчыны жывёлагадоўляй загадваюць. — Зіна апусціла галаву, падумала: «Не трэба яму — засмяюць». — Жывёлаводам заўсёды быў мужчына. Ды інакш яно і не магло быць, бо работа гэтая цяжкая, пад сілу толькі мужчыну. Потым, калі пачалося запрыгоненне жанчыны, дэспат-мужчына пераклаў на кволыя жаночыя плечы ўсе клопаты па гаспадарцы, у тым ліку і па жывёлагадоўлі, а сам заняўся самай лёгкай працай. Глядзіце, нават само слова догляд — мужчынскага роду.

— Ну цябе, Лёнька!

— Як ні даказвай, а ўсё роўна не мужчынская гэта работа, — загаварыла Ніна.

— Ну, вось што, — успыхнула раптам Ева. — Ты пакінь... Калі будзеш такія прамовы гаварыць, дык на бюро райкома трапіш...

— А-а-а, палохаеш! А я не баюся. Вельмі разумная стала. А чаму ты, разумніца такая, замест Лёнькі на ферму не пайшла? — У Ніны Шумейкі чырвоныя плямы паявіліся на твары.

— Бо на маёй галаве клуб.

— Дык няхай бы Лёнька клубам загадваў. Ён хоць іграць на струментах можа.

Ева прамаўчала.

Ля кашары стаяў Дзяжэвіч, цёпаючы дубцом па суконных штанах, аж курэў з іх пыл. З-за яго, збіўшыся ў кучу, маўкліва пазіралі на дзяўчат даяркі.

— Прывяла? — запытаўся Дзяжэвіч.
— Прывяла. А Даміра дзе?
— Ды яго тут ад самай вясны не было.
Дзяўчаты стаялі асобнай купкай у яркіх квяцістых плаццях. Насупраць іх выстраіліся старыя даяркі.
— Падмацаванне, значыць... — перапыніў нялоўкую маўклівасць Дзяжэвіч.
— Пайшлі, дзяўчаты, дамоў, — Ева крутнулася на пятках і ледзьве не ўпала.
— Раз прышлі, дык чаго вяртацца... Будзем прымаць кашару, — азваўся Лёнька.
— Ага, прымаць! А калі мы здаваць не хочам? — У Матроны Башукевіч раптам твар зрабіўся шэрым, як лістападаўскі дзень. — Я сваіх каровак здам, а ўзамен дадуць перадоек з кавыленскай фермы. Не выйдзе.
— То вы, цётка, самі на гэта пайшлі, — заступілася за Лёньку Зіна Асташка.
— Ці мала што казала, а цяпер вось перадумала і адсюль нікуды не пайду.
Зусім нечакана для дзяўчат падала голас і Евіна маці Аксіння:
— Я таксама тут застаюся. Як сабе хочаце...
— У нас, мама, тут камсамольская ферма будзе, — абурылася Ева. — Ці табе не ўсё роўна?
— А мусіць і не.
— Пойдзем, бабы, няхай дояць. Паглядзіце, як паклоняцца нам у ногі, каб зноў іх замянілі.
Вера моўчкі слухала пярэбары. Адчувала, што яна павінна сказаць тут сваё рашаючае слова. Але якое?.. Яна, мусіць, так і прамаўчала б, каб не Дзяжэвіч. Ён здзекліва ўсміхнуўся, пазіраючы на Веру з-пад выцвілых брывей, нібы гаварыў: «Ну, што, пакаштавала смажанага перцу?». Рашуча адхіляючы Еву, Вера раптам ступіла на тую, нічыйную зямлю, што двухметровым кавалкам раздзяляла старых даярак і добраахвотнікаў.
— Я мяркую так: спачатку старэйшыя таварышы і брыгадзір пакажуць нам гаспадарку, а потым ужо будзем гаварыць канкрэтна.
— Нічога мы глядзець не станем. Усё трэба рабіць урачыста. Прыедзе Ліпанава, няхай прымае меры сама.
Ева пайшла, але, заўважыўшы, што ніхто нават не зварухнуўся, спынілася.
— Правільна, Вера Антонаўна.
— Пойдзем на экскурсію.
— А і што, карысна!..
— Я дома карову даю.
— То дома...
Дзяжэвіч усяляк хацеў паказаць сябе дбайным гаспадаром. Ідучы, ён адкідваў нагой сухія шавякі гною, бурклівым, незадаволеным голасам, нібы для сябе, даваў заданні, што і дзе паправіць.
Гадоў з пяць назад, калі калгас «Маяк» яшчэ быў моцнай гаспадаркай, тагачасны загадчык райза Вайцаховіч надумаў пабудаваць паказальную кашару. Пасля вайны калгасы Падзвіншчыны папраўляліся спакваля. Адзін «Маяк» неяк вырваўся з шарэнгі, адбудаваўся, набыў жывёлу, выдаваў на працадні не толькі хлеб і бульбу, а яшчэ і грошы. Тут і рашыў Вайцаховіч пабудаваць кашару. За ракой на ўзлеску разам з раённым заатэхнікам выбраў ён палянку, недзе ў Маскве купіў праект цэлага жывёлагадоўчага гарадка і толькі пасля гэтага з'явіўся ў Даміры.





Старшыня ўсхадзіўся, як завіруха. На ўсе важкія довады Вайцаховіча выстаўляў свае, таксама важкія. Тады Даміру выклікалі ў выканком, знялі добрую «стружку», «папярэдзілі» і абавязалі закончыць кашару да наступнага сезону. Кашару закончылі, але даяркі не хацелі тры разы на дзень хадзіць туды за два з гакам кіламетры. Так і прапала б кашара, каб не сёлетні выпадак з калгасным хлевам. Вясной падняўся над Закружжам чорны слуп смерчу, прайшоў па гародах, вырываючы з зямлі дрэвы, камяні, пясок, усё, што мог захапіць з сабой. Зачапіў смерч край хлява, разбурыў расшматаў ды і сціх, відаць, вельмі задаволены сваёй работай. Таму і прышлося перагнаць кароў у забытую Дамірам кашару.
З дзяўчат тут ніхто ніколі не быў. Пад дахам, што трымаўся на слупах, роўнымі радамі стаялі прывязаныя за ланцужкі і вяроўкі каровы, паціху пераціралі жвачку. Гулі авадні, пахла лесам, сырадоем, нейкімі зёлкамі. Дзяўчаты маўкліва ішлі паўз доўгую загародку. Даяркі пагладжвалі кароў па выліналых спінах, тыя паварочвалі галовы, пасапвалі.
— Вось тут мой дзесятак, — бабка Гануля паказала кашчавай рукой на пярэстых кароткарогіх кароў. — Бярыце, дачухны, хто смялейшы.
Дзяўчаты хаваліся адна за другую, ці то баяліся, ці, можа, саромеліся высоўвацца наперад. Першай азвалася Зіна Асташка. Паблісківаючы акулярамі, яна падышла да бабкі. Былі яны з Гануляй аднаго росту.
— Я вазьму, калі ніхто не хоча.
— Бяры, бяры, Зінаідка. Дальбог, добрая жывёлінка, адно не хапае ёй догляду. Я ўжо і сіл тых не маю. А на пачатку калектывізацыі ездзіла ў губерню, тры дні на даярку вучылася.

Дзяўчаты пырснулі смехам. Бабка злосна зірнула на іх, пакрыўджаная, буркнула Зіне:

— Вось гэтая Півоніяй завецца, толькі характар у яе сіберны, надта брыкаецца, так што глядзі, — бабка ткнула карову высахлым кулачком. — Пасунься хаця, прайсці няможна...

— Ну вось, пачын зроблены, — сказала Вера. — Хто наступны здае сваіх кароў?

Яшчэ адна даярка, доўгая і надта худая кабеціна, адвязала хвартух, скамечыла яго ў руках і коратка сказала:

— Я!

Неўзабаве каровы былі перададзены новым даяркам.

За кашарай тулілася да хмызнякоў невялікая лужайка. На ёй сабраліся ўсе даяркі: маладыя і старыя. Вера стала пад адзінае дрэва, думала над тым, што павінна яна сказаць людзям. Даяркі сядзелі паўкругам, перашэптваліся. Лёнька з Дзяжэвічам курылі, сіняваты дымок ад папярос падымаўся ўгару, раставаў. Веры хацелася сказаць нешта вельмі прыгожае, узнёслае і шчырае. Той настрой недаверу, што быў, прайшоў, хацелася працаваць, дамагацца нейкіх асаблівых поспехаў.

— Пачынайце ўжо: хутка трэба кароў даіць.

— Пачакаюць.

— Ого, ці не рана такія размовы весці?

— Цішэй вы, дайце чалавека паслухаць.

Вера, ступіўшы крок наперад, выдыхнула:

— Таварышы!..

Далей неяк словы заселі ў горле. Нехта засмяяўся, Лёнька кінуў папяросу.

— Вы пра спаборніцтва, Вера Антонаўна...

— Так, я пра спаборніцтва скажу. Некалі мая маці прадала карову. Я тады малой была — гадоў шэсць, не болей, дык надта плакала па Зорачцы нашай. Вельмі рахманая карова была. Як цяпер помню, бывала, сяду верхам і езджу на ёй, і ніколі не скінула яна мяне. І вось прачнулася неяк раніцай, у хаце пуста, а на двары чужыя галасы. Выбегла я, а там два дзядзькі стаяць: адзін — руды, нізкі, у скураных штанах, другі — чорны, гарбаносы, з вялізнымі на выкаце вачыма. І гэты чорны забрытаў Зорачку і вяроўку да калёс прывязвае. «Развітвайся, — кажа, — са сваёй Зорачкай. Павядзем яе на катлеты перарабляць». Я ў слёзы, а маці мне і кажа: «Плакаць няма чаго. Якая ж гэта жывёліна, калі з яе па летняму часу пяць літраў малака надоіш». А вось мы, таварышы, трымаем такую карову. Але ж адразу ўсіх кароў на пародзістых не заменіш. Давядзецца дабівацца больш высокіх надояў ад тых кароў, якія ёсць. Калі будзем добра працаваць, дык свайго даможамся. Я мяркую так: кожная з даярак возьме на сябе абавязацельствы і будзе за іх змагацца. Вось такое маё слова.

— Хто першы будзе браць абавязацельствы? — запыталася Ева. Усе маўчалі. — Ну, ты, Ліда...

— Не ведаю нават.

— Семсот бяры смела, — шапнула Аксіння Пляскач.

— Семсот, — выгукнула Ліда Раковіч.

— Мала, — адказала Ева. Ёй хацелася, каб лічбы былі самыя вялікія.

— Станавіся сама ды і бярыся хоць па тры тысячы надаіць, — у Ніны Шумейкі чырвань заліла ўвесь твар.



— А вы не перашкаджайце, — уступілася за Еву заатэхнік і тут жа раскаялася, бо Ніна адразу ж напала на яе.

— А-а-а, і ты яшчэ вучыш. Гэта табе не па бруку ў туфельках бегаць ды языком мянціць. Тут працаваць трэба.

— І чаго ты, Ніна, усхадзілася, дык, мабыць, і сама не ведаеш!.. Не хочаш, не працуй. Ніхто цябе сілком на ферму не цягне. Я да канца года па тысячы літраў ад каровы надаю. І вось цётку Аксінню выклікаю на спаборніцтва.

Навокал загаманілі:

— Не надоіш, Зіначка. У цябе толькі тры каровы нішто, астатнія не надта. Хопіць з цябе і па семсот літраў на галаву.

— Ну, а я тысячу вазьму. Не бойцеся, цётачка, выдужаю.

— Як хочаш.

Зноў умяшалася Ева:

— Ну, дык як, Ніна? Бачыш, Асташка па тысячы літраў бярэцца надаіць. А ты?

— У Зіны хоць тры добрыя каровы ёсць, а ў мяне ніводнай. Не буду я браць абавязацельствы.

Зіна Асташка доўга глядзела праз акуляры на Ніну. Потым крадком зірнула на Лёньку, нібы шукаючы ў яго вачах адказу на свае думкі.

— Добра, Ніна, бяры маіх трох каровак. А мне любых узамен давай.

— Не трэба мне тваіх.

— Ага, спалохалася!..

— Дзіва што!..

— На словах, як на гуслях, спрытныя дзеўкі...

— Не горш за вас працаваць будзем, — агрызнулася Ніна Шумейка. — Я і ад сваіх кароў надаю па тысячы літраў.

Ева дастала тоўсты ў чырвонай вокладцы сшытак, запісала туды абавязацельствы кожнай даяркі.

Нечакана паявіўся Даміра, спацелы, запылены. Саскочыў з каня, накінуў повад на калок, цяжка ступаючы абутымі ў кірзавыя боты нагамі, падышоў, усміхаючыся. Вера раптам заўважыла, што ўсміхаецца ён неяк па-асабліваму цёпла і зразумела, што ўсмешка належыць не ўсім. Тады яна пачала шукаць сярод даярак тую, якой належала ўсмешка. Але знайсці не магла. Толькі адна Ніна Шумейка чамусьці глядзела паверх лесу, дзе ў празрыстай сіняве вымалёўвалася белае воблака.

— А вы і без мяне тут справіліся, — выгукнуў Даміра. — Вось так хутка можна і ў адстаўку пайсці.

*Працяг будзе.*

Язэп Пушча нарадзіўся ў 1902 годзе ў вёсцы Каралішчавічы Мінскага раёна.
У 1929 годзе ён скончыў Ленінградскі ўніверсітэт, выкладаў мову і літаратуру ў школах Беларусі і РСФСР.
У гады Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі.
За гады літаратурнай дзейнасці выйшлі яго зборнікі вершаў «Раніца рыкае», «Vita», «Дні вясны», «Песні на руінах», «Крывавы плакат».



**Язэп ПУШЧА**

## ЯК ДОБРА



Вясна, і песня лета,
І сонца на паўдні...
Як добра быць паэтам
У такія нашы дні!

Устаць вясёлым ранкам
І ў светлы цэх ісці,
Не ў залачоных рамках
Пець песні, а ў жыцці.

Іскрыстыя расінкі
Умываюць песень твар;
Гарачых слоў іскрынкі
Гараць, як той пажар.

Яны мяне сагрэлі,
Не буду іх тушыць.
Хай льюцца песень трэлі
Ад сэрца, ад душы.

## НА ВОЗЕРЫ



На возера вечар зялёны
Пад сонцам ідзе залатым;
Таполі, і ліпы, і клёны
У парку шумяць маладым.

На возеры лодкі-маторкі,
І вёсел вясёлы усплёс;



Усміхнуліся першыя зоркі,
І вечар расінкі растрос.

А месяц рассыпаўся срэбрам
І свеціць з блакітнай гары;
На выспах — бярозкі і вербы,
І песні вячэрняй зары.

Тут вербы схіляюцца нізка,
Калі ім пакланіцца госць.
Спявае на возеры Мінскім
Мая і твая маладосць.

## САЛАВЕЙ



Не спяваў ён ясным зорам
За далёкім сінім морам.

Не спяваў на скалах голых,
Сумаваў па родных долах.

Салавей, пясняр крылаты,
Прыляцеў вясной дахаты.

Пад лістком расінку соку
Выпіў чыстага, як вока.

Пакланіўся зорцы ў пояс
І папрабаваў свой голас.

Над крыніцаю, у вербах,
Ліўся пошчак чыстым срэбрам.

## ПЕСНЯ ЛЕТА



Усе аблогі ўзораны;
Чырванее ўзорамі
Сонца перад зорамі;
Вербы над азёрамі
Ой шумяць зялёныя
З маладымі клёнамі.

Росы ўлетку чыстыя,
Птушкі галасістыя,
Нівы каласістыя;
Васількі блакітныя
І кусты ракітныя
Ветліва ўсміхаюцца,
Вечарам і раніцай
Росамі ўмываюцца.

Песня салаўіная,
Даль блакітна-сіняя,
З лёгкаю хмурынкаю,
З сонечнай іскрынкаю.



Барыс САЧАНКА

# СТАЖОК СЕНА

### Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Ціхі жнівеньскі надвячорак. Закацілася ўжо за лес сонца, даўно прапылілі, прамычэлі па вёсцы статкі. Усюды пакладліся глыбокія цені. Вынырнуў з дыму сухмаркаў, што заваламклі ўвесь усход, бледны сярпок месяца, вынырнуў і паплыў па самым небакраі нізка над лесам, чапляючыся дзе-ні-дзе за цёмна-сінія засмужаныя вершаліны.

Банадысь Плаха збіраецца ехаць па сена.

Буланай масці конь, запрэжаны ў старыя, разбітыя калёсы, стаіць у двары, за сенцамі. Ён нецярплівы і злосна фыркае, трасе і матае доўгай галавою, намагаючыся парваць лейцы, якімі прывязаны да плоту. Бакі круглага жывата як бы ўмяў хто: конь галодны. Яго толькі што прывяла з калгаснага табуна жонка Банадыся — Сахвея.

Банадысь, пануры, задумлівы, тупае ля калёс, усё папраўляючы то атосы, то драбінкі. Час-ад-часу, калі буланы занадта ўжо моцна растузаецца, гаспадар таўчэ няўрымсніка кулаком у храпу, цэдзячы праз зубы:

— Ух, ваўкарэзіна!.. Утомы на цябе няма...

Услед за няўклюдным, прыгорбленым бацькам бегае Міколка — цыбаты хлапчук з круглай, нагала астрыжанай галавой і аблупленым кончыкам носа. Каб не абрасіць у траве і бульбоўніку штаноў, ён закасаў калошы вышэй кален.

— Тата, — пяе ён сакавітым галаском. — А нашто табе пуга? Аддай яе мне...

— Адстань... — адразу ж асякае сына Банадысь.



Міколка плаксіва шморгае носам і клепае доўгімі вейкамі. Потым, прыставіўшы пугаўё да штакетніку, імчыць паўз плот — цішыню надвячорка ўмомант рассякае сухая, частая траскатня.

Сама Сахвея, дзябёлая, вастраносая, таксама завіхаецца ля запражкі. Яна прыцягнула ўжо аднекуль леташні бярозавы рубель, заматала на ручкі калёс тоўстую вяроўку, вынесла з сянец сякеру і жалезныя вілы. Рухавая, спрытная, яна паспявае ўсюды: выпрасіць у суседзяў гумавыя боты на гразь, даць гучных плескачоў непаседу-сыну, пакрычаць на мужа, бо той варушыцца, як ёй здаецца, усё роўна бы мокрае гарыць...

А трэба спяшацца.

Сёння выдзеленая праўленнем калгаса камісія апрыходавала стагі сена, што сёй-той быў накасіў без дазволу на калгаснай сенажаці. Сярод іх ёсць і стажок Плахавых. Навыбіваў яго Банадысь прыхваткамі на досвітках, пакуль жонка варыла снеданне. Сена, як на тое, выдалася мурожнае, з дзятлавінай і хвошчыкам. Дзіва што!.. Сама Сахвея выбірала, дзе стаць касіць. Высахла яно зялёнае, духмянае, нібы той чай. Як касілі, на яго не ўпала ні адна кропля дажджу. Згрэблі таксама ў пагоду. Думалася, на ўсю восень корму будзе... І вось на табе — стажок апынецца не сёння-заўтра на калгаснай ферме. Хіба ж можа такое дапусціць Сахвея? Таму і злуецца яна, што муж занадта ўжо марудна збіраецца ў дарогу, усё чагосьці топчацца ды топчацца. Стажок дарма што ледзь з кустоў вытыкаецца, але ці забярэш яго за два разы. Коп васемнаццаць утаптала Сахвея, ледзь у той дзень ногі з лугу прывалакла дадому. А ноч — не зімовая ж: не паспееш возу накласці, глядзі — днець пачне.

— Ды хутчэй ты хоць трохі... Не па смерць жа едзеш...

Банадысь жончыны словы прапускае міма вушэй.



Калёсы мякка выкочваюцца на вуліцу, ціхую, бязлюдную, з навіссю яблыневага і слівавага вецця паўз платы. Адразу ж за вёскаю — кусты алешніку, крушыны, лазы. У іх булькоча ледзь чутна запруджаная ламаччам на перамеле нешырокая рака. З шумам і свістам узлятаюць у паветра дзікія качкі. Конь шарахаецца ў бакі. Сахвея сцябае яго па спіне сырамятнай пужкаю, тузае за лейцы, нокае і цмокае языком, зноў выкіроўваючы калёсы на бітую дарогу. Бядак прыпадае губамі да вады,

нездаволена фыркае і з нейкай затоенай асалодай і злосцю топча капытамі густа ўсыпанае цьмянымі зоркамі неба, змешвае яго з граззю і ілам і павольна цягне воз на другі бераг. Шорстка шуршыць пад шынамі жарства.

Праз нейкі час калёсы ўжо скрыпяць па бітай палявой дарозе. Тарахцяць драбінкі, дзяржанка вілак падскоквае і глуха стукаецца аб падсцілку, коўзаецца з боку на бок рубель. Буланы, апусціўшы нізка галаву, неахвотна тупае міма коп сытай аўсянай саломы, якую, жнучы днём, абы-як параскідаў па ўсім полі камбайн. Удалечы мякка цямнее лес, абкладзены па самае голле белай ватай туману. Там, каля кружка лазы, паваротак улева, на луг...

Банадысь, звесіўшы ногі з драбінак, ціха і ўпарта смокча цыгарку. Вочы яго ляніва разглядаюць жончыну спіну. Круглыя плечы, загарэлая шыя, валасатая барадаўка каля самага выкраю сукенкі. Чалавеку не даюць спакою думкі. Чаму гэтак лёгка ва ўсім ён згаджаецца з жонкаю?.. Сказала неяк, на першых днях пасля вяселля, кідай калгас і ідзі на падсочку (там куды больш заробіш!) — пайшоў. Летась увосень напомніла, што многія з калгаснага поля грачанку па начах цэлымі вязкамі валакуць. Ледзь не поўнае гарышча нанасіў пасцілкаю і ён. Браў са сцелішчаў лён, хадзіў у сад па яблыкі і нават намерваўся схадзіць на пасеку па мёд... А цяпер — гэты стажок...

На момант прысадзісты, круглы, з доўгімі бярозавымі апоўзінамі на версе, ён паўстае перад вачыма. Праплываюць тыя досвіткі, калі прыбягаў на луг, шоргаў два-тры разы мянташкаю па яшчэ з вечара накляпанай касе і пачынаў на ўвесь мах і сілу адкідваць на пракос цэлыя ахапкі травы. Хіба зразумее гэтая кабета, што значыць для Банадыся свіст касы і халаднаватая ранішняя раса!.. Ён аж памаладзеў, пажвавеў за тыя дні, стаў вясёлым, гаваркім...

Бледнае святло месяца адкідвае на пожню тры невыразныя цені-воўлаты. Яны як бы прыліплі адразу ж, пры выездзе ў поле: так усё і не адстаюць ні на крок — бягуць, туляцца па шчаціне-пожні. Расцяжна і заўзята брэша ў вёсцы сабака. Пахне свежаю аўсянаю саломаю, конскім потам, коламаззю... Калёсы коцяцца ў шэрань ночы павольна. І гэтак жа павольна плывуць Банадысевы думкі. Кім ён стаў, цалкам паддаўшыся жонцы? Знялюдзеў адзін у лесе, ад усіх адарваўся... Красці нават пачынае. У Сахвеі дужа доўгія і сквапныя рукі: усё ім хочацца забраць, занесці да сябе ў двор. Ведаў жа, што ўся сям'я ў Сахвеі была такая. Не раз чуў яшчэ да жаніцьбы, што людзі пра іх казалі... Не зважаў... І вось...

Глуха тупае капытамі конь... Ляскочуць калёсы...

Кружок лазняку вынырае з клубістага кужалю туману зусім нечакана. Паваротак ледзь прыкметны — яшчэ амаль ніхто падводай не ездзіў на луг. Сахвея цягне да сябе лейчыну, паварочвае каня на вузкую дарожку, на колкую пакошу. Конь натурыцца і не хоча ісці. Кабета злуецца і сячэ пугаю яго па баках, па крыжы...

Банадысь хвілін колькі моўчкі глядзіць на жонку, прыўзняўшы галаву. Валасатая барадаўка вырастае ў яго вачах. Потым раптам выхоплівае ў жонкі лейцы і сам паварочвае каня, паварочвае ў процілеглы бок.

Адчуўшы моцную мужчынскую руку, конь адразу ж бярэ на лёгкі, але спорны трух...



Канстанцыя БУЙЛА

* * *



Нарач беліць кужалі
Туманоў на цёмнай плыні,
А на небе вечар сіні
Густа зоры запаліў.
Сёння добры быў улоў,
Падняла з празрыстай глыбі
Сець — жывое срэбра рыбы.
Заўтра сець закінем зноў.
Бачыш — паліцца касцёр,
Пах бруіцца ад вячэры...
Далятае шум аеру,
А вышэй — гамоніць бор.
Разбудзі мяне, калі
Згаснуць зоры ў небе сінім.
Раніцой мы сець закінем
Там, дзе зыбіцца прыліў.
А цяпер, няхай засну
Я пад ціхі гоман бору.
Пры табе я скора, скора
Вейкі сонныя самкну.
Песня льецца ля кастра
І плыве кудысьці ў далі.
Нарач гойдае на хвалі
Песню, як сястру сястра.
Разбудзі мяне, калі
Ранак першы промень кіне,
І са светлай сваёй плыні
Нарач зніме кужалі.



ТРОХІ ПРА СЯБЕ

Нарадзіўся я ў верасні 1929 года ў вёсцы Холма Крывіцкага раёна Маладзечанскай вобласці.

Пасля вайны скончыў Пастаўскае педвучылішча, настаўнічаў у Будславе. Ужо тут стаў прыслухоўвацца да народнай мовы, вывучаць яе, рабіць запісы. Гэту работу не пакідаў, калі займаўся і ў БДУ імя У. І. Леніна. Канікуламі ездзіў па вёсках запісваць народную творчасць. У выніку, летась у Дзяржаўным выдавецтве БССР вышаў мой зборнік «Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі».

Пасля заканчэння ўніверсітэта працую на Мядзельшчыне ў Слабадской сярэдняй школе.

Першае маё апавяданне надрукавана ў «Бярозцы» ў 1955 годзе. Пасля змяшчаў апавяданні ў мядзельскай раённай газеце і ў альманаху «Нарач».

«Такі яна чалавек» — маё новае апавяданне.

Яўген Рапановіч.

Яўген **РАПАНОВІЧ**

# ТАКІ ЯНА ЧАЛАВЕК

## Апавяданне

Мал. Б. Льдокава.

1

Лётаюць над возерам устрывожаныя кагаркі. То забіраюць моцна ўбок, то завязваюць петлі, то кідаюцца ўніз — сякуць крыламі срэбныя хвалі; ды зноў набіраюць вышыню.

Канае ліпеньскі дзень.

Сонца на захадзе напалавіну асела ў ваду. А кагаркі ўсё б'юцца і б'юцца над возерам. Найболей выдзяляецца адна, большая ад астатніх. Яна ірванецца да берага, падасца да людзей, закрычыць на ўвесь свет, — і ўсё кружыць і кружыць над вадою.

Ля самай дарогі — вярба. Тоўстая, у два абхваты. Кара патрэскалася па ўсім ствале, ад зямлі аж да сукоў.

Хвалі падмылі карэнне. Дрэва пахілілася да вады, апусціла долу свае галіны і глядзіць на пясчанае дно, прыслухоўваецца да гоману хваль.

Я прыпёрся плячом да старое вярбы і сачу за кагаркай.





Чаго яна так трывожыцца?

Яе крык упіваецца ў маё сэрца. Міжволі заплюшчваю вочы — і думкі ўзнаўляюць легенду, што расказалі мне калісьці старыя рыбакі.

...Гэта не кагарка, а дзяўчына-прыгажуня стараецца сабраць асколачкі люстэрка, якое адліў ёй славуты майстар-самародак з пясчынак залатых, з неба сіняга, з сонейка яснага, з кахання чыстага, з мары светлай. Як дазналася дзяўчына пра смерць свайго любага хлопца, — разбілася цудоўнае люстэрка на друзачкі. Цяпер во вякамі збірае іх, гэтыя кавалачкі, а сабраць аніяк не можа...

Непадалёк ад мяне стаіць сярэдняга росту жанчына. Вецер скідае з плячэй тоўстую касу, расхрыствае жакет, а хвалі лашчацца ля ног, бы маюць намер сказаць нешта таемнае. Тут жа гуляе хлопчык. Ён прысеў на камень, разуўся ды цёпкаецца ў возеры. Хутка яму гэта надакучыла. Малы бярэ прыгаршчамі пену, дзьме на яе і звонка-звонка смяецца, калі бялюткія пухіркі падаюць яму на рукі, на матроску, на ногі.

— Глядзі, мамка... Глядзі!..

Але маці не адгукаецца. Сын падымае з-пад ног каменьчыкі-гладышыкі, якіх тут безліч, і пачынае кідаць у возера. Камень працінае ваду і ідзе на дно. Хлапчанё слухае ўважліва, пасля прыгінаецца і стараецца пусціць гладышык так, каб той заскакаў па вадзе. Нарэшце, пакідае і гэты занятак і ідзе да маці. Пад яго нагамі шамаціць драбнюткая галька...

Дарогай прайшла гуртам моладзь. Нехта пачаў чытаць:

Таварышы, ў дзень незабыўны
Сабраліся ўсе мы сягоння
На месцы баёў адгрымеўшых,
На схіле высокай гары...

Хлопчык запытаў:

— Мамка, дзе гэта грымелі баі?

— Тут, сынок мой, тут...

— І татка наш тутака з фрыцамі біўся?

— Ага... — чую голас і бачу, як маці туліць да сябе малога.

Гасцінцам ідуць і ідуць людзі. За гарой недзе гудуць машыны. Песням, як і людской плыні, канца няма. Заціхне адна — пачынаецца другая.

Па возеры снуюць лодкі. І на іх спяваюць. Сягоння тут усё пяе: людзі, возера, дрэвы і нават сама зямля.

Я паварочваю галаву да жанчыны. Яна ўсё ўглядаецца ў бок Гатаўскага бору. Я ўгадваю яе думкі.

2

Перад самым канцом вайны наша брыгада перагарадзіла тут фашыстам дарогу. Гадзіны чатыры цягнуўся жорсткі і ўпарты бой. Пад раніцу разведка данесла, што ворагу ў мястэчка прышло падмацаванне. Тады камандзір паклікаў нас, двух аднавяскоўцаў, і сказаў:

— Дубок і Шыла, даручаю вам перабрацца на той бок возера і перадаць тэрміновае данясенне.

— Ёсць перадаць тэрміновае данясенне! — адказалі мы.

— Толькі глядзіце... Бо можаце папасці ваўку ў зубы.

— Заданне выканаем! — узяў пад казырок Шыла. — Рыбакам не прывыкаць. Праўда, Косця?

— Не прывыкаць, — паўтарыў я.

Толькі мы былі адвязалі лодку, я ўжо за вёслы ўзяўся, як з кустоў выскачыла Вера.

— Якімка, любы мой, і я з вамі...

— Нельга. Ты тут трэба, — запярэчыў Шыла і ступіў у лодку. — Мы скора вернемся, — памахаў ён атраднай медсястры рукой.

Веславалі мы па чарзе. Так лепей: пакуль адзін на вёслах, другі адпачне. Плылі моўчкі. Нарэшце я пытаю:

— Што ж ты, Якім, з Верай не развітаўся? Яна цябе, здаецца...

— Не трэба... Табе абы сказаць...

Такі ўжо быў Якім... Гаварыў ён мала — і тады, калі быў у настроі, і тады, калі сумаваў. Хоць і гадаваліся мы разам, у школу хадзілі, да рыбацкага жыцця прывыкалі, а характарамі моцна розніліся. Мне падабалася жартаваць, гаманіць, а Шыла часцей маўчаў. Аднак дружылі мы — як ніхто на свеце. Я прыкмячаў, што Якім на Веру ўсё заглядаецца. Мне было крыўднавата: суседка (нашы хаты сталі праз вуліцу) і мне падабалася.



А возера бунтавала...



Сустрэчны вецер гнаў чорныя хвалі, не даваў нам плысці. Цяжка было кіраваць лодкай.

Пачало днець. На небе тухлі зоркі.

Мы даплылі да берага, прывязалі лодку і пайшлі ў напрамку бору. Відаць, варожы патруль заўважыў нас, бо неўзабаве то з аднаго боку, то з другога пачалі класціся міны. Раптам перад намі ўзнялася сцяна зямлі, і калі я здагадаўся, што сталася, Якіма ўжо са мною не было.

Ірванула яшчэ некалькі мін, і зноў запанавала цішыня.

Я падняўся.

Воддаль ад маёй варонкі ляжаў Якім. Уся галава ў яго была заліта крывёй. Я бінтаваў раны, а ён усё прасіў:

— Косцік... У Гатаўскі бор... Да сваіх... Тут блізка...

Але да сваіх мы з Якімам не дабраліся. На пяску пад меднастволымі соснамі ён у апошні раз прашаптаў засмяглымі вуснамі:

— Беражы... Веру... Яна... не адна...

Болей ад яго не пачуў я ні слова.

Апоўдні мы выбілі ворага з мястэчка, а вечарам у Гатаўскім бары капалі дол Якіму Шылу.

3

Я падыходжу да Веры. Хоць і цемнавата, ды бачу, што вочы яе ўзмакрэлі. Хлопчык перабірае матчыны пальцы і маўчыць.

— Чаго засумаваў, бутуз?

— Я не Кутуз, а Якімка Шыла.

Жанчына папраўляе на малым матроску, стараецца ўсміхнуцца.

Ад вады цягне холадам. Пахне рыбай, цінай, прэлым чаротам.

— Пойдзем адгэтуль, Вера. Тут сыра.

— Пойдзем, — згаджаецца яна і вядзе сына за руку на дарогу.

Шуміць пaціху арэшнік. Набягаюць на бераг хвалі і, бы спалохаўшыся чаго, зараз жа коцяцца назад. На вадзе гараць паходні. За іх нельга забірацца на лодках.

А моладзь ля возера пабралася за рукі, перамяшаліся хлопцы з дзяўчатамі. Смех, песні, радасць...

Другі год гуляецца Свята песні.

Пра мінулае мы з Верай не гаворым. Яна не пачынае такой гутаркі. І я не вярэджу старыя раны. Глыбокія яны, каб можна было аб іх успамінаць спакойна. Страціць усю сям'ю, сіратой гадаваць сірату і закончыць універсітэт — хіба ж мала для жанчыны!?. Я гляджу на яе нешырокія плечы і дзіву даюся: як яны змаглі перанесці столькі?! Пра цяперашняе мы таксама не гаворым. Здаецца, усё перагаворана ўжо, а навін асаблівых няма. Мы адзін аб другім ведаем усё, бо працуем у суседніх школах.

Хлопчык забягае наперад, глядзіць на гару, дзе стаіць помнік партызанам-героям.

Я параўняўся з Верай і кажу:

— Давай... разам будзем гадаваць яго... І жыць разам...

— Колькі разоў цябе прасіла, Косця, не гавары пра гэта. — Яна

ловіць касынку, што з'ехала была на грудзі, і кліча малога: — Якімка, бяжы да мяне, сынок.

Якімка вяртаецца.

— Мамка, а фрыцы больш не прыдуць сюды?

— Не, дзіця маё, не прыдуць.

Мы з Верай бярэм Якімку за рукі і ідзём дарогай. Я не злуюся на яе, не. Хоць шчыміць сэрца, але я рады, што яна, нарачанка мая дарагая, — такі чалавек.



Мікіта **СУСЛОВІЧ**

# МОРА КЛІЧА

Не вернуцца болей ніколі-ніколі
Дзіцячыя радасці, крыўды і гора,
Калі ад прачытаных кніжак у школе
Радзілася першая мара пра мора.

У класе вялі мы з дзяўчынкамі спрэчкі.
Паклаўшы запіскі ў парожнія пляшкі,
Мы кідалі іх у палескія рэчкі,
На маркі выменьвалі часам цяльняшкі.

Здавалася штормам, раз'юшаным гулам
Шуміць пад вятрамі тугое калоссе...
Закончана школа, дзяцінства мінула.
А мора? А мора усё ж засталося.

Яно не давала спакою начамі:
То мачты у нашыя сны прыплывалі,
То ветразь далёкі мігаў прад вачамі,
То біліся ў сэрца упартыя хвалі.

Цяпер у нас дужыя рукі і плечы,
Мы бачылі ўсіх акіянаў прасторы.
Нам часта пры самай кароткай сустрэчы
Крычаць хлапчукі: «Раскажыце пра моры».

Нам штормы і буры не з кніжак вядомы,
Цяпер мы не носім бушлаты напашкі,
Калі ж на пабыўку прыедзем дадому,
Прывозім маленькім суседзям цяльняшкі.

Пераклаў з рускай мовы С. Грахоўскі.



Прыехаўшы ў адпачынак, выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі Віктар Курачкін сустрэўся з членамі Мінскага марскога клуба ДТСААФ.

Фота А. Дзітлава



Птушніцы з калгаса імя Тэльмана Заслаўскага раёна Тоня Бандзевіч і Ніна Дашчынская ў выхадны дзень на беразе Мінскага мора.

Фота А. Дзітлава.



Мацнее польска-савецкая дружба. Моладзь Люблінскага ваяводства часта бывае ў гасцях у сваіх суседзяў — працоўных Брэста.

Фота А. Дзітлава.



Поўным ходам ідуць работы па збудаванню газаправода Дашава — Мінск. Сярод лепшых будаўнікоў на трасе называюць электразваршчыка Станіслава Маленькага (справа) і слесара Івана Ястраба.

Фота В. Бараноўскага.

# БАЛТЫЙЦЫ НА ВАРЦЕ

**Нарыс**

Балтыка ніколі не распесціць чалавека.

Не часты госць тут сонца. Затое парывы халоднага ветру могуць наляцець раптоўна, нават у самы ясны, цёплы ліпеньскі дзень.

Неба над Балтыкай амаль заўсёды зацягнута хмарамі. Шэрыя, вільготныя, яны то вісяць нерухома над галавою, то імкліва плывуць на ўсход, несучы з сабою халодныя туманы, дажджы, сырую імглу.

Недзе ў моры шэрая вата воблакаў зліваецца з такой жа шэрай імглістай паверхняй вады. Расплывіста-белаватая зона зліцця двух стыхій то здаецца блізкай, то аддаляецца на вялікую адлегласць.

Пляскочуць кароткія шэрыя хвалі. Яны здаюцца нейкімі дзіўна абыякавымі. Нячутна лопаюцца бурбалкі пены. Ціха гойдаюцца ля паверхні вады цёмныя космы водарасцяў.

Але вось невядома адкуль налятае ўраганны вецер. Цямнее неба. Народжаныя ў нябачных далях, коцяцца па моры велізарныя вадзяныя валы. Адзін удар такой хвалі — і вартавы кацер, што не паспеў схавацца, узлятае ў паветра. Балтыйцы ў такіх выпадках гавораць, што мора было неспакойнае.

Шторм на Балтыцы можа быць вельмі працяглым, а можа закончыцца раптоўна, як і ўзнік. Летам бывае так: і суткі, і другія шалее ўраган, сячэ халодны лівень. У такі час малыя і сярэднія караблі хаваюцца ў гаванях... І раптам — цішыня! Яснее неба. Яркія блакітна-зялёныя хвалі, не могучы адразу спыніць разбегу, працягваюць сваю гульню — даганяюць адна другую, падбягаючы да самага берага. У такі час мора любяць купальшчыкі. Яны ныраюць пад хвалі, калышуцца на пругкіх спінах блакітна-зялёных валоў, са смехам падстаўляюць твары салёным пырскам.

Ніколі Балтыка не прывучыць чалавека да бесклапотнага любавання, — яна навучыць паважаць горды нораў паўночнага мора, цаніць сонца, натрэніруе нервы і мускулы. Кожны, хто пражыў на Балтыцы тры-чатыры гады, якім бы ён ні быў раней, становіцца чалавекам моцнай волі, вялікіх таварыскіх пачуццяў зайздроснага здароўя. У першую чаргу і больш за ўсё гэта датычыць маракоў.

Балтыйцы... Людзі, якія стаяць на варце заходніх марскіх граніц нашай Радзімы...

Матроская бесказырка. Чорныя стужкі, залацістыя літары — БАЛТЫЙСКІ ФЛОТ. І тонкія чорныя вусы над смяшлівай губой. Вярніцеся на хвілінку да фотаздымка на ўкладцы нашага часопіса. Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі, класны спецыяліст Віктар Курачкін гутарыць з двума сваімі малодшымі таварышамі, юнакамі, для якіх надзець пагоны марака — яшчэ мара. Яны пакуль наведваюць Мінскі марскі клуб ДТСААФ.



Два з палавінай года таму назад Віктар Курачкін, тады токар Мінскага завода запасных трактарных частак, увесь свой вольны час таксама праводзіў у марскім клубе. Цяпер жа ён ганаровы госць сваіх аднаклубнікаў. Па статуту камандаванне ў выглядзе ўзнагароды за прыкладную службу прадоўжыла яму водпуск на два лішнія тыдні. І вось матрос сярод юнакоў. Ён расказвае аб флоцкім жыцці...

На Балтыцы служыць многа беларусаў. Калгасныя хлопцы, учарашнія станочнікі і дзесяцікласнікі, выхаванцы беларускіх тэхнікумаў і інстытутаў, — усе яны нясуць слаўную вахту на моры. Яны стаяць у баявым страі поплеч з такімі ж маладымі, дужымі людзьмі з іншых рэспублік.

Вось фотаздымак групы сяброў. У першым радзе (злева направа) матрос Алік Бараташвілі з Азербайджана, беларусы — старшы матрос Сяргей Крывы і малодшы сяржант Віктар Гарабурда, узбек матрос Нізам Рахманаў і яшчэ адзін беларус — старшы матрос Мікалай Кадан. Ззаду стаяць матросы — наш зямляк Міхаіл Лукашэвіч, украінец Рыгор Кузёмка і ўзбек Абдулазіс Мухідзінаў.

Гэтыя хлопцы моцна сябруюць. Яны разам — ля марскіх гармат, разам за абедзенным сталом, разам спяваюць песні. Камандзір сказаў пра іх так:

— Многа ў моры вады. Але і яе не хопіць, каб разліць іх дружбу!..



А аб тым, што такое для марака слова таварыш, можна зразумець па такому простаму эпізоду.

На караблях часта можна пачуць словы: «Мы жывём, як адна сям'я». Але калі вымавіш слова «сям'я», міжволі ўспомніцца родны дом. А калі ўжо ўспомніліся родныя, міжволі ў матроскай памяці ўзнікае і строгі позірк бацькі, і ласкавая далонь маці, і пяшчотныя клопаты сястры...

І матрос, хаваючы ўласныя думкі, пачынае лёгенька сумаваць. Гэта, вядома, прыкмячаюць уважлівыя вочы таварышаў.

Так здарылася і з матросам Мікалаем Перапяловым.

Заўсёды вясёлы, гаваркі, Мікалай раптам засумаваў.

Сябры захваляваліся. Павялі асцярожную псіхалагічную разведку. Захварэў?.. Атрымаў вымову ад камандзіра?.. Пісьма з дому даўно не было?

І аказалася, што наадварот — пісьмо ад родных было атрымана два дні назад, пасля гэтага Мікалай і засумаваў. Чаго? Звычайна ён сам ахвотна дзяліўся ўсімі навінамі з дому, а на гэты раз маўчаў. Тады было вырашана скарыстаць аўтарытэт камандзіра.

Камандзір не выклікаў матроса да сябе, не стаў даваць яму настаўленняў аб тым, што марак заўсёды павінен быць бадзёрым і трымаць галаву высока. Нібы незнарок, ён паклаў руку Мікалаю на плячо і ціха, зусім па-сяброўску спытаў:

— Сумуеш?.. Дрэннае пісьмо атрымаў?

Мікалай адразу схамянуўся:

— Не, таварыш капітан-лейтэнант! Пісьмо вясёлае. Калі цікавіцеся, — калі ласка... — ён паспешліва палез у кішэню.

Камандзір прабег вачыма пісьмо, напісанае старэчым почыркам.

— Бацька, значыцца, піша. Добрае пісьмо. Так,

так... — і, не дагаварыўшы фразы, глянуў Мікалаю ў вочы.

Яны разышліся. А на наступны дзень пасля паверкі перад строем стаяў круглатвары сакратар камсамольскай арганізацыі Рыгор Хіжы. Ён трымаў у руках аркуш паперы. Тыя, хто стаяў непадалёк ад Рыгора, добра бачылі наклеены на гэты аркуш фотаздымак Мікалая Перапялова, намаляваны каляровымі алоўкамі марскі пейзаж і радкоў дваццаць, напісаных на машынцы.

Рыгор пачаў чытаць:

— «З днём нараджэння!.. Таварышы! Сёння спаўняецца дваццаць адзін год члену нашай камсамольскай арганізацыі, нашаму баявому таварышу Мікалаю Сяргеевічу Перапялову. За час сумеснай службы...»

Гэта быў любоўна аформлены баявы лісток. Пад тэкстам віншавання былі подпісы — «Камандаванне. Камсамольскае бюро».

Хіжы паціснуў Мікалаю руку і ўручыў яму лісток. Прагучала каманда «Вольна!». Матросы акружылі Мікалая і наперабой сталі віншаваць яго. Нехта прапанаваў зрабіць другі экземпляр лістка і павесіць яго ў ленінскім пакоі.

— Ужо зроблена! — адгукнуўся Хіжы. — А трэці адпраўлены бацькам Мікалая разам з пісьмом.

Мікалай свяціўся ад радасці.

Так проста быў разгаданы яго маленькі сум, — раптоўны сум па дому, народжаны напамінкам бацькі пра сямейнае свята.

Дарэчы, некалькі слоў аб тым, якія адказы атрымліваюць у флоце ад бацькоў, калі камандаванне паведамляе ім аб выдатнай службе сына. Вось пісьмо маці старшага матроса Яўгена Жарыкава:

«Таварыш камандзір часці! Я атрымала Ваша пісьмо і вельмі рада пачуць, што мой сын Яўген самааддана служыць сваёй Радзіме і апраўдаў давер'е камандавання. У мяне іх двое. Старэйшы сын таксама быў матросам. Бацька іхні загінуў у часе Вялікай Айчыннай вайны, пакінуўшы на маіх руках двух сыноў... Я, як магла, як падказвала мне маё сумленне, выхавала іх...

Таварышы матросы! Разам з маім сынам будзьце пільнымі, каб не даць ворагу развязаць новую вайну.

З павагай да Вас О. Жарыкава».

З Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці ад бацькоў старшыны другой стацці Яўгена Кляўса, у адказ на калектыўнае паведамленне аб воінскім подзвігу сына атрымана было такое пісьмо:

«Родныя таварышы! З якой матчынай гордасцю, з якой радасцю за свайго сына, з якой любоўю да ўсіх вас я пішу зараз вам, дзецям сваім, гэтае пісьмо. Якое было свята, што я перажывала ў тыя хвіліны, калі чытала ваша пісьмо! Гэта можа зразумець толькі сэрца маці... Сынок! Будзь сумленным, вучыся добра, беражы свой і наш гонар!..»



Апошнія словы прасякнуты асаблівым, урачыстым сэнсам. «Беражы свой і наш гонар!» Савецкі воін — любімец Радзімы. Яго лёс — гэта лёс Айчыны. Балтыйцы выхоўваюцца на лепшых прыкладах сваіх бацькоў, якія штыком і гранатай пракладвалі шлях Кастрычніцкай рэвалюцыі.





Усведамленне высокай адказнасці не пакідае балтыйца ўвесь час службы. Гранічна напружаны ён у часе вахты.

Паглядзіце на фотаздымак сігнальшчыка — матроса Мікалая Рашэтніка. Камандзір сказаў пра яго проста:

— Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

А колькі за гэтымі словамі воінскага ўмення, волі, гонару за давераны пост. Не! Ні ў якую непагадзь не праслізне незаўважаны кацер варожых лазутчыкаў! Зменіцца з вахты Рашэтнік, — заступіць яго таварыш. І ў таго — пільнае вока ваеннага марака.

Могуць спытаць — а ці не «сушыць» характар чалавека суровая марская служба? Ці не чарсцвее яго сэрца ад строгай ваеннай дысцыпліны? Ці часта свеціцца ўсмешка на твары марака?

На гэта адказвае камандзір аддзялення рулявых старшына другой стацці Юры Маркевіч. Вось яна, усмешка балтыйца! Быў ён вясёлым трактарыстам у калгасе імя Чапаева, на Браслаўшчыне, — стаў бравым маракам. Але не страціў ён свайго дабрадушша. Толькі больш свядомым яго зрабіў. Добра ідуць справы — вясёлая ўсмешка на вуснах...

Яшчэ адна сустрэча, — яшчэ адзін фотаздымак. Сышоў матрос з палубы на цвёрдую зямлю, — што яму перш за ўсё зрабіць? Сілы яго ў час плавання не ўбавілася. У кубрыку, як ні кажы, цеснавата. Не разгорнешся... А на ўзбярэжжы матрос, якога завуць Уладзімір Мацвееў, убачыў ваганетачныя колы на жалезнай восі. Узяў ён іх ды і падняў над сабою. Пастаяў так, усміхнуўся, але... на зямлю колы не кінуў. Занёс іх на склад металічнага лому.

Балтыйцы, як і ўся моладзь краіны, збіраюць жалеза, каб ператварыць яго ў новыя машыны. Збіраюць яны металалом на зямлі, знаходзяць і пад вадой. Вырашылі сабраць столькі, каб хапіла на калону трактараў і каб яна насіла гордае імя «Марак Балтыкі».





Сярод актывістаў камсамольскага паходу за збор жалеза — Юры Яшчук, старшы матрос, былы трактарыст Мазырскай МТС.



Скажыце цяпер, ці зачарсцвела сэрца ў гэтых людзей? Ці выракліся яны мірнага жыцця, прывычнага ім з дзяцінства? Юры Яшчук марыць аб тым, як пасля звальнення з флоту павядзе ён па родных палескіх прасторах трактар. Хто ведае, можа той трактар будзе зроблены з «балтыйскага» жалеза!..

Заўсёды і ва ўсім, у паходзе і ў часе стаянкі ў гавані, афіцэр флоту — перад матросам прыклад. На флоце, як нідзе, людзі могуць спалучаць воінскую дысцыпліну з вялікім таварыскім пачуццём. На караблі кожны жыве на відавоку — ці ён адпачывае, ці нясе вахту. Мора прывучае людзей быць разам, развівае ў іх агульныя інтарэсы, павагу адзін да другога. Марак мараку заўсёды пойдзе на выручку. І гэта зноў-такі пачынаецца з афіцэраў.

На адным з караблёў штурманам служыць старшы лейтэнант Яўген Пятровіч Ламачэўскі. Нарадзіўся ён у Брэсце і жыў там да заканчэння сярэдняй школы. Потым атрымаў адукацыю ў Вышэйшым ваенна-марскім вучылішчы. Цяпер плавае.

Ламачэўскі — выдатны афіцэр. Ён добра ведае штурманскую справу. Калі ён пракладвае караблю складаны маняўровы курс — у яго руках жыццё многіх маракоў, багатая тэхніка. Усе заўсёды ведаюць — старшы лейтэнант Ламачэўскі не падвядзе. Камуністы карабля выбралі яго, зусім яшчэ маладога афіцэра, намеснікам сакратара сваёй партыйнай арганізацыі...





У Беларусі з Балтыйскім флотам асаблівыя адносіны. Камсамол рэспублікі — шэф флоту. Ні адно наша свята не праходзіць без гасцей з мора, таксама як і ў кожнай урачыстасці на Балтыцы абавязкова ўдзельнічаюць пасланцы камсамола Беларусі. Але і ў звычайныя, будзённыя дні не парываюцца гэтыя сувязі. Узаемная дзелавая дапамога пашыраецца з году ў год.

Нядаўна, па запрашэнню камсамола флоту, на Балтыцы пабыла група беларускіх пісьменнікаў. Адбыліся шматлікія сустрэчы, на якіх вяліся гутаркі аб сямігодцы, аб беларускіх новабудоўлях, аб нашай моладзі.

Чыталіся вершы. Моцныя матроскія рукі апладыравалі радкам, у якіх услаўлялася Радзіма, праца будаўнікоў камунізма, гаварылася аб каханні і дружбе.

Асабліва сардэчнымі былі сустрэчы з землякамі.

— А ці ёсць тут хто з Магілёўшчыны? — спытаў у час адной сустрэчы пісьменнік Павел Кавалёў.

Падняўся бялявы, каржакаваты марак.

— Старшына другой стацці Лазаковіч! — адрэкамендаваўся ён. — З вёскі Любонічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці.

— Амаль радня! — пажартаваў пісьменнік.

І пачалася размова... Аказалася, што Яўген Лазаковіч таксама піша. Вясной ён быў дома — атрымаў водпуск. Вярнуўшыся на мора, расказваў, што дзівіўся зменам у калгасным жыцці. Таварышы параілі яму падзяліцца сваімі ўражаннямі ў друку. І вось у газеце флоту з'явіўся артыкул «Вялікія перамены ў сяле Любонічы». Яўген коратка расказаў аб мінулым сваіх родных мясцін. Сумным быў яго расказ аб тым, як да Кастрычніцкай рэвалюцыі жылі людзі ў Любонічах: амаль суцэльная непісьменнасць, высокая смяротнасць — памірала кожнае трэцяе дзіця. І з якім гонарам расказваў старшына пра сённяшнія справы калгаса! Неабвержны прыклад: сям'я Пятра Паўлавіча Лазаковіча выпрацавала ў мінулым годзе 1 700 працадзён, атрымаўшы звыш двух тон збожжа, больш дваццаці тысяч рублёў грашыма.

Сустракалі землякоў і іншыя ўдзельнікі паездкі — паэты Артур Вольскі і Ніл Гілевіч.







Вось Ніл Гілевіч чытае свае вершы групе беларусаў проста на палубе карабля. Яго слухаюць — (злева направа) мінчанін старшына другой стацці Алег Драбышэўскі, матрос Яўген Галоўка, чыя радзіма Высокаўскі раён Брэсцкай вобласці, магіляўчанін старшына другой стацці Аляксей Бандарэнка і матрос Георгі Слізень з Баранавіч. Ёсць у Ніла Гілевіча вершы пра тое, як марак прыехаў у родны горад і завітаў да знаёмай дзяўчыны ў інстытуцкі інтэрнат.

Што з гэтага атрымалася?.. Вось гэтых заключных слоў і чакаюць з нецярпеннем маракі, што слухаюць паэта на роднай мове.

Артур Вольскі — сам былы ваенны марак — мае ў сваім запасе нямала вершаў, народжаных уражаннямі ад службы. Пагаварыць з ім аб вершах заўсёды знаходзілася шмат жадаючых. Як выбіраецца тэма для верша? Якія рыфмы ён лічыць добрымі і якія дрэннымі?.. Пытанняў шмат. Часу для адказаў — мала. Гутарка не зацягваецца, але ўсе застаюцца задаволенымі. А галоўнае, ведаюць, што пройдзе нямнога часу, і зноў шэфы прышлюць да маракоў новую групу цікавых людзей. І зноў загучаць у кубрыках і ленінскіх пакоях жывыя расказы аб Радзіме.

За шклом ілюмінатара ўжо цёмна.

Калі прыслухацца — можна лёгка ўлавіць асцярожныя, мяккія стукі па корпусу карабля. Гэта плешча ціхая начная хваля.

Можна спаць?

Так, калі вам не трэба заступаць на вахту.

**А. ДЗІТЛАЎ.**
(Фота аўтара.)

Ніл ГІЛЕВІЧ

# СПАТКАННЕ З БАЛТЫКАЙ

Наўсцяж, наўсцяж —
Як вокам ахапіць —
Бушуе мора,
Пеніцца, кіпіць.

За грозным валам
Коціць грозны вал,
І пырскі —
Вышай узбярэжных скал.

І чаек белых
Не відаць нідзе.
Але бясстрашна
Карабель ідзе.

Ідзе не ў гавань,
А туды — ў прастор,
Стыхіі ўгневанай
Наперакор.

Не знаю, хто
На борце карабля,
Хто ў гэткі час
Стаіць каля руля,

Не чуў пра іх —
Ні ганьбы, ні пахвал,
Але мне ўсё сказаў
Дзевяты вал:

Сяброў няверных
Там не можа быць
І кволым там
Няма чаго рабіць.

* * *

Тлумачаць хлопцы ўсё да звання:
Прылады розныя, прыборы,
Якое дзе прыстасаванне,
Каб можна жыць было на моры,

Якой вагі рагаты якар
І ці даўгія тросы трала...
Не знойдзеш дробязі ніякай,
Чаго б не зналі дасканала.

І любяць службу, любяць судна —
Ім раўнадушша невядома,
І ні адзін не скажа: трудна,
Тут проста ўсё для іх, як дома...

Гляджу на хлопцаў і пытаю
Сябе, трывожачыся ўпотай:
А я — ці так люблю і знаю
Сваю нялёгкую работу?

* * *

Калі б ведалі дзяўчаты,
Што за служба ў іхніх хлопцаў,
У адважных, слаўных хлопцаў —
Маракоў-чырвонафлотцаў!

Колькі грознай небяспекі
Іх штодня чакае ў моры,
У далёкім сінім моры,
У нязведаным прасторы!

Калі б ведалі дзяўчаты —
Як бы моцна даражылі,
Як бы моцна даражылі,
Што з такімі падружылі.

Ні адзін бы ліст на мора
Не прышоў з нядобрым словам,
Непрачулым, чэрствым словам,
Засмуціць хлапца гатовым.

Толькі б ведалі дзяўчаты,
Што за служба ў іхніх хлопцаў,
У адважных, слаўных хлопцаў —
Маракоў-чырвонафлотцаў!

# *Дарогамі сямігодкі*



Магутныя экскаватары рыхтуюць пляцоўку для галоўнага будынка электрастанцыі.
Фота А. Кожана.

# ЗАКЛАДВАЮЦЦА ПЕРШЫЯ ПАДМУРКІ

**Рэпартаж**

У палешукоў бытавала павер'е: шчасце прыходзіць у тую хату, на страсе якой паселяцца буслы. Некалі ў палескіх вёсках амаль у кожным двары на саламяныя стрэхі ўсцягвалі старое кола ці барану для бусліных гнёздаў.

Але чамусьці ў тутэйшыя мясціны буслы так і не прынеслі шчасця. Доўгія гады бярозаўскія сяляне жылі ў голадзе і галечы, у заўсёдным страху перад «славутай» Картуз-Бярозай, дзе знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер для палітычных вязняў — змагароў за сапраўдную волю і шчасце.

Шчасце! Яго сюды, як і ва ўсе куткі заходнебеларускай зямлі, прынеслі ў векапомны верасень 1939 года савецкія воіны-вызваліцелі.

Настаў час новых легенд і песень. Над ціхаплыннай Ясельдай гучаць сёння песні аб смелай мары, аб крылатым юнацтве. Калгасныя палі абуджаны гулам трактараў ды камбайнаў.



А год назад паміж азёрамі Чорным і Белым пачалося будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС — самай магутнай і вялікай электрастанцыі ў рэспубліцы, слаўнага дзецішча сямігодкі.

Бярозаўская ДРЭС у два з паламінай раза будзе большая па магутнасці за Васілевіцкую электрастанцыю, яна дасць краіне ў год сотні мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі, якая прывядзе ў рух станкі новых заводаў, асветліць сотні калгасных пасёлкаў, удыхне жыццё ў край паданняў і легенд. Электрастанцыя будзе працаваць у адзінай энергетычнай сістэме рэспублікі. Значыць, яе ток атрымаюць не толькі гарады Брэстчыны, але і Гродна, Маладзечна, Мінск...

Першая чарга новай ДРЭС уступіць у строй у 1961 годзе. К гэтаму часу на бярозаўскіх прасторах вырасце новы гарадок. Ужо сёння каля вёскі Ніўкі можна адгадаць яго будучыя абрысы. Побач з прыгожымі і ўтульнымі жылымі дамамі размесцяцца палац культуры, магазіны, сталовая, дзіцячы сад, яслі, сярэдняя школа, бальніца...



Скрэперысты Уладзімір Каскевіч і Барыс Казловіч на пляцоўцы будучай ДРЭС.



Марыя Тарасюк.

У новым горадзе будуць асфальтаваныя вуліцы, ва ўсіх дамах — газ і вадаправод. Вуліцы і плошчы ўпрыгожацца скверамі, а ў яго ваколіцах раскінецца парк і стадыён. Пакуль усё гэта яшчэ ў чарцяжах і макетах, але пройдзе год-другі і горад электрычнасці на паўднёвым захадзе нашай рэспублікі стане явай. Зарукай таму — узброены магутнай тэхнікай савецкі чалавек.

* * *

Як толькі стала вядома, што недалёка ад Бярозы, на колішніх балотах, разгортваецца новае будаўніцтва, сюды пачалі прыходзіць пісьмы з розных куткоў краіны. Пісалі і навічкі, і людзі, якія ўжо адчулі радасць працы на вялікіх будоўлях. Спачатку тут не было ні жылля, ні сталовай, ні магазінаў, але гэта не палохала маладых патрыётаў.

З навакольных вёсак моладзь ішла на будоўлю са сваімі сякерамі і рыдлёўкамі, не пытаючыся ні пра заробкі, ні пра жыллё. У навасельцаў было адно жаданне — хутчэй пераўтварыць свой палескі край.

... Перад сталом начальніка будоўлі Фёдара Міхайлавіча Мешча-

ракова нясмела спынілася светлавалосая дзяўчына, з выгляду — пяцікласніца.

— Хачу на будоўлю! — сказала яна.

— Колькі ж табе год?

— Шасна... семнаццаць!

— Школу кінула, ці як?

— Скончыла сямігодку. Вось дакумент. Не глядзіце, што я не рослая... Я — дужая, у саўгасе працавала і дома на гаспадарцы памагала... Не падвяду!..

Гэта — Марыя Тарасюк. Яна ў ліку першых прышла на будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС. Такіх, як Марыя, было многа. Калі ў іх пыталі, што яны могуць рабіць, амаль усе яны адказвалі: рознае. У канторы ўжо ведалі, што так гавораць тыя, хто не мае спецыяльнасці. Навічкам рознарабочы ўяўляўся самым універсальным чалавекам. У пачатку гэта так і было.

Бярозаўская ДРЭС будуецца ў баку ад вялікай дарогі. Яе карпусы будуць манціравацца з гатовых канструкцый, якія прысылаюцца сюды з розных прадпрыемстваў краіны. Таму ў першую чаргу і пачалі пракладаць добрыя пад'язныя дарогі да будаўнічых пляцовак. Высякалі лес, рыхтавалі паблізу станцыі Бронная Гара часовую перавалачную базу для прыёму шматлікіх грузаў, якія ішлі ўжо ў адрас будоўлі.



Трактарыстка Надзежда Лісюк.

Марыя Тарасюк засталася на перавалачнай базе. Спачатку працавала падсобніцай у цесляроў, у кар'еры, на пагрузцы.

Паказваючы прыклад старанкасці, дзяўчына прышла да думкі, што на яе ўчастку можна дамагчыся куды большых поспехаў — варта толькі па-новаму арганізаваць працу.

— Дазвольце нам стварыць звяно і працаваць асобна, — звярнулася Марыя да майстра Сяргея Рогава. — А то што ж выходзіць: адны сабе гуляюць, а другія робяць за іх!..

Прапанова дзяўчыны была падтрымана. Разбіліся на звенні. Разгарнулася жывое, баявое спаборніцтва. Пераможцам у ім вышла звяно Марыі Тарасюк.

Прайшло паўгода. Марыя працавала ўжо на будаўніцтве жылога гарадка. Яна стала кваліфікаваным рабочым-маляром чацвёртага разраду. Марыя старанна расфарбоўвае цяпер сцены клуба, інтэрната і сама ў захапленні ад таго, што навучылася так хутка новай справе.

* * *

Будоўля стала для моладзі працоўнай школай. Такімі ж рознарабочымі, як Марыя Тарасюк, прышлі сюды сотні хлопцаў і дзяўчат. Цяпер яны ўжо — муляры, бетоншчыкі, мантажнікі, экскаватаршчыкі.

Хто іх навучыў усяму гэтаму? Такія ж маладыя будаўнікі. Вось адзін з іх — Мікола Карповіч, які прыехаў на будоўлю з Смалявіцкай ДРЭС.

Тутэйшыя хлопцы і дзяўчаты з зайздрасцю пазіралі, як спрытна клаў Мікола цэглу. І ён весела, па-сяброўску сказаў ім:

— Не гаруйце, сябры! Будзеце і вы мулярамі, ды яшчэ якімі!

За зіму Мікола падрыхтаваў сабе добрых напарнікаў — чатырох муляраў. Гэта — Алесь Лафюк, Сцяпан Яцкевіч, Аляксей Гуціч і Аляксандр Яцкевіч. Яны муруюць



сцены не горш за свайго настаўніка.

Для хлопцаў гэты першы год сямігодкі знамянальны яшчэ і тым, што яны ўступілі ў рады Ленінскага камсамола.

Новабудоўля набірае разгон. Высока ў неба ўзнялі свае стрэлы вежавыя краны. Хто ж кіруе гэтымі магутнымі механізмамі?

У кабіне крана — яшчэ зусім маладая дзяўчына Люба Мацяш. Побач, на другім кране, працуе Міхаіл Шабан. Гэта ён навучыў вясковую дзяўчыну кіраваць такім механізмам. З вышыні Любе добра відаць усё наваколле. Стралой цераз лясы, цераз багну пралеглі чыгунка і шаша. Гул сотень аўтамашын абудзіў гэты яшчэ нядаўна ціхі край.



На зборцы вежавага крана.

Люба захапляецца тым, як шасцікубовы скрэпер Барыса Казловіча і Уладзіміра Каскевіча безупынна ходзіць узад-уперад, раўнуючы гарбатыя наросты зямлі. За вёскай Ніўкі два тупаносыя экскаватары мерна, не спяшаючыся ўгрызаюцца ў зямлю, рыхтуючы катлаваны, каб закласці ў іх падмуркі новых будынкаў.

Куды ні глянь, нібы працавітыя мурашкі, бегаюць самазвалы, поўзаюць трактары. З вышыні людзі і машыны здаюцца аднолькавымі. Аднак Люба многіх пазнае па нейкіх, толькі ёй вядомых прыкметах. Вунь Надзя Лісюк. Люба ведае, што Надзя маленькай дзяўчынкай засталася без бацькі, якога расстралялі фашысты. Зусім яшчэ падлеткам Надзя паступіла на курсы трактарыстак, працавала на палях роднага калгаса, ездзіла на цаліну.

На будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС Надзя прыехала адной з першых. Яна — першая дзяўчына-трактарыстка на ўдарнай камсамольскай будоўлі.

У гэтыя дні, калі будаўнікі ДРЭС уключыліся ў спаборніцтва за права называцца ўдарнікамі камуністычнай працы, Надзя не здае тэмпаў. Яна спраўляецца своечасова падаць мулярам цэглу, цеслярам — лесаматэрыял.

... Магутны парыў будаўнікоў! Разумеючы, што Бярозаўская ДРЭС — перадавая лінія фронта сямігодкі, яны робяць усё, што ад іх залежыць, каб на год раней тэрміну загулі турбіны яшчэ аднаго гіганта беларускай энергетыкі.

**М. ЦІМОШАК.**



Такая будзе Маскоўская вуліца ў Брэсце з боку Кобрынскага пуцеправода.

# ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ

Поезд ішоў з Берліна. Салдаты з перамогай вярталіся дадому. Вось у цёплых праменнях жнівеньскага сонца вясёлай рабізною заіскрыліся воды Буга. Недзе ўправа ад чыгункі ў густой засені таполяў — зруйнаваныя варожымі снарадамі і бомбамі бастыёны легендарнай Брэсцкай крэпасці...

Вагоны прагрукалі па стрэлках, і састаў павольна падышоў да разбуранага вакзала.

Стаянка была доўгая, і мы пайшлі ў горад. Вузенькія тратуары, зусім вышчарбленыя маставыя, на якіх цяжка размінуцца аўтамашынам. Шэрыя, нізенькія будынкі, неабгароджаныя бульвары, руіны і папялішчы... Такім убачылі мы горад.

З таго часу прайшло не шмат год, а паглядзіце на Брэст сёння! Горад-сад! Папрыгажэлі вуліцы, раздаліся ўшырыню. Па абодвух баках бульвараў — высачэзныя пірамідальныя таполі. Усюды кучаравяцца шырокакронныя каштаны, духмяныя акацыі. Прыгожае вязьмо чыгунных агарож бачым мы вакол бульвараў і на плошчах. Кветкі, зяляніна, пах нейкіх цудоўных раслін... Зусім не той Брэст!

Горад змяніўся непазнавальна. Ці даўно на вуліцах Леніна, Гогаля, Шырокай, Маскоўскай туліліся старыя, пахілыя драўляныя домікі. А зараз? Паглядзіце на здымак рогу вуліц Шырокай і Гогаля. Сапраўды прыгожыя дамы! У іх яшчэ зусім нядаўна справілі ўваходзіны навасельцы.



А ці ж мала цяпер такіх дамоў у горадзе! На будаўнічых пляцоўках тысячы муляраў, цесляроў, тынкоўшчыкаў, вадаправодчыкаў самааддана працуюць, каб зрабіць горад яшчэ прыгажэйшым. Дзесяткі магутных кранаў узнялі ў неба свае стрэлы. Самазвалы, бетонамяшалкі, бульдозеры, экскаватары, асфальтаўкладачныя машыны... Ці ж пералічыш усю будаўнічую тэхніку, якая дапамагае рабочым рукам тварыць цуд!

Так, савецкія людзі робяць цуд! Сямігадовы план, прыняты XXI з'ездам КПСС, надаў працоўным нашай Радзімы невымерныя сілы.

Пройдземся па Брэсту — гораду будучыні! Якім мы ўбачым Брэст, напрыклад, у 1965 годзе, у апошнім годзе сямігодкі?

Вось тут, ля новага шырокаэкраннага кінатэатра, увойдзем у бясшумны тралейбус і праедзем па зялёнай галоўнай кальцавой трасе.

Мы з вамі на плошчы, якая названа імем вялікага правадыра свету У. І. Леніна. На ёй узвышаецца помнік дарагому Ільічу. Рука правадыра працягнута на ўсход, як бы паказваючы: там неабсяжныя землі вялікага Савецкага Саюза, дзе жыве і працуе шматмільённы савецкі народ. На гэтай плошчы, упрыгожанай кветкамі і дрэвамі, збіраюцца брэсчане ў дні свят.

Тралейбус імчыць па вуліцы Леніна. Справа і злева — 4—5-павярховыя будынкі, утульныя скверыкі. Глядзіце ўперад — там, за зялянінаю ліп, уздымаецца зноў манументальны помнік. Тралейбус даімчаў нас да другой плошчы, яшчэ большай і прыгажэйшай. Гэта «вароты горада» — адсюль ідзе прамое і шырокае асфальтаванае шасэ на Мінск і Маскву. Цудоўна аформленая, прасторная і строгая, з гранітнымі і мармуровымі ўпрыгожаннямі, плошча вы-




Так будзе выглядаць Шырокая вуліца на перакрыжаванні з Інтэрнацыянальнай.



**Новыя дамы на скрыжаванні вуліц імя Гогаля і Шырокай.**
Фота І. Вірко.

клікае захапленне не толькі брэсчан, але і шматлікіх замежных гасцей, якіх нямала праязджае праз пагранічны горад. На плошчы — велічны помнік гераічнаму, бессмяротнаму гарнізону Брэсцкай крэпасці.

На рацэ Мухавец узнікне цудоўная шырокая набярэжная. Злева раскінецца гарадскі пляж з чыстым белым пяском. Паром перавязе вас на аксамітныя адхоны левага берага, дзе будзе лодачная станцыя, вышка, плавальны басейн для дарослых і дзяцей, а трошкі далей — невялікае возера.

Аднак вернемся ў горад. Мы ж яшчэ не былі на галоўнай магістралі Брэста — Маскоўскай вуліцы.

Глядзіце, якія будынкі, алеі, скверы! Так, нездарма называецца Маскоўскай гэтая вуліца! Вечарамі вітрыны магазінаў зззяюць шматкаляровымі агнямі. Уздоўж вуліцы — стройныя рады ліп і клёнаў. Яны ўпрыгожваюць галоўную магістраль горада, а ў спякотны дзень вабяць прахалодай свайго ценю. Як добра на галоўнай вуліцы! Чысціня, свежае паветра, гладкі, як шкло, асфальт і безліч кветак.

Пойдзем далей. Што гэта за вуліца пралегла ўлева ад Маскоўскай? Якая яна шырокая... Дык яе ж і назва — Шырокая... Паглядзелі б вы, што тут было 8—10 год таму назад. Нізенькія хацінкі з падслепаватымі акенцамі, брудная, у калдобінах дарога. Пасля дажджу людзі прабіраліся па вузенькіх дошчачках і цаглінах, пакладзеных проста ў гразь.

На перакрыжаванні Шырокай вуліцы з Інтэрнацыянальнай будзе збудаван вялікі прыгожы кінатэатр «Спартак». Залітыя асфальтам дарогі, тратуары, светлыя, шырокія вокны дамоў...

Трэба наведаць нам таксама і прадпрыемствы горада — вялікі механізаваны малочны завод, дывanова-плюшавы камбінат, жалезабетонны завод, новы гарадскі драматычны тэатр, міжшкольную майстэрню, пабываць на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці, дзе на абсаджанай зелянінай пляцоўцы гарыць вечны агонь памяці герояў цытадэлі над Бугам.

Чытачы спытаюць — усё гэта ёсць? Гэта будзе. Абавязкова будзе! Ужо цяпер ажыццяўляецца план генеральнай рэканструкцыі Брэста. Ужо сёння па рэкламах другога шырокаэкраннага кінатэатра жыхары даведваюцца, якія новыя карціны яны змогуць праглядзець. Ужо зараз па адной Маскоўскай вуліцы можна меркаваць аб тым, як ажываюць праекты і задумы архітэктараў: адзін за другім здаюцца ў эксплуатацыю жылыя дамы.

Магутныя машыны працуюць на вуліцы Шырокай, замошчваюць яе. Пабудаваны прыгарадны вакзал, завяршаецца пабудова новых вялікіх школ. Хутка ўсе вучні будуць займацца толькі ў адну змену.



Работы ідуць няспынна. Брэст ператвараецца ў вялікі прамысловы горад. Да канца сямігоддзя ён будзе адным з самых добраўпарадкаваных і культурных гарадоў рэспублікі. Для гэтага дзяржава не шкадуе сродкаў: толькі асігнаванні гарсавета на добраўпарадкаванне і будаўніцтва складуць за сямігоддзе 102 мільёны 638 тысяч рублёў.

— Пачалося абнаўленне горада! — гавораць брэсчане.

І гэта сапраўды так.

**А. АВЕЧКІН.**

# БУДЗЕ СВОЙ ПТУШКАКАМБІНАТ

Яшчэ нядаўна ў калгасе імя Тэльмана, на Заслаўшчыне, асноўнай крыніцай прыбыткаў быў лён. За вырошчванне ільну — калгаснікі-тэльманаўцы атрымалі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай вы-



**Тоня Бандзевіч, Ніна Дашчынская і сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Казімір Дашчынскі.**
Фота А. Дзітлава.

стаўцы дыплом другой ступені і прэмію — грузавік. Здавалася, што лён ды мяса-малочная жывёла і будуць асновай арцельнай гаспадаркі.

Аднак жыццё ўнесла змены. Два гады таму назад на калгасных землях, на прысвіслацкіх заліўных лугах заплюскаліся хвалі новага «Мінскага мора». Ранейшы калгасны зямельны масіў крыху паменшаў.

Калгаснікі на чале са сваім старшынёй - трыццацітысячнікам Ермалаем Паўлавічам Марголіным усё часцей задумваліся над тым, ці нельга велізарную прастору вадасховішча, створанага для рэгулявання воднага рэжыму ракі Свіслач у межах нашай сталіцы, выкарыстаць і для патрэб калгаса. А калі можна, то як?

Тэльманаўцы, вядома, чулі і чыталі пра стаўрапольцаў і кубанцаў, якія атрымліваюць вялікія прыбыткі ад развядзення качак вядомай пекінскай пароды. Але адна справа — чужыя поспехі і зусім іншая — свая ўласная рызыка. А раптам, нічога не выйдзе?

І ўсё ж адважыліся. Неўзабаве на «марскім» беразе, на пляцоўцы, выгараджанай драцяной сеткай, з'явіліся мажныя, дагэтуль невядомыя тут птушкі — пекінскія качкі. Беласнежныя, нібы ў пушыстых кажушках, яны важна шпацыравалі па беразе, чарадою накіроўваліся ў ваду...

Спачатку ўсё ішло добра. Але нечакана прышла бяда. Качкі пачалі гінуць адна за другой. З вечара як быццам усе здаровыя — плаваюць, ядуць добра, а назаўтра птушніцы зноў недалічваюць штук дзесяць ці больш «пекінак»... Ці то яны клімат наш не ўпадабалі, ці корм не той... Збянтэжаныя, птушніцы прапанавалі старшыні калгаса адмовіцца ад «пекінак». Але той не здаваўся:

— Будзем прадаўжаць пошукі!..

На дапамогу птушніцам прышлі аграном Зміцрок Лагафет і заатэхнік Ліда Васіленка. Увялі ў рацыён качкам спачатку дробную сечку з крапівы, потым муку з хвойнай ігліцы і, нарэшце, касцяную і рыбную муку. І справа хутка пайшла на лад: качкі больш не гінулі, а нават пачалі прыбываць у вазе, і калгас ад гэтай справы не панёс страты.



Тоня Бандзевіч і Ніна Дашчынская сярод сваіх гадаванцаў.

Летась калгас імя Тэльмана быў зноў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Але тэльманаўцы дэманстравалі ўжо не лён, як раней, а пекінскіх качак. Яны за кароткі час так навучыліся гадаваць гэтую каштоўную птушку, што па ўсіх паказчыках занялі першае месца ў Савецкім Саюзе, абагнаўшы птушкаводаў Стаўраполля і Дона. У першы год было атрымана, калі падлічыць на 100 гектараў ворнай зямлі, па 106,7 цэнтнера першагатунковага качынага мяса. Птушкаферма прынесла калгасу звыш 400 тысяч рублёў прыбытку.

Гэтыя поспехі былі адзначаны па заслугах. Старшыня калгаса Е. Марголін атрымаў вялікі залаты медаль удзельніка Усесаюз-





Старэйшая птушніца Ніна Іванаўна Садоўская.

най сельскагаспадарчай выстаўкі, аграном З. Лагафет і заатэхнік Л. Васіленка — малыя залатыя медалі. Шэсць птушніц, а сярод іх Ніна Іванаўна Садоўская, Алена Барысаўна Гапон і Палагея Антонаўна Ладыка — вялікія срэбныя медалі і прэміі: па швейнай машыне.

Птушкагадоўля адразу заваявала поўнае прызнанне ў калгаснай практыцы. За новую справу ахвотна ўзялася моладзь. Качыныя фермы рашылі стварыць яшчэ ў трох брыгадах. «Пекінкі» — птушкі далікатныя, ім патрэбны добры догляд. Сакратар камсамольскай арганізацыі Казімір Дашчынскі прапанаваў накіраваць птушніцамі самых лепшых дзяўчат-камсамолак.

— Трэба выдаць тым, хто пойдзе на фермы, камсамольскія пуцёўкі, — вырашыў камсамольскі сход. — І калі хто не апраўдае даверу, няхай адказвае па ўсіх правілах камсамольскай дысцыпліны!

Першыя пуцёўкі атрымалі Ніна Дашчынская і Тоня Бандзевіч. Праўленне калгаса хацела паслаць ім у дапамогу спрактыкаваную птушніцу, але дзяўчаты адмовіліся.

— Давяраеце нам, з нас і патрабуйце, — заявілі яны. — Мы не падвядзём!

Так на фермы прышла калгасная моладзь. Замяніла сваю маці Алену Барысаўну, якую накіравалі старшай птушніцай у суседнюю брыгаду, камсамолка Ніна Гапон, нядаўняя дзесяцікласніца. Ёй памагае і меншая сястрычка Вера...

Нялёгка дзяўчатам было на першым часе. Ніна Дашчынская і Тоня Бандзевіч прызнаюцца: яны не раз шкадавалі, што адмовіліся ад дапамогі спрактыкаваных птушніц. Толькі прывезлі з інкубатара маладняк, кволенькія жоўтыя камячкі, — як раптам пахаладнела, пайшоў снег. Крыху разгубіліся, але не надоўга. Нібы па трывозе, паднялася ўся моладзь. За некалькі гадзін уцяплілі памяшканне, правялі электрычнасць, павесілі вялікія абагравальныя лямпы — і ўсе качаняты былі ўратаваны. Дзяўчаты дзяжурылі ў птушніку і дзень і ноч.

У напружаных клопатах прайшлі першыя веснавыя месяцы. Ужо і май канчаўся. За гэты час тыя кволыя жоўтыя камячкі ператварыліся ў вялікіх адкормленых качак — кожная не меней як па два кілаграмы. Услед за першай падрастае і другая змена. А пад святлом электралямп зноў варушацца і ціха ціўкаюць маленькія качаняты — праз два месяцы будзе адкормлена трэцяя партыя качак...

Дзяўчаты-камсамолкі апраўдалі давер сваіх сяброў. Больш таго, яны зрабілі адкрыццё: «пекінак», аказваецца, можна выгадаваць не за два, як лічылі дагэтуль, а за паўтара месяца.

За месяц Дашчынская і Бандзевіч выпрацавалі па 220 працадзён. А ў калгасе імя Тэльмана на працадзень выдаецца грашыма па 10 рублёў!

Вялікую выгаду даюць калгасу пекінскія качкі. Куды большую, чым свінагадоўля. На адзін кілаграм качынага мяса затрачваецца кармоў у пераліку на грошы — па



**На ферме 4-й брыгады працуюць камсамолкі Тася Вайцюк і Марыя Маслоўская.**

6 рублёў 50 капеек. Ад продажу качак нарыхтоўшчыкам калгас атрымлівае 8 рублёў за кілаграм «жывой вагі». Качка ў сярэднім важыць 2,2 кілаграма. Яна набірае гэтую вагу за няпоўныя два месяцы. І выходзіць, што ад кожнай «пекінкі» атрымліваецца амаль тры рублі чыстага прыбытку. Хіба гэта не выгадна?

Вялікі плён абяцае птушкаводам сёлетні год. Згодна плана, яны павінны здаць на нарыхтоўчы пункт 80 тон качынага мяса — у два разы больш, чым у мінулым годзе; гэта выходзіць па 200 цэнтнераў на кожныя сто гектараў ворыва. І здадуць, абавязкова здадуць! Ужо ў пачатку лета ва ўсіх чатырох брыгадах было на адкорме больш 30 тысяч «пекінак». А для таго, каб выканаць свае абавязацельствы, тэльманаўцы павінны адкарміць 40 тысяч штук. Значыць, ёсць рэальная магчымасць — да канца года значна перавыканаць сваё заданне!

У тэльманаўцаў, як гэта і належыць, ёсць свой генеральны план на сямігоддзе. У ім не апошняе месца адведзена развядзенню пекінскіх качак.

Рэалізацыя качак, адкормленых калгасам, залежыць ад сувязі з нарыхтоўшчыкамі Мінска. Качкі адкормлены — іх трэба везці ў горад, на мясакамбінат. На мінскі інкубатар даводзіцца вазіць качыныя яйкі, а адтуль прывозіць — маленькіх птушанят. Гэта вельмі нязручна.

Узяць тую ж таварную качку. На камбінат яна здаецца жывой, разам з пухам і пер'ем. Качынае пер'е каштуе 40 рублёў за кілаграм, а пух — 60 рублёў. Такім чынам, толькі ад рэалізацыі пуху ды пер'я калгас недабірае каля ста тысяч рублёў за год.

Вось чаму ўсё больш задумваюцца калгаснікі над пытаннем: а ці нельга зусім адмовіцца ад такіх дарагіх паслуг нарыхтоўшчыкаў ды самім здаваць качынае мяса ў чыстым выглядзе?

Падлічылі свае магчымасці, прыкінулі ўсе «за» і «супраць». І пераканаліся — можна! У плане калгаснай сямігодкі з'явіўся новы і вельмі важны пункт: не пазней, як у будучым годзе, стварыць уласны інкубатар, уласны забойны пункт і халадзільнік для падрыхтаваных да продажу качак. Адразу ж з калгаса першагатункова качынае мяса будзе паступаць на прылаўкі мінскіх і заслаўскіх магазінаў, мінаючы ўсе «абслугоўваючыя» арганізацыі.

У калгас ужо прыбыло абсталяванне для інкубатара. Ёсць і памяшканне. Гэта сведчыць аб тым, што разумнае рашэнне калгаснага праўлення будзе здзейснена.

— Мы зробім усё самі, сваімі сіламі, — гаворыць сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Казімір Дашчынскі. — Хутка ў нас будзе свой калгасны птушкакамбінат!..

Верыш, што словы гэтыя збудуцца. Такія энтузіясты, як камсамольцы калгаса імя Тэльмана, не пашкадуюць сіл і энергіі на тое, каб выканаць свае вялікія планы.

**А. МІРОНАЎ.**

**Калгас імя Тэльмана Заслаўскага раёна.**

*Гары, камсамольскі аганёк!*

# КАМСОРГ МІКОЛА ПУЧЫНЕЦ

Калі Міколу выбралі камсоргам, ён сур'ёзна задумаўся — ці справіцца. Да гэтага справы ў камсамольскай арганізацыі неяк не ладзіліся, за год змянілася некалькі сакратароў. І вось цяпер выбралі яго, Мікалая Пучынца.

Думаючы пра свае новыя абавязкі, Мікалай раптам спахапіўся, што ўжо вечарэла. З канторы ўсе разышліся. Мікалай прайшоўся сюды-туды і расчыніў акно. Дыхнула духмяным пахам свежага сена, у пакой данесліся пераборы гармоніка.

Замкнуўшы шафу, Мікалай пайшоў адразу ж на вечарынку.

У хаце, дзе сабралася вясковая моладзь, гарманіст спрытна іграў на трохрадцы. І ў круг адна за другой выходзілі пары.

Міма Міколы няўпэўненай паходкай прасунуўся доўгі, хударлявы хлопец. Ад яго несла самагонкай. Выбраўшы адну з дзяўчат, што збіліся ў кутку, ён сілком цягнуў яе ў танец.

Колькі разоў бачыў Мікола такое. Яму даўно не падабаліся гэтыя танцулькі, якія рэдка калі канчаліся добра. «Можа з гэтага і трэба пачынаць», — мільганула думка ў новага сакратара.

Вядома, з такімі танцулькамі трэба пакончыць. А што вось гэтым хлопцам і дзяўчатам даць замест іх? Гэта ж не ў горадзе, дзе табе і прасторныя клубы, і залітыя электрычным святлом тэатры і кіно...

Сваімі думкамі Мікола рашыў назаўтра падзяліцца з Чаславай Шчыглоўскай, якая побач з ім працавала ў калгаснай канторы. Дзяўчына вельмі ўважліва выслухала Міколу, смяшліва бліснула вачыма і сказала:

— Эх ты, фантазёр!

Справы ў Пучынца не ладзіліся. На камсамольскім сходзе, які неўзабаве адбыўся, ішла размова аб стварэнні самадзейных гурткоў. Стварылі, але на першую рэпетыцыю ніхто не прышоў, апрача настаўніцы Зоі Баркун.

Няўдача не збянтэжыла Міколу. Наадварот, ён паставіў за мэту дамагчыся таго, што задумаў. Пайшоў па хатах. Пагутарыў з дзяўчатамі — Вольгай Кутасевіч, Насцяй Амяльчук і Марыяй Вайніловіч. Упіраюцца: маўляў, і часу ў іх няма, і спяваць яны не ўмеюць, не кажучы ўжо каб у артысткі падацца.

Тады Мікола, перабіраючы ў памяці сваіх людзей, сказаў сам сабе: «А што, калі да Пятра Сцяпанавіча Андрушкевіча заглянуць? Ён некалі быў добрым завадатарам. Можа ён падкажа, што рабіць...»

Пятро Сцяпанавіч уважліва слухаў Міколу і з хітрынкай у вачах сказаў:

— Да старой гвардыі, значыцца, рашыў звярнуцца. Добра.

Андрушкевіч сказаў, што ён адзін — гэта яшчэ не хор. Трэба схадзіць да каваля Мікалая Казака, конюха Уладзіміра Кепцюха. У гэтых мужчын галасы добрыя. Калі што якое, дык ён і сам з імі пагутарыць. Тады ўжо можна будзе пра хор гаворку ладзіць...

На развітанне Андрушкевіч параіў:

— А ты, хлопча, баяніста нам добрага знайдзі!..

— Абавязкова, Пятро Сцяпанавіч, знойдзем!

Адпрасіўшыся ў старшыні калгаса, Мікола паімчаў у раён. Дамовіўся з дырэктарам раённага Дома культуры наконт баяніста.

...Зноў прызначылі рэпетыцыю. Прышло не многа спевакоў. Больш было старонніх гледачоў. Яшчэ напярэдадні хлопцы і дзяўчаты прачулі, што прыедзе баяніст, і прышлі паслухаць.

І здарылася незвычайнае. Папускаўшы вочы, чырвоныя, ці то ад сораму, ці ад хвалявання, пад канец рэпетыцыі дзяўчаты адна за адной пачалі далучацца да спевакоў. Прыклад з іх бралі нават некаторыя з хлопцаў. «Вось і зразумей гэткіх людзей!.. — разважаў, радуючыся, Мікалай. — Колькі хадзіў, упрошваў, хоць бы хто адгукнуўся... А цяпер, на табе!..»

Першы канцэрт быў на свята Кастрычніка. Шмат і клопатаў і выдумкі прыклалі арганізатары вечара, каб не было сумна і маладому, і старому. Павесяліліся, пагулялі цудоўна. Чутка пра той вечар разнеслася па акаліцы. Харыстаў запрашалі ў адну брыгаду, у другую. А потым здарылася такое, чаго не чакалі нават і самі харысты. Іх павезлі ў суседнія калгасы, у райцэнтр і нават у Брэст.

Увачавідкі дужэла і набіралася сілы камсамольская сям'я. Камсамольцы нават і не заўважылі, як сумесныя рэпетыцыі, вечары, паездкі з канцэртамі аб'ядноўвалі іх, дапамагалі дружбе.

І моладзь смялей пацягнулася да камсамольцаў. У члены камсамола ўступілі Саша Новік, Валодзя Барлюк, Юля Ляхновіч... Ды хіба пералічыш усіх, калі іх цяпер больш за сто—юнакоў і дзяўчат!

Неяк увосень пагодлівым ранкам да калгаснай канторы падкаціў райкомаўскі матацыкл. Сакратар райкома камсамола доўга распытваў у Міколы пра гаспадарчыя і камсамольскія справы. Асабліва цікавіўся жывёлагадоўляй. Усё сыпаў і сыпаў пытаннямі: ці многа ў калгасе жывёлы, хто даглядае яе, як падрыхтаваліся да зімы, ці хопіць кармоў? Мікалай адказваў на пытанні, а сам міжволі думаў: «Вось прычапіўся... Схадзіў бы на фермы ды сам паглядзеў...» А больш за ўсё яго непакоіла: чаго ўсё ж дамагаецца ён? Што яму трэба?

А сакратар райкома быццам адгадаў Міколавы думкі. Хутка ўстаў, расправіў туга падпяразаную папругай гімнасцёрку, усміхнуўся:

— Не здагадваешся, чаго прыехаў?

— Не, — шчыра прызнаўся Мікола.

— Што ж, сакрэт адкрыю на людзях...

Неўзабаве знаёмы матацыкл імчаў палявой дарогай, чапляючы на колы срабрыстае павуцінне «бабінага лета». У Сабалі прыехалі пад абед і адразу ж пайшлі да калгаснікаў, што мялі лён.

— Праходзьце, не саромейцеся, — смяяліся дзяўчаты, — кастрыцай прыпудрым.

— Каб папрыгажэлі, то можна,—жартавалі госці.

Слова за слова — і пацякла гаворка. Мікола заўважыў, як знікае першая няёмкасць. Мусіць-такі сакратар умее гаварыць з людзьмі. Тут жа ён дамовіўся з дзяўчатамі наконт звеннявой па кукурузе, расказаў шмат цікавых навін пра суседзяў.

... Усю зіму дванаццаць дзяўчат на чале з Ганнай Аскірка вывучалі агратэхніку, збіралі попел. Напрадвесні прышлі да старшыні:

— Пад кукурузу, Мікалай Парфенавіч, трэба найлепшы ўчастак!..

— Во, чаго захацелі...

І пачалася спрэчка. Дзяўчат падтрымаў Мікола.

Часлава, якая прысутнічала пры гэтым, бачыла, як гарачыўся Мікалай, спрачаючыся са старшынёй. «Ага, усё ж закранула за жывое...—думала дзяўчына. — Бадай, будзе з яго сакратар».

А Мікалай усё насядаў на старшыню. Не адставалі ад яго і кукурузаводкі.

— Добра, нарэжам вам участак, — здаўся, нарэшце, старшыня. — Ды глядзіце мне, каб быў парадак,—і, бразнуўшы дзвярыма, вышаў з канторы.



Дзяўчаты пераглянуліся і засмяяліся.

А Мікола падумаў: «Зубастыя. З такімі працаваць можна».

Дзяўчаты вырасцілі ў той год добрую кукурузу — па 450 цэнтнераў з гектара. За гэта звеннявая Ганна Аскірка атрымала ордэн «Знак Пашаны», а члены яе звяна — граматы абкома камсамола.

Мікола прыкмеціў, што цяпер праўленне і старшыня калгаса пачалі неяк інакш ставіцца да камсамольцаў. Сціхлі кпіны, што гучалі раней: «Ат, моладзь цяпер пайшла—толькі гулі ды танцулі ў галаве!»

Калі размова зайшла пра ўмацаванне кадраў жывёлаводаў, праўленне рашыла звярнуцца за дапамогай да камсамольцаў.

— Ёсць у цябе хто-небудзь на прыкмеце? — запытаў у Міколы старшыня.

Мікола марудзіў з адказам — ён добра ведаў, што пайсці на ферму ахвотнікаў не многа. «Вось хіба...», і памяць падказала яму адну дзяўчыну з суседняй вёскі — Соню Куклюк, з якой пазнаёміўся ён на школьным выпускным вечары. Пасля заканчэння дзесяцігодкі яна нікуды не паехала. Можа згодзіцца. У яе ж і сястра ёсць, можа і тая пойдзе.

— Ну, што ж маўчыш? — паўтарыў старшыня.

— Пашукаем, можа знойдзем, — нарэшце адазваўся Мікола.

У той жа вечар камсорг пайшоў у сёмую брыгаду. Зайшоў у Куклюкову хату. Соня ў просценькай, выцвілай сукенцы сядзела за кроснамі. Яе сястра Жэня пры акне нешта вязала. Дзяўчаты зачырванеліся. Відаць, не чакалі госця і таму крыху збянтэжыліся.

Мікола, павітаўшыся, пажартаваў:

— Не палохайцеся, я не ў сваты...

Слова за слова, і Міколу ўдалося дзяўчат разварушыць. Спачатку гаварылі пра жыццё-быццё, потым загаварылі пра фермы. Сёстры насцеражыліся. І хоць ужо стала ясна, куды гне сакратар, але маўчалі. А калі ён скончыў, малодшая не вытрымала:

— Значыць, агітаваць нас прышоў. Не пойдзем мы!..

— Не гарачыся, Жэнька, — перапыніла сястру Соня.

— Як гэта не гарачыся... Сама ж гаварыла, што на ферме няма парадку: брудна, даяркі без халатаў...

— Мала што гаварыла...

Жэня здзіўлена пазірала на яе...

Неўзабаве Мікола «завербаваў» даяркамі яшчэ дзвюх дзяўчат — Ганну Ляхновіч і Марыю Кепцюх. Так на ферме была створана камсамольска-маладзёжная група.

...З тых пор калі новы сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Мікола Пучынец рабіў свае першыя крокі, шмат часу прайшло, шмат змен адбылося. Змяніўся і сам Мікола. Сёння — ён сталы важак моладзі, член бюро райкома камсамола. Ён згуртаваў калгасную моладзь, камсамольскіх актывістаў у вялікую ўдарную сілу на вёсцы.

Пабывайце сёння ў калгасе «Запаветы Леніна», і вы пераканаецеся, што гэта сапраўды так. Усе камсамольцы, а іх больш за сто чалавек, на адказных участках. Гэта яны ўзялі шэфства над вырошчваннем кукурузы. Створана восем камсамольска-маладзёжных звенняў, якія ўзначальваюць нашы знаёмыя — Ганна Аскірка, а таксама Лена Міклашка, Марыя Скарына, Вера Троцкая і іншыя. Маладыя жывёлаводы змагаюцца за званне калектыву камуністычнай працы. Групкамсоргам на жывёлагадоўчай ферме — Соня Куклюк. Яна шчыра ўдзячна Міколу, які ўгаварыў яе заняцца жывёлагадоўляй, а потым параіў паступіць завочна ў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Дзяўчына здае экзамены за другі курс.

Многа вялікіх і малых спраў зрабілі камсамольцы. Яны —



Даярка Соня Куклюк і камсорг Мікола Пучынец.

арганізатары нядзельнікаў па вывазцы ўгнаенняў, на будаўніцтве клуба, па добраўпарадкаванню дарог і вуліц... Усяго не пералічыш!..

Рэпетыцыя скончылася. Часлава і Мікола апошнімі вышлі з клуба. Стаяла на дзіва светлая ноч. Усё навокал, — і круглы, як люстэрка, месяц, і заснуўшая вёска, і нават хмызнякі, спавітыя кудзелістым туманам, — здавалася такім чараўнічым і казачным, што мімволі залюбуешся.

Ішлі павольна і моўчкі. Кожны, відаць, думаў пра сваё — нешта харошае, прыгожае. Парушыў цішыню Мікола. Ён першы, памятаючы аб сваім «кавалерскім абавязку», парушыў доўгае маўчанне:

— Ведаеш, Часлава, пакуль ты была ў ад'ездзе, мы тут тое-сёе зрабілі.

Часлава ў думках была дзесьці далёка і не адразу ўлавіла, аб чым гаварыў Мікола.

— Цікава, — азвалася дзяўчына.

Мікола расказаў сяброўцы, што камсамольцы паставілі ў вёсцы Бармуты помнік былому адважнаму падпольшчыку Мартыну Вячорку, які загінуў ад рукі прававатара, абгарадзілі помнік, сквер пасадзілі.

— Малайцы! — ажывілася дзяўчына і дадала: — Памяць такіх людзей шанаваць трэба...

— Ды гэта яшчэ не ўсё, — працягваў Мікалай, захоплены ўвагай Чаславы. — Стадыён у нас ужо ёсць!

— Так хутка? — здзівілася Часлава і запытала: — Дык раскажы, як гэта вы ўправіліся?

— З праўленцамі прышлося цэлы бой вытрымаць, — прадаўжаў Мікола. — Нават старшыня калгаса быў супраць. Прыехаў Труцько з раённага аддзела фізкультуры, разам уламвалі калгаснае начальства. На наша шчасце, заехаў у кантору сакратар райкома партыі і нас падтрымаў. Тады ўсё вырашылася. Цяпер ёсць дзе трэніравацца, гуляць у валейбол...

Часлава маўчала. «Што гэта з ёй? — губляючыся ў здагадках, думаў Мікола. — Нейкая незвычайная яна сёння».

— Аб чым думаеш, Чэся?

— Я... Ды аб апошняй рэпетыцыі, — ціха азвалася дзяўчына. — Ведаеш, у цябе роля старшыні не блага выходзіць...

I зноў змоўкла. Маўчаў і Мікола. Успомнілася чамусьці хатка Чаславы. Быў ён там у чэрвені. Пасля святкавання Дня моладзі ў Бярозе. Тады Ганна — сястра Чаславы — запрасіла яго, каб да іх прыходзіў, а потым і запіску прыслала.

... Яны ўжо мінулі вёску, ішлі палявой дарогай між высокіх жытоў, а Мікола ўсё маўчаў. «Што гэта з хлопцам? Усё маўчыць, — і Часлава адчула, як чырвань апякае шчокі. — На людзях такі смелы, упэўнены, жартаўлівы. Са мной жа толькі і гаворкі, што пра адны справы...»

Доўга хадзілі яны, прытуліўшыся адзін да аднаго, у тую ноч. Шмат гаварылі. Аб дружбе, аб каханні, пра будучыню. Будучыня! Яна ўяўлялася ім светлай і празрыстай, без адзінай хмурынкі. Будуць яны заўсёды поплеч ісці па сваёй жыццёвай дарозе...



... Звонкай песняй, вірлівымі пералівамі гармоніка, віхрам полькі і казачка адшумела камсамольскае вяселле. На вяселлі былі і райкомаўцы. Маладым было сказана шмат цёплых слоў, шмат было шчырых пажаданняў.

Калі вышлі з хаты перадыхнуць, сакратар райкома Сцяпан Амялюсік, абдымаючы жаніха, сказаў:

— Віншую цябе, Мікола, веру, што не саб'ешся з дарогі. Чаславу беражы... Слаўная яна ў цябе... Ну... і зразумела, аб справах нашых камсамольскіх не забывай. Вось табе мой наказ...

У такіх людзей, як Мікалай, заўсёды на першым плане інтарэсы калектыву, інтарэсы грамадства. Радасці і нягоды сяброў ён прымае блізка да сэрца. I гэта — адна з лепшых рыс нашага сучасніка.

Мікола Пучынец па-ранейшаму ўвесь у турбоце аб родным калгасе. Як і раней, ён узначальвае камсамольскую арганізацыю. Хочацца моцна паціснуць яму руку і пажадаць новых поспехаў.

**В. ІЛЬЮШЫН.**

**Калгас «Запаветы Леніна» Бярозаўскага раёна,**

# ЯНЫ ПАЛЮБІЛІ ПРАЦУ

Школьны двор набыў выгляд будаўнічай пляцоўкі. З рыдлёўкамі, ламамі ў руках спрытна завіхаюцца падлеткі. Сюды-туды снуюць знаёмыя паўтаратонкі з надпісам на бартах «Школьная». З кабіны выглядае расчырванелы хлапчук у ссунутай на патыліцу кепцы і крычыць: «Хлопцы, дарогу!» Гэта Валеры Кардакоў — брыгадзір школьнай будаўнічай брыгады, якую стварылі старшакласнікі школы № 9 горада Брэста.

У другім канцы двара чутно:

— Вася, не затрымлівай канвеер!

Канвеер — гэта доўгая чародка вучняў, якія адзін другому перадаюць цагліны. Смех, жарты, але работа спорна ідзе. Што значыць — калектывам!

Школьнікі ахвотна разгружаюць цэглу, пясок. Хутка яны возьмуцца і за больш складаную работу — будуць мураваць сцены, атынкоўваць іх. I ўжо хвалююцца; ці справяцца самі?

— Не турбуйцеся, хлопцы, — супакойвае вучняў інструктар па працы Іван Парфёнавіч Калашнікаў. — Мы запрасілі добрых муляраў, яны раскрыюць вам свае сакрэты...

I вось настаў урачысты дзень закладкі першай цагліны школьнай новабудоўлі — будынка вучэбна-вытворчай майстэрні. Мураваць сцяну становяцца Юры Казлоў, Пётр Дуванаў, Юры Дыннікаў, Барыс Назараў. Побач занялі месцы і дзяўчаты. Выходзіць, не такая ўжо і складаная гэта справа. Вядома, тут адыгралі сваю ролю заняткі, якія праводзіліся загадзя.

Са школьнікамі на будоўлі ўвесь час працуюць настаўнікі. Час-ад-часу яны падыходзяць то да аднаго, то да другога вучня, каб ацаніць іх работу:

— Добра. Правільная кладка!

Праўда, не ва ўсіх новая справа пайшла гладка. Адны ніяк не маглі прызвычаіцца да кельмы, другія баяліся запэцкацца растворам, спалохаліся, што навярэдзяць рукі. За гэта прышлося пачырванець на савеце брыгады Вечаславу Зуеву,

Тоні Алімпіевай, Людзе Далганавай і другім.

Калі хто пачынаў хныкаць, сябры адказвалі:

— Не пішчаць!

Ныцікаў ставілі поплеч з тымі, хто працуе весела, з агеньком.

Працай, аказваецца, можна выправіць самы круты характар. Валянцін Ярашэнкаў раней сваволіў, ленаваўся вучыцца. А паглядзіце на хлопчыка сёння! Яго быццам падмянілі. Валянцін — лепшы будаўнік у брыгадзе.

У школьных будаўнікоў выпрацавалася правіла — адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. У супольнай працы школьнікі згуртаваліся ў дружную сям'ю.

Праз паўгода ўмелымі рукамі вучняў на школьным двары быў збудаваны прыгожы будынак для майстэрняў.

У брыгадзе кожны знаходзіць сабе занятак па душы, навучаецца той справе, якая яго найбольш цікавіць. Школьнікі набылі спецыяльнасць муляра, тынкоўшчыка, бетоншчыка... І не дзіўна, што пасля таго, як збудавалі майстэрню, члены брыгады з ахвотай узяліся за новы аб'ект. Менш як за два месяцы яны пабудавалі цяпліцу. Сёлетняй вясной у школьнай цяпліцы зацвілі гуркі, зазелянела цыбуля, вырашчана шмат кветак.

Вучнёўская вытворчая будаўнічая брыгада працуе трэці год. Ужо летась многія дзесяцікласнікі не толькі атрымалі атэстат сталасці, але набылі і вытворчую спецыяльнасць. Іх не хвалявала пытанне: кім быць? Куды пайсці? У іх быў ужо цвёрды выбар. Ранейшых выпускнікоў школы № 9 можна цяпер сустрэць на прадпрыемствах і будоўлях горада.

У школьнікаў-будаўнікоў ужо ёсць сякі-такі вопыт. Ім, энтузіястам, пад сілу шмат якія работы. І не выпадкова, калі загаварылі аб прыбудоўцы для школы, яны дружна заявілі:

— Гэта работа нашых рук!

І юныя энтузіясты ўзяліся за справу. Ім дапамагалі бацькі. Часта можна было бачыць, як пасля змены да школьнага будынка спяшаліся сталыя людзі, якія разам са сваімі сынамі і дочкамі станавіліся на рыштаванні.

Школьны будынак раздаўся ўшыркі. У вучняў будзе прасторная фізкультурная зала, фізічны і хімічны кабінеты, збудаваныя сваімі рукамі.

Школьныя будаўнікі толькі ў мінулым навучальным годзе здалі ў эксплуатацыю сотні квадратных метраў плошчы, сэканоміўшы дзесяткі тысяч рублёў.

— Школьная вытворчая брыгада загартавала вучняў, — у адзін голас гавораць настаўнікі. — Яны палюбілі працу, здружыліся, сталі больш упэўненымі ў сваіх сілах.



**У вучэбна-вытворчай майстэрні.**
Фота В. Долькіна.



Цяпер брыгаду школьных будаўнікоў узначальвае камсамолка Зоя Дрозд. Яна расказвае, што савет уважліва сочыць за працай членаў брыгады, рэгулярна падводзяцца вынікі, вызначаюцца пераможцы. Імёны лепшых заносяцца на Дошку гонару. Пераможцаў узнагароджваюць каштоўнымі падарункамі, робяць іх здымкі ля разгорнутага сцяга школы.

... Цвёрда верыш, што, атрымаўшы атэстат сталасці, сённяшнія вучні — члены будаўнічай брыгады — скажуць: шчырае дзякуй табе, родная школа і камсамол! Вы далі нам пуцёўку ў жыццё, загартавалі нашы сілы.

**М. СУША.**

*З блакнота падарожніка*

Аляксей СІНІЛАЎ

# СІНЯВОКІ ПРЫНЁМАНСКІ КРАЙ

### Прыгожа не толькі тое, што далёка

З Анатолем Аляксандравічам мы пазнаёміліся летась на адным з курортаў Прыкарпацця.

Пазнаёміліся і пасябравалі. Блукалі па наваколлю. Аднаго разу непрыкметна дайшлі аж да Барыслава. Гэта — цікавы горад. Глядзіш — вуліца, шматпавярховыя дамы, а за 30—40 крокаў — нафтавыя вышкі. Горадам мы зацікавіліся яшчэ і таму, што напярэдадні прачыталі кнігу «Барыслаў смяецца» Івана Франка.

Другім разам мы, жыхары раўніннай Беларусі, узабраліся на самую высокую гару. З яе адкрываўся прыгожы краявід. І хоць наўкол віднеліся не сапраўдныя горы, а прадгор'і, — Карпаты былі недзе далёка, — паглядзець было на што. Ад падэшвы гары па яе адхону знізу ўверх бягуць абшары ўзаранай зямлі, потым недзе яны раптам абрываюцца. Гара становіцца ўсё больш крутой. Уся яна аж да вяршыні пакрыта лесам.

Бук, ліставўніца, бяроза, елка, сасна растуць у гэтых горных лясах. Сустрэлі мы зусім дзівоснае дрэва, якому за звычку пад восень скідаць з сябе кару далі мянушку «сарамотніца».

Тут, на гары, мы загаварылі аб роднай Беларусі, аб Нёмане. Анатоль Аляксандравіч Ульянаў аказаўся выдатным знаўцам гэтай ракі, расказаў аб ёй шмат цікавага. І не дзіўна. Ён жа ўзначальвае ў Гродна тэхнічны ўчастак рачнога флоту. Новы знаёмы мой расказвае, а я ўсё больш і больш пераконваюся, як дрэнна ведаю Нёман.

У розны час і ў розных месцах — у вярхоўі, нізоўі і на сярэднім цячэнні — мне не раз даводзілася бываць на яго берагах, бачыць яго ў навальніцу і ў ціхае надвор'е, у грозную веснавую паводку, калі ён затапляе ўсё наваколле і, змятаючы ўсё на сваім шляху, нястрымна імкнецца да мора; даводзілася бачыць яго і засушлівай летняй парой, калі ён мялеў і на перакатах скрозь празрыстую ваду жаўцелі пясчаныя косы.

Успамінаецца мая сустрэча з Нёманам у ваенны час. Было гэта недалёка ад вусця, дзе ён, апрануты з абодвух берагоў высокімі



дамбамі, уліваўся ў Балтыйскае мора. Тады на гэту паўнаводную раку я глядзеў вачыма салдата III Беларускага фронта. Магутная, шырачэнная, імклівая рака. Прыгожая? — не памятаю. Запомнілася толькі, што сапёры, якія пад агнём ворага будавалі мост, задумённа пагаварвалі:

— Вось дык арэшак...

— Нёман — гэта гучна, прыгожа, паэтычна! — гаварыў далей Анатоль Аляксандравіч і, падняўшы ўгару палец, паўтараў з той паэтычнасцю, з якой могуць вымаўляць гэтае слова толькі беларусы: — Нёман!

Я не заўважыў, як загарэўся жаданнем паехаць, абавязкова паехаць па Нёмане, убачыць усё самому. Здараецца ж часам такое: думка, уміг авалодаўшы табой, не дае спакою ні на хвіліну, узрушыць усяго цябе.

Ехаць... А як?

— Неўзабаве наш цеплаход пойдзе па ўсяму сярэдняму і верхняму Нёману, — сказаў Анатоль Аляксандравіч. — Паедзем, паглядзім. Хіба ж прыгожа толькі тое, што далёка?

Апошняе было сказана так, нібы кінут каменьчык у мой агарод. Ульянаў чамусьці лічыў, што я залішне захапляюся хараством Прыкарпацця.

### На цеплаходзе «Нёман»

І вось стаю побач са штурвальнай рубкай. Шлях мы пачалі знізу. Наша падарожжа абяцае быць цікавым, бо, апрача Нёмана, мы наважыліся пабываць на Шчары, паглядзець Налібокі.

Еду і новымі вачыма гляджу на знаёмыя месцы, пазнаю і не пазнаю іх.

Нёман паўнаводны. Каля Гродна — вышэй і ніжэй ад яго — ён заціснуты з двух бакоў высокімі берагамі, яму цесна, і не кожную зіму марозу ўдаецца закаваць яго ільдом. Рака бурліць і пеніцца, грызе і точыць свае берагі, і там, дзе гэтыя берагі не ўмацаваны, яны апаўзаюць, абрушваюцца, падмытыя імклівай нёманскай хваляй, разам з векавымі соснамі, што растуць на іх.

Нёман увесь у руху, у бясконцай цяжкой працы.

Мясцінамі яго цела напружваецца, пакрываецца вузламі стальных мускулаў, бяздоннымі вірамі і стромамі. Вада злосна круціць і свідруе дно. Пападзецца сюды ламачына, і нейкая невядомая сіла адразу пацягне яе ўніз. А непадалёку нейкая другая сіла падымае са дна перамыты залацісты пясок.

Не дбае Нёман ні пра адпачынак, ні пра навядзенне хараства, а, як заўзяты працаўнік, адкладваючы ўсё гэта на потым, на той час, калі будзе зроблена самая цяжкая работа, усё з новай сілай кідаецца ўперад, сваімі шырокімі дужымі грудзямі, прабіваючы дарогу між высокіх круч і абрываў.

Калі ж Нёман вырвецца з вузкіх каменных варот узвышша, ён дасць адпачыць натруджаным мускулам і разальецца велічна ў сваіх шырокіх берагах. Тады можна бачыць, як напрыклад, у Дру-



На Нёмане каля г. Масты.



Горад Гродна.

скінінкай сумесна з тысячамі курортнікаў на выдатнейшым пляжы ён пясціцца, зіхаціць мірыядамі сонечных праменняў і ўсім сваім бесклапотным святочным выглядам дае зразумець, што ён, як і тыя курортнікі, таксама адпачывае.

А вось каля Гродна на дзесятак кіламетраў нідзе — ні ўгары, ні ўнізе — не ўбачыце ні аднаго хаця б невялічкага пляжа. А ён так патрэбен! Відаць, Нёман у цяжкай працы, у барацьбе з перашкодамі забыў зрабіць гэта. У ваколіцах горада няма адхонных берагоў, таму няма і пляжаў. І гродзенцы імкнуцца ў нізоўе яго, а ў дні адпачынку густа «засяляюць» і малыя рэкі.

Мінаем вусце адной з іх — Белая Ганьча. Сярод гродзенскіх спінінгістаў яна славіцца як рыбная рака. Некаторыя песімісты, праўда, едучы сюды, загадзя гавораць:

— Калі не зловім рыбы, дык наглядзімся...

Яны маюць падставу так гаварыць, бо паглядзець сапраўды ёсць што. Белая Ганьча — гэта нешта такое, што засталося некранутым з самых старажытных часоў. Чалавек, здаецца, наведвае гэтыя мясціны толькі дзеля таго, каб налюбавацца дзіўнай прыгажосцю. Рака — не шырокая, імклівая і шумная, нібы цячэ яна не па раўніне, а спадае з гор. Глядзіш на ваду — а яна, як жывая, кідаецца да берага, грызе і точыць яго, а праз хвіліну якую ўжо цячэ між высачэзных абрывістых берагоў. А там далей у бяздумнай лютасці закідала свае рэчышча вырванымі з карэннем дрэвамі і ад гэтага стала яшчэ больш злоснай — шуміць і пеніцца. Над кручамі ў нерашучасці стаяць небаранi-рыбаловы: яны ўпэўнены, што ёсць, абавязкова ёсць шчупакі ў гэтай прорве. Ды як падступіцца да вады?

А вось яшчэ адно вусце. Звысоку пазірае на сваволькіцу Белую Ганьчу Чорная Ганьча. У глыбіні душы яна, мусіць, лічыць выхадкі сваёй сястры проста няўрымслівасцю малога дзіцяці, якому далі волю і якое ўсю сваю энергію траціць на тое, каб забаўляцца, бо сама Чорная Ганьча — паўнаводная і такая ж прыгожая — цячэ паціху, пазірае на свет горда, трымаецца спакойна, нібы ўсведамляючы ўласную годнасць.

Калі пройдзеш крыху ўверх па Ганьчы, убачыш канал і першае гідратэхнічнае збудаванне, зробленае яшчэ ў 1825 годзе. Выкладзеная высечаным каменем камера шлюза, дубовыя вароты, мост над камерай, што вісіць на таўшчэзных ланцугах, — усё захавалася. Памеры, праўда, крыху не сучасныя.

Сям'я магутных дубоў падняла над шлюзам свой зялёны шацёр. Так зрабілі нашы прадзеды: пракапалі канал, пабудавалі на ім шлюзы і ўпрыгожылі іх дзесяткамі маладых дубкоў, а камяні, адпаліраваўшы, паклалі замест лавак. Усё рабілася старанна, на стагоддзі. ...Мы плывём на цеплаходзе «Нёман» далей. Нёман тут ва ўсім, дыханне яго адчуваецца ўсюды.

«Нёман» — вядомы ў нашай краіне і за яе межамі шклозавод на Навагрудчыне. Зробленыя бярозаўскімі ўмельцамі вырабы з крышталю і накладнога шкла, пасапраўднаму ўпрыгожваюць быт працоўных. Нездарма ж завод атрымаў на Сусветнай выстаўцы 1958 года ў Брусэлі бронзавы медаль.

«Нёман» — лепшы на рацэ цеплаход.

«Нёман» — гэтае імя з гонарам носіць не адзін калгас.

«Нёман» — лепшыя папяросы, якія выпускаюцца Гродзенскай табачнай фабрыкай.

«Нёман» — лепшая ў Гродна гасцініца.

«Нёман» — так называюць зборнікі сваіх лепшых твораў пісьменнікі Гродзеншчыны.

«Над Нёманам» — назвала свой раман польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая доўга жыла ў наднямонскіх вёсках і ў Гродна. Зачараваная хараством Нёмана, яна паэтычна адлюстравала ў многіх сваіх творах беспрасветнае жыццё працоўнага люду, сацыяльную няроўнасць і панскі прыгнёт.

«Над Нёманам» — так названы многія творы беларускіх пісьменнікаў аб сучасным жыцці ўз'яднанага ў адзінай савецкай дзяржаве беларускага народа.

Многа добрых песень падарыў народ любімай рацэ. «Ты разліся, Нёман» — адна з безлічы такіх песень. Яна — прывольная і свабодная, задумлівая і шырокая, як і сама рака.

### Яго нельга не любіць

Едзем — і нічога іншага не відаць, апроч крутых берагоў. З двух бакоў яны грозна навісаюць над вадой. Сцяной стаіць круча, загарадзіўшы сабой паўнеба. Па аголеных у разрэзе пластах хоць вывучай будову зямной кары. Вось пад тонкім пластам глебы залягае трохметровая тоўшча пяску, які ляжыць на шчыльнай падушцы з гліны і стаў таму ваданосным пластам. Ніжэй — два гарызонты валуннай гліны, раздзеленыя разнастайнымі пластаватымі ўтварэннямі: верхні пласт мае чырвона-бураваты колер, ніжні, больш шчыльны, — попельна-шэры. У гліне многа галькі, камення. Зверху, з ваданоснага пласта, сцякае вада, раптам даносяцца нейкія незвычайныя гукі, нібы хто захлынаецца. Нешта чарнее, выступаючы крыху над вадой. Гэта — уваход у грот.

Калі цеплаход набліжаецца да берага, робіцца неяк страшнавата ад думкі, што вось-вось кручы абрушацца, рынуцца ў бойку з нёманскімі вірамі і стромамі. А паглядзіш угару — усё мірна і ціха: на фоне блакітнага бяздоння навіслі над кручай галінкі бэзу, вішнёвых, слівавых зараснікаў.

Шмат цікавага расказаў нам аб наднямонскіх прыбярэжжах пуцявы майстар Сцяпан Сцяпанавіч Чарнецкі. Месцы прырэчныя ён ведае выдатна. Штодзённа быць на Нёмане, бачыць, што робіцца на вадзе і на дне, своечасова распазнаваць намеры гэтай чараўніцы-ракі, каб паказваць суднам глыбакаводны шлях — такая яго работа.

— Многа нам крыві папсавалі парогі, — гаворыць Сцяпан Сцяпа-

навіч. — Яны былі вось тут. Узарвалі іх.

На правабярэжнай мелі з вады тырчаць адпаліраваныя вадой і высушаныя сонцам вяршыні падводных скал. Здалёк іх можна палічыць за статак белых авечак, што разышліся па высокай траве, з якой відаць толькі іх спіны. Каля скал вада шуміць і пеніцца, каля кожнай — свой бурун з высокай шапкай пены. Хуткі струмень адарве ад гэтай шапкі шматок пены і панясе яе ўніз, бы камяк снегу, які доўга не растае. На берагах — груды камення, выцягнутага з суднаходнага шляху.

Высока на абрыве — нібы пояс, якім падпяразаны бераг. Гэта — след вады. Вясной мінулага года паводка тут была незвычайная. Вада паднялася на восем метраў. Рачнікі перавярнулі ўсе архівы і за апошнія паўтараста год не знайшлі ніводнай вясны, калі б Нёман так высока падымаў свае воды, так шырока разліваўся.

— Тым, хто жыве на беразе, — успамінаў пуцявы майстар, — нічога, не страшна было. Яны вельмі высока. Нёман хлынуў у наваколле па ручаях ды па балках, пранік на аддалёныя нізінныя месцы. Вось там бяды нарабіў ён! Па залітых палях на кацеры ездзілі, людзей ратавалі.

Бывалы рачнік, улюбёны ў Нёман, Сцяпан Сцяпанавіч, схаваўшы ўсмешку недзе пад густымі вусамі, гаварыў далей:

— На ўсё жыццё запамятаў адзін выпадак. Іду па беразе, бачу — каля адной хаты, ад якой толькі што адступіла вада, стоўпіліся людзі. На пяску ляжаў велізэзны сом. Ну, ведаеце, я трыццаць год на рацэ, усякай рыбы пабачыў, а такое бервяно сустрэў упершыню... Прышоў, значыцца, гаспадар пасля спаду вады, зазірнуў у хату праз адчыненыя дзверы і абамлеў, убачыўшы гэткае вусатае страшыдла. Адна галава — з пуд, на ёй ужо ракавінне нарасло, п'яўкі пасяліліся, мох павырастаў. А народу каля таго сома, — гаварыў далей Сцяпан Сцяпанавіч, — стоўпілася, ну, як вакол сланіхі Машкі ў гродзенскім заапарку ў нядзелю, калі дзеці наперабой стараюцца пачаставаць яе кавалачкам цукру.

У гэтае імгненне раздаўся працяглы гудок цеплахода. З-за павароту ракі паказаўся сустрэчны цеплаход, і адтуль данёсся гудок у адказ.

— «Буравеснік», — па нейкіх аднаму яму знаёмых прыкметах яшчэ здалёку пазнаў судна Сцяпан Сцяпанавіч.

«Буравеснік» буксіраваў баржы з дровамі. Насустрач пападаюцца і другія караваны барж, плыты.

— На рацэ цяпер, як на ажыўленай шашы, — расказвае Чарнецкі. — А раней што было? Мёртвая цішыня. Можна было прайсці ўсю раку і не пачуць ніводнага гудка. Суднаў не было, грузаў не было. Рака — добрая, магутная, нагрузі на яе плечы мільёны тон, павязе, а была яна, як і тысячы тутэйшых людзей, беспрацоўная.

— Сцяпан Сцяпанавіч, няўжо ні аднаго судна не было?

— Як жа, было. І не адно, а нават два. Два буксіры. Трымалі іх гродзенскія купцы. Пройдуць, бывала, вясной па высокай вадзе ў вярхоўе, нагрузяцца закупленым у паноў зернем, ільноваланкам і спяшаюць вярнуцца, каб не сесці на парогах ці дзе на перакаце. У мнагаводныя гады, калі над парогамі была дастатковая глыбіня, буксіры хадзілі паміж Гродна і Мастамі, гэта кіламетраў якіх пяцьдзесят. Вышэй жа за Масты хадзіць баяліся. Там было дубовае дно.

— А што гэта такое?

Многа і доўга ён расказваў, а потым, як адрэзаў:

— Самі будзеце там, убачыце...

Хацелася больш пабыць з гэтым бывалым чалавекам і ўмелым расказчыкам, які любіць Нёман, разумее яго, звязаў з ім сваё жыццё, але цеплаход ужо прыставаў да берага.

— Вось гэта — мая вёска Дарашэвічы, хата — мая, — гаварыў Чарнецкі, спыніўшыся каля трапа.





Гродзенцы на рыбалцы.

Я глянуў угару. Ніякай вёскі не бачна, стаіць на высокім беразе адна толькі хата і глядзіць на раку пяццю вокнамі.

— Дастаецца часам мне ад жонкі, калі ў халодную пару падымаецца вецер; хата аж дрыжыць. Ты, гаворыць, лепшага месца не мог выбраць. А для мяне самае лепшае месца тут. Мне трэба, каб заўсёды бачыць Нёман.

Варта на Нёмане крыху пажыць, і яго палюбіш моцна, назаўсёды.

За трыццаць — сорак кіламетраў вышэй ад Гродна Нёман мяняецца. Рака, якая да гэтага пятляла, крута выгіналася, раптам выроўніваецца, быццам хоча выпрастацца і адпачыць.

Берагі раздаліся ўшыркі, і рака разліваецца шырока і велічна, вольна і плаўна нясе яна скрозь лясы і лугі поўныя воды свае — невычэрпную даніну далёкай Балтыцы. Яна праляглa між шырокіх пойменных лугоў і палёў, амывае неаглядныя пушчы, сасновыя бары, дубовыя і бярозавыя гаі.

Бясшумна струменіць вада. Неба ўгары і ўнізе. Зверху — бясконца шырокае, сіняе са срабрыстымі воблачкамі; і ўнізе яно адлюстравана такое ж шырокае і сіняе, са срабрыстымі воблачкамі. Там, дзе гэтым двум небам трэба сустрэцца, — расце лазняк. І зусім гэта не лазняк, а шырокі зялёны пояс, які ахапіў паўнеба. Паглядзіш з сярэдзіны ракі на прыбярэжны дуб — не бачыш таго месца, дзе ён уваходзіць карэннямі ў зямлю. Зверху — вялікі зялёны шацёр і над ім — блакітнае неба, а ўнізе — тая ж зялёная шапка, пад ёй такое ж сіняе неба.

Вось стаяць на беразе бярозкі-сяброўкі. Падбеглі яны да ракі з таго вунь бярозавага гаю, што стаіць сярод поля, каб паглядзецца ў люстэрка, ды так і засталіся на месцы, бо не ў сілах адарвацца ад хараства ракі. Стаяць на крок адна ад другой, густа абняўшыся галінкамі, аб чымсьці перашэптваюцца з ветрам.

Прыходзяць сюды ў халадок дзяўчаты, доўга ўзіраюцца яны ў люстэрка бацькі-Нёмана, і ён, не скупячыся, надзяляе іх тым, што сам бярэ ўдосталь ад неба, — поіць іх вочы бездannю сінявы. Адгэтуль і пайшла гаворка: **сінявокі прынёманскі край.**

### Добрая слава дубненцаў

Удалечыні паказалася сяло Дубна. Уласна кажучы, спачатку не

сяло, а вершалінкі стогадовых дрэў ды бліскучая цыбуліна — купал царквы. Неяк кідаецца ў вочы, калі пад'едзеш бліжэй, што царква занадта раскошная для гэтага не вельмі вялікага сяла. Самі дубненцы так расказваюць:

— Даўно пабудавана гэтая царква, пры памяці нашых дзядоў, а мо' і прадзедаў. Гаворка ж ідзе такая. Прыехаў аднойчы з Масквы з царкоўнага ведамства архітэктар, прывёз праект і грошы і збудаваў такую царкву, што з усёй акругі сяляне сыходзіліся, каб паглядзець на яе велічнасць і прыгажосць. Ну а калі той архітэктар вярнуўся ў Маскву і далажыў: так і так, маўляў, заданне выканана, высветлілася, што... не тое Дубна. Царква прызначалася для горада Дубна, што на Украіне...

Расказваючы аб гэтым, вяскоўцы іранічна пасмейваюцца: вось, маўляў, якое наша сяло старажытнае і далёка вядомае — да Масквы чутка аб ім дайшла, з горадам сваёй славай памералася.

Ды не толькі чужой славай вядома Дубна. Яго сяляне вядомы працавітасцю, выдатнымі справамі. Тутэйшы калгас «1 Мая» — мільянер.

Дубненцы ўмеюць гародніну вырошчваць. Прайдзіцеся, скажам, у зімовыя дні па гродзенскіх базарах і ў тых, хто прадае цыбулю, спытайцеся: адкуль? Можаце не сумнявацца, што кожны другі адкажа: «З Дубна». Цыбуля тут расце адменная. Цыбуліны велізэзныя, пакрыты тонкай ружовай лупінкай, і хоць ад яе, як ад усякай іншай, ручаём цякуць слёзы, людзі гавораць: салодкая. Адным словам, усім цыбулям — цыбуля. Нездарма ж кожную восень Дубна атакоўваюць нарыхтоўшчыкі з многіх гарадоў нашай краіны.

Але не толькі гароднінай славіцца Дубна. Яго людзі маюць багатую славу барацьбітоў за справу рэвалюцыі.

У 1920 годзе, калі бушавала полымя грамадзянскай вайны, у газеце «Рабоче-крестьянский путь», што выдавалася ў Барысаве, 24 верасня была надрукавана карэспандэнцыя аб подзвігу трох сялян з гэтай вёскі. Вось што там напісана:

«Пры пераходзе савецкіх войск праз раку Нёман адзначыліся сяляне Гродзенскага павету сяла Дубна — Сцяпан Касцечка, Мікалай Касцечка і Мікалай Кавальчук. Кавальчук пад кулямётна-ружэйным агнём ворага мераў глыбіню ракі і абазначаў месца пераправы. На левым беразе ён быў захоплены белапалякамі, збіт і прыгаворан да смерці. У гэты час пачалася наша пераправа і паніка ў варожым штабе, што выкарыстаў Кавальчук — уцёк і вярнуўся да сваіх.

Сцяпан і Мікалай Касцечкі першымі кінуліся ў ваду і сваім прыкладам натхнялі наступаўшыя ланцугі стралкоў, паказваючы ім шлях на левы бераг ракі. Усе трое прадстаўлены да ўзнагароды».

Дапоўнім: усе трое у верасні 1939 года радасна сустракалі Чырвоную Армію — вызваліцельніцу.

### Новы горад

Уздоўж берага — прычаленыя плыты, на беразе — карпусы магутных заводаў. Дымяць іх коміны, а на супроцьлеглым беразе, над высокім абрывам — невялікі домік з шыльдай «Прыстань Масты».

Гады два таму назад Масты былі пераўтвораны ў горад. Раскінуўся ён на абодвух берагах, а рака не раздзяляе яго, а неяк яднае і выконвае абавязкі галоўнага праспекта. Тут заўсёды людна.

Васіль Мікалаевіч Папялушка вядзе мяне па вялізных цэхах фанерна-дрэваапрацоўчага камбіната. Усе ветліва вітаюцца з ім, жадаюць добрага здароўя. Па ўсяму відаць: Васіля Мікалаевіча тут ведаюць усе і паважаюць. Цяпер ён пенсіянер, а быў майстрам. Разгаварыліся.

— З 1927 года, як цяпер памятаю, з асенняга дня таго года,



калі завод выпусціў першую прадукцыю, з таго часу працую тут, — паволі гаворыць ён. — А гэты завод, — робячы націск на слова «гэты», працягвае ён, — гэты завод — новы. Ён вырас на руінах, якія засталіся пасля вызвалення ад фашысцкай акупацыі. Цяпер тут усё новае: будынкі і абсталяванне. За адным прэсам я прастаяў 20 год. Разумееце, што значыць дваццаць год за адным станком... А поруч працаваў другі прэсаўшчык — Уладзімір Якаўлевіч Кучун. Цяпер ён майстар. Дык вось ён — майстар, я — майстар. А хіба раней, калі заводам валодалі капіталісты браты Канапацкія, хіба мог тады рабочы чалавек стаць майстрам?

Мы садзімся ў скверы, што на тэрыторыі завода, гутарым. Праходзіць група дзяўчат, яны вітаюцца.

— Гляджу на моладзь: спрытныя, адукаваныя — зайздрасць бярэ! Іншая дзяўчына — дзіця яшчэ, у косы заплятае стужкі, а закончыла ўжо дзесяцігодку. Усе вучыцца хочуць. У вячэрняй школе поўна. Аб тэхнікуме падумаць трэба. У нашым горадзе больш дзвюх тысяч рабочых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Чаму ж не адкрыць вячэрні тэхнікум?

У маю маладосць было не да вучобы. З 1925 года пачаў працаваць на Канапацкіх. Яны тады ў Шчучыне арандавалі завод. Нажыліся. Пачалі будаваць свой. І мяне перацягнулі сюды. Хітрыя, сапраўдныя крывасмокі былі гэтыя браты. Глуміліся з рабочага чалавека. Дайшло да таго, што замест грошай пачалі расплачвацца талонамі. Ну мы і забаставалі. Гэта было ў 1933 годзе, калі па ўсяму капіталізму лютаваў крызіс. Кругом беспрацоўе, голад. Нас таксама пагражалі выкінуць з завода, а мы цвёрда рашылі: баставаць.

Забаставалі ўсе, дружна. Разыдземся з гудком па цэхах, станем на рабочых месцах і — стаім. Майстры ды канторшчыкі лютуюць, пагражаюць, а мы — ні з месца, не працуем, і баста. Прафсаюза тады не было — ён быў забаронены, арганізатары былі сярод рабочых. А тут з Гродна прыехаў член КПЗБ, дапамог нам... Месяц баставалі, а перамаглі, прымусілі Канапацкіх падпісаць нашы ўмовы: павысіць зарплату, прыняць на работу ўсіх звольненых, аплаціць за час забастоўкі...

Мы выходзім з заводскіх варотаў. Больш чым за трыццаць год незлічонае мноства разоў праходзіў праз іх Васіль Мікалаевіч.

Па-іншаму ідзе сёння праз іх на завод савецкі рабочы і працуе па-іншаму. Раней рабочы ішоў на цяжкую, катаржную працу на капіталіста. Цяпер праз заводскую прахадную чалавек працы выходзіць у людзі.

Мы ідзём і чуем прыглушанае зялёным заслонам магутнае дыханне камбіната, якое нясецца далёка над быстрацечным Нёманам, над горадам. Савецкая дзяржава ўкладвае ў камбінат вялізныя сродкі, а сумесна з ім расце горад, дзе інтарэсы кожнай сям'і так ці інакш звязаны з гэтым прадпрыемствам.

### Там, дзе шугала полымя партызанскай вайны

Паглядзіце на геаграфічную карту: Нёман папалам разразае тэрыторыю Гродзенскай вобласці. Правыя і левыя прытокі яго — дзве Ганьчы, Свіслач, Котра, Лебяда, Моўчадзь, Дзітва, больш буйныя — Шчара, Заходняя Бярэзіна і мноства невялікіх ручаёў, як тоненькія блакітныя жылкі, густа пераплятаюць Гродзеншчыну. Пачынаючыся недзе ў азярку, выцякаючы чыстай, як сляза, халаднаватай крыніцай з-пад куста або абрыву, маленькія ручайкі зліваюцца, і ўсіх забірае ў свае абдымкі Нёман.

Калі паплыць па Шчары, — левым прытоку Нёмана, — можна праз Дняпроўска-Бугскі канал і Прыпяць выйсці на Дняпро. Калі па Нёману накіравацца ўніз, трапіш на Балтыку.

Складаныя гідратэхнічныя сістэмы пабудаваны даўно. Транспартнае значэнне іх у свой час было велізарнае, але польскія капіталісты за час свайго панавання ў Заходняй Беларусі звялі яго на нішто. Не толькі каналы, шлюзы, плаціны прышлі ў занятад, забіўся смеццем і абмялеў Нёман. Судны хадзілі толькі да Мастоў. Вышэй было «дубовае дно». Гэта азначае, што дно было ўсеяна затануўшымі вялізнымі дубамі, карчамі, каменнямі. Судна, якое выходзіла ў плаванне, рызыкавала: у любым месцы яно магло напароцца на затануўшае дрэва, на камень і затануць.

Калі пасля прыпынку ў Мастах цеплаход рушыў далей, а праз нейкі дзесятак кіламетраў звярнуў на Шчару, я спытаў у Анатоля Аляксандравіча:

— Ну, а «дубовае дно»... Дзе ж яно цяпер?

— «Дубовае дно»? — перапытаў Анатоль Аляксандравіч. — Ды яго, уласна кажучы, тут ужо няма, можа затрымалася дзе-ні-дзе на Шчары ці Бярэзіне.

Тут савецкімі рачнікамі праведзена вялікая работа. Сюды накіраваны былі сотні людзей, многа тэхнікі. Толькі за тры апошнія навігацыі паднята з рачнога дна 38 тысяч кубаметраў моранага дубу, карчоў і камення. Спачатку ачысцілі шлях да Орлі, да станцыі Нёман, а затым — да Любчы і яшчэ вышэй — да Купіска. Намаганні рачнікоў у апошнія тры гады накіраваны на тое, каб ачысціць Шчару і Бярэзіну і зрабіць іх суднаходнымі.

— Наш рэйс, уласна кажучы, — заўважае суднавы інспектар Драбышэўскі, што едзе з намі, — і мае сваёй мэтай праверыць работу, праведзеную ў гэтым напрамку, і вызначыць, што трэба яшчэ зрабіць.

Цеплаход ідзе па Шчары. Насустрач увесь час трапляюцца плыты, якія ідуць з-за Быценя, з Пінскага Палесся. Размінаемся з караванамі барж, нагружанымі балансам, рудстойкай, дровамі.

Нёман — з поўначы, а Шчара — з захаду абгінаюць вялізны лясны масіў — Ліпічанскую пушчу, якая размешчана ў межах Жалудоцкага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў.

На нізінных берагах — змешаны стары лес, а крыху адыдзіце на пясчаныя ўзгоркі, і ўбачыце зусім іншае: усё сасна ды сасна, адна ў адну.

Бор стаіць нерухома. У вышыні можа і кранае лёгкі ветрык зялёныя шапкі дрэў, а тут ціха-ціха; нішто не варухнецца, птушка не падасць голасу і нават шышка ні адна не зваліцца з дрэва. Паветра дзівосна чыстае, водарнае, густа настоена на хвоі. Не дыхаеш, а п'еш яго.

Паглядзець здалёку, бор — скопішча дрэў, беспарадкавае, выпадковае. Прыглядзішся — не, не беспарадкавае, не выпадковае. Тут ёсць парадак, свой, устаноўлены прыродай. Сосны стаяць усе разам, натоўпам і — кожная ў пасобку. Паглядзі, як далёка можна бачыць у гэтым стогадовым, нярэдкім лесе!..

*Кожная сасна тут залаціцца ў сонечных праменнях.*

Пад нагамі — густы, мяккі, як падушка, мох, над ім — чарнічнік. Калі ўраджайны год, шызыя ягады чарніц, густа высыпаныя на мох, такім багаццем надараюць зямлю, што сядзь — на адным месцы шклянку набярэш. Хадзі, збірай ягады ці грыбы, дзівіся і адпачывай, ці гаючы водар хвоі ды ўважліва глядзі пад ногі, абыходзь маленькія, ледзь прыкметныя ўзгорачкі: можаш праваліцца ў струхнелую партызанскую зямлянку.

Цішыня. Чуецца ледзь улоўны шолах лесу. Думае сваю *бясконцую* думку пушча...

Прыбярэжныя вёскі — Шчара, Пархуты, Маскалі, Малая і Вялікая Воля, а на Нёмане — Зачэпічы, Дзям'янаўцы, Голубы... Гэта — былы партызанскі край. Тут дзейнічалі шматлікія атрады народных мсціўцаў, працавалі падпольныя райкомы партыі, выдаваліся савецкія газеты, тут у час





**Над Нёманам.**

фашысцкай няволі людзі жылі па сваіх, савецкіх законах.

Гітлераўцы баяліся паказвацца сюды: іх сустракалі трапныя кулі партызан. Народныя мсціўцы не пускалі акупантаў праз пераправы на Нёмане і Шчары, зрабілі незлічонае мноства дыверсій па тылах праціўніка, надоўга выводзілі са строю яго камунікацыі, знішчалі тэхніку і жывую сілу ворага.

Папрасіце мясцовых жыхароў, і яны пакажуць месцы гарачых баёў (многія з іх самі прымалі ўдзел у гэтых баях), пакажуць гнёзды ад сваіх кулямётаў, раскажуць аб смелых партызанскіх рэйдах.

Тут, на Нёмане, моцна шугала полымя партызанскай вайны. Па слядах партызанскіх паходаў ходзяць цяпер вясёлыя чародкі піянераў, адшукваюць у лясах зямлянкі. Ды хіба ўсе адшукаеш? Лес умее хаваць таямніцы. Ён шуміць і шуміць. Сведка вялікіх падзей, вялікіх жорсткіх боек, лес апавядае пра бачанае шумам вершалін сваіх высокіх стромкіх сосн аў.

Шмат чаго можна было б пачуць, калі б разумець лясную мову.

### «Дубовае дно» так лёгка не здаецца...

Ні адзін чалавек не ведае меры сваіх сіл, пакуль яны не спатрэбяцца. Як можна поўна ацаніць свае здольнасці, пакуль яны не праявяцца ў якой-небудзь цяжкай і складанай справе?

Можна праплыць па ўсім Нёмане і не ведаць, што капітан нашага цеплахода Іван Мікалаевіч Казёл — выдатны майстар сваёй справы. На Нёмане — шыр неаглядная. Скажаце, што ж тут за майстэрства — кіруй ад аднаго перавальнага слупа да другога, прыкмячай сігнальныя мачты і бакены...

Але вось мы пайшлі па Шчары, а потым і па Бярэзіне. Тут трэба трымаць, як кажуць, вуха востра. Рэкі гэтыя не шырокія, пакручастыя: не паспее судна выйсці з аднаго павароту, як ужо кладзецца ў чаргові.

Першыя кіламетраў пяцьдзесят мы ехалі па «абжытаму» шляху. Рака тут ужо ачышчана, кожны дзень працуюць бакеншчыкі, якія абстаўляюць фарватар вехамі. А вось далей... Далей ішло, можна сказаць, неразведанае.

Цеплаход плыве па тых месцах, дзе берагі адкрытыя, а ўздоўж іх не ўбачыш звычных вешак, расстаўленых дбайнай рукой бакеншчыкаў. На кожным кроку тут можа падсцерагаць нейкая невядомасць, небяспека.

Вось тут усё і залежыць ад капітана, ад яго майстэрства.

Здаралася часам, што судна не паспее на вузкім месцы павярнуцца і абавязкова ўрэжацца ў бераг. Але не, усё абыходзілася добра. Спакойны, дакладны ў разліках, Іван Мікалаевіч упэўнена кіраваў штурвалам.

Для мяне часам было незразумела: чаму, напрыклад, калі трапляўся прамы адрэзак шляху, судна раптам прыціскалася да аднаго ці другога берага. Я стаяў поплеч з капітанам у рубцы і хацеў атрымаць адказ: чаму так?

— Раку трэба разумець,—гаварыў ён.—Што там, пад вадой: глыбока ці мелка—можна ўявіць па колеру вады. Дно тут балоцістае, чорнае; дзе мелка—там вада здаецца чарнейшай.

— Чаму ж, у такім разе, разварочваецца цяпер судна направа, калі вада святлейшая—злева?

— Не святлейшая, а зусім светлая. Гэта ад пясчанай касы; а направа, бачыце, хваля вышэйшая. Хваля вышэйшая—рака глыбейшая.

У механіка Рыгора Дзянісенкі, калі ён становіцца за штурвал, іншы почырк. Механік таксама ўмее кіраваць суднам, толькі ў гэтым выпадку ён ужо памочнік капітана. Капітан жа авалодаў дызелем і стаў памочнікам механіка. Сумяшчэнне прафесій дазволіла вызваліць з саставу двух чалавек—памочніка капітана і памочніка механіка. Розныя гэта людзі—капітан і механік, а ў рабоце яны аднолькавыя. Іх каманда заслужыла славу лепшай на Нёмане.

Калі заходзіла сонца, гудок цеплахода раздаўся над Слонімам.

... Назаўтра на золку, калі горад яшчэ спаў, над ім прагучаў развітальны гудок нашага цеплахода. Мы пайшлі назад на Нёман. Хацелася бліжэй пазнаёміцца са Слонімам—адным з старажытнейшых гарадоў нашай рэспублікі, але часу не было.

Усіх нас зацікавіла плаціна, якая пабудавана яшчэ ў царскія часы і ўжо дастаткова разбурылася. Плылі ўгару—стаялі каля яе, раіліся, плывем уніз — зноў спыніліся, зноў гарачыя словы:

— Яе трэба адрамантаваць, — даказваў камісіі Аплочка, — яна падыме ваду на паўтара метра. А што такое паўтара метра? Пойдуць судны, плыты.

Ехалі ўгару па Шчары, цяпер едзем уніз—а ўсё на адным і тым жа месцы бачым сткі буслоў, па 8—10 пар у кожным. Стаяць, ходзяць, а не ўзлятаюць...

— Пасвяцца,—адказвае тутэйшы жыхар Пахутка, пуцявы майстар. — Кублаў у іх няма, вось і пасвяцца. Тут і днююць і начуюць.

— І кожны год?

— Кожны. Вядома, вясной многія з іх знаходзяць месца пасяліцца, а якая пара, асабліва з маладых, не здабудзе сабе кубла, дык—сюды.

На кожным кроку бачны сляды веснавой паводкі. На высокай вярбе—гурба моху, скрозь зялёнае лісце чарнее, нібы варонняе гняздо. Пад гарачымі праменнямі сонца ззяюць пазалотай сярод пышназялёных лугоў доўгія косы пяску, намытага ракой. А вось вялізны чорны моранны дуб, які ў вадзе тоне гэтак жа хутка, як камень, але вада закінула яго ў кусты метраў на 20 ці 30 ад берага. Якой жа сілай трэба валодаць, каб зрабіць гэта!..

Мінаем землясосы, якія па трубаправодах, падобных на доўгія хвасты нейкага волата-страшыдлы, гоняць на бераг пульпу — разрыхлены вадой пясок.

Мінаем карчавальны кран. Едучы ўгару, мы пазнаёміліся з вадалазамі. Цяпер каля парэнчаў брандвахты быў толькі Анатоль Мазырка.

— А дзе Катляр?—пытаюся, перакрываючы шум матора.

— Пад вадой!—крычыць ён.





На Заходняй Бярэзіне. Налібоцкая пушча.

Я заўважаю: кран толькі што падняў з рачнога дна вялікую металічную скрыню, напоўненую каменнем. На вадзе доўгай чаргой лопаюцца паветраныя бурбалкі—значыць, вадалаз выдыхае. А вось над вадой часам пакажацца ламачына і знікне: не бачна ні чалавека, ні яго рук, а толькі канец металічнага лома... «Дубовае дно» так лёгка не здаецца.

Пройдзе яшчэ крыху часу, прыбяруць з берагоў вялізныя ствалы моранага дубу, на будоўлі адвязуць здабыты з дня камень, і назаўсёды знікнуць адсюль адзнакі «дубовага дна».

... Мы зноў на нёманскім прасторы, зноў ідзём насустрач імклівым водам.

## Тут працуюць патрыёты Нёмана

Мы едзем, пакуль светла. Пачынае цямнець — прыстаём да берага. На гэты раз мы не адны. Непадалёку прысталі яшчэ два цеплаходы, якія прыйшлі сюды з плытамі.

На плытах гараць агеньчыкі, святло якіх выхапіла з цемрадзі постаці плытагонаў. Плытагон — гэта працаўнік, добра вядомы кожнай беларускай рацэ. У маёй роднай вёсцы ў свой час жылі вядомыя на ўсё Дняпро плытагоны. Мы, дзетвара, цэлымі днямі прападалі на рацэ, пільнуючы, калі будуць гнаць плыты бацька ці суседзі, каб перадаць ім харч, бялізну, а больш за ўсё—каб хоць крыху праплысці. І калі, здаралася, нас, хлапчукоў, запрашалі на плыт, радасці нашай не было межаў! Далячыні, куды плылі плытагоны, здаваліся таямнічымі, казачнымі...

Глядзіш цяпер на агні, што палаюць на плытах, і па-ранейшаму вее ад іх рамантыкай таямнічасці.

Назаўтра, перш чым паснедаць, мы са спінінгам рушылі па ўзбярэжжы шукаць рыбнае месца. Мой спадарожнік, інспектар Драбышэўскі, пакасіўся на фотаапарат, што вісеў у мяне на плячы:

— Хочаш сома сфатаграфаваць і на памяць картку яму падараваць?

— Не,—адказваю ў тон яму,—сфатаграфую момант, калі шчупак гэтак на паўпуда клюне і пацягне цябе ў ваду.

Фатаграфаваць прышлося сапраўды. З першага закіду Драбы-

шэўскі выцягнуў шчупака на кілаграм. Адышліся крыху — і зноў удача. На гэты раз галавень вялізны. Дужая гэта рыбіна. Схапіўшы трайнік, яна мінут дзесяць насілася па рацэ, валтузячы рыбалова. Не раз у нас абодвух заміралі сэрцы: вось-вось сарвецца... Усё ж перамаглі.

... Было апоўдні, калі мы расселіся хто на чым вакол стала. Елі і хвалілі саміх сябе. Смачнейшай рыбы я ніколі не каштаваў. Праўда, на рацэ, як кажуць, апетыт удвая большы супраць звычайнага.

Пасля абеду прыйшлося, як кажуць, лезці ў ваду шукаць броду. Не для сябе. Папалі на перакат, і цеплаход вось-вось мог сесці на мель. Распрануліся, метр за метрам прамяралі глыбіню.

Перашкаджала не толькі малая глыбіня, але і цяжкі «воз». На буксіры ішло тры баржы. Адну з іх, нагружаную вугалем, мусілі пакінуць каля берага, а з астатнімі паціхеньку пайшлі далей. На наступным перакаце не трэба было лезці ў ваду: тут папрацаваў ужо землечарпальны снарад. Прыкметаю гэтага — вялікі вал намытага пяску на беразе.

— Рыхтуемся да спуску ўніз, — растлумачылі нам, калі мы прысталі да брандвахты.

Гэтае мудрагелістае слова «брандвахта» азначае самы звычайны інтэрнат. Ён увесь час плавае. Куды пойдзе земснарад, туды адначасова буксіруецца і брандвахта — жыллё каманды. Тут усё, як у добрым інтэрнаце: дзве вялікія каюты і некалькі меншых застаўлены акуратна засланымі ложкамі з чыстай бялізнай, асобна размешчана кухня.

Каля процілеглага берага стаіць земснарад. Вялізнае судна. Адтуль па-над ракой разносіцца лязгат жалеза. Гэта земснарад прыводзяць ў «параходнае» становішча.

Нам расказваюць адну гісторыю. Калі гэты прыгажун-земснарад некалькі год таму назад упершыню падняўся ўгару, ніхто з каманды і не заўважыў, як на беразе паявіўся старэнькі-старэнькі дзед. Ён сядзеў, акружаны ўнукамі, і ўсёназіраў. А потым, калі здарылася затрымка і матоpы былі выключаны, запытаў:

— А калі ж гэта вы скончыце выцягваць? Я налічыў ужо 240...

— Што, дзядуля, выцягваць?

— Гэтыя чарпакі.

Толькі цяпер хлопцы зразумелі, у чым справа, і на судне грымнуў раскацісты рогат — хіба можна злічыць чарпакі, якія рухаюцца няспынна. Але хлопцы сумеліся, неяк адразу змоўклі. Адкуль яму, жыхару вярхоўя, дзе датуль не хадзілі нават невялікія судны, ведаць, што існуюць спецыяльныя землечарпальныя снарады і што гэтыя машыны ўзброены чарпаковым прыстасаваннем?

Едзем далей і сустракаем яшчэ не адну брандвахту. Тут жывуць партыі, якія выпраўляюць рэчышча.

Рачнікі гавораць: паглыбленне дна шляхам выемкі грунту земснарадамі — работа, якая дорага каштуе і не заўсёды дае добрыя вынікі. Нярэдка здараецца так: распрацуюць перакат, перамесцяць адтуль на бераг дзесяткі тысяч кубаметраў пяску і, здаецца, усё добра, створаны патрэбныя глыбіні. А праз тыдзень, глядзіш, на тым самым месцы зноў расце каса.

Танней і больш надзейна вырашаецца справа, калі прымусіць раку цячы так, каб яна працавала на сябе, не намывала перакатаў, а каб пясок, што нясе з сабой вада, адкладваўся толькі ў загадзя вызначаных месцах. Як гэта зрабіць? Справа складаная. Перш за ўсё, трэба дакладна вывучыць раку, прамераць яе дно, вывучыць цячэнне, яго сілу і кірункі.

Вось Ульянаў разгарнуў на каленях тоўсты том. Гэта лоцманская карта.. На вялікіх лістах нанесена рака, тут абазначана ўсё, што яе характарызуе: шырыня і глыбіня, якія берагі і якое дно. Кожны ручаёк, абрыў, кожная старыца — усё тут абазначана.

Мы мінаем перакат, гляджу на



карту: гэтае месца спаласавана ізабатамі. Так называецца лінія, якая злучае пункты ракі з аднолькавай глыбінёй. Каб нанесці ізабаты, спатрэбілася праз кожныя 100 — 50, а то нават і праз 25 метраў прамяраць дно па цячэнню. Ад берага да берага рака прамервалася праз кожныя 10 ці нават 5 метраў.

А вось яшчэ адна лінія — пункцірная. То нейкі час яна ідзе пасярэдзіне ракі, то раптам вільне да аднаго ці другога берага. Ею больш за ўсё і цікавяцца суднаводзіцелі. Гэта лінія абазначае фарватар, або, як кажуць рачнікі, дынамічную вось воднага патоку. Калі гаварыць больш зразумела, яна абазначае тое, што ў народзе носіць назву стрыжань.

Паглядзіш на карту — і іншымі вачыма пачынаеш бачыць раку. Пад люстранай гладдзю вады, аказваецца, дзейнічаюць самыя грозныя фактары, самыя процілеглыя сілы, і ад іх залежыць, што надумае ўштукарыць рака: дзе ўдарыць усёй масай вады ў бераг і размые яго, дзе пакласці касу, дзе намыць цудоўнейшы пляж, дзе ўтварыць віры...



**Рака Шчара. Сплаў лесу.**

Як землямеры ў полі абмерваюць кожны палетак, кожны яр, як камунальнікі ў горадзе абмерваюць кожны тратуар, кветнік ці выступ ганка, гэтак жа дакладна гідратэхнікі абмерваюць раку ўдоўж і ўпоперак, змяраюць глыбіні і скорасці цячэння, берагі і г. д.

І вось карта — вынік іх працы — пападае рачнікам-путейцам. Тыя вывучаюць яе, прымаюць рашэнні: тут будуць працаваць землясосныя снарады, а там — землечарпальныя, тут пойдуць карчакраны, а гэтую перашкоду неабходна ўзарваць, сюды ж вось накіраваць выпраўіцельныя партыі.

Суднаходны шлях на Нёмане штогод паляпшаецца, рачная дарога становіцца ўсё больш ажыўленай. Тут працуюць людзі — патрыёты Нёмана, майстры сваёй справы.

На рацэ добра ведаюць Міхаіла Міхайлавіча і яго жонку Варвару Емяльянаўну Капыцкіх. Іх жыццё звязана з ракой: ён — шкіпер баржы, яна — матрос. На другой баржы — другая сям'я, Міхаіла Грыгаровіча. Трэба было бачыць, як умела і спакойна праводзіла баржу між бетонных устояў маста жонка яго — Марыя Кузьмоўна.

Вышэй Любчы, у Купіску, вязальны рэйд; ніжэй, у Дуброве, — фарміровачны рэйд. Можна бачыць, як на фарміроўцы плытоў круціцца невялічкае судна — буксірны мотакацер. Каманды на ім усяго два чалавекі — капітан Іван Барысевіч ды матрыст Яўген Ерамейчык. Але слава аб іх працоўных поспехах ідзе па ўсёй рацэ. Глыбокай павагай пранікаешся да гэтых двух юнакоў, калі бачыш, як сама-

аддана яны працуюць. Увесь дзень — у працы, і спаць яны кладуцца а дванаццатай гадзіне ночы, прыткнуўшыся носам свайго кацера дзе-небудзь да берага. У чатыры гадзіны раніцы яны зноў на нагах — гэтыя нястомныя працаўнікі ракі.

**Ты памятаеш, Нёман...**

Як хораша сядзець на беразе... Цямнее. Свінцова-цёмная бездань ракі, як і неба, густа ўсыпана зоркамі. Але над ракой заблішчэў срабрыстым дыскам месяц. Зоркі зніклі. Усё наўкол азарылася блакітным святлом.

Прырода хутка засынае. Змоўклі неўгамонныя птушкі, маўклівы лес ахінуўся смугою і кінуў на зямлю доўгі цень, над далёкай вёскай патухла зарыва электрычных агнёў. Толькі зрэдку спалоханым голасам крыкне ў лесе ўстрывожаная птушка ды здалёку даняседца песня, нават не песня, а абрыўкі мелодыі, якую высока зацягваюць першыя галасы.

Толькі бяссонна, не заціхаючы ні на імгненне, шапаціць у лазняку рака.

Зямля, нагрэтая за дзень, пакрысе аддае атрыманае цяпло, з ракі цягне прахаладай.

Паціху, раздумліва шапаціць рака, сведка многіх і многіх вялікіх падзей.

Не памятае ўсіх іх сасна, не памятае і магутны дуб, хоць стаяць яны вякамі на нёманскай кручы і бачаць далёка-далёка.

Толькі ты, Нёман, — адвечны, нязменны ў сваім руху, толькі ты ўсё бачыў, усё чуў, ва ўсім прымаў удзел і весткі аб гэтым хаваеш недзе ў чорнай глыбіні сваіх імклівых вод.

Ты ўсё памятаеш, Нёман...

Памятаеш, як калісьці прышлі сюды людзі з Кіеўскай дзяржавы, як паставілі яны першыя гарадкі прынёманскай Чорнай Русі — бастыёны сваёй вялікай дзяржавы на заходняй граніцы.

Якія б цяжкія выпрабаванні ні выпадалі на долю нашых продкаў, якім бы суровым ні быў іх лёс, якімі б сценамі ні адгароджвалі беларусаў ад іх старэйшага брата — рускага народа, яны заўсёды з надзеяй глядзелі на ўсход, адкуль у самыя цяжкія часіны прыходзіла братэрская дапамога.

Здаралася, што народ пасылаў адсюль сваіх сыноў далёка-далёка, у тысячавёрсныя паходы, каб разам з усёй Руссю бараніць агульнарускую справу. І не раз іншаземная навала ступала на парог хаты прынёманскага хлебароба. І тады на дапамогу сваім братам падымалася ўся неабсяжная Русь.

Ты ўсё памятаеш, Нёман... Многа разоў скрыжоўваліся тут мячы, сутыкаліся шматтысячныя арміі, у крывавых бойках вырашаўся лёс народаў...

На Нёмане ламаліся самаробныя даспехі першых іншаземных заваёўнікаў у старажытнасці. Тут знаходзілі свой канец крыжаносцы. Чаго яны ішлі сюды? Схадзі ў музей, там убачыш жалезны палаш, а на ім высечана па-нямецку: «Пі кроў». Многа крыві народнай, як вадзіцы, пусцілі яны, але і самі захлынуліся вадой славянскага Нёмана.

Здаралася, што Прынёманне таптала цяжкая нага акупанта, і тады ў лясах палалі кастры народных мсціўцаў — партызан. А дарога, па якой ішлі ворагі, усцілалася іх трупамі. Два з палавінай стагоддзі таму назад тут беларускія партызаны дапамагалі рускім воінам Пятра Вялікага змагацца супраць шведскага караля Карла XII, і ў памяць аб тых подзвігах патрыётаў народ пяе песні.

Доўга тут цягнулася ноч няволі і прыгнёту, тут лютавалі каралі, езуіты, магнаты, царскія сатрапы, паны і падпанкі... Але вось разагнуў народ сваю спіну, стаў на ўвесь рост, і ярка зашугала полымя народнага паўстання: то рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі — «чырвоны» камісар Гродзенскай губерні і выдавец падпольнай газеты «Мужыцкая праўда» — вёў у бой супраць эксплуататараў шматтысячныя атрады сваіх землякоў-хлебаробаў



прынёманскага краю. Шлях К. Каліноўскага абарваўся на шыбеніцы, а яго зямляк і сябар па барацьбе, другі ўдзельнік народнага паўстання — Валеры Врублеўскі панёс далей эстафету класавай барацьбы і, уцёкшы ад шыбеніцы за мяжу, стаў спачатку ліхтаршчыкам на вуліцах Парыжа, а потым — праслаўленым генералам Парыжскай Камуны.

Народ не скараўся. Народ, з якім не хацеў лічыцца царызм, народ, мова якога была забаронена, — марыў, змагаўся, верыў у светлую будучыню сваю, набліжаў яе.

Прынёманскія мясціны. Тут нарадзіліся і ўзгадаваліся выдатнейшыя дзеячы, імёны якіх упрыгожваюць гісторыю ўсёй нашай Радзімы.

Калі плысці па Нёману і непадалёку ад Гродна павярнуць на раку Свіслач, а потым пайсці пешшу ўздоўж маленькай шумлівай рачулкі, неўзабаве сустрэнецца вёска, што стаіць на абодвух яе берагах. Ці вёска атрымала сваю назву ад рачулкі, ці наадварот, — невядома. Толькі тая рачулка называецца Лашанка, а вёска — Лаша. У Лашы пакажуць месца, дзе стаяла некалі маленькая хатка, у якой у канцы мінулага стагоддзя жыў настаўнік. Старажылы добра памятаюць яго, ён атрымліваў зарплату «гарцамі». Ад месца, дзе стаяла сяліба, застаўся толькі пень вялізнай, падобнай на дуб, грушы, што прыкрывала шатром бедную хаціну. Тую грушу сяляне назвалі «Карскай». У гэтай хаціне беднага настаўніка нарадзіўся будучы вучоны-філолаг акадэмік Яфім Фёдаравіч Карскі.

Усё Прынёманне, многія другія раёны Беларусі выхадзіў Я. Ф. Карскі пешшу. Ён вывучаў жыццё, вывучаў быт народа беларускага, яго мову. І вось у змрочныя гады царскай рэакцыі мужны вучоны і патрыёт стаў друкаваць кнігу за кнігай мнагатомную працу «Беларусы». Характэрны першыя радкі першага тома «Беларусаў»: «У цяперашні час не прыходзіцца многа распаўсюджвацца аб тым агульнавядомым факце, што мова развіваецца сумесна з народам, падвяргаючыся розным змяненням у сувязі з пераменамі ў жыцці самога народа».

Так таленавіты вучоны, імя якога стала сусветна вядомым, сказаў тое, што ў паэтычнай форме выказаў пазней беларускі пясняр: «Я мужык. Я гонар маю».

У пачатку мінулага стагоддзя на прыгольнай зямлі паэтычнай Навагрудчыны раскрыўся, нібы тая кветка пасля начнога сну, талент польскага паэта Адама Міцкевіча. А ў пачатку дваццатага стагоддзя тут загучалі палымяныя словы беларускай паэтэсы Алаізы Цёткі, раздаўся яе гарачы заклік да беларусаў выступіць сумесна з вялікім рускім народам на барацьбу з царызмам. Звяртаючыся да рускага народа, яна пісала:

Мы вам родны. Праўду знайце:
Ці у долі, ці ў нядолі —
З вамі станем ў ратным полі,
Рука ў руку з вашым братам,
За свабоду перад катам.

Ты памятаеш, Нёман, і як грымнуў залп «Аўроры». Сумесна з рускім народам паўстаў тады народ беларускі. Сучаснікі расказваюць, як адгукнуліся на гэты залп рабочыя Гродна. Савет рабочых дэпутатаў, які засядаў у гарадскім тэатры, акружаны шчыльным ланцугом нямецкіх акупантаў, аднадушна вырашыў: «Уся ўлада Саветам!» У Гродна, Валкавыску, Слоніме, Навагрудку, Лідзе дзейнічалі ваенна-рэвалюцыйныя камітэты.

Савецкая ўлада праіснавала нядоўга, па сутнасці гэта быў толькі адзін подых кастрычніцкага ветру, але ён абудзіў народ, запаліў яго на ўсе дваццаць год барацьбы з белапольскай акупацыяй.

Калі ж чорнай хмарай насунулася сюды фашысцкая навала, народ, адчуўшы за кароткі час савецкай улады свае сілы, узняўся грознай сцяной супраць акупантаў.

Першы ж дзень вайны быў адзначан гераічным подзвігам. Застава пад Гродна, якой каманда-

ваў лейтэнант Аляксандр Усаў, супраціўлялася да апошняга салдата. Вораг заняў заставу толькі пасля таго, як пераступіў праз сотні трупаў сваіх салдат, як перастала біцца сэрца апошняга яе абаронцы. Працоўныя Гродзеншчыны назвалі заставу, якой прысвоена імя Аляксандра Усава, «маленькай Брэсцкай крэпасцю». На гэтым месцы цяпер узвышаецца помнік, які ўшаноўвае светлую памяць герояў.

Помнікі героям Вялікай Айчыннай вайны пастаўлены і ў другіх гарадах і аддаленых лясных вёсках Прынёмання.

Адзінай, згуртаванай сям'ёй народ будуе найлепшы помнік загінуўшым героям — сваю светлую будучыню, камунізм.

Ты памятаеш, Нёман...

Ды хіба аб усім раскажаш?

Нёман бачыў яшчэ мала светлага, радаснага; сведкай народнага шчасця яму давялося быць толькі ў апошнія гады. Здаецца, ад гэтага і сам ён памаладзеў і папрыгажэў.

Ты прыгожы і свабодны, ты цудоўны шчаслівым і радасным жыццём, што квітнее цяпер на тваіх берагах, наш бацька-Нёман!

### Заводскія трубы, краны новабудоўляў...

У час падарожжа мне вельмі хацелася дабрацца да вёскі Малыя Азёркі, што ў Мастоўскім раёне, хацелася сустрэць там калгасніка Сцяпана Ільіча Міхашчука. Гэты дзед у свой час быў знакаміты на ўсё наваколле. Але да вёскі ад ракі далекавата, а часу было мала.

Давялося пагутарыць толькі з яго сынам, якога я сустрэў пазней у Гродна. Уладзімір Сцяпанавіч з хітрынкай у вачах сказаў:

— Мой бацька? О, ён валодаў вельмі патрэбным рамяством.

— Чыгуны лудзіў? — спытаў я.

— Не. Умеў рабіць печы без аніводнай цагліны, з гліны.

— Хіба з гліны печы лепшыя, чым з цэглы?

— Не. Але ж цэгла ў той час каштавала так дорага, што і не падступіцца было да яе. Вось і ўзнікла новае рамяство. Бацька з маленства і мяне браў з сабой, — гаварыў далей Уладзімір Сцяпанавіч. — Хадзілі па вёсках, печы ставілі. Стары ўсё хацеў навучыць мяне свайму рамяству. «Добрае гэта рамяство, — гаварыў ён, — вучыся, сынок. Будзеш жыць з хлебам». І сапраўды, нямала прышлося мне мець справы з бацькавымі печамі. Толькі на маю долю выпала не будаваць іх, а разбураць, каб ставіць новыя печы з цэглы.

Мы доўга гаварылі аб тым, як, дзякуючы савецкай уладзе, якая распрыгоніла людзей, расквітнеў прынёманскі край, як мяняецца лёс людзей. Бацька пры капіталізме вучыўся абыходзіцца без цэглы, а яго сын пры савецкай уладзе стаў інжынерам і кіруе зараз развіццём прамысловасці будаўнічых матэрыялаў у вобласці.

У розных месцах на берагах Нёмана перад вачыма паўставалі трубы новых заводаў, краны новых будоўляў, а там, дзе былі адвечныя балотныя багны, раскінуліся торфаздабывальныя прадпрыемствы. Я звяртаўся да ўбачанага зноў і зноў, калі слухаў расказ Уладзіміра Сцяпанавіча Міхашчука.

Узяць хоць бы тую ж цэглу. У вобласці рэканструяваны пакінутыя капіталістамі 5 цагельняў, пабудавана 16 новых заводаў і 5 — будуецца. У абласным статыстычным упраўленні я даведаўся, што ў мінулым годзе цэглы было выраблена ў 17 разоў больш, чым да ўз'яднання ў 1938 годзе. Каля Гродна будуецца магутны сілікатны завод, ён будзе выпускаць больш цэглы, чым даюць яе ўсе цяперашнія заводы, разам узятыя.

Над Нёманам між лёгкіх металічных мачт нацягнуты тоўстыя правады. Гэта — лініі электраперадач. Яны працягнуліся ў розных кірунках. Усё часцей запальваюцца электрычныя агні ў вёсках, усё ярчэй ззяюць яны над ракой. За гады савецкай улады вытворчасць электраэнергіі ў вобласці ўзрасла





**Калгасная ГЭС на рацэ Сервеч у вёсцы Панямонь.**

больш чым у 30 разоў. Лідская цеплаэлектрацэнтраль — адна з новых. І паліва для яе знайшлося тут жа, ля парога. На вялікім балотным масіве, што раскінуўся ад вёскі Дакудава на Нёмане амаль да самага горада Ліды, цяпер будуецца буйнейшае ў рэспубліцы прадпрыемства па здабычы торфу. У мінулым годзе, калі ўступіла ў строй першая чарга, тут было здабыта да 200 тысяч тон паліва, а гады праз два, калі яно стане працаваць на поўную магутнасць, — сезонная здабыча дасягне 450 тысяч тон.

Нікому раней непатрэбнае балота, якое зарастала асакою і служыла толькі расаднікам малярыі, пры савецкай уладзе стала невычэрпнай крыніцай таннага паліва, электрычнай энергіі.

На Гродзеншчыне дваццаць гадоў таму назад была вельмі мізэрная прамысловасць, яна не развівалася. Белапольскія акупанты знарок затрымлівалі індустрыялізацыю Заходняй Беларусі, бо баяліся паяўлення рабочага класа. З усіх наяўных тады прадпрыемстваў найбольш буйнымі аказаліся тыя, якія былі заснаваны... у далёкія царскія часы. Гэта — шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы, які існуе ўжо 130 год, табачная фабрыка ў Гродна (хутка ёй будзе 100 год), цэментны завод. Тады ж былі пабудаваны і чыгункі. Зрэшты, мелася адна галіна прамысловасці, якую капіталісты ўсімі сіламі стараліся расшырыць, — лесанарыхтоўкі і дрэваапрацоўка. Берагі Нёмана і яго прытокаў густа ўстаўлены былі лесапілкамі.

Чаму ж капіталісты так старанна налягалі на лес? Бо адчувалі сябе тут часова і стараліся больш нарабаваць. Яны драпежна высякалі і вывозілі адсюль лес — нацыянальнае багацце беларускага народа. Сякера не мінула нават славутай на ўвесь свет Белавежскай пушчы...

Цяпер на Гродзеншчыне створаны новыя галіны прамысловасці — сельскагаспадарчага машынабудавання, электратэхнічная, швейная, мэблевая, тэкстыльная, мяса-малочная, торфаздабываючая.

Выпуск прамысловай прадукцыі ў параўнанні з 1938 годам узрос больш чым у 12 разоў. У новым сямігоддзі ён узрасце яшчэ ў 1,9 раза.

Многія прафесіі бацькоў сталі непатрэбнымі, адмерлі, а іх дзеці — токары, слесары, машыністы, аператары, электрыкі, інжынеры — будаўнікі новага жыцця, удзельнікі ўсенароднай барацьбы за камунізм.

### Зачараваная Бярэзіна

Перад нашымі вачыма Бярэзіна паўстае ва ўсёй сваёй шчодрай непаўторнай красе. Яна не шырокая і не вузкая, дастаткова глыбокая, і цеплаход хутка і без адзінай затрымкі ідзе ўперад.

А берагі!.. Як зачараваныя, мы глядзім на раку. Цеплаход рухаецца па нешырокім пакручастым калідоры. З абодвух бакоў жывая сцяна непралазнага лесу. Паглядзіш угару — а там галіны высачэзных дрэў цягнуцца над ракой з абодвух берагоў насустрач адна адной, бы рукі волата, якія хочуць сплесціся ў моцным поціску, увянчаць аркай сінявокую прыгажуню-раку. Але гэта не ўдаецца, і над сярэдзінай плыні віднеецца вузкая паласа нябеснага блакіту, якім да самага дна напоена рака. Паглядзіш туды, дзе павінен быць ~~бераг~~, — берага няма, і ўнізе, у люстранай гладзі, цягнецца такая ж сцяна дзікага ляснога гушчару. Здаецца, што цеплаход павіс між двума бяздоннямі, на вузкай дарожцы, пракладзенай у лесе, які з аднаго карэння расце ўгару і ўніз.

Гэта — неабсяжны лес, велізарная Налібоцкая пушча.

Яна падыходзіць да самай Любчы. З аднаго боку Нёмана — багацейшыя на Гродзеншчыне любчанскія, навагрудскія, карэліцкія калгасы, з другога — такі ж багаты лес. Яшчэ здалёк бачна яго чорна-сіняя паласа на фоне блакітнага неба. І пачынаецца лес неяк адразу: тут — поле, а там, як адсечана сякерай, — лес, гушчэзная сцяна.

Паспрабуем зайсці ў лес.

Якія дубы! У два-тры абхваты. Глянеш на вершаліну — шапка падае. Наверсе — вялікая і густая-густая зялёная крона. Трымае яе над сабой дуб сваімі дужымі таўшчэзнымі мускулістымі рукамі-галінамі.

Лесаводы гавораць: дуб любіць расці ў кажуху, але з адкрытай галавой. Дубок прагне сонца і баіцца холаду. Ён любіць, калі з маленства яго акружаюць маладыя бярозкі, граб ці іншыя якія дрэвы. Але ён заўсёды хоча бачыць сонца і не пацерпіць, каб яго хто-небудзь засланяў. Тады дубок паскорыць рост, выцягнецца ў жэрдку, але перагоніць тых, хто адбіраў у яго сонечнае святло. Ён з кожным годам усё больш набірае сілы, вось ён ужо на цэлую галаву вышэй за тых, хто ў дзяцінстве даў яму цёплы кажух. Наўкол яго нараджаюцца, растуць і паміраюць усе іншыя дрэвы, дажыўшы свой век, а дуб-волат стаіць стагоддзямі. Узвышаючыся над лесам і над галовамі ляснога натоўпу, ён размаўляе з іншымі такімі ж дубамі, што пануюць над пушчай, як стагі сена на скошаных заліўных лугах.

У пушчы растуць бяроза, асіна, альха, ясень, вяз, граб, бераст, у некаторых месцах трапляюцца сасна і елка. Яны ўзвышаюцца над непраходнай чашчобай арэшніку, квітнеючай шыпшыны, чырвоных гронак воўчых ягад і каліны, над зараснікам папараці. Дзікі хмель і ажыннік густа спляліся ў суцэльную тканіну. Няхай нават там, уверсе, будзе бура, а тут усё нерухома.

Наверсе сонца разліваецца па пушчы бясконцым залатым патокам. Ніжэй гэты паток блекне і згасае. А каля зямлі — халодны, насычаны вільгаццю паўзмрок.

Наверсе — звонкі шчэбет незлічонага мноства птушак, якія пырхаюць, гушкаюцца ў зялёных ліс-цях, і ўнізе, у траве, пушча таксама кіпіць нябачаным жыццём. З травы бясконца чуецца нейкі шолах, шапаценне, якія зліваюцца і ўтвараюць суцэльны гоман.

Бярэзіна да ўсяго гэтага нібы прыслухоўваецца, прыглядаецца. Яна цячэ павольна, апранутая з двух бакоў прыгожым зялёным дываном, і тоне ў суцэльнай квецені каліны, цешыцца цудоўнай сімфоніяй бясконцых салаўіных пошчакаў і мяккага шапацення дрэў.

Яе цёзка, — тая Бярэзіна, што ўпадае ў Дняпро, — атрымала сваё імя, гавораць, ад бяроз, з-пад якіх яна выцякае крыніцай. А гэта?





**Вось ён, прынёманскі край...**

Мусіць, разважаем мы, ад таго, што наўздагон за ёй неадступна бяжыць натоўп беластволых бяроз і кожная імкнецца заняць лепшае месца, каб можна было і самой усё бачыць і сябе паказаць. Ну, а тая небарака, што неяк прымасцілася на самым беражку, нібы паслізнулася. Вось-вось, здаецца, яе зусім падмые і яна ўпадзе ў абдымкі той бярозкі, што пазірае на яе з блакітнага люстэрка.

А вось — малюсенькая паляна. Здаецца, лес адступіў толькі для таго, каб даць месца магутнаму дубу і тонкай стройнай рабіне, што абняліся галінамі. О, каб убачылі іх паэт, кампазітар! Яны стварылі б песню лепшую за тую, што спявае адзінокая сумная рабіна...

На Бярэзіне я пазнаёміўся з памочнікам прараба Аркадзем Канапацкім. Ён прычаліў да кармы цеплахода свой човен, узяў з яго невялікую сумку. У сумцы, сярод рэчаў чалавека, які ўвесь свой час бавіць на рацэ, была кніга — падручнік па гідратэхнічных збудаваннях. Калі выдавалася вольная мінута, ён чытаў, рыхтуючыся да экзаменацыйнай сесіі ў Ленінградскім інстытуце інжынераў воднага транспарту, дзе займаецца завочна.

На асваенне Бярэзіны ён прышоў два гады назад, у ліку першых. І з ахвотай расказвае, што зроблена за гэты час. Уласна кажучы, і так усё відаць. Вунь уздоўж берага накладзены штабялі чорнага моранага дуба. Ствалы нябачанай велічыні. Пытаюся: колькі год яны знаходзіліся ў вадзе?

— А хто іх ведае? — задумённа прамовіў Канапацкі. — Гавораць, шэсць-сем стагоддзяў, а можа дзевяць.

Бярэзіна асвоена для суднаходства ў мінулым годзе. Ачыстка прадаўжаецца. Раней з рачнога дна было выцягнута ўсё тое, што загрувашчвала фарватэр і самым непасрэдным чынам перашкаджала суднаходству; цяпер ачышчаюцца берагі, спілоўваюцца дрэвы, якія навіслі над ракой і не сёння-заўтра могуць упасці, падмытыя, і перагарадзіць раку. І карчакраны, што працуюць у розных месцах, і самаходныя судны, і вехі, якія папярэджваюць аб скрытай пад вадой небяспецы, — усё гэта надае Бярэзіне від абжытай ракі.

У некаторых месцах на берагах ляжаць штабялі бярвенняў, на вадзе вяжуцца плыты; а паглядзіш на пушчу — здаецца, яна не кранута сякерай. Веліч ляснога першатвору дзейнічае на ўяўленне — узносіць, акрыляе, натхняе.

Тут водзяцца рысі, козы, дзікі, лісы, куніцы. Прыгледзься — і з цеплахода заўважыш у берагах бабровыя норы. Нямала бабровых хатак можна бачыць на Нёмане, Шчары, але іх больш за ўсё тут, на Бярэзіне. Гады тры назад звыш 200 экземпляраў гэтага каштоўнага звера, паляванне на якога сурова забаронена, адпраўлена адсюль на засяленне вадаёмаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Бабёр — хітры і асцярожны звер. Вылезе ён з нары, азірнецца — і ў лазняк. Перагрызе галінку, падцягне яе да берага, абмые і толькі пасля гэтага грызе кару, якой харчуецца. Абгрызеныя пруткі тысячамі ляжаць на беразе. Яны не прападаюць. Бабры выкарыстоўваюць іх для пабудовы хатак.

— Плывеш раненька на чоўне, — гаворыць Канапацкі, — а бабёр пачуе плёскат і давай палохаць. Робіць гэта ён па-свойму: залезе на высокі бераг і з размаху кідаецца ў ваду. Столькі шуму наробіць!.. Палохае-палохае, а сам тым часам уцякае...

### Зялёны сябар

Лес... Надта многа ты значыш у маім жыцці... Хлапчуком, яшчэ баючыся адысці ад парога хаты, я гадзінамі глядзеў на тваю сцяну, якой канчаўся выган. Першыя спробы пазнаёміцца з табой былі нясмелыя — палохала твая таямнічасць. А потым мы сталі сябрамі на ўсё жыццё. Ты шчыры і бескарыслівы. Ты гасцінна адкрываеш усім дзверы. Ты без утайкі паказваеш свае багацці таму, хто хоча паласавацца арэхамі, ягадамі, хто пойдзе з кошыкам па грыбы. А калі чалавеку проста хочацца адпачыць, ты абкружыш яго пяшчотай і ціхай задуменнай песняй.

І ў якія б далёкія краі лёс ні кідаў мяне, якую ні бачыў бы невыказную прыгажосць лясоў ці то на Клязьме ў Падмаскоўі, ці ў Жыгулях, ці ў далёкіх чужых землях, а кожная сустрэча з лесам нагадвала мне маю далёкую радзіму — як убачыш там бярозу, падбяжыш, узрадаваны. Сядзь на муражок пад бярозай, прыгледзься, прыслухайся — звініць. І здаецца, што сустрэўся з земляком, што ў тым звоне гучыць прывітанне з роднага краю, і гэта надае новыя сілы.

Дзе падобнае ўбачыш: дрэва белае, як снег, як святочная сукенка маладзіцы, а лісце — пяшчотназялёнае, як маладая, сакавітая траўка.

Пішуць: у заморскіх гарачых краінах расце прыгожае дрэва — пальма. Можа і сапраўды яна вельмі прыгожая, можа і сапраўды пальма ў тых месцах не мае сабе роўні, ды як жа ляжаш пад той пальмай, як схаваешся там ад той трапічнай спёкі, калі пад дрэвам зусім няма ніякай травы ці расце нейкая зжоўклая, калючая.

Лес заўсёды, у любую пару, быў нашым багаццем, адданым сябрам беларускага народа. Ён быў грозны і страшны для ворага. Успомніце мінулую вайну. Гітлераўцы баяліся беларускага лесу, як агню, яны дрыжалі перад яго несакрушальнай сілай, помсціл і яму, высякалі, палілі. Уздоўж дарог, вакол дотаў і іншых апорных пунктаў яны, дзе гэта ўдавалася, пакідалі ад лесу голае месца, мноства пнёў, а на тых пнях слязінкамі выступала сасновая смала... Высякалі, палілі, помсцілі, а не дабіліся свайго.

Наш сябар выстаяў, здужаў, перамог, бо народ абараняў яго гэтак жа добра, як і ён абараняў народ.

...Цеплаход прыстаў да берага, камісія занялася сваімі справамі, а я, выбраўшы рэдкалессе, іду наўцянькі, усё далей ад берага. Трапляецца арэшнік, маладыя асіны, вечна неспакойныя, нават у ціхае надвор'е іх трапяткое лісце трымціць. Схаваўшыся за лісце, сарамліва пазірае кветка шыпшыны. А больш за ўсё тут рабіны.

У час цвіцення тут белым-бела, а ў кастрычніку і ў лістападзе, калі неба засцяць нізкія цёмныя хмары, шугае зарыва мноства рабінавых кастроў.

У сінім бяздонні неба дзе-нідзе плывуць паціху белыя воблакі, а над высокай сакавітай травой пахне прэлым, кветкамі, зямлёй. Дарогу перагарадзіла доўгая і прамая, як страла, стужка вады. Што такое? Гляджу на карту: «Канал Жоўта-Нёманскі». Яго выкапалі ў даўнія часы для сплаву лесу. Перабраўся па кладцы, іду далей, і вось, адкуль ні вазьміся, пад нагі кідаецца нейкая рачулка — на карце і назвы нават не мае; яна хацела падбегчы да канала, але ў апошнюю хвіліну перадумала, крута збочыла і пабегла прэч.

Здалёку за спіной раздаўся гудок цеплахода. Кліча. Вяртаюся, усходжу па трапу. Усе чакаюць.



### Вабяць новыя далі

Плаванне падыходзіць да канца. Вось выйдзем на Нёман, кіламетраў сорак паднімемся ўгару, мінуем Любчу, дабярэмся да Купіска. Там суднаходны шлях канчаецца. Потым — назад, да Гродна.

Тут і запытаўся ў мяне Ульянаў:

— Як яно, га? Хараство, прыгажосць і не апішаш...

— Не кажы. Самы заўзяты «курортнік» — аматар экзатычнага поўдню пазайздросціць такой багатай прыродзе!.. Ды вось... Цвіце яна сама для сябе, людзі мала яе ведаюць і не бачаць.

— А хто перашкаджае? Калі ласка, няхай будуюць дамы адпачынку. А можна яшчэ вось што: прыедзь у Купіск ці ў Любчу аўтобусам, вазьмі лодку і — плыві паціхеньку ўніз, як у тым турысцкім маршруце сказана. Тыдні за два-тры дабярэшся да Гродна ці ў Друскенікі. Вось і адпачынак на лоне прыроды...

— Нядрэнна, — пацiснуў я плячыма. — А яшчэ добра было б пусціць па Нёману плывучы дом адпачынку.

На гэты раз паціскаў плячыма ўжо мой новы знаёмы — Ульянаў.

Многа, вельмі многа пабачыў я ў час падарожжа новага, цудоўнага, такога, што не сатрэцца ў памяці праз доўгія гады. Хто, убачыўшы цябе, Нёман, не паддасца захапленню тваёй сілай і прыгажосцю? Каго не зdолее паланіць няяркая прыгажосць прынёманскага краю?!.

Радаснае адчуванне поўніць усю маю істоту: столькі новага адкрылася мне ў родных краявідах!

А нейкі другі голас гаворыць: мала, зусім мала. Я глядзеў на ўсё з сярэдзіны ракі, а трэба б зірнуць з берага на раку, паблукаць па прынёманскаму раздоллю, адведаць новыя, незнаёмыя



**Моладзь вяртаецца ў Гродна з падарожжа па Нёману.**

далі. Хочацца пайсці ў тыя вёскі, што ледзь выглядаюць з густых садоў; наведаць і гэтую, новую, якая ўзнікла гады са два назад і атрымала гучную назву Левабярэжная, — гэта сяляне дзяляціцкіх хутароў, як і тысячы другіх хутаран вобласці, праклялі мядзведжае жыццё ў адзіноце, навязанае ім у мінулым, і ссяліліся ў гурт. А як не наведаць славутую на ўвесь Нёман вёску Дзяляцічы, дзе гучаць песні калгаснай харавой капелы...

Ну, а хіба можна абмінуць казачнае возера Свіцязь?!. Хочацца прайсціся па неабсяжных калгасных нівах, наведаць новы завод і ўбачыць катлаваны таго, якога, праўда, яшчэ няма, але ён будзе, бо аб гэтым запісана ў сямігадовым плане. Хочацца падняцца на той вунь далёкі ўзгорак, з якога, я ведаю, адкрыюцца новыя далі, і яны будуць клікаць і весці ў новае, яшчэ не адведанае.

Куды б ні прывялі цябе дарогі падарожжа, незнаёмыя дарогі, усюды сустрэнеш ты гасціннасць і ветлівасць працавітага і шчырага беларускага народа.

**Петрас АНТЭАС,**
**грэчаскі пісьменнік**

# ЧАЛАВЕК СА СЦЯГАМ

Гэта было 18 год таму назад. Але я, як кожны сумленны грэк, і сёння не магу без хвалявання ўспомніць гэты цудоўны майскі ранак. З першага погляду ўсё здавалася звычайным. Бязлітасна пякло гарачае паўдзённае сонца, на вуліцах грукалі цяжкія кутыя боты гітлераўцаў. Але, расчыніўшы аканіцы ў тую раніцу, жыхары Афін адразу пабачылі незвычайныя змены. На Святой Гары над Акропалем лунаў бела-блакітны нацыянальны сцяг Грэцыі. Гітлераўскі сцяг знік. Пабачыўшы гэта незвычайнае відовішча, людзі спяшаліся выйсці на вуліцы. У іхніх вачах гарэла непрыхаваная радасць, як быццам разам са свастыкай нехта зваліў з іх сэрцаў цяжкае, як пліта на магілках, пачуццё рабства. Нават віталіся яны сёння інача́й. Замест звычайнага «калі мера» (добры дзень), яны казалі радасна «калі ліфтэрыя» (добры дзень, свабода).

Праз палову гадзіны на ўсіх вуліцах Афін гучнагаварыцелі аб'явілі падпісаны Гітлерам смяротны прыгавор невядомым патрыётам, якія сарвалі сцяг.

«Хто гэта зрабіў? Хто гэтыя смелыя людзі?» — думалі тады афіняне і зайздросцілі мужным, што зрабілі гэта раней за іх.

Героямі Акропаля былі афінскі студэнт Маноліс Глезас і ягоны сябар Апосталіс Сантас.

З Манолісам Глезасам яшчэ ў тым самым годзе мне даводзілася сустракацца на зборах падпольнай арганізацыі моладзі.

Гэта быў высокі, чарнабровы, сціплы юнак. Пра свой подзвіг на Святой Гары ён не любіў гаварыць. Памятаю, кіраўніцтва арганізацыі заўсёды накіроўвала Глезаса на самыя небяспечныя заданні, якія патрабавалі асаблівай смеласці і знаходлівасці. Кожнае такое даручэнне ён выконваў заўсёды дакладна. Гітлераўцам тады не ўдалося злавіць Глезаса. Прыгавор, падпісаны Гітлерам, застаўся нявыкананым.

З тых часоў мінула восемнаццаць год. Зараз нацыянальны герой Грэцыі Маноліс Глезас знаходзіцца ў турме.

Як? За што?

У гэтым артыкуле я і хацеў бы адказаць на гэтыя пытанні, расказаць пра гэтага выдатнага чалавека беларускім юнакам і дзяўчатам, дзецям гераічнага народа, за барацьбой якога мы з такім захапленнем сачылі ў гады вайны, народа, які любіць свабоду, як і мой родны грэчаскі народ.

### Народам народжаны

Калі ў адным лісце маскоўскія вучні спыталі Глезаса аб тым, хто дапамог яму стаць барацьбітом, Маноліс адказаў:

— Плач дзяцей, якія галадалі на маім родным востраве Наксасе.

Гэта не былі пустыя словы.

Ён нарадзіўся ў беднай сям'і народнай настаўніцы, рана страціў бацьку і ў самым раннім юнацтве зазнаў усе жахі жыцця. Голад і нястача заўсёды гасцявалі ў іхняй сям'і.

Калі Манолісу споўнілася 14 год, сям'я перабралася ў Афіны, але і ў сталіцы жыццё не стала лепшым. Разам са сваім братам Нікасам Маноліс пачаў працаваць у аптэцы багацея Бекакаса. Працавалі па 12 гадзін на дзень. Мылі бутэлькі, бегалі па ўсім горадзе, разносячы па філіялах лекі. Праца была цяжкай, але і яна не перашкаджала Глезасу наведваць вячэрнюю гімназію.

У апошніх класах яе Маноліс уступіў у падпольную антыфашысцкую арганізацыю моладзі.

28 лістапада 1940 года на Грэцыю напалі полчышчы італьянскіх фашыстаў.

— За тры дні я буду ў Афінах,—хваліўся тады Мусаліні.

Але выхваляліся фашысты занадта рана. На барацьбу супроць захопнікаў паўстаў увесь народ Грэцыі. Сотні тысяч людзей перад тварам небяспекі забылі пра ўнутраныя звадкі і пайшлі на добраахвотніцкія пункты. Грэчаскія камуністы былі ў першых шэрагах змагароў.

На прыёмны пункт прышоў і семнаццацігадовы Маноліс.

— Я хачу біцца за Грэцыю, — сказаў ён.

Але афіцэр буржуазнай арміі толькі пасмяяўся з добрых намераў юнака і прагнаў яго прэч. Гэта вельмі засмуціла хлопца. Адзінай радасцю было тое, што і без яго грэчаскі народ упарта супраціўляўся, доўгія месяцы не пускаючы захопнікаў на сваю зямлю.

Вынік барацьбы вырашылі жалезныя дывізіі Гітлера, якія прышлі на дапамогу італьянскім фашыстам.

27 красавіка 1941 года, прыпаўшы да самаробнага дэтэктарнага прыёмніка, Маноліс пачуў ашаламляльную вестку. Па хвалях афінскай радыёстанцыі капітан гітлераўскай арміі Якобі даслаў тэлеграму Гітлеру: «Мой фюрар. Даводжу да вашага ведама, што сёння падначаленае мне падраздзяленне ўзняло над Акропалем сцяг вялікага райха».

Як пярун, ударылі гэтыя словы. Гэта было паражэнне. У Грэцыі пачалася чорная ноч акупацыі. Гітлераўскі сцяг, які ўзняў Якобі, зацямніў сонца Элады.

— Трэба знайсці зброю. Трэба змагацца, усімі сродкамі змагацца, — вырашыў юнак у тую раніцу.

### Подзвіг на Акропалі

Маноліс Глезас са сваім сябрам і аднадумцам Апосталісам Сантасам сядзелі на лаўцы ў парку Запайён. Зброі ім дастаць не ўдалося. Некалькі спроб захапіць у нямецкіх салдат аўтаматы былі марнымі. Але трэба ж было давесці немцам, што не яны гаспадары грэчаскай зямлі.

У Афінах у той час панаваў голад. На вуліцах, у скверах сотні людзей працягвалі рукі. Адпачываючы ў парку, хлопцы чулі толькі жаласныя галасы жабракоў, якія страцілі апошнюю надзею.

На другой алеі парку, абклаўшыся шчоткамі, сядзеў шасцігадовы хлопчык, падобны на худога вераб'я.

— Боты пачысцім, боты!.. — крычаў ён пранізлівым, злёгку ахрыплым голасам.

Падышлі два нямецкія салдаты ў касках. Адзін моўчкі паставіў нагу на падстаўку. Праз некалькі хвілін боты фашыстаў былі адглянцаваны — хоць глядзіся. Маленькі чысцільшчык працягнуў руку.

Немец ледзянымі вачыма паглядзеў на яго, потым рэзка зарагатаў і ўдарыў нагой па скрынцы.





Маноліс Глезас.

Шчоткі і гуталін разляцеліся ва ўсе бакі. Немцы адвярнуліся і павольна, як заведзеныя, пайшлі далей. Спалоханы хлопчык, збіраючы рэчы, ціха плакаў.

Такое даводзілася бачыць кожны дзень. З нянавісцю глядзеў Маноліс на Акропаль, над якім, як сімвал няшчасця, лунала фашысцкая свастыка. Потым раптам схапіў руку Апосталіса і позіркам, не кажучы ні слова, паказаў на сцяг. Сябар зразумеў. Пацiснуўшы адзін аднаму рукі, яны разышліся, дамовіўшыся заўтра сустрэцца ля Акропаля.

Святая Гара пільна ахоўвалася немцамі. Падымацца на яе было рызыкоўна. Але юнакі вырашылі, што б там ні было, выканаць задуманае. Абмяркоўваючы план, Маноліс прыпамінаў расказы старых людзей пра тое, што пад Афінамі быў калісьці таемны ход, які вёў на вяршыню гары. Гэты лаз і вырашылі скарыстаць.

Увечары Маноліс Глезас і Апосталіс Сантас адшукалі падземны ход і, прапаўзаючы пад тунелем, які мог кожную хвіліну абваліцца, папаўзлі ўгору.

Калі сябры дасяглі вяршыні гары, было ўжо зусім цёмна. Вакол віднеліся цьмяныя контуры зацемненага горада. Над галовамі, як велічэзная драпежная птушка, трапятаў сцяг.

Вартавых не было відаць. Толькі дзесьці далёка быў чуцён іхні рогат, які змешваўся з віскам п'яных прастытутак. Страшна, злавесна гучалі гэтыя гукі поруч з гонарам грэчаскага народа — Акропалем.

Цяжкі, спецыяльна сатканы з конскага воласу сцяг у дваццаць чатыры квадратныя метры, вісеў на высокай сталёвай мачце. Сябры зразумелі: не падняўшыся на мачту, зняць сцяг будзе немагчыма. Не сказаўшы ні слова, Маноліс пачаў узбірацца ўгару.

Адзін метр. Другі. Трэці.

Моцныя рукі юнака ўчапіліся ў тканіну. Аднак яна аказалася занадта моцнай, а нажа хлопцы не мелі. Доўга тузаў тканіну Маноліс, але сарваць сцяг яму так і не ўдалося.

Спатнелы, стомлены, ён спусціўся ўніз, а яго месца заняў Апосталіс. Не ўдалося і яму. Зноў узабраўся Маноліс.

— Можа сёння не будзем болей? Можа другім разам? Возьмем нож.

— Не — сёння або ніколі. Другім разам такога выпадку не будзе, — адказаў Глезас.

Нарэшце намаганнямі рук і зубоў Глезаса сцяг упаў на зямлю.

Выдраўшы з яго круг са свастыкай, сябры кінулі сцяг у глыбокі калодзеж Акропаля, а самі, пакінуўшы на мачце выразныя адбіткі пальцаў, каб вораг ведаў, хто гэта зрабіў і не мог помсціць невінаватым людзям, што жывуць ля Акропаля, пайшлі дахаты. Наступнага дня яны пачулі па радыё смяротныя прыгаворы сабе.

### Смяротнік

Здавалася, што пасля гэтага подзвігу народ ніколі не забудзе свайго героя. І народ, сапраўды, не забыў Маноліса: аб ім спявалі

песні, пра яго подзвіг складалі легенды.

Толькі тыя, хто, ашукаўшы давер'е народа, пачаў прыслужваць замежным імперыялістам, не хацелі паважаць Глезаса. Баючыся яго ўплыву на простых людзей, яны пачалі яго праследаваць. У першыя ж дні пасля вызвалення Глезас апынуўся ў канцлагеры англічан, якія прыйшлі ў Грэцыю як «вызваліцелі». Але там ён прабыў нядоўга. Паводзіны новых акупантаў выклікалі абурэнне народных мас, і англічане вымушаны былі вызваліць Глезаса.

У той час народныя масы Грэцыі ўсё мацней супраціўляліся палітыцы ўрада, які складаўся са стаўленікаў англа-амерыканскіх імперыялістаў. Рабочыя, прыгнечаныя беспрацоўем і голадам, патрабавалі хлеба, сяляне — зямлі. На гэтыя справядлівыя патрабаванні рэакцыя адказала жорсткімі рэпрэсіямі. Тады патрыёты ўзяліся за зброю, адступілі ў горы і сталі на шлях узброенай барацьбы.

На сціплым месцы журналіста Глезас таксама змагаўся. У палымяных артыкулах і нарысах ён выкрываў перад народам злачынствы, што чыніліся новымі фашыстамі. Гэтыя артыкулы, напісаныя патрыётам, вядомым усёй Грэцыі, былі для акупантаў страшнейшымі, чым кулі і штыкі.

У 1948 годзе Маноліс быў арыштаваны. Грунтуючыся на хлуслівых, правакацыйных абвінавачваннях, ваенны трыбунал асудзіў Глезаса на смерць.

— Глезас не герой. Глезас замежны агент і шпіён, — крычалі фашысцкія газеты. Але народ не верыў паклёпу. Ён ведаў, што Глезас, які сарваў з Акропаля крыж свастыкі, крыж, на якім распіналі яго народ, ніколі не будзе здраднікам радзімы.

Шырокая хваля пратэсту разлілася па ўсёй Грэцыі. Сотні, тысячы лістоў з усіх канцоў зямлі прыходзілі кожны дзень, патрабуючы волю герою Акропаля.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, урад яшчэ тысячу дзён трымаў Глезаса ў камеры смяротнікаў. Яшчэ тысячу дзён у чаканні смерці пакутаваў Маноліс у турмах Аверофа і Эгіны. Яшчэ тысячу дзён кожны ранак ён чуў стрэлы на турэмным двары. Гэта жандары забівалі яго сяброў, патрыётаў.

У 1951 годзе (Маноліс тады быў у камеры смяротнікаў) у час выбараў у парламент народ вылучыў яго кандыдатуру ў дэпутаты. На выбарчых участках Афін ён атрымаў большасць галасоў і быў выбраны дэпутатам парламента.

На падставе грэчаскай канстытуцыі людзі, выбраныя ў парламент, аўтаматычна вызваляюцца з турмы. Але рэакцыя гэтага не зрабіла. Глезас і надалей заставаўся за кратамі.

Тады ён аб'явіў галадоўку.

— Я не магу дапусціць, каб не паважалі волю майго народа, — заявіў ён замежным журналістам.

Адзінаццаць дзён галадаў Маноліс. Адзінаццаць дзён на вуліцах Афін збіраліся дэманстрацыі пратэсту. У парламент ішлі тысячы тэлеграм. Але фашысцкі ўрад заставаўся глухім да голасу народа.

На волю Маноліс вышаў толькі ў 1954 годзе.

### Змагар

Да турмы Маноліс Глезас быў здаровы, моцны юнак. Вышаў ён з турмы з надламаным здароўем, хворы цяжкай формай сухотаў.

— Такі ён нам не страшны, — думалі рэакцыянеры.

Аднак яны памыліліся. Ён ледзь пакінуў турму, а ўжо актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё. Спачатку працаваў журналістам прагрэсіўнай афінскай газеты «Аўгі», а потым — рэдактарам яе.

Глезас шмат пісаў: артыкулы, рэпартажы, нарысы. Пісаў пра беспрацоўнага, які начуе на вуліцы, пра матак, якія галадаюць, пра гора працоўных земляробаў. Простыя людзі бачылі ў яго артыкулах сябе, чулі пякучую праўду, якая казала пра іх паднявольны лёс.



Маноліс заўсёды быў гарачым чалавекам, які вельмі любіць жыццё. Яго цікавіла ўсё, што служыць прагрэсу і чалавеку.

Памятаю, у апошні час мы з Манолісам сустрэліся ў Маскве, якраз у тыя дні, калі запусцілі другі штучны спадарожнік Зямлі. Ледзь паспеўшы прывітацца, ён пачаў размову менавіта з гэтага.

Асабліва многа сілы Глезас аддаваў барацьбе за мір, барацьбе супраць стварэння ракетных баз у Грэцыі. Яго артыкулы, накіраваныя супраць англа-амерыканскіх імперыялістаў, як меч, каралі здраднікаў радзімы.

І яны пакуль не адважваліся чапаць Глезаса, баючыся выклікаць пратэст мас. Прагрэсіўныя сілы краіны ў той час мацнелі. Пад час выбараў у парламент у 1958 годзе прагрэсіўная народная партыя ЭДА дабілася вялікай перамогі. Калі да гэтага яна мела ў парламенце 18 месц, то пасля выбараў атрымала 79.

Пасля гэтага паражэння рэакцыя зноў пусціла ў ход тэрор. Пачаліся арышты грамадскіх дзеячоў, разгромы памяшканняў левых арганізацый і газет. На кожны такі выпад рэакцыі Глезас адказваў гнеўным голасам артыкулаў. Гэта канчаткова раз'юшыла грэчаскіх рэакцыянераў, і 5 снежня 1958 года агенты «асфаліі» (грэчаскай ахранкі) арыштавалі Глезаса на вуліцы.

Баючыся, што выказванні Глезаса могуць перашкодзіць іхнім планам, яны трымалі яго ў строгай ізаляцыі. Было ясна адно: фашысты імкнуліся сфабрыкаваць супраць Маноліса справу аб шпіянажы і заявілі, што будуць судзіць яго згодна закону 375, па якому яны расстралялі шматлікіх патрыётаў і ў тым ліку Белаяніса. Злачынствы, якія падыходзяць пад гэты закон, караюць толькі адным прыгаворам — смерцю.

Праз месяц Манолісу дазволілі сустрэчу са сваім адвакатам, і тады ўвесь свет даведаўся пра агідную правакацыю рэакцыянераў.

— Я ні ў чым не вінаваты перад радзімай і гатовы кожную хвіліну гэта давесці, — заявіў Глезас.

Каты зразумелі: нельга даваць Манолісу гаварыць. І таму ў навагоднюю ноч, не дазволіўшы развітацца з блізкімі, у кайданах пасадзілі яго ў самую страшную турму Грэцыі — Ітзэдзін, на востраве Крыт.

Сёмы месяц пакутуе Глезас у турме. Паўгода рэакцыянеры лезуць са скуры, імкнучыся сфабрыкаваць супраць яго справу, і не могуць. Імя Глезасаззяе так ярка, што да яго не прыстае кінутая катамі гразь.

Усе сумленныя людзі зямлі, пачынаючы з грамадзян Савецкага Саюза і канчаючы многімі дэпутатамі-лейбарыстамі ў Англіі, патрабуюць волі Глезасу.

Месца Глезаса не ў турме! Ад яго імя дрыжаць краты турмаў і нараджаецца надзея на свабоду ў сэрцы ўсіх людзей Грэцыі.

Барацьба за вызваленне Глезаса — гэта барацьба за мір і справядлівасць. Глезас павінен быць свабодным, і яго вызваляць мільёны галасоў пратэсту ўсіх сяброў Грэцыі, усіх народаў зямлі.

Глезас павінен быць свабодным!

## Насустрач VII сусветнаму фестывалю



# СВЕДКА БРАТНІХ СУСТРЭЧ

Пятнаццаць гадоў таму назад Мінск ляжаў у руінах. Сёння — гэта адзін з прыгажэйшых гарадоў нашай краіны. Воляй і намаганнямі беларускага народа пры дружнай падтрымцы і дапамозе ўсіх народаў савецкай Радзімы зроблен гэты цуд, які прываблівае сёння ўвагу кожнага, хто прыязджае ў СССР ці ў складзе дэлегацый ці вольным турыстам.

У беларускай сталіцы за апошнія гады пабывалі шматлікія госці з-за рубяжа. Усё часцей на яе гасцінных плошчах і вуліцах можна сустрэць замежных турыстаў, якія прыязджаюць — хто па-аднаму, а хто і цэлымі аўтобусамі, нават паяздамі. Нашымі гасцямі былі сябры з краін народнай дэмакратыі, прадстаўнікі многіх заморскіх краін — Аўстраліі, Канады, Бразіліі, ЗША, спякотнай Афрыкі, паўночныя суседзі — фіны, нарвежцы.



Нямецкія турысты ў г. Мінску.
Фота С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

На стадыёнах і спартыўных пляцоўках паказвалі сваё майстэрства венгерскія акрабаты, польскія баксёры, фінскія барцы, бразільскія і шведскія футбалісты.

Мінск становіцца сведкам братніх сустрэч, колькасць якіх з кожным годам становіцца ўсё большай і большай. Асабліва ўмацаваліся дружалюбныя сувязі мінскай моладзі з рознымі зарубежнымі маладзёжнымі арганізацыямі. Гэтаму ў многім садзейнічаў VI Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў, які праходзіў у Маскве. Цёпла сустракалі мінчане пасланцоў розных краін, якія ехалі на фестываль, гасцінна праводзілі іх па дарозе дамоў.

За апошнія гады моладзь Мінска са шчырай радасцю прымала маладзёжныя дэлегацыі Польшчы, Кітая, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Даніі, Швецыі, прадстаўнікоў маладзёжнага, студэнцкага і піянерскага друку Польшчы, студэнтаў славянскага факультэта Іенскага універсітэта і другіх.

Кожны, хто пабываў у нашым цудоўным горадзе, захапляўся яго плошчамі і праспектамі, паркамі і палацамі культуры, цудоўным архітэктурным аблічам Мінска, выказваючы гэтае захапленне як вусна ў гутарках, так і пасля вяртання на радзіму ў сваім друку.

«Калі знаходзішся ў сталіцы Савецкай Беларусі — горадзе Мінску, — пісаў у газеце «Сабад Неп» вядомы венгерскі паэт Іштван Шыман, — мімаволі прыгадваеш гісторыю з антычнай міфалогіі пра птушку Фенікс: як гэтая дзіўная, чароўная птушка, якая згарэла ў сваім гняздзе, зноў ажывіла сябе з свайго ўласнага праху».



Мінская школьніца завязвае піянерскі гальштук турыстцы з ГДР.

Заўважым, што піша гэта жыхар Будапешта, горада, які таксама быў разбураны ў часе вайны і намаганнямі працоўных венграў хутка адноўлены.

Амерыканскі піяніст Ван Кліберн у час свайго знаходжання ў беларускай сталіцы сказаў: «Я шчаслівы, што, праязджаючы па вуліцах вашага цудоўнага Мінска, бачу велізарнае будаўніцтва, якое пераўтварае вялікі горад».

Кіраўнік групы тайландскіх парламентарыяў пан Юанг Іемсіл адзначае: «У мінчан асаблівая здольнасць у справе аднаўлення і будаўніцтва свайго горада».

Рэдактар амерыканскай студэнцкай газеты Р. Уорд шчыра прызнаецца: «Я хадзіў па вуліцах цудоўнага горада і спрабаваў падлічыць пад'ёмныя краны на будаўнічых пляцоўках. Але іх было так многа, што я збіўся з ліку і вымушаны быў адмовіцца ад сваёй задумы».

Член дэлегацыі рускай, беларускай і ўкраінскай моладзі Канады Марыя Кузік сваё захапленне Мінскам выказала так: «У горадзе многа святла, паветра. У такім горадзе лёгка дыхаць. Тут радасна жыць і працаваць».

Амерыканская настаўніца Юніс Харыет Эўры адгукаецца пра Мінск вельмі сцісла: «У велічных вуліцах і будынках горада мне ўяўляецца яго будучыня».

Трапны водгук апублікаваў член індыйскай дэлегацыі Джасвант Сінг Рандхава: «Не пабываўшы ў Мінску і не пагаварыўшы з яго жыхарамі, нельга ўявіць сабе мужнасць, з якой горад аказваў супраціўленне фашыстам, і тое, што давялося зрабіць, каб аднавіць горад пасля разгрому фашыстаў».

Член канадскай дэлегацыі Лео Клевер заяўляе: «Каб зразумець уражанне ад гэтага горада, трэба пабываць у ім. Мінск адбудаваны так, што хутка, бадай, стане самым прыгожым горадам у свеце. Мы былі проста зачараваны ім».

Нельга не згадзіцца з гэтымі шчырымі выказваннямі прадстаўнікоў самых розных краін, людзей з самымі рознымі поглядамі, але адзінадушнымі ў сваёй ацэнцы горада-воіна, горада-будаўніка, горада-працаўніка.

Увесну мінская моладзь прымала ў сябе «Поезд дружбы», які прыехаў у нашу краіну з барацьбітамі за мір — прадстаўнікамі нямецкага народа.

Пад праменнямі ліпеньскага сонца Мінск выглядае яшчэ прыгажэйшым, і радасна, што пад гэтым сонцам усё часцей можнаназіраць братнія поціскі рук мінчан і варшавян, сафійцаў, берлінцаў, парыжан... поціскі, аб'яднаныя высакароднымі ідэаламі супрацоўніцтва і мірнага суіснавання, дружбы і братэрства народаў усіх краін.

**Н. МІКАЛАЕВА.**

## ПЕРАПІСКА СЯБРОЎ

«Добры дзень, таварышы камсамольцы!

Мы атрымалі пісьмо з маскоўскага радыё, у якім нам далі адрас вашага камітэта. Наш клас вельмі хоча перапісвацца з вашымі камсамольцамі.

Жывём мы ў сяле Крэмікаўцы, а вучымся ў сяле Бухава, якое знаходзіцца ад Крэмікаўцаў за восем кіламетраў. Непадалёку ад нашага сяла адкрыты вялікія залежы жалезнай руды, і хутка пачнецца будаўніцтва буйнага металургічнага камбіната. Гэта будзе камсамольская будоўля.

Наша арганізацыя ў вучылішчы добра выконвае свае абавязкі... Па ініцыятыве акруговага камітэта Дзімітраўскага Камуністычнага Саюза Моладзі мінулай восенню мы шмат папрацавалі. Правялі пасадку лесу, дапамагалі працоўнай кааператыўнай земляробчай гаспадарцы сяла Бухава ўбіраць ураджай.

Мы любім збірацца разам для таго, каб паслухаць лекцыі аб жыцці моладзі. Гутаркі нашы часта пераходзяць у дыспуты. Выступленні бываюць вельмі гарачыя.

Жыццё нашай арганізацыі крынічыць.

Перад IX з'ездам Дзімітраўскага Камуністычнага Саюза Моладзі, які адбыўся ў снежні мінулага года, наша арганізацыя называлася Дзімітраўскім Саюзам народнай моладзі. На з'ездзе было разгледжана шмат задач, аналагічных тым, якія вырашае Ленінскі камсамол, і Саюзу пастанавілі прысвоіць назву Камуністычнага.

Наша маленькая краіна няспынна ідзе ўсё ўперад да камунізма. І мы, камсамольцы, стараемся аддаць гэтай вялікай справе ўсе свае сілы.

Нас вельмі радуе кожнае новае дасягненне Савецкага Саюза. Мы вельмі радаваліся, даведаўшыся аб запуску першай у свеце касмічнай ракеты. Як сваёй роднай справай, ганарымся мы велічнымі рашэннямі XXI з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Яшчэ раз пацвярджаем наша вялікае жаданне перапісвацца з камсамольцамі вашай краіны. Просім прыслаць нам адрасы юнакоў і дзяўчат, якія жадаюць пасябраваць з намі.

З таварыскім прывітаннем!

Цветанка».

Гэта — адно з пісем, атрыманых Камітэтам маладзёжных арганізацый БССР. Кожны дзень паштальён дастае са сваёй сумкі і пакідае тут значную частку пісем.

Ці трэба гаварыць пра тое, колькі цікавага могуць расказаць беларускія камсамольцы-школьнікі ў сваім пісьме да маладых балгар. Рэдакцыя «Маладосці» ўпэўнена, што Цветанка і яе аднакласнікі знойдуць у нас нямала сяброў. Да ўсіх, хто распачне перапіску са школьнікамі з Крэмікаўцаў, мы звяртаемся з просьбай: пра самае цікавае з будучай перапіскі раскажыце потым нашым чытачам.

Перапіска з замежнымі сябрамі набывае сярод нашай моладзі ўсё большую папулярнасць.

Былы слесар, цяпер студэнт БДУ Іван Старавойтаў даўно ўжо вядзе сяброўскую перапіску са студэнтам Варшаўскага ўніверсітэта Янам Галубоўскім, які вывучае беларускую мову і літаратуру. Вельмі часта Іван, паслаўшы пісьмо Яну, следам пасылае і бандэроль: новую кнігу беларускага пісьменніка, цікавы нумар беларускага часопіса. Малады варшавянін кожны раз горача дзякуе сябру і гаворыць, што каб не было гэтай перапіскі, дык яго веданне беларускай мовы было б намнога бяднейшым.

А вось канверт з Берліна. Піша аспірант Гумбальдскага ўніверсітэта Роланд Рудольф. Яму трыццаць адзін год. Ён крыху ведае рускую мову.

«Мае імкненні наступныя, — гаворыць ён:



1. Мне хацелася б устанавіць сяброўскія адносіны з грамадзянінам вашай краіны.

2. Пры дапамозе гэтай перапіскі я хацеў бы пашырыць свае веды аб вашай краіне і веды па рускай мове.

Я ведаю англійскую мову. Магчыма, магу нават каму-небудзь дапамагчы пашырыць веданне і гэтай мовы».

... «Нас трое вучняў з гандлёвай садова-гародніннай школы ў г. Ютэборгу, — чытаем мы ў другім пісьме з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. — Мы хочам перапісвацца з нашымі савецкімі калегамі, каб пашырыць свае прафесійныя і палітычныя веды...»

... А ў пісьме нямецкай дзяўчыны Эльке Бёрнер гаворыцца:

«Я вучуся ў сярэдняй школе імя Іогана Бехера; член Саюза Свабоднай Нямецкай Моладзі... Я з захапленнем чытаю паведамленні аб мностве цікавых падзей з жыцця савецкіх камсамольцаў. Даведвацца пра гэта мне хацелася б не толькі з газет, але і па пісьмах ад савецкай сяброўкі, якая актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве камунізма.

Я цікаўлюся ўсім, што варта ўвагі. Сама я вучуся, рыхтуюся стаць радыстам».

Група старшакласнікаў сярэдняй школы ў раённым цэнтры Буда-Кашалёва (Гомельская вобласць) вырашыла перапісвацца з юнаком з Берліна. Рабяты пішуць па-нямецку і бываюць вельмі рады, калі іх новы знаёмы адзначае правільнасць мовы і бездакорную арфаграфію.

Шырокі абмен пісьмамі вядуць калекцыянеры паштовых марак. Філатэлісты ў большасці — народ практычны. Пішуць яны звычайна вельмі коратка, але ў самыя розныя краіны, клапоцячыся аб адным — папоўніць свае альбомы.

Вось як звяртаецца да нашых філатэлістаў Андрэй Мілавідаў з Польшчы:

«Мне 16 год. Я жыву ў Польшчы, якая звязана дружбай з Савецкім Саюзам. Захапляюся філатэлізмам. Я ўжо спісаўся з чэшскімі, германскімі і італьянскімі калекцыянерамі. Хочацца таксама перапісвацца і з камсамольцам вашай краіны, які збірае паштовыя маркі.

З нецярплівасцю чакаю адказу».

Камсамольскія арганізацыі, дзе ёсць юнакі, якія жадаюць устанавіць сяброўскую сувязь з зарубежнымі краінамі, могуць атрымаць адрасы для перапіскі ў Камітэце маладзёжных арганізацый БССР (Мінск, вул. К. Маркса, 40).

# НА СЦЭНЕ— ЗАРУБЕЖНЫЯ ВЫКАНАЎЦЫ

Закончыўся чарговы канцэртны сезон у Мінску. Ён, як і мінулагодні, быў цікавы не толькі багаццем, змястоўнасцю праграмы, але і разнастайнасцю выканаўцаў. Мусіць гэтым тлумачацца і аншлагі амаль на кожным канцэрце сур'ёзнай сімфанічнай музыкі. Сярод пастаянных наведвальнікаў канцэртаў з кожным годам становіцца ўсё болей і болей моладзі. І трэба сказаць, што якраз моладзь і з'яўляецца найбольш заўзятай, цікаўнай і музычна-падрыхтаванай часткай аматараў сімфанічнай музыкі. А сапраўдным аматарам у гэтым сезоне, як кажуць, было што паслухаць. У сімфанічных канцэртах прагучала нямала выдатных твораў класічнай музыкі, новых твораў савецкай, і ў тым ліку беларускай, музыкі. А шырокі ўдзел у канцэртах вядомых дырыжораў і салістаў не толькі нашай краіны, але і замежных, з'яўляецца, бадай, самай адметнай рысай прайшоўшага сезону.

Добрай традыцыяй стала тое, што на канцэртных афішах Мінска з кожным годам з'яўляецца ўсё болей і болей імёнаў зарубежных артыстаў. Гэта — сведчанне няспыннага пашырэння культурных сувязей нашай рэспублікі з многімі зарубежнымі краінамі, вялікай зацікаўленасці савецкага чалавека музычнай культурай розных народаў свету. Толькі за апошнія гады Мінск і другія гарады Беларусі наведалі дзесяткі музычных калектываў і асобных артыстаў з усіх без выключэння краін народнай дэмакратыі, а таксама са Злучаных Штатаў Амерыкі, з Паўднёвай Амерыкі, Францыі, Бельгіі, Швейцарыі, Даніі, Італіі.



Балгарскі дырыжор Руслан Райчаў дырыжыруе сімфанічным аркестрам Белдзяржфілармоніі.
Фота У. Крука.

Калі мінулы канцэртны сезон (1957—1958 гг.) закончыўся трыумфальнымі выступленнямі ў Мінску выдатнага маладога амерыканскага піяніста лаўрэата міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага ў Маскве—Ван Кліберна, то гэты сезон пачаўся канцэртамі Тыдня балгарскай музыкі, у якіх прынялі ўдзел таленавіты балгарскі дырыжор, лаўрэат Дзімітраўскай прэміі Руслан Райчаў, скрыпач Васіл Чарнаеў, салісты Сафійскай народнай оперы Надзя Афеян і Любамір Бодураў.

Сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам свайго балгарскага госця выканаў шэраг буйных сімфанічных твораў кампазітараў Панчо Уладзігерава, Веселіна Стаянава, Петко Стайнава, Любаміра Піпкава, і ўсе яны надзвычай цёпла былі прыняты наведвальнікамі канцэртаў. З няменшым поспехам



прайшоў і сімфанічны канцэрт з твораў П. І. Чайкоўскага, праграмай якога таксама дырыжыраваў Руслан Райчаў.

Жывы рэзананс грамадскасці Мінска выклікала выступленне з сімфанічным аркестрам дыпламанта Міжнароднага конкурсу дырыжораў у Італіі, вядомага польскага музыканта Станіслава Скравачэўскага. У яго інтэрпрэтацыі надзвычай пераканаўча і шчыра прагучала Трэцяя («Гераічная») сімфонія Бетховена, урыўкі з оперы Р. Вагнера «Трыстан і Ізольда» і сюіта з балету «Харназі» польскага кампазітара К. Шыманоўскага.

Знамянальнай падзеяй у культурным жыцці сталіцы нашай рэспублікі з'явіліся сімфанічныя канцэрты пад кіраўніцтвам славутага мастака—італьянскага дырыжора Карла Цэкі. У праграму канцэртаў выдатнага дырыжора ўвайшла «Фантастычная сімфонія» Г. Берліоза, уверцюра да оперы Д. Вердзі «Сіцылійская вячэрня», «Элегія» венгерскага кампазітара Бела Бартака і сюіта італьянскага кампазітара семнаццатага стагоддзя Арканджэла Карэлі. Скупым, але чоткім дырыжорскім жэстам, усім сваім вонкавым выглядам выдатны італьянскі музыкант здолеў перадаць пачуцці, закладзеныя аўтарамі твораў у музыку, «заразіць» аркестр сваім тэмпераментам, аб'яднаць намаганні кожнага асобнага артыста аркестра ў адно маналітнае цэлае. Дзякуючы ўсяму гэтаму праграмы абодвух канцэртаў Карла Цэкі прагучалі надзвычай непасрэдна, пераканаўча і выклікалі цэлую буру авацый глядзельнай залы.




Італьянскі дырыжор Карла Цэкі ў Мінску.
Фота М. Зісмана.



Японская скрыпачка Хісака Цудзі.
Фота У. Крука.

Удала закончыўся канцэртны сезон выступленнем японскай скрыпачкі Хісака Цудзі, якая ў праграму сваіх канцэртаў уключыла, акрамя твораў японскіх кампазітараў, канцэрт для скрыпкі з аркестрам лаўрэата Ленінскай прэміі А. Хачатурана.

Канцэрты выдатных савецкіх і замежных гастралёраў у Беларусі, іх сумесныя выступленні з сімфанічным аркестрам Беларускай дзяржаўнай філармоніі адыгрываюць станоўчую ролю ў набыцці калектывам мастацкага майстэрства, аказваюць вялікі ўплыў на яго творчую біяграфію і разам з тым з'яўляюцца цікавымі падзеямі ў культурным жыцці нашай рэспублікі.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ.**

# КАБ КВІТНЕЛА ЗЯМЛЯ

Прыемна любавацца зялёнымі дрэўцамі, якія мільгаюць абапал дарогі. Падарожнікаў, што едуць у машыне па абсаджанай дрэвамі, кустамі дарозе, так і вабіць зрабіць прыпынак, падыхаць свежым паветрам.

Лягчэй ісці па дарогах са шчыльнымі ахоўныміляснымі палосамі і зімой: тут не сустрэнеш нечаканай нерашкоды ў выглядзе снежнага сумёту ды і вецер не гуляе, як у полі.

Мы часта нават не задумваемся, якое вялікае значэнне мае ў нашым жыцці зялёны ўбор зямлі.

Кожны, хто па-сапраўднаму любіць свой край, павінен сам у сябе запытацца: што я зрабіў, каб ён стаў яшчэ прыгажэйшы? І падумаўшы гэтак, кожны прыдзе да вываду, што ўпрыгожыць свае родныя мясціны можна, перш за ўсё, азеляніўшы населеныя пункты, сядзібы і дарогі.

Азеляненне—справа складаная, і таму рабіць яе трэба з любоўю, пагаспадарску, разумна.

Гэтую справу можна вырашаць, вядома, і спрошчана, пасадзіўшы ўзбоч дарогі маладыя дрэўцы, выкапаныя ў лесе. Але куды прыгажэй будзе, калі абапал дарогі высадзіць алеі самых прыгожых і каштоўных дрэў, якія прыжыліся ў Беларусі.

У батанічных садах і ў лясніцтвах на ўліку ёсць матачнікі каштоўных парод, адтуль можна атрымаць насенне для іх размнажэння ў гадавальніках або для пасеву ўздоўж дарог паміж радамі насаджэнняў, якія ўжо трохупадняліся. Калі кожнае лясніцтва, калгасы і саўгасы, школы будуць мець гадавальнікі розных парод дрэў, мы атрымаем саджанцаў столькі, колькі нам патрэбна.

Пры азеляненні аднастайнасць пажадана толькі на кароткіх участках дарог. Калі ж пасля пад'ёму або на павароце дарогі мяняецца перспектыва, трэба змяніць і род дрэў, каб стварыць новую карціну. Але нават і тады, калі засаджваецца алея, варта мець дрэвы, якія ў розны час распускаюцца і цвітуць, у розны час скідаюць лісце. Разнастайныя пасадкі даюць больш жыццездольнае гібрыднае насенне. Так, калі высаджваюцца ліпы, лепш за ўсё чаргаваць нашу звычайную дробналістую ліпу з іншымі яе відамі: буйналістай, срабрыстай, крымскай, каўказскай, амурскай. Гэтыя віды сустракаюцца ў парках рэспублікі. Трэба выкарыстаць іх насенне ў гадавальніках, але можна завезці яго і з іншых раёнаў—Крыма, Каўказа, Прымор'я.

Гаспадарчая каштоўнасць ліп—у іх меданоснасці: адзін гектар ліпы можа даць да тоны духмянага ліпавага мёду. У гарадах меданоснасць амаль не выкарыстоўваецца. Таму ліпу лепш саджаць у сельскай мясцовасці, паблізу ад населеных пунктаў і пасек.

У паўднёвай палавіне БССР мэтазгодна саджаць белую акацыю, якая па медапрадуктыўнасці не ўступае ліпе, а па духмянасці кветак і дэкаратыўнасці лепшая за яе. Белая акацыя толькі ў канцы XVIII стагоддзя трапіла са сваёй радзімы—Паўночнай Амерыкі—на Украіну і стала там самай распаўсюджанай пародай дрэў. Векавыя белыя акацыі ўпрыгожваюць бульвары і нашага Брэста. Добра расце яна і ў Мінску, аднак увагаю азеляняльнікаў чамусьці не карыстаецца.

Клён прыгожы асабліва восенню са сваім агністым уборам. Клён палявы і па меданоснасці мала ўступае ліпе. Адна з яго разнавіднасцей—цукровы клён—можа добра расці ў паўднёвых раёнах БССР. У ЗША да гэтага часу закладваюцца прамысловыя плантацыі цукровага клёну, з якога атрымліваюць сіроп і цукар. У парках БССР (Ігнацічы, непадалёк ад Мінска; Высокае Аршанскага раёна) сустракаюцца клёны іншых відаў—чырвоны, срабрысты.

Прыгожыя алеі з конскага каштана, асабліва ў перыяд цвіцення. Кветкі яго нагадваюць свечкі. Пчолам яны даюць нектар, пылок і клей. Шмат відаў каштана расце на Украіне, адтуль можна атрымаць насенне больш прыгожых чырвонакветкавых каштанаў.

З экзотаў (рэдкіх для нашай паласы дрэваў) асабліва цікавае цюльпанавае дрэва (лірыядэндрон). Яно расце вельмі хутка і на радзіме—у ЗША—дасягае 60 метраў вышыні і 3,5 метра ў дыяметры. У БССР ёсць адзін экземпляр гэтага дрэва ў Барысаўшчынскім парку Хойніцкага раёна.

Цудоўным дрэвам для прысад, якое дасягае 25 метраў вышыні і паўметра ў дыяметры, з'яўляецца мядзведжы арэшнік, або дрэвападобная ляшчына. Арэхі яго прыдатныя для спажывання, але маюць вельмі тоўстую шкарлупіну і маленькае ядро. Магутная крона і стройны ствол робяць мядзведжы арэшнік падобным на пірамідальную таполю, у больш сталым жа ўзросце ён нагадвае дуб. У Горацкім дэндрапарку Магілёўскай вобласці расце некалькі экземпляраў гэтага арэшніку, якія пладаносяць.

Шырокага выкарыстання для абсадкі дарог заслугоўваюць усе віды сямейства арэхавых. Арэх варта размнажаць і як каштоўную драўніну для мэблевай прамысловасці. Найбольш марозаўстойлівыя шэры і манчжурскі арэх. Гэтыя арэхі даюць плады з вельмі моцнай і тоўстай шкарлупінай, з якой цяжка дастаць ядро. Шэры арэх ёсць у многіх парках БССР, манчжурскі арэх шырока ўведзены ў лесакультуры лясніцтваў. Прысады з манчжурскага арэху сустракаюць наведвальнікаў пры ўваходзе ў Батанічны сад АН БССР у Мінску.

Чорны арэх расце вялікім дрэвам—да 40 метраў вышынёю. Але ён менш марозаўстойлівы і сустракаецца радзей у парках (Нізгалава Віцебскай вобласці, Горкі Магілёўскай вобласці, Ігнацічы Мінскага раёна).

У паўднёвых раёнах Беларусі ёсць зусім акліматызаваны грэцкі арэх, які можна ўводзіць у прыдарожныя пасадкі па прыкладу Украіны. Многа дрэў грэцкага арэху ёсць у Брэсце і Пінску.

У паўднёвых раёнах БССР варта разводзіць паўночнакітайскі кустарнік з вельмі дэкаратыўнымі кветкамі, так званы чакалкін арэх, які дае арэхі, прыдатныя для спажывання. Насенне яго можна атрымаць у дэндрапарках і батанічных садах Чарнігаўшчыны і Кіеўшчыны.

Усё часцей мы чытаем паведамленні аб пасадках уздоўж дарог пладаягадных дрэў і кустарнікаў. Раней іх не саджалі, бо баяліся, што дзеці,





Вішня стэпавая. Лошыца.



Калючая вішня. Лошыца.



**Яблыні каля будынка Міністэрства сельскай гаспадаркі ў Мінску.**

лазячы па плады, паламаюць дрэвы. Але чым больш будзе пладовых, ягадных і арэхавых культур, тым меншай будзе гэтая небяспека. Задача камсамольскай і піянерскай арганізацый заключаецца ў тым, каб выхоўваць моладзь у духу павагі да грамадскай уласнасці.

У нас незаслужана забылі вішню як дэкаратыўную пароду. Усе турысты, што наведвалі Японію, расказваюць, якое незабыўнае ўражанне зрабілі на іх алеі вішань у квецені. Мы ж любуемся толькі вішнёвымі садамі, але вішань пры дарогах не саджаем. А дарма, тым больш, што ў нас, акрамя звычайных, добра прыжылася дзікая вішня з прыгожай купчастай кронай (Лошыца пад Мінскам).

Дэкаратыўныя таксама і рабіны са сваімі ярка-чырвонымі гронкамі ўвосень.

У Мінску толькі каля памяшкання Міністэрства сельскай гаспадаркі па вуліцы Кірава высаджаны яблыні. Дзікія дэкаратыўныя грушы і яблыні маглі б упрыгожваць нашы дарогі. У паўднёвых раёнах БССР (Брэст, Пружаны) добра расце шаўкавіца белая, або тутавае дрэва, лісцем якой выкармліваюць вусеняў тутавага шаўкапрада. Шаўкавіца дае ягады, якія можна ўжываць для варэння і якія служаць добрым кормам для птушак.

Часам на дарогах карысна ствараць непранікальныя жывыя агарожы з такіх калючых кустарнікаў, як абляпіха, лох срабрысты і вузкалісты, цёрн, шыпшына, глог, барбарыс і іншыя. Усе яны даюць плады і хованку для птушак, а калючая жоўтая акацыя яшчэ і меданос.

Лісцяныя пароды зімою маюць сумны выгляд, яны стаяць голыя. Хвойныя ж пароды прыгожыя і зімой. Акрамя таго, яны лепш за лісцяныя ахоўваюць дарогі ад вятроў і заносаў снегам і аздараўляюць атмасферу.

З хвойных найбольш дэкаратыўныя піхты і елкі. Піхта белая, або еўрапейская, расце ў Шчамысліцкім лесапарковым гадавальніку Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі, у Горацкім дэндрапарку, у раёне Ваўкавыска. У Шчамысліцы і Горках расце таксама піхта каўказская.

У лясах рэспублікі мы прызвычаіліся бачыць адзін від елкі—елку звычайную. А наогул у Беларусі ёсць 10 відаў елкі, з іх найбольш дэкаратыўная елка калючая.

Гіганцкіх памераў—звыш 80 метраў—дасягае елка сітхінская, маладое насаджэнне якой ёсць у Шчамысліцы. Елка сербская, якая дасягае вышыні 65 метраў, сустракаецца ў парках Беларусі. Найбольшая вышыня елкі звычайнай—50 метраў, а сасны звычайнай 40—45 метраў.

Срабрыстыя елкі ўяўляюць сабою не асобны від, а форму, варыяцыю многіх відаў. Гэтая форма елкі размнажаецца звычайна чаранкамі, таму што насенне можа даць іншыя формы.

Па хуткасці росту вялікую цікавасць уяўляюць дугласіі, або ілжэцугі. Зялёная ілжэцуга цісалістая можа расці да 115 метраў у вышыню, падобна да гігантаў хвойных парод—мамантавага дрэва і секвойі. Дугласіі растуць у парках: Малінаўшчынскім Маладзечанскага раёна, Барысаўшчынскім Хойніцкага раёна, у Навагрудку, Свіслачы, Міры, Гродна, у мінскім і асіповіцкім лесгасах, у Шчамысліцы. Адтуль і можна атрымаць насенне для гадавальнікаў.

Па энергіі росту лепшая за беларускую сасну лістоўніца, асабліва японская і еўрапейская. Пладаносныя дрэвы японскай лістоўніцы вядомы ў шэрагу паркаў: Шчамысліца, Лошыца, Ігнацічы каля Мінска, Высокае, Межава і Дабрыгор Віцебскай вобласці. Насаджэнні еўрапейскай лістоўніцы ёсць у лесгасах Гродзеншчыны і Міншчыны.

Сібірская лістоўніца шырока ўкараняецца ў лесакультуры Беларусі. Але калі ўжываць прывознае насенне, дык лепш выкарыстоўваць яго з Паўднёвага Сахаліна, дзе расце паўночны від японскай лістоўніцы, так званая курыльская.



У БССР можа расці лістоўніца заходняя, якая дасягае 80 метраў. Яна расце ў Ленінградзе, Маскве і ў Навадугінскім раёне Смаленшчыны, дзе частка дарог абсаджана рэдкімі пародамі (экзотамі) і пакідае незабыўнае ўражанне.

Лістоўніцы асабліва дэкаратыўныя вясною са сваёй светла-зялёнай хвояй, якая робіць іх кантраснымі на фоне цёмных хвойных і лісцяных парод.

Добра затрымлівае снег ядловец. У паўднёвых раёнах БССР заслугоўвае самага шырокага распаўсюджвання віржынскі ядловец, які дае найлепшую драўніну для алоўкаў. Насенне яго можна атрымаць з дэндрапаркаў Кіева. У паўночнай частцы Беларусі можна прымяняць ядловец звычайны.

Для абсадкі дарог добра ўжываць тую, якая нагадвае кіпарысы. Туя гіганцкая вырастае да 60 метраў у вышыню. Расце яна ў Шчамысліцы. Прыдатныя таксама для паўднёвых раёнаў БССР і кіпарысавікі.

У Гомельскім парку расце гінкга—арыгінальнае раліктавае дрэва групы голанасенных, але з лісцем.



**Лістоўніца японская. Лошыца.**



**Бярозавыя прысады.**

Прыгожая крона, яркая афарбоўка асенніх лістоў падказвае мэтазгоднасць пасадкі яго ў алеях, тым больш, што яно лёгка размнажаецца летнімі чаранкамі і насеннем, хутка расце.

У выбары парод трэба выходзіць з мясцовых умоў: умоў глебы, рэльефу, мікраклімату, магчымасці дастаць насенне ці саджанцы. На балоцістых глебах давядзецца прымяняць і нашы мясцовыя пароды—асіну, таполю, вольху. На пясках больш прыгоднымі акажуцца сосны, ядловец, вербы, чаромха. Перад батанікамі школ і лесаводамі адкрываецца багатае поле для праяўлення ініцыятывы і вынаходлівасці.

Праяўляць жа гэтую ініцыятыву можна не толькі веснавой ці асенняй парой, калі прынята займацца пасадкамі і перасадкамі. Вопыт паказвае, што пры пэўных умовах многія пароды дрэў можна паспяхова перасаджваць зімой і летам.

Таленавіты рускі аграном-лесавод канца XVIII стагоддзя А. Т. Болатаў указваў нават на перавагу летняй пасадкі дрэў, якая заключаецца ў тым, што летам можна «...саджаць дрэвы ў вольны час, не спяшаючыся, і выбіраць, якія хочаш».

Выкопваць дрэвы, абавязкова з зямлёю, Болатаў пачынаў перад самай пасадкай. Ямы капаліся ў часе пасадкі. Пры выкопванні захоўваўся дзёрн на камяку зямлі, пасля пасадкі зямля пад дрэвам абкладвалася дзёрнам, калі яго не хапала. У перасаджаных дрэваў і кустоў адразу ж абрэзваліся лішнія парасткі, каб зменшылася

выпарэнне. Саджанцы паліваліся два разы на дні.

Каліна і крушына добра прымаліся ў Болатава нават пры перасадцы іх у час цвіцення. Клён, ліпу, черомху і рабіну ён паспяхова перасаджваў нават пасля поўнага разгортвання лісця і паяўлення маладых парасткаў. Лепш прыжываліся дрэвы, вышыня якіх не перавышала чалавечага росту, а таксама тыя, што выкопваліся групамі або раслі некалькімі ствaламі з аднаго кораня.

Бярозы добра прымаліся не ў пачатку лета, а ў сярэдзіне ліпеня, дрэўцамі не вышэй 1,5 метра. Дрэнна пераносіў летнюю перасадку толькі арэшнік.

Болатаў адзначаў, што «...дрэвы, якія саджаюцца летам і з лісцем, пры дастатковым паліве амаль зусім не хварэюць і адразу пачынаюць упрыгожваць сваёй зелянінай мясцовасць».

Ф. Т. Быкаў—настаўнік Беліцкай школы Рагачоўскага раёна, дзе створан школьны батанічны сад, таксама адзначае, што елкі лепш за ўсё прыжываюцца пры пасадцы з наступленнем устойлівай цеплыні ў чэрвені, калі яны лёгка залечваюць раны, заліваючы іх смалой.

У Беларусі можна ўсюды выпрабаваць летнія пасадкі дрэў і кустарнікаў, але абавязкова з зямлёю на карэнні, з абрэзкай галін і паліўкай, пакуль саджанцы не ўвойдуць у сілу. Трэба ўлічваць таксама неабходнасць зацянення саджанцаў, якія раслі раней пад мацярынскім прыкрыццём.

Пасадка дрэў—вельмі карпатлівая работа, але баяцца яе не павінен той. хто клапоціцца аб упрыгожванні нашай зямлі.

А. БІРЫЛА,
інжынер.



Янка Купала і Аляксей Талстой. 1939 г.

# ДАВЕРАНЫ НАРОДНАЙ ДУШЫ

Кожны мастак імкнецца служыць свайму народу, але не кожнаму ўдаецца заслужыць народнае давер'е. Толькі таму, хто быў з ім заўсёды



Янка Купала. 1927 г.

ў горы і ў радасці, хто зрадніўся з ім сваёю доляю, давярае народ свае самыя запаветныя думкі і спадзяванні.

Такім шчаслівым народным абраннікам, давераным народнай душы быў Янка Купала. Гэта яго вуснамі працоўны беларус заявіў на ўвесь свет у памятным 1905 годзе аб сваёй крыўдзе; гэта з купалаўскай песняю змагаўся ён за вялікае права звацца чалавекам; гэта разам з паэтам, у дзіўным сугалоссі, спяваў ён свае шчасныя песні, калі над родным краем узышло сонца Кастрычніка.

Цяжка пераацаніць тую велізарную ролю, якую адыграла паэзія Купалы ў духоўным развіцці нашага народа. Яшчэ на зары грамадзянскага ўзмужання беларусаў творчасць Купалы і Коласа ўзбагаціла іх такімі культурнымі і мастацкімі каштоўнасцямі, якія адразу паставілі раней занядбаны народ уровень з іншымі народамі вялікай славянскай сям'і. У савецкі час творчасць Купалы і Коласа светлымі ручаінамі ўлілася ў агульны паток многанацыянальнай савецкай літаратуры, узбагаціўшы яе здабыткамі шчодрай душы свайго народа.

Ідуць гады. Жалобная дата Купалавай смерці неяк адлучаецца ад яго імя і паціху адыходзіць у далеч часу. Сам жа Купала і сёння гаворыць з намі жывым голасам сваіх натхнёных вершаў, заве і вабіць да сябе



**Янка Купала і Якуб Колас. 1938 г.**

Здымкі з фондаў Музея Янкі Купалы.

незгасальным святлом свае вялікае душы. І ў заўтрашні дзень ён ідзе побач з намі, чуйна, як некалі, прыслухоўваючыся да ўсенароднага поступу камуны, якая ідзе ўвекавечыць чалавечае шчасце на зямлі.

Беларускі народ не можа не любіць Купалавай песні, як не можа не любіць свае душы, бо гэта яна, трапяткая і гарачая, б'ецца ў кожным паэтавым слове.

Вось чаму так шануецца ў нас усё тое, што звязана з памяццю Янкі Купалы, вось чаму народны паэт, нават пераступіўшы мяжу жыцця, ніколі не ведае адзіноты. Да яго, як да жывога, ідуць на душэўную гутарку ўсе, хто дарагі быў паэту і каму дарагі ён. Ідуць не на кватэру Купалы, як некалі, а ў яго музей, у якім ён назаўсёды пасяліўся. І дарма, што паэт не можа расцяць скамянелых гіпсавых вуснаў, але позірк, — відушчы, разумны купалаўскі позірк, — глядзіць у самую душу, і з ім можна размаўляць гадзінамі.

Колькі гарачай любві да паэта прыносяць людзі на парог гэтага дома!

«Схіляю галаву перад светлай памяццю вялікага сына беларускага народа Янкі Купалы»,—піша ў кнізе водгукаў Музея тэхнік Чалябінскага трактарнага завода.

«Я некалькі разоў глядзеў спадчыну нашага паэта. Не ведаю, колькі разоў яшчэ буду наведваць музей, каб задаволіць сэрца жывым вобразам роднага песняра»,—выразна выведзена цвёрдаю настаўніцкаю рукою.

Іх бясконца многа, такіх запісаў, на беларускай, рускай, украінскай, грузінскай, армянскай,—на ўсіх мовах нашых братоў. І ва ўсіх іх свеціцца вялікі братні гонар за наш беларускі народ, які ўзгадаваў і выпеставаў светлы талент Купалы.

Музей наведваюць і замежныя госці, якія бываюць у Мінску. Для народаў свету Купала стаў сімвалам Савецкай Беларусі. І той, хто хоча зразумець наш народ, у першую чаргу звяртаецца да Янкі Купалы.

# Бібліяграфія

## НА ПАРОЗЕ САПРАЎДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

### По старонках абласных літаратурных альманахаў




Мастацкая самадзейнасць — цудоўная рэч. Яна праявілася ярка і змястоўна амаль ва ўсіх відах мастацтва. Але ёсць адзін від творчасці, да якога немагчыма падыходзіць з той жа меркай, з якой мы звычайна падыходзім да мастацкай самадзейнасці. Гэта — літаратура. Яна зусім не прызнае аматарства, не прызнае і не церпіць такога становішча, калі ёю займаюцца ў вольны час, паміж іншым. Яе галоўныя крытэрыі аднолькавыя і для сталага, і для пачынаючага пісьменніка. Галоўнае, што патрабуецца і ад сталага пісьменніка, і ад пачынаючага, заключаецца ў тым, каб і той, і другі далі ў сваіх творах сапраўды мастацкія карціны жыцця, каб кожны твор з'яўляўся новым мастацкім адкрыццём, каб у ім было сваё, адметнае бачанне пісьменнікам і людзей, і грамадскіх з'яў.

Могуць запытацца: навошта паўтараць прапісныя ісціны? Што ж, ісціны, сапраўды, прапісныя, але паўтараць іх варта. Варта таму, што ў нас часам глядзяць на творчасць так званых пачынаючых як на самадзейнасць, на аматарства. А такі погляд прыводзіць да таго, што, у прыватнасці, не заўважаюцца многія цікавыя з'явы нашай так званай «абласной» літаратуры, у якой працуе велізарная колькасць літаратурнай моладзі, і самае горшае, што ёй, гэтай моладзі, часам робяць такія скідкі, якіх рабіць нельга. З усяго гэтага атрымоўваецца, што адзіную літаратуру (а літаратура абласцей — неад'емная частка ўсёй нашай літаратуры наогул) штучна падзяляюць на першы і другі гатунак. Але ж аб тым, што «абласная» літаратура не які-сьці там «клуб аматараў славеснасці», можна пераканацца, пазнаёміўшыся з абласнымі альманахамі «Брэст», «Дзвіна» і «Літаратурны Гомель».

Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў альманахах мала, наогул, прозы,

мала сапраўды добрых вершаў, цікавых, па-мастацку напісаных нарысаў. Разам з тым, у некаторых творах адчуваецца добрая пісьменніцкая хватка, імкненне вырашаць складаныя тэмы. Многія маладыя аўтары з гарачым запалам бяруцца за «цаліну фактаў», хоць і спатыкаюцца пры гэтым, пакідаючы шматлікія агрэхі, а іншы раз і саступаючы з цаліннага пласта на падатлівую, пераворaную ўжо да іх глебу.

Даволі буйныя ўрыўкі з аповесці А. Савіцкага «Кедры глядзяць на мора», апублікаваныя ў альманаху «Дзвіна», даюць магчымасць гаварыць аб усім творы. Дзеянне аповесці разгортваецца на будаўніцтве Брацкай ГЭС, у цэнтры падзей — лёс беларускага хлопца Алеся Каваля. Жыццёвыя сцежкі гэтага юнака даволі заблытаныя. У яго было цяжкае дзяцінства, няўдалае, скалечанае юнацтва... Некалі ён зрабіў злачынства і быў на тры гады пасаджаны ў турму. На людзей Кавалю не шанцавала: вельмі часта сутыкаўся ён з эгаістамі, хціўцамі, якія атручвалі яго сваёй гнілой мараллю...

З тых урыўкаў, якія А. Савіцкі прапанаваў чытачу, выразна відаць, што на вялікай будоўлі Каваль скіне з сябе ўсё чужое, наноснае і выйдзе на сумленны шлях, даб'ецца сапраўднага чалавечага шчасця. Але перараджэнне Каваля — не прымітыўная «перакоўка». Яно адбываецца вельмі складана, часам пакутліва, і імкненне глыбока, усебакова раскрыць гэтую складанасць — заслуга маладога празаіка. Справа ў тым, што на вялікай будоўлі працуюць не адны толькі энтузіясты. Побач з сапраўднымі патрыётамі ў іх асяроддзі ёсць і такія, каго пагнала ў Брацк прага да грошай; гэта прайдзісветы, кар'ерысты, той чалавечы бруд, які непазбежна ўсплывае на паверхню ўсякай высокай хвалі.

Сутыкнуўшыся з жыццём, герой аповесці перавыхоўваецца шляхам пераадолення сапраўдных цяжкасцей. Прычым аўтар не разумее гэтую работу прасталінейна, нікога з станоўчых герояў ён не «прымацоўвае» да Каваля. Яны ўздзейнічаюць на яго сваімі паводзінамі, поглядамі, сваёй мараллю — усім тым добрым, светлым, чыстым, што з'яўляецца для іх нормай. І няхай сабе Каваль у тых мясцінах аповесці, якія апублікаваны ў альманаху, яшчэ толькі намацвае свой шлях і часта робіць памылкі, усё ж адчуваецца, што ён выйдзе на правільную дарогу.

Многія старонкі ў А. Савіцкага напісаны важкай, ёмістай мовай, адзначаны роздумам. Асабліва гэта адчуваецца там, дзе пісьменнік стварае ўнутраныя маналогі Каваля, паказвае нам яго суровую размову з самім сабой. Тут і лірычная пранікнёнасць, светлы, добры сум, калі Каваль на станцыі аглядае эшалоны, што прыбылі ў Брацк з яго роднай Віцебшчыны; і пакутлівая, востра адчувальная для чытача барацьба розных пачуццяў, самых процілеглых імкненняў, калі ён думае аб тым, што ж з'яўляецца галоўным у жыцці; і мяккая пяшчотнасць разам з няўрымслівасцю характару, калі Каваль успамінае пра любую яму дзяўчыну.

Недаравальна, што побач з прозай, напоўненай глыбокай думкай, побач з прадуманым, вынашаным у сэрцы, А. Савіцкі часам здраджвае сам сабе і пачынае гаварыць нешта хоць і правільнае, але вельмі звыклае. Вось, напрыклад, Рыгор вучыць Каваля: «Калі вера знікне — у чалавечым нутры заводзіцца іржа. Калі ты верыш у тое, што робіш — ты дужы. Вера — гэта паходня»... Калі б такімі тырадамі, а іх нямала ў А. Савіцкага, выхоўваўся герой, дык наўрад ці з гэтага выхавання што-небудзь выйшла. Мусіць жа маладому аўтару трэба больш давяраць жыццёваму матэрыялу і не баяцца, што нехта папракне яго за адсутнасць голых дэкларацый.

Мы так падрабязна спыніліся на аповесці А. Савіцкага таму, што лічым яе лепшай з празаічных твораў, змешчаных у альманахах, аб якіх ідзе гаворка. Дакладней — гэта лепшы твор, прысвечаны сучаснай тэматыцы.

Сапраўдным пачуццём, вострай назіральнасцю, сакавітай мовай вылучаецца апавяданне П. Місько «Надзя» («Брэст»). І хоць аб жыцці беларускага сялянства пад уладай панскай Польшчы напісана нямала, П. Місько здолеў расказаць аб гэтым цікава. Мінулае паўстае перад чытачом такім, як яго бачыць вясковая дзяўчынка. Ацэнкі людзям і падзеям даюцца такія, як іх разумее Надзя, але ва ўсёй тканіне апавядання б'ецца гарачае сэрца дарослага чалавека, што выносіць прысуд праклятаму былому. Карціна, намаляваная П. Місько, гістарычна дакладная, верагодная ў дэталях побыту. У апавяданні ёсць і саркастычныя ноткі, і добры гумар, і стрыманая, суровая любоў да людзей.

Многа шчодрай сардэчнай цеплыні ў апавяданні І. Куралікава «Летнім вечарам» («Літаратурны Гомель»),



запамінаецца апавяданне М. Лапусты «На кашары гарыць аганёк» (там жа). Вось, бадай, і ўсё, што можна назваць з мастацкай прозы і што пакідае ў памяці і сэрцы чытача нейкі след.

Нажаль, большасць апавяданняў, хоць яны і напісаны з добрымі намерамі, сапраўды мастацкімі творамі назваць нельга. Разгледзім вельмі характэрнае ў гэтым сэнсе апавяданне В. Пехцеравай «Залаты мядаль» («Брэст»).

Сяргей Капранаў — студэнт аднаго маскоўскага інстытута—прыехаў на канікулы ў родную вёску. Там яго чакала выпускніца той жа школы, у якой вучыўся некалі Сяргей, Ніна Высоціна. Па ўсім відаць, што маладыя людзі кахалі адзін аднаго або, ва ўсякім выпадку, моцна сябравалі. І вось Сяргей даведваецца, што Ніна вырашыла ў інстытут не паступаць, а застацца працаваць у родным калгасе. Што ж адбываецца пасля гэтага? А вось што:

«Так, — протянул Капранов, — значит, ты решила быть колхозницей? Простой колхозницей?.. Ведь это не труд интеллигентного человека, — в голосе Сергея звучали металлические нотки».

Вось з гэтых «металічных нотак» і пачынаецца ўся штучнасць апавядання, яго кніжнасць, яго голы, назойлівы дыдактызм. А далей, як і трэба было чакаць, Ніна Высоціна дасягае высокіх поспехаў у рабоце. Слава аб гэтым даходзіць да Масквы, і Сяргей Капранаў піша ёй пісьмо, у якім (а як жа!) прызнае сваю памылку і просіць прабачэння за свае паводзіны. Усё правільна, больш таго — верагодна, так магло быць, так бывае. А апавядання няма. Няма таму, што аўтар не паказала нам ні Сяргея, ні Ніну, а толькі паведаміла аб учынках, якія яны зрабілі. Але ж такія дзяўчаты, як Ніна — гэта новае пакаленне савецкай моладзі. Іх жыццёвы шлях з'яўляецца той дарогай, па якой ідуць мільёны. Значыць, задума апавядання, яго тэма, патрабавалі паказу тых **чалавечых** якасцей, што ўласцівы Ніне. Замест гэтага паказу В. Пехцерава дае нам **гатовую** ацэнку сваёй гераіні, ацэнку, якая вынікае не з самага вобраза, а з аўтарскіх каментарыяў да яго. Канешне, аўтарскія каментарыі патрэбны, але толькі тады, калі яны зліты з паказам характару чалавека, а не замяняюць яго.

Тое ж самае датычыць і вобраза Сяргея.

Карацей кажучы, апавяданне В. Пехцеравай—ілюстрацыйнае, «лабавое» і спыніліся мы на ім таму, што ілюстрацыйнасць — асноўная бяда не адной толькі В. Пехцеравай. Яна «засушвае» на корані і апавяданне І. Надзеждзіна «Паненка» («Брэст»), і апавяданне М. Міхайлава «Памылка Кронава» («Дзвіна»), і «Першы выезд» У. Слоўнікава («Дзвіна») і многія іншыя. Ва ўсіх іх адна загана — адсутнасць руху характараў.

Можа здацца дзіўным, але змешчаныя ў альманахах дакументальныя творы — успаміны, дакументы, старонкі баявой славы — чытаць значна цікавей, чым многія ўласна мастацкія рэчы. Смела можна сказаць, што тут не толькі цікавы пазнавальны матэрыял, а і вельмі цікавыя людзі, непаўторныя характары. Асабліва хочацца адзначыць дакументальную аповесць В. Ласковіча «Зара над Бугам» («Брэст»), літаратурную апрацоўку якой зрабіў А. Авечкін. Эпізоды барацьбы кампартыі Заходняй Беларусі ва ўмовах падполля пададзены надзвычай ярка, непасрэдна. Гэтая аповесць, безумоўна, адыграе значную выхаваўчую ролю, раскрываючы перад чытачом праўдзівыя старонкі гераічнай барацьбы камуністаў за народнае шчасце. Тое ж самае можна сказаць і пра запіскі партызана С. Руціча «У лясах над Бярозай» («Брэст»). Хвалюе сваёй суровай праўдай нарыс Рыгора Разінскага «Маладая гвардыя Гомеля» («Літаратурны Гомель»). Многа цікавага, невядомага яшчэ чытачу ёсць у расказе Фёдара Саманчука, удзельніка Маадзунскага марскога бою — «Гэта было на Балтыцы» («Літаратурны Гомель»).

Усе гэтыя творы насычаны фактамі, прычым факты гэтыя не засланяюць людзей. А аб тым, што бывае і так, сведчаць некаторыя нарысы, прысвечаныя сённяшняму дню рэспублікі.

Праўда, з ліку «фактаграфічных», сухіх нарысаў трэба выключыць «Шэсць паездак у Шацілкі» Р. Грыніна, з якога паўстае выразная і даволі поўная карціна будаўніцтва Васілевіцкай ДРЭС. Аўтар выкарыстаў пераканаўчы прыём: кожная паездка ў Шацілкі адлюстроўвае пэўны этап будаўніцтва — ад яго пачатку да ўводу ў дзеянне першых агрэгатаў. Па сутнасці, увесь нарыс складаецца з шасці самастойных нарысаў. Самае галоўнае тое, што Р. Грынін здолеў паказаць чытачу людзей Васілевіцкай ДРЭС, даць калектыўны партрэт бу-

даўнікоў, пачынаючы ад камандзіраў будоўлі да радавых рабочых. А вось у нарысе Б. Глікіна, які выступіў на тых жа старонках, што і Р. Грынін, не раскрыты ні характары людзей, ні іх справы.

Вось як піша Б. Глікін аб пошуках вынаходцы: «Да вырашэння цікавай тэхнічнай задачы Дзівень ішоў зусім іншым, чым Сямінскі, прынцыпова новым шляхам. Ужо былі гатовы ўсе дэталі распрацаванага ім прыстасавання... Але калі пачалося выпрабаванне, выявіліся пралікі... Вынаходніцтва ўпарта не давалася ў рукі».

Чытачу вельмі цяжка спачуваць вынаходцу, бо ён не ведае, уласна кажучы, што і як «не давалася ў рукі».

Нажаль, большасць нарысаў, змешчаных у альманахах, не раскрываюць спецыфіку, своеасаблівасць працы тых перадавых людзей, якім гэтыя нарысы прысвечаны. Прычым пішуцца нарысы па назаўсёды выпрацаванай схеме: на дадзеным участку справы ішлі дрэнна. Прыслалі сюды новага чалавека, і справы пайшлі добра. Аўтары даюць нам толькі завязку і развязку, а ўсё астатняе паміж імі запаўняюць лічбамі («Правильной дорогой» Мікалая Юркевіча, «Брэст»).

І яшчэ адно—усе нарысы, нават лепшыя, адлюстроўваюць учарашні дзень народнага жыцця. Трэба маладым нарысістам смела выходзіць на баявыя рубяжы сямігодкі.

І нарэшце вершы. Вершаў у альманахах змешчана вельмі многа. І добрых, і дрэнных. І зноў-такі — дрэнных больш. Але пачнем з добрых. Звяртае на сябе ўвагу верш Вадзіма Зыблева «Хлеб-соль» («Літаратурны Гомель»):

Каб выпечы хлеб, турбот
Нямала было у маткі...
Каціўся, падаў пот
Ў сяўню, з сяўні — зярняткам.

Шкада, што той жа Вадзім Зыблеў надрукаваў у альманаху надуманы верш «Інтэрв'ю з помнікам». Ці варта паэту наладжваць інтэрв'ю з помнікамі і задаваць ім недарэчныя пытанні, накшталт такога:

Скажы мне, чаму ты сур'ёзны
такі,
Ці людзям шкадуеш ласкавай
усмешкі?
. . . . . . . . . . . . .

Перад помнікамі трэба здымаць шапку і спыняцца каля іх з больш сур'ёзнымі думкамі.

Аўтару гэтых радкоў вельмі не хацелася б прыводзіць дрэнныя строфы і радкі, толькі што зробіш, калі, нажаль, рэдкалегіі альманахаў адабралі з творчасці маладых паэтаў далёка не лепшае. У многім вінаваты і самі маладыя паэты. Вельмі часта яны псуюць добрую паэтычную задуму няўдумлівымі адносінамі да слова, да формы верша, карыстаюцца чужымі інтанацыямі, а часам пішуць, зусім не думаючы, пра што, аб чым і галоўнае — для чаго. Вось «Ружа» А. Канапелькі:

Духмяная ружа, прыгожая
Заснула, не бачыць прахожага.
Стаіць ля яе ён гадзінамі,
Глядзіць на красу яе дзіўную.
Сарваў бы, здаецца, ружу ён.
Не! Няхай і другія прахожыя
Дзівяцца ружай прыгожаю.

Не гаворачы ўжо аб тым, што малады паэт не заўважыў недарэчнага «ляяеён» у трэцім радку, трэба толькі падзівіцца дробязнай думцы, думцы маленькай, не новай, як кажуць, лялечнай.

Чытаеш некаторыя вершы, і нібы глядзіш у перавернуты бінокль: усё маленькае і далёкае. Далёкае ад жывога чалавечага сэрца. Вось Юры Доктараў піша верш «Брусника» («Дзвіна»):

Ягод полные корзины
Ты несешь, как зорь цветенье.
Приглашай на именины,
На брусничное варенье.

«Бруснічнае варэнне» ніколі не было і не будзе ўпрыгожаннем паэзіі, гэта нават не яе прадмет.

Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. А самае горшае, што часам і тыя вершы маладых паэтаў, якія прасякнуты сацыяльным, грамадскім зместам, гучаць таксама, як запрашэнне на імяніны з бруснічным варэннем... Атрымоўваецца гэта таму, што сацыяльны змест увасабляецца ў гладзенькую, прылізаную форму, залішне «засалоджваецца»:

...Благоговейно голову
склоняешь,
У бронзового бюста проходя.
Своею жизнью, счастьем
постигаешь
Всю глубину учения вождя.

Размова аб форме, аб свежым слове датычыць не толькі пачынаючых. Гэта — больш шырокая размова, гэта праблема ўсёй нашай паэзіі. І вырашаць яе будуць усе — і сталыя, і пачынаючыя. Барацьба за багацце і разнастайнасць паэтычных галасоў ужо вядзецца і будзе весціся ва ўсіх літаратурных друкаваных органах. Трэба,каб яе не міналі і нашы абласныя альманахі.

* * *

Што можна сказаць, падсумоўваючы гэтыя нататкі? Наша літаратура ў абласцях дасягнула такога росту, што яе больш нельга не заўважаць. Тое, што сёння друкуецца ў абласных альманахах (зразумела — лепшае) заўтра стане здабыткам рэспубліканскага чытача. І выхад абласных альманахаў—вельмі радасная падзея, падзея вялікага культурнага і палітычнага значэння. Сам факт іх выхаду ў свет сведчыць аб магутным культурным росце народа, аб тым, што літаратура сапраўды стала справай мільёнаў. Адлюстроўваючы ў значнай ступені жыццё абласцей рэспублікі, альманахі разам з тым выяўляюць на сваіх старонках моцны рэзерв вялікай літаратуры, атрад пачынаючых і маладых аўтараў, якія заўтра пераступяць парог свайго творчага юнацтва і ўвойдуць у сапраўдную творчую сталасць. Можна смела сказаць, што прыдзе час — і альманахі стануць літаратурна-мастацкімі перыядычнымі часопісамі, якія будуць рабіць слушны выклік часопісам сталічным.

**В. ТАРАС.**

# ПА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ

Калі бярэш у рукі кнігу В. Жучкевіча, А. Малышава і Н. Рагозіна, «Гарады і сёлы Беларускай ССР», міжволі шукаеш тую старонку, на якой расказваецца аб тваёй роднай вёсцы або горадзе. З вялікай прыемнасцю пачынаеш чытаць радкі, прысвечаныя родным мясцінам. Зноў ажываюць многія старонкі з жыцця і барацьбы нашых продкаў за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

Прасачыць гісторыю, даць геаграфічнае апісанне гарадоў, чыгуначных станцый, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, а таксама многіх вёсак — такія



задачы паставілі перад сабой аўтары гэтай даволі цікавай кнігі.

Кніга напісана на багатым фактычным матэрыяле. Прынцып яе пабудовы такі: спачатку даецца агульная характарыстыка гарадоў і больш вядомых вёсак, потым паказваюцца тыя геаграфічныя і гістарычныя ўмовы, якія спрыялі іх росту або прыводзілі да заняпаду. Аўтары таксама расказваюць аб паходжанні назваў многіх населеных пунктаў, якія ў некаторай ступені характарызуюць прыродныя ўмовы нашага краю (Залессе, Дубы, Бярозаўка, Зарэчча, Пясочнае і іншыя), жыццё і быт беларускага народа да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (Бясхлебічы, Жываглодавічы, Вонічы) і г. д.

Калі чытаеш кнігу, то ствараецца ўражанне, нібы ты сам падарожнічаеш па рэспубліцы, знаёмішся з яе рэкамі, азёрамі, прыроднымі багаццямі, з гістарычным мінулым нашага народа, а таксама з тымі зменамі, якія адбыліся ў Беларусі за гады савецкай улады.

Цяпер цяжка ўявіць нашу рэспубліку без яе славутых трактараў, аўтамабіляў-самазвалаў, агрэгатных станкоў, матацыклаў, веласіпедаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, гадзіннікаў, піяніна і іншай прадукцыі індустрыяльных гігантаў. Гэта ўсё з'яўляецца вынікам стваральнай працы свабоднага савецкага чалавека.

Многа ўвагі ў кнізе аддаецца сталіцы нашай рэспублікі — Мінску. Разглядаючы яго геаграфічнае становішча, аўтары спыняюцца на гісторыі ўзнікнення і развіцця гэтага старажытнага беларускага горада.

Мінск, як адзін з буйнейшых гарадоў Беларусі, адыграў значную ролю ў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Яшчэ ў 1898 годзе тут адбыўся першы з'езд РСДРП, што ў значнай ступені садзейнічала развіццю рэвалюцыйнага руху на тэрыторыі не толькі нашай рэспублікі, але і за яе межамі. З гэтым горадам звязана дзейнасць такіх выдатных бальшавікоў, як Фрунзе, Мяснікоў, Берсан і другія.

Асабліва спрыяла росту Мінска тое, што з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ён стаў яе сталіцай.

Да Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску было пабудавана многа фабрык і заводаў, культурных устаноў. Горад паступова мяняў сваё аблічча.

За час вайны былі знішчаны не толькі ўсе фабрыкі і заводы, культурныя ўстановы, але і амаль увесь

жыллёвы фонд сталіцы. Гітлераўцы прычынілі гораду вялікія страты.

Адразу пасля вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў працоўныя беларускай сталіцы пры дапамозе працоўных брацкіх рэспублік пачалі адбудоўваць свой родны горад. За некалькі пасляваенных год Мінск стаў адным з буйных прамысловых, культурных і адміністрацыйных цэнтраў Савецкага Саюза.

Значнае месца ў кнізе адведзена і абласным цэнтрам нашай рэспублікі — Віцебску, Магілёву, Гомелю, Брэсту, Гродна, Маладзечна, а таксама гарадам Барысаву, Бабруйску, Оршы, Слуцку, Лідзе, Навагрудку і іншым. Аўтары многа ўвагі ўдзяляюць развіццю прамысловасці і культуры ў гэтых гарадах за гады савецкай улады. І гэта заканамерна. Толькі пры савецкай уладзе многія гарады Беларусі ператварыліся ў буйныя прамысловыя і культурныя цэнтры нашай краіны.

Многа цікавага матэрыялу знойдзе чытач у кнізе і аб нашых вёсках.

Нельга чытаць без хвалявання тыя старонкі, дзе ідзе гаворка аб вёсцы Харэвічы на Рудзеншчыне, непадалёку ад якой знаходзіцца магіла шаснаццаці герояў-партызан, замучаных тут у 1920 годзе белапалякамі.

Альбо возьмем вёску Кішчыцы Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці. Яшчэ ў дні першай рускай рэвалюцыі 1905 года сяляне гэтай вёскі выступілі на барацьбу з памешчыкамі. Барацьба пачалася з-за таго, што памешчык незаконна захапіў іх луг. У Кішчыцы былі накіраваны салдаты і паліцыя. У сутычцы было забіта 8 і ранена 16 сялян. Цяпер на тым месцы стаіць помнік з надпісам: «Расстраляным сялянам, паўстаўшым супраць царскага самадзяржаўя».

Народам свету вядома назва беларускай вёскі Трасцянец, каля якой у гады Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі пабудавалі адзін з найвялікшых лагераў смерці, дзе былі замучаны і спалены дзесяткі тысяч савецкіх, польскіх, чэхаславацкіх грамадзян.

З вялікай цікавасцю чытач пазнаёміцца са Шчорсамі на Навагрудчыне. Гэтая вёска была вядомая багатай бібліятэкай графа Храбтовіча-Буценева. Ужо ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў гэтай бібліятэцы было каля 6 000 унікальных кніг і рукапісаў. У ёй былі сабраны многія гістарычныя дакументы, такія, як перапіска Багдана Хмяльніцкага з польскімі гетманамі, арыгінал маніфеста Хмяльніцкага да казакаў, дзённік Марыі Мнішак і іншыя. Частым наведвальнікам гэтай бібліятэкі быў вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, дзіцячыя і юнацкія гады якога прайшлі на Навагрудчыне.

Яшчэ да нядаўняга часу мала хто ведаў пра вёску Чыжэвічы Старобінскага раёна. Цяпер гэтая вёска стала вядомай на ўвесь Савецкі Саюз. У яе ваколіцах нядаўна знойдзены багатыя залежы каменных і калійных солей, на базе якіх будуецца адзін з буйнейшых заводаў мінеральных угнаенняў.

У кнізе, хоць і зусім коратка, расказваецца аб вёсцы Мікалаеўшчына — радзіме народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, аб вёсцы Ятра Карэліцкага раёна, у якой прайшлі дзіцячыя гады вядомага беларускага вучонага-мовазнаўцы і этнографа Я. Карскага, аб вёсцы Стары Двор Васілішкаўскага раёна, дзе пахавана выдатная беларуская паэтэса Цётка, і г. д.

Вартасцю кнігі з'яўляецца яшчэ і тое, што ў ёй значнае месца адводзіцца апісанню многіх гістарычных і архітэктурных помнікаў, расказваецца пра многія крэпасці, палацы, музеі, якія напамінаюць нам аб барацьбе нашых продкаў з чужынцамі, аб часах Івана Грознага і Пятра І, аб падзеях 1812 года, аб незабыўных днях Кастрычніка і суровых гадах Вялікай Айчыннай вайны.

Але пры ўсім гэтым кніга не пазбаўлена і некаторых недахопаў. Значна слабей напісаны апошнія яе раздзелы, дзе расказваецца пра гарады і вёскі Брэсцкай, Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей. Тут неабходна было больш яскрава паказаць тыя змены, якія адбыліся ў былой Заходняй Беларусі за гады савецкай улады.

Гісторыя многіх гарадоў, асабліва раённых цэнтраў, падаецца па аднаму шаблону: у такім вось годзе ён упершыню ўпамінаецца ў летапісах, у такім — атрымаў правы самакіравання, за гады савецкай улады змянілася яго аблічча — у ім ёсць дом культуры, сярэдняя школа і г. д.

Характарызуючы культурнае аблічча некаторых гарадоў і вёсак, аўтары чамусьці не называюць імёны многіх выдатных людзей, якія нарадзіліся і сваім жыццём, працаю ўславілі родныя мясціны.

Так, напрыклад, гаворачы аб Мінску, аўтары ні слова не сказалі аб выдатным беларускім паэце Максіме Багдановічу. Такі ж лёс напаткаў і ўраджэнца Капыля Цішку Гартнага, а таксама і ўраджэнца вёскі Нізок



Уздзенскага раёна — народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапіву, хаця на стар. 105 і адзначаецца, што Капыль вядомы яшчэ і тым, што там нарадзіўся Алесь Гурло, а вёска Нізок з'яўляецца радзімай Паўлюка Труса.

Вельмі добра, што ў кнізе расказваецца аб гістарычным мінулым некаторых вёсак. Але побач з гэтым трэба было шырэй паказаць іх сучаснае аблічча, расказаць аб тых зменах, якія адбыліся ў нашых вёсках за апошнія гады.

Сустракаюцца ў кнізе і некаторыя недакладнасці ў назвах вёсак: Студзянка, замест Студзёнкі (стар. 87), Массаўляны, замест Мастаўляны (стар. 231) і г. д.

Вельмі добра, што кніга багата ілюстравана. Але некаторыя фотаздымкі атрымаліся цьмянымі, невыразнымі.

Кніга «Гарады і сёлы Беларускай ССР» будзе карыснай для кожнага, хто цікавіцца мінулым нашай рэспублікі і яе сённяшнім днём.

**М. БАЗАРЭВІЧ.**

# Спорт

## ЧАКАЕМ, СПАДЗЯЕМСЯ, ВЕРЫМ!

Як толькі ў Маскве ўзнімецца флаг другой Спартакіяды народаў СССР, увага ўсіх аматараў спорту будзе звернута да Лужнікоў. Там, на Цэнтральным стадыёне імя Леніна, адбудуцца падзеі, грандыёзнасць якіх можна параўнаць хіба толькі з алімпійскімі гульнямі.

У сумленнай і ўпартай барацьбе будзе атрыман адказ на галоўнае пытанне нашага фізкультурнага руху — дзе, у якой рэспубліцы ці вобласці фізкультура і спорт сталі сапраўды масавымі, а спартыўнае жыццё б'е крыніцай, нараджаючы сотні новых майстроў. Няма патрэбы загадзя адгадваць пераможцаў — няхай імі стануць мацнейшыя, але відавочна адно: у жнівеньскія дні сталіца нашай Радзімы ўбачыць незабыўнае свята маладосці, хараства, сілы.

### Ад першай да другой

Сярод тых, хто ў дзень адкрыцця спартакіяды пройдзе ўрачыстым маршам па галоўнай спартыўнай арэне, будуць і прадстаўнікі Беларусі. Яны з гонарам пранясуць дзяржаўны сцяг сваёй рэспублікі, спартыўны гонар якой ім прыдзецца абараняць з поўным напружаннем сіл і волі.

Беларуская спартыўная дэлегацыя будзе ісці сёмай у парадным страі. Гэта — напамінак аб сёмым месцы, якое заваявала яна на першай Спартакіядзе народаў СССР. Не зусім падыходзячае яно для беларускіх спартсменаў. Наша рэспубліка трэцяя ў краіне па свайму дзяржаўна-палітычнаму значэнню, трэцяй яна павінна быць і ў спорце. У час першай Спартакіяды цяжка было разлічваць на лепшы вынік. Адзін майстар на 6 тысяч фізкультурнікаў і адзін першаразраднік на 700, — вось што мела тады рэспубліка. Для мільённай арміі фізкультурнікаў такая колькасць высокакваліфікаваных спартсменаў была недастатковай.

Што ж чакае беларускіх спартсменаў цяпер? Рознае можна пачуць на конт гэтага ў спартыўных колах. Песімісты сцвярджаюць, што ўдачы першай Спартакіяды — гэта значыць, шостага месца — нам ужо не дасягнуць. Дрэнна, маўляў, мы працавалі гэтыя тры гады над павышэннем майстэрства. Хоць бы затрымацца на ранейшым узроўні...

Аптымісты, наадварот, мараць узняцца хоць на адну прыступку вышэй. Яны гавораць: майстроў у нас стала больш амаль у тры разы, а першаразраднікаў толькі за мінулы год прыбавілася амаль што на 800. Многа маладых надзейных спартсменаў улілося ў зборныя каманды. А старая гвардыя хіба падвядзе?

### На пяці «кітах»

Даўно-даўно існавала легенда, па якой нібыта наша зямля-матухна плавала, як блін, па вялікім акіяне на спіне трох кітоў. Возьмем на сябе смеласць параўнаць з гэтай легендай становішча ў беларускім спорце. Але гаварыць давядзецца не аб трох, а аб пяці «кітах», на якіх трымаецца ў асноўным наша спартыўная рэпутацыя.

Перш за ўсё, мы цвёрда спадзяемся на поспех нашых барцоў класічнага стылю. Нямала цікавых сустрэч правялі яны за апошнія тры гады і



нязменна выходзілі пераможцамі. Так было пры сустрэчах беларускіх спартсменаў з венграмі, фінамі, палякамі і многімі іншымі камандамі. Трыумфальным можна назваць выступленне нашых барцоў на мінулагоднім першынстве краіны. Яны выйгралі другое месца. Небывалы да гэтага часу поспех! Спартыўны гонар роднай Беларусі будуць абараняць у Маскве такія барцы, як чэмпіён свету і трохразовы чэмпіён СССР Алег Караваеў, як праслаўленыя майстры дывана Іван Коршунаў, Мікалай Чучалаў, Сяргей Залускі. Старшы трэнер зборнай каманды рэспублікі, заслужаны майстар спорту і заслужаны трэнер СССР Міхаіл Іванавіч Мірскі сказаў аднойчы:

— Мы цяпер можам выставіць адразу 5—6 паўнацэнных каманд-барцоў. Усе яны будуць укамплектаваны майстрамі спорту і па сіле сваёй мала ў чым саступяць першай камандзе.

Вельмі моцна ўзнялося майстэрства барцоў вольнага стылю. Амаль з апошняга перайшлі яны на чацвёртае месца ў краіне і за параўнаўча кароткі час. Сярод «вольнікаў» таксама ёсць чэмпіёны і прызёры першынстваў краіны. Гэта былы чэмпіён СССР Ігар Караваеў, мацнейшыя барцы Іван Лосік, Мікалай Аксёнаў, Аляксандр Мядзведзь.

Не падвядуць нас, вядома, і баксёры. Чацвёртае месца на мінулай спартакіядзе — высокае дасягненне. Але цяпер нашых спартсменаў, што называецца, падпіраюць, і вельмі моцна, украінцы, літоўцы, грузіны — тыя, хто застаўся тады ззаду. Гэта прымушае беларускіх баксёраў рыхтавацца да прадстаячых спаборніцтваў асабліва старанна. Яны правялі ўжо не адну рэпетыцыю. У іх актыве перамога над другой зборнай камандай краіны, над зборнымі Варшавы і Венгрыі. Унічыю закончыліся дзве таварыскія сустрэчы з украінцамі. Гэтыя поспехі радуюць аматараў спорту і даюць права спадзявацца сёлета на лепшыя дасягненні ў Маскве.

Трэцім «кітом» нашага спорту можна смела назваць фехтаванне. Не адна каманда «склала зброю» перад націскам беларускіх фехтавальшчыкаў на папярэдняй спартакіядзе. Шпажысты сталі чэмпіёнамі, а рапірысты занялі трэцяе месца. Цяжка заваяваць званне чэмпіёна, але яшчэ больш цяжка абараніць яго. Спаборніцтвы, у якіх прыйшлося ўдзельнічаць спартсменам у апошні час, сведчыць аб павышэнні іх майстэрства. Будзем спадзявацца і на фехтавальшчыкаў.

Калі спытацца ў любога беларускага фізкультурніка, які від спорту ў нас самы масавы, ён не задумваючыся адкажа: веласіпедны. Так, веласіпед і барацьба лічацца ў нас самымі пашыранымі відамі спорту. Многа новых майстроў па веласіпеду вырасла ў рэспубліцы за тры гады. Мы



Старыя сапернікі-баксёры мінчанін А. Засухін (злева) і тбілісец С. Чатулідзе.



Іван Лосік і Якаў Рыўкін на трэніроўцы.

не паграшым супраць ісціны, калі скажам, што ва ўсёй нашай краіне ёсць не больш 3—4 каманд, якія маглі б канкурыраваць з беларускімі веласіпедыстамі. Мы верым у іх удачу, яна заканамерна.

І нарэшце, пяты «кіт» нашага спорту—лёгкая атлетыка. Некаторыя знаўцы сцвярджаюць, што пятае месца на спартакіядзе па лёгкай атлетыцы—мяжа магчымага. Яны гавораць, што нашы жанчыны добра бегаюць, маючы на ўвазе сусветную рэкардсменку Марыю Іткіну, чэмпіёнку СССР Елізавету Ермалаеву, адну з мацнейшых спартсменак краіны Тацяну Аўрамаву, але не відаць такіх, хто добра скакае, штурхае ядро... Сярод мужчын надзейныя толькі кідальнікі молата заслужаны майстар спорту Міхаіл Крываносаў і Аляксей Балтоўскі, рэкардсмен Еўропы па скачках з шастом Уладзімір Булатаў ды яшчэ некалькі «заліковых», тых, хто сістэматычна выконвае першы разрад у сваім відзе спорту. Усяго гэтага малавата для таго, каб быць упэўненымі за месца ў прызавой пяцёрцы. Але аматары спорту спадзяюцца на лёгкаатлетаў, верацъ у тое, што не пасаромяць яны спартыўнага гонару сваёй рэспублікі.



**Члены ДСТ «Чырвоны сцяг» Георгі Расацкі і Рычард Васілеўскі на трэніроўцы.**

Фота В. Бараноўскага.



**Тацяна Пятрэнка.**

### Племя маладое і знаёмае

Аптымізм тых, хто сцвярджае, што на другой Спартакіядзе народаў СССР беларускія спартсмены выйдуць не ніжэй чым на пятае месца, зусім апраўданы. Гэтыя людзі глядзяць не назад, а ўперад. Яны бачаць і якасныя змены, што адбыліся за апошні час у беларускім спорце: нараджэнне таленавітай моладзі, якая ідзе на змену старэйшым таварышам. Няма бадай такога віду спорту, дзе б гэтыя таленты не паявіліся. Узяць хоць бы лёгкую атлетыку. У сёлетнім сезоне трое студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна паказалі выдатныя вынікі. Сяргей Сонцаў нядаўна прабяжаў стометровую дыстанцыю за 10,5 секунды. Гэта — высокі вынік. Нядаўна Марыя Верамейчык выканала нарматыў кандыдата ў алімпійскую каманду СССР, кінуўшы кап'ё на 47 метраў 76 сантыметраў. А на чацвёртай студэнцкай спартакіядзе БССР Галіна Андрэйчык паслала гэты снарад яшчэ далей — на 49 метраў 16 сантыметраў.



У выдатнай спартыўнай форме знаходзяцца студэнты Беларускага дзяржаўнага інстытута фізкультуры Аляксандра Жалабковіч, якая выканала сёлета норму майстра спорту па кіданню дыска, і Сяргей Прыходзька, які на студэнцкай спартакіядзе кінуў молат на 59 метраў 87 сантыметраў. Да нормы майстра не хапіла толькі 13 сантыметраў. А прыгун у даўжыню Анатоль Зірко? Ён падае вялікія надзеі. Можна было б назваць і іншых здольных лёгкаатлетаў, якія ўліліся ў зборную каманду рэспублікі.

Немагчыма не ўспомніць маладых майстроў спорту—фехтавальшчыцу Тацяну Пятрэнка, якая паспяхова выступіла на спаборніцтвах у Парыжы і Рыме, аднаго з мацнейшых баксёраў краіны ў найлягчэйшай вазе Уладзіміра Батвінніка, здольнага штангістасярэдневагавіка Сулеймана Канапацкага—інжынера Мінскага падшыпнікавага завода, які абнавіў летась рэкорды ў класічным трохборстве. Моладзь—гэта надзея нашага спорту, яго будучыня. Варта больш давяраць ёй—і яна не падвядзе, апраўдае гэтае давер'е.

### Палічым восенню

Не знойдзеш цяпер такога спартыўнага кіраўніка, які б ужо даўно не вызначыў месца беларускіх каманд на спартакіядзе ў кожным відзе спорту. Многія прагнозы гэтых людзей, безумоўна, спраўдзяцца. Галоўнае ж не ў тым, якое месца зойме Савецкая Беларусь на другой Спартакіядзе народаў СССР. Шматмільённая армія аматараў спорту чакае паспяховага выступлення сваіх спартсменаў, спадзяецца ўбачыць іх у першай пяцёрцы пераможцаў, верыць іх імкненню як мага лепш абараніць спартыўны гонар сваёй рэспублікі. Але дазвольце нам, як кажуць, «палічыць куранят увосень». Тады мы ўспомнім не толькі месцы, занятыя нашымі камандамі на спартакіядзе, але і паглядзім, як выкарысталі спартыўныя арганізацыі падрыхтоўку да яе для далейшага развіцця фізкультурнага руху ў рэспубліцы. А ў гэтым — галоўная мэта спартакіяды.

**М. УЛАДЗІМІРАЎ.**

ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»**





Мінск. Вуліца Калініна. Пятнаццаць гадоў таму назад тут былі руіны, палавела жыта. А зараз гэта адзін з прыгажэйшых куткоў сталіцы нашай рэспублікі.

Фота А. Дзітлава.